ПРОЛЕТАРЫ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАРТЫЙНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XII

№ 9
Верасень 1938 г.



ЗМЕСТ

## ГІСТОРЫЯ
## УСЕСАЮЗНАЙ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (БОЛЬШЭВІКОЎ)

КАРОТКІ КУРС.

Пад рэдакцыяй Камісіі ЦК ВКП (б).

Адобран ЦК ВКП (б). 1938 год.

*Стар.*







*Стар.*



---

Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 7.
Тэлефон рэдакцыі
па камутатару 20 000, даб. 50.

# ГІСТОРЫЯ
## Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў)

Кароткі курс.

**Пад рэдакцыяй Камісіі ЦК ВКП(б).**

**Адобран ЦК ВКП(б). 1938 год.**



# УВОДЗІНЫ.

Усесаюзная Комуністычная партыя (большэвікоў) прайшла доўгі і слаўны шлях ад першых маленькіх марксісцкіх гурткоў і груп, якія паявіліся ў Расіі ў 80-х гадах мінулага стагоддзя, да вялікай партыі большэвікоў, якая кіруе цяпер першай у свеце соцыялістычнай дзяржавай рабочых і сялян.

ВКП(б) вырасла на аснове рабочага руху ў дарэволюцыйнай Расіі з марксісцкіх гурткоў і груп, якія звязаліся з рабочым рухам і ўнеслі ў яго соцыялістычнае сазнанне. ВКП(б) кіравалася і кіруецца рэволюцыйным вучэннем марксізма-ленінізма. Яе правадыры ў новых умовах эпохі імперыялізма, імперыялістычных войн і пролетарскіх рэволюцый развілі далей вучэнне Маркса і Энгельса, падрялі яго на новую ступень.

ВКП(б) расла і мацнела ў прынцыповай барацьбе з дробнабуржуазнымі партыямі ўнутры рабочага руху—эсэрамі (а яшчэ раней з іх папярэднікамі—народнікамі), меншавікамі, анархістамі, буржуазнымі нацыяналістамі ўсіх масцей, а ўнутры партыі—з меншавіцкімі, апартуністычнымі плынямі,—троцкістамі, бухарынцамі, нацыянал-ухілістамі і іншымі антыленінскімі групамі.

ВКП(б) мацнела і гартавалася ў рэволюцыйнай барацьбе з усімі ворагамі рабочага класа, з усімі ворагамі працоўных—памешчыкамі, капіталістамі, кулакамі, шкоднікамі, шпіёнамі, з усімі наймітамі капіталістычнага акружэння.

Гісторыя ВКП(б) ёсць гісторыя трох рэволюцый: буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі 1905 года, буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў лютым 1917 года і соцыялістычнай рэволюцыі ў кастрычніку 1917 года.

Гісторыя ВКП(б) ёсць гісторыя звяржэння царызма, звяржэння ўлады памешчыкаў і капіталістаў, гісторыя разгрому чужаземнай узброенай інтэрвенцыі ў часе грамадзянскай вайны, гісторыя збудавання Совецкай дзяржавы і соцыялістычнага грамадства ў нашай краіне.

Вывучэнне гісторыі ВКП(б) абагачае вопытам барацьбы рабочых і сялян нашай краіны за соцыялізм.

Вывучэнне гісторыі ВКП(б), вывучэнне гісторыі барацьбы нашай партыі з усімі ворагамі марксізма-ленінізма, з усімі ворагамі працоўных дапамагае **авалодваць большэвізмам,** павышае палітычную пільнасць.

Вывучэнне гераічнай гісторыі большэвіцкай партыі ўзбройвае веданнем законаў грамадскага развіцця і палітычнай барацьбы, веданнем рухаючых сіл рэволюцыі.

Вывучэнне гісторыі ВКП(б) умацоўвае ўпэўненасць у канчатковай перамозе вялікай справы партыі Леніна—Сталіна, перамозе камунізма ва ўсім свеце.

Кніга гэта каротка выкладае гісторыю Ўсесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў).

Раздзел I

# БАРАЦЬБА ЗА СТВАРЭННЕ СОЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ РАБОЧАЙ ПАРТЫІ Ў РАСІІ.

## (1883—1901 годы).

### 1. Адмена прыгоннага права і развіццё прамысловага капіталізма ў Расіі. Паяўленне сучаснага прамысловага пралетарыята. Першыя крокі рабочага руху.

Царская Расія пазней іншых краін уступіла на шлях капіталістычнага развіцця. Да 60-х гадоў мінулага стагоддзя ў Расіі было вельмі мала фабрык і заводаў. Пераважала прыгонніцкая гаспадарка дваран-памешчыкаў. Пры прыгонным ладзе не магла па-сапраўднаму развівацца прамысловасць. Паднявольная прыгонная праца давала нізкую прадукцыйнасць працы ў сельскай гаспадарцы. Увесь ход эканамічнага развіцця штурхаў к знішчэнню прыгоннага права. Царскі ўрад, аслаблены ваенным паражэннем у часе Крымскай кампаніі і запалоханы сялянскімі «бунтамі» супроць памешчыкаў, аказаўся вымушаным адмяніць у 1861 годзе прыгоннае права.

Але і пасля адмены прыгоннага права памешчыкі прадаўжалі прыгнятаць сялян. Памешчыкі аграбілі сялян, адабраўшы, адрэзаўшы ў іх пры «вызваленні» значную частку зямлі, якой сяляне карысталіся раней. Гэту частку зямлі сяляне сталі называць «адрэзкамі». Сялян прымусілі плаціць памешчыкам выкуп за сваё «вызваленне»— каля двух мільярдаў рублёў.

Пасля адмены прыгоннага права сяляне вымушаны былі на самых цяжкіх умовах арандаваць памешчыцкую зямлю. Апрача грашовай платы за арэнду памешчык нярэдка прымушаў сялян дарма апрацоўваць сялянскімі прыладамі і коньмі пэўную колькасць памешчыцкай зямлі. Гэта называлася «адработкамі», «баршчынай». Часцей за ўсё селянін вымушан быў плаціць памешчыку за арэнду зямлі натурай з ураджаю ў размеры палавіны свайго ўраджаю. Гэта называлася работай «іспалу».

Такім чынам, аставалася амаль тое-ж становішча, што і пры прыгонным праве, з тою толькі розніцай, што цяпер селянін быў асабіста свабодны, яго нельга было прадаць ці купіць, як рэч.

Памешчыкі выціскалі апошнія сокі з адсталай сялянскай гаспадаркі рознымі грабежніцкімі спосабамі (арэнда, штрафы). Асноўная маса сялянства з-за гнёту памешчыкаў не магла паляпшаць сваю гаспадарку. Адсюль крайняя адсталасць сельскай гаспадаркі ў дарэвалюцыйнай Расіі, прыводзіўшая да частых неўраджаяў і галадовак.

Астаткі прыгонніцкай гаспадаркі, вялізныя подаці і выкупныя плацяжы памешчыкам, якія нярэдка перавышалі даходнасць сялянскай гаспадаркі, выклікалі разарэнне, абнішчанне сялянскіх мас, прымушалі сялян пакідаць вёскі ў пошуках заробку. Яны ішлі на фабрыкі і заводы. Фабрыканты атрымлівалі дзяшовую рабочую сілу.

Над рабочымі і сялянамі стаяла цэлая армія ісправнікаў, ураднікаў, жандармаў, паліцэйскіх, стражнікаў, якія абаранялі цара, капіталістаў, памешчыкаў супроць працоўных, супроць эксплуатуемых. Да 1903 года існавалі цялесныя пакаранні. Не гледзячы на адмену прыгоннага права, сялян білі розгамі за малейшую правіннасць, за няўплату подацей. Рабочых збівалі паліцыя і казакі, асабліва ў часе стачак, калі рабочыя спынялі работу, не вытрымаўшы ўціску фабрыкантаў. Рабочыя і сяляне не мелі ніякіх палітычных правоў у царскай Расіі. Царскае самадзяржаўе з'яўлялася злейшым ворагам народа.

Царская Расія была турмой народаў. Шматлікія нярускія народнасці царскай Расіі былі зусім бяспраўны, безупынна падвяргаліся ўсялякім прыніжэнням і знявагам. Царскі ўрад прывучаў рускае насельніцтва глядзець на карэнныя народнасці нацыянальных абласцей як на ніжэйшую расу, называў іх афіцыяльна «інародцамі», выхоўваў прэзрэнне і нянавісць да іх. Царскі ўрад свядома распальваў нацыянальную розьнь, натраўляў адзін народ на другі, арганізоўваў яўрэйскія пагромы, татара-армянскую разню ў Закаўказзі.

У нацыянальных абласцях усе або амаль усе дзяржаўныя пасады займалі рускія чыноўнікі. Усе справы ва ўстановах, у судах вяліся на рускай мове. Было забаронена выдаваць газеты і кнігі на нацыянальных мовах, у школах забаранялася абучацца на роднай мове. Царскі ўрад імкнуўся задушыць усякае праяўленне нацыянальнай культуры, праводзіў палітыку гвалтоўнага «абрусення» нярускіх нацыянальнасцей. Царызм выступаў у якасці ката і мучыцеля нярускіх народаў.

Пасля адмены прыгоннага права развіццё прамысловага капіталізма ў Расіі пайшло даволі быстра, не гледзячы на астаткі прыгонніцтва, якія яшчэ затрымлівалі гэтае развіццё. За 25 год, з 1865 па 1890 год, колькасць рабочых на адных толькі буйных фабрыках, заводах і чыгунках павялічылася з 706 т. да 1433 тысяч, гэта значыць больш чым у два разы.

Яшчэ больш быстра пачала развівацца капіталістычная буйная прамысловасць у Расіі ў 90-х годах. К канцу 90-х гадоў колькасць рабочых на буйных фабрыках і заводах, у горнай прамысловасці, на чыгунках толькі па 50 губерніях Еўрапейскай Расіі вырасла да 2.207 тысяч, а па ўсёй Расіі—да 2.792 тысяч.

Гэта быў сучасны прамысловы пролетарыят, які ў корані адрозніваўся ад рабочых фабрык прыгоннага перыяда і рабочых дробнай, саматужнай і ўсякай іншай прамысловасці, як сваёй згуртаванасцю на вялікіх капіталістычных прадпрыемствах, так і сваімі баявымі рэволюцыйнымі якасцямі.

Прамысловы ўздым 90-х гадоў быў звязан у першую чаргу з узмоцненым чыгуначным будаўніцтвам. За дзесяцігоддзе (1890—1900 годы) было пабудавана звыш 21 тысячы вёрст новых чыгуначных шляхоў. Чыгункам патрабавалася велізарная колькасць метала (на рэльсы, паравозы, вагоны), патрабавалася ўсё больш апалу, каменнага вугалю і нафты. Гэта прывяло да развіцця металургіі і апалавай прамысловасці.

Як і ва ўсіх капіталістычных краінах, у дарэволюцыйнай Расіі годы прамысловага ўздыму змяняліся годамі прамысловых крызісаў, застою прамысловасці, якія цяжка ўдаралі па рабочаму класу, асуджалі сотні тысяч рабочых на беспрацоўе і галечу.

Хаця развіццё капіталізма пасля адмены прыгоннага права ішло ў Расіі даволі быстра, усё-ж Расія вельмі адставала ў сваім эканамічным развіцці ад іншых капіталістычных краін. Велізарная большасць насельніцтва была яшчэ занята сельскай гаспадаркай. У сваёй выдатнай кнізе «Развіццё капіталізма ў Расіі» Ленін прыводзіў важныя лічбы ўсеагульнага перапісу насельніцтва, які праводзіўся ў 1897 годзе. Аказалася, што ў сельскай гаспадарцы было занята каля пяці шостых усяго насельніцтва, у буйнай-жа і дробнай прамысловасці, гандлі, на чыгуначным і водным транспарце, на будаўніцтве, на лясных распрацоўках і так далей было занята ўсяго толькі каля адной шостай часткі насельніцтва.

Гэта паказвае, што Расія, не глядзячы на развіццё ў ёй капіталізма, была краінай аграрнай, адсталай у эканамічных адносінах, краінай дробнабуржуазнай, гэта значыць такой, у якой пераважала яшчэ дробна-ўласніцкая, малапрадукцыйная аднаасобная сялянская гаспадарка.

Развіццё капіталізма ішло не толькі ў горадзе, але і на вёсцы. Сялянства, самы шматлікі клас дарэволюцыйнай Расіі, распадалася, расслойвалася. На вёсцы з найбольш заможных сялян выдзялялася кулацкая вярхушка, вясковая буржуазія, а, з другога боку, многія сяляне разараліся, павялічвалася колькасць сялянскай беднаты, вясковых пролетарыяў і поўпролетарыяў. Колькасць-жа сярэдніх сялян з кожным годам змяншалася.

У 1903 годзе ў Расіі налічвалася каля 10 мільёнаў сялянскіх двароў. У сваёй брашуры «Да вясковай беднаты» Ленін падлічыў, што з гэтай колькасці двароў не менш трох з палавінай мільёнаў двароў было сялян, **якія не мелі коней**. Гэтыя бяднейшыя сялянскія двары засявалі звычайна нязначны кавалачак зямлі, астатнюю-ж зямлю здавалі кулакам, а самі ішлі на заработкі. Па свайму становішчу бяднейшыя сяляне былі бліжэй чым хто да пролетарыята. Ленін называў іх вясковымі пролетарыямі або поўпролетарыямі.

З другога боку, паўтара мільёна багатых, кулацкіх сялянскіх двароў (з усяго ліку 10 мільёнаў) забралі ў свае рукі палавіну ўсіх сялянскіх пасеваў. Гэта сялянская буржуазія багацела, прыгнятаючы беднату і сярэдняе сялянства, нажываючыся на працы батракоў і падзёншчыкаў і ператвараючыся ў сельскагаспадарчых капіталістаў.

Ужо ў 70-х і асабліва 80-х гадах мінулага стагоддзя рабочы клас у Расіі пачаў прабуджацца і павёў барацьбу з капіталістамі. Становішча рабочых у царскай Расіі было надзвычай цяжкое. У 80-х гадах рабочы дзень на фабрыках і заводах быў не менш $12^1/_2$ гадзін, а ў тэкстыльнай прамысловасці даходзіў да 14—15 гадзін. Шырока ўжывалася эксплуатацыя жаночай і дзіцячай працы. Дзеці працавалі столькі-ж гадзін, колькі і дарослыя, але атрымлівалі, таксама як і жанчыны, значна меншую заработную плату. Заработная плата была нязмерна нізкая. Большая частка рабочых атрымлівала 7—8 рублёў у месяц. Самыя высокааплачваемыя рабочыя на металаапрацоўчых і ліцейных заводах атрымлівалі не больш 35 рублёў у месяц. Не было ніякай аховы працы, што прыводзіла да масавых калецтваў і смерці рабочых. Не было страхавання рабочых, медыцынская дапамога аказвалася толькі за плату. Незвычайна цяжкі былі жыл-

лёвыя ўмовы. У маленькіх «каморках», у рабочых казармах жылі па 10—12 чалавек рабочых. Фабрыканты часта аблічвалі рабочых, прымушалі купляць у гаспадарскіх крамах прадукты ўтрыдарага, грабілі рабочых пры дапамозе штрафаў.

Рабочыя пачалі зґаварвацца паміж сабой і супольна прад'яўляць гаспадару фабрыкі, завода патрабаванні аб паляпшэнні свайго нязноснага становішча. Яны кідалі работу, гэта значыць аб'яўлялі стачку, забастоўку. Першыя забастоўкі ў 70-х і 80-х годах звычайна ўзнікалі з-за нязмерных штрафаў, надувацельства, абману пры расплаце з рабочымі, збаўкі расцэнак.

Выведзеныя з цярплівасці рабочыя ў часе першых забастовак падчас ламалі машыны, білі шыбы ў фабрычных памяшканнях, гамілі гаспадарскія крамы і канторы.

Перадавыя рабочыя пачалі разумець, што для паспяховай барацьбы з капіталістамі патрэбна арганізацыя. Сталі паяўляцца рабочыя саюзы.

У 1875 годзе ў Одэсе арганізаваўся «Паўднёварасійскі саюз рабочых». Гэта першая рабочая арганізацыя праіснавала 8—9 месяцаў, затым была разгромлена царскім урадам.

У Пецербургу ў 1878 годзе арганізаваўся «Паўночны саюз рускіх рабочых», на чале якога стаялі столяр Халтурын і слесар Обнорскі. У праграме гэтага саюза было сказана, што па сваіх задачах ён прымыкае да соцыял-дэмакратычных рабочых партый Захада. Канчатковай мэтай саюза ставілася правядзенне соцыялістычнай рэволюцыі—«ніспраяржэнне існуючага палітычнага і эканамічнага ладу дзяржавы, як ладу крайне несправядлівага». Адзін з арганізатараў саюза—Обнорскі жыў некаторы час за граніцай, пазнаёміўся там з дзейнасцю марксісцкіх соцыял-дэмакратычных партый і I Інтэрнацыянала, кіруемага Марксам. Гэта наклала свой адбітак на праграму «Паўночнага саюза рускіх рабочых». Сваёй бліжэйшай задачай гэты саюз ставіў заваяванне палітычнай свабоды і палітычных правоў для народа (свабоды слова, друку, права сходаў і так далей). У ліку бліжэйшых патрабаванняў было таксама абмежаванне рабочага дня.

Лік членаў саюза дасягаў 200 чалавек, і столькі-ж было спачуваючых. Саюз пачынаў прымаць удзел у рабочых стачках, кіраваў імі. Царскі ўрад разграміў і гэты рабочы саюз.

Але рабочы рух прадаўжаў расці, ахапляючы ўсё новыя і новыя раёны. 80-я годы даюць вялікую колькасць стачак. За пяцігоддзе (1881—1886 годы) было больш 48 стачак з 80 тысячамі баставаўшых рабочых.

Асабліва вялікае значэнне ў гісторыі рэволюцыйнага руху мела вялікая стачка, успыхнуўшая ў 1885 годзе на фабрыцы Марозава ў Орэхава-Зуеве.

На гэтай фабрыцы працавала каля 8 тысяч рабочых. Умовы работы з кожным днём пагоршваліся: з 1882 па 1884 год заработная плата збаўлялася пяць разоў, прычым у 1884 годзе расцэнкі былі адразу паніжаны на адну чвэрць, г. зн. на 25 працантаў. Але апрача таго фабрыкант Марозаў замучыў рабочых штрафамі. Як выяснілася на судзе пасля стачкі, з кожнага зарobленага рубля пад відам штрафаў у рабочага адымалася ў карысць фабрыканта ад 30 да 50 капеек. Рабочыя не вытрымалі гэтага грабяжу і ў студзені 1885 года аб'явілі стачку. Стачка была загадзя арганізавана. Кіраваў ёю перадавы рабочы Пётр Маісеенка, які быў раней членам «Паўночнага саюза рускіх рабочых» і меў ужо рэволюцыйны вопыт. Напярэдадні



стачкі Маісеенка разам з іншымі найбольш свядомымі ткачамі выпрацаваў рад патрабаванняў да фабрыканта, якія былі зацверджаны на тайнай нарадзе рабочых. Перш за ўсё рабочыя патрабавалі спынення грабежніцкіх штрафаў.

Гэта стачка была падаўлена ўзброенай сілай. Больш 600 рабочых было арыштавана, некалькі дзесяткаў з іх было аддана пад суд.

Падобныя-ж стачкі адбываліся ў 1885 годзе на фабрыках у Іванава-Вазнесенску.

У наступным годзе царскі ўрад, напалоханы ростам рабочага руху, аказаўся вымушаным выдаць закон аб штрафах. У гэтым законе гаварылася, што штрафныя грошы павінны ісці не ў кішэню фабрыканта, а на патрэбы саміх рабочых.

На вопыце марозаўскай і іншых стачак рабочыя зразумелі, што яны многага могуць дабіцца арганізаванай барацьбой. Рабочы рух пачаў выдзяляць з свайго асяроддзя здольных кіраўнікоў і арганізатараў, цвёрда адстойваўшых інтарэсы рабочага класа.

У той-жа час на глебе росту рабочага руху і пад уплывам заходне-еўрапейскага рабочага руху пачынаюць ствараюцца ў Расіі першыя марксісцкія арганізацыі.

### 2. Народніцтва і марксізм у Расіі. Плеханаў і яго група «Вызваленне працы». Барацьба Плеханава з народніцтвам. Пашырэнне марксізма ў Расіі.

Да паяўлення марксісцкіх груп рэволюцыйную работу ў Расіі вялі народнікі, якія з'яўляліся праціўнікамі марксізма.

Першая руская марксісцкая група паявілася ў 1883 годзе. Гэта была група «Вызваленне працы», арганізаваная Г. В. Плеханавым за граніцай, у Жэневе, куды ён вымушан быў паехаць ад праследаванняў царскага ўрада за рэволюцыйную дзейнасць.

Плеханаў сам быў перад гэтым народнікам. Пазнаёміўшыся ў эміграцыі з марксізмам, ён парваў з народніцтвам і стаў выдаючымся прапагандыстам марксізма.

Група «Вызваленне працы» прарабіла вялікую работу па распаўсюджванню марксізма ў Расіі. Яна пераклала на рускую мову работы Маркса і Энгельса: «Маніфест комуністычнай партыі», «Наёмная праца і капітал», «Развіццё соцыялізма ад утопіі да навукі» і іншыя, надрукавала іх за граніцай і пачала тайна распаўсюджваць у Расіі. Г. В. Плеханаў, Засуліч, Аксельрод і іншыя ўдзельнікі гэтай групы напісалі таксама рад твораў, у якіх яны раз'яснялі вучэнне Маркса і Энгельса, раз'яснялі ідэі **навуковага соцыялізма.**

Маркс і Энгельс, вялікія настаўнікі пролетарыята, у процівагу соцыялістам-утапістам, першыя растлумачылі, што соцыялізм—не выдумка мечтацеляў (утапістаў), а неабходны рэзультат развіцця сучаснага капіталістычнага грамадства. Яны паказалі, што капіталістычны лад падзе таксама, як паў прыгонны лад, што капіталізм сам стварае сабе магільшчыка ў асобе пролетарыята. Яны паказалі, што толькі класавая барацьба пролетарыята, толькі перамога пролетарыята над буржуазіяй вызваліць чалавецтва ад капіталізма, ад эксплуатацыі.

Маркс і Энгельс вучылі пролетарыят усведамляць свае сілы, усведамляць свае класавыя інтарэсы і аб'ядноўвацца для рашучай барацьбы з буржуазіяй. Маркс і Энгельс адкрылі законы развіцця капіталістычнага грамадства і навукова даказалі, што развіццё капіта-

лістычнага грамадства і класавая барацьба ў ім павінны немінуча прывесці да падзення капіталізма, да перамогі пролетарыята, да **дыктатуры пролетарыята.**

Маркс і Энгельс вучылі, што вызваліцца ад улады капітала і пераўтварыць капіталістычную ўласнасць ва ўласнасць грамадскую немагчыма мірным шляхам, што дабіцца гэтага рабочы клас можа толькі шляхам прымянення рэволюцыйнага насілія супроць буржуазіі, шляхам **пролетарскай рэволюцыі,** шляхам устанаўлення свайго палітычнага панавання—дыктатуры пролетарыята, якая павінна падавіць супраціўленне эксплуатататараў і стварыць новае, бяскласавае комуністычнае грамадства.

Маркс і Энгельс вучылі, што прамысловы пролетарыят з'яўляецца самым рэволюцыйным і таму—самым перадавым класам капіталістычнага грамадства, што толькі такі клас, як пролетарыят, можа сабраць вакол сябе ўсе незадаволеныя капіталізмам сілы і павесці іх на штурм капіталізма. Але каб перамагчы стары свет і стварыць новае бяскласавае грамадства, пролетарыят павінен мець сваю ўласную рабочую партыю, якую Маркс і Энгельс называлі комуністычнай партыяй.

Пашырэннем поглядаў Маркса і Энгельса і занялася першая руская марксісцкая група, плеханаўская група «Вызваленне працы».

Група «Вызваленне працы» падняла сцяг марксізма ў рускім замежным друку ў той момант, калі соцыял-дэмакратычнага руху ў Расіі яшчэ не было. Неабходна было перш за ўсё тэарэтычна, ідэйна пракласці шлях гэтаму руху. Галоўнай ідэйнай перашкодай на шляху пашырэння марксізма і соцыял-дэмакратычнага руху ў той час былі народніцкія погляды, якія пераважалі тады сярод перадавых рабочых і рэволюцыйна настроенай інтэлігенцыі.

З развіццём капіталізма ў Расіі рабочы клас станавіўся магутнай перадавой сілай, здольнай да арганізаванай рэволюцыйнай барацьбы. Але перадавой ролі рабочага класа не разумелі народнікі. Рускія народнікі памылкова лічылі, што галоўнай рэволюцыйнай сілай з'яўляецца не рабочы клас, а сялянства, што ўладу цара і памешчыкаў можна звергнуць шляхам адных толькі сялянскіх «бунтаў». Народнікі не ведалі рабочы клас і не разумелі, што без саюза з рабочым класам і без яго кіраўніцтва адны сяляне не змогуць перамагчы царызм і памешчыкаў. Народнікі не разумелі, што рабочы клас з'яўляецца самым рэволюцыйным і самым перадавым класам грамадства.

Народнікі спачатку прабавалі падняць сялян на барацьбу супроць царскага ўрада. З гэтай мэтай рэволюцыйная інтэлігентная моладзь, пераапрануўшыся ў сялянскую вопратку, рушыла ў вёску—«у народ», як тады гаварылі. Адсюль і пайшла назва «народнікі». Але за імі сялянства не пайшло, бо яны і сялян, як след, не ведалі і не разумелі. Большасць народнікаў была арыштавана паліцыяй. Тады народнікі рашылі прадаўжаць барацьбу супроць царскага самадзяржаўя аднымі сваімі сіламі, без народа, што прывяло да яшчэ больш сур'ёзных памылак.

Народніцкае тайнае таварыства «Народная воля» пачало рыхтаваць забойства цара. 1 сакавіка 1881 года народавольцам удалося кінутай бомбай забіць цара Александра II. Аднак, гэта не прынесла ніякай карысці народу. Забойствамі асобных людзей нельга было звергнуць царскае самадзяржаўе, нельга было знішчыць клас памешчыкаў. На месца забітага цара з'явіўся другі—Александр III, пры якім рабочым і сялянам стала жыць яшчэ горш.

Выбраны народнікамі шлях барацьбы з царызмам праз асобныя забойствы, праз індывідуальны тэрор быў памылковым і шкодным для рэволюцыі. Палітыка індывідуальнага тэрору выходзіла з няправільнай народніцкай тэорыі актыўных «герояў» і пасіўнага «натоўпу», чакаючай ад «герояў» подвіга. Гэтая ілжывая тэорыя гаварыла, што толькі асобныя выдаючыяся адзіночкі робяць гісторыю, а маса, народ, клас, «натоўп», як пагардліва выражаліся народніцкія пісьменнікі, няздольна да свядомых, арганізаваных дзеянняў, яна можа толькі слепа ісці за «героямі». Таму народнікі адмовіліся ад масавай рэволюцыйнай работы сярод сялянства і рабочага класа і перайшлі да індывідуальнага тэрору. Народнікі прымусілі аднаго з буйнейшых рэволюцыянераў таго часу—Сцепана Халтурына спыніць работу па арганізацыі рэволюцыйнага рабочага саюза і цалкам заняцца тэрорам.

Народнікі адцягвалі ўвагу працоўных ад барацьбы з класам прыгнятальнікаў бескарыснымі для рэволюцыі забойствамі асобных прадстаўнікоў гэтага класа. Яны тармазілі развіццё рэволюцыйнай ініцыятывы і актыўнасці рабочага класа і сялянства.

Народнікі перашкаджалі рабочаму класу зразумець яго кіруючую ролю ў рэволюцыі і затрымлівалі стварэнне самастойнай партыі рабочага класа.

Хоць тайная арганізацыя народнікаў была разбіта царскім урадам, народніцкія погляды доўга яшчэ трымаліся сярод рэволюцыйна настроенай інтэлігенцыі. Астаткі народнікаў упарта супраціўляліся пашырэнню марксізма ў Расіі, перашкаджалі арганізацыі рабочага класа.

Таму марксізм у Расіі мог вырасці і ўзмацнець толькі ў барацьбе з народніцтвам.

Група «Вызваленне працы» разгарнула барацьбу супроць памылковых поглядаў народнікаў, паказвала, якую шкоду прыносіць рабочаму руху вучэнне народнікаў і іх спосабы барацьбы.

У сваіх работах, накіраваных супроць народнікаў, Плеханаў паказаў, што погляды народнікаў нічога агульнага не маюць з навуковым соцыялізмам, хоць народнікі і называлі сябе соцыялістамі.

Плеханаў першы даў марксісцкую крытыку памылковых поглядаў народнікаў. Наносячы меткія ўдары народніцкім поглядам, Плеханаў адначасова разгарнуў бліскучую абарону марксісцкіх поглядаў.

У чым заключаліся асноўныя памылковыя погляды народнікаў, якім Плеханаў нанёс сакрушальны ўдар?

Па-першае, народнікі сцвярджалі, што капіталізм у Расіі прадстаўляе «выпадковую» з'яву, што ён не будзе развівацца ў Расіі, значыць, не будзе расці і развівацца і пролетарыят.

Па-другое, народнікі не лічылі рабочы клас перадавым класам у рэволюцыі. Яны марылі аб дасягненні соцыялізма без пролетарыята. Галоўнай рэволюцыйнай сілай народнікі лічылі сялянства, кіруемае інтэлігенцыяй, і сялянскую абшчыну, якую яны разглядалі, як зародак і аснову соцыялізма.

Па-трэцяе, у народнікаў быў памылковы і шкодны погляд на ўвесь ход гісторыі чалавецтва. Яны не ведалі і не разумелі законаў эканамічнага і палітычнага развіцця грамадства. Яны былі ў гэтых адносінах зусім адсталымі людзьмі. Па іх думцы, гісторыю робяць не класы і не барацьба класаў, а толькі асобныя выдаючыяся людзі—«героі», за якімі слепа ідуць маса, «натоўп», народ, класы.

Змагаючыся супроць народнікаў і выкрываючы іх, Плеханаў напісаў рад марксісцкіх работ, на якіх вучыліся і выхоўваліся марксісты Расіі. Такія работы Плеханава, як «Соцыялізм і палітычная барацьба», «Нашы рознагалоссі», «Да пытання аб развіцці маністычнага погляду на гісторыю», расчысцілі глебу для перамогі марксізма ў Расіі.

У сваіх работах Плеханаў выклаў асноўныя пытанні марксізма. Асабліва важнае значэнне мела яго кніга «Да пытання аб развіцці маністычнага погляду на гісторыю», выданая ў 1895 годзе. Ленін указваў, што на гэтай кнізе «выхавалася цэлае пакаленне рускіх марксістаў» (**Ленін**, т. XIV, стар. 347).

У сваіх работах, накіраваных супроць народнікаў, Плеханаў даказаў, што недарэчна ставіць пытанне так, як ставілі яго народнікі: павінен ці не павінен развівацца капіталізм у Расіі? Справа ў тым, гаварыў Плеханаў, даказваючы гэта фактамі, што Расія **ўжо ўступіла** на шлях капіталістычнага развіцця і што няма такой сілы, якая магла-б яе з гэтага шляху звярнуць.

Задача рэволюцыянераў была не ў тым, каб **затрымаць** развіццё капіталізма ў Расіі,—гэтага яны ўсёроўна не змаглі-б зрабіць. Задача рэволюцыянераў заключалася ў тым, каб абаперціся на тую магутную рэволюцыйную сілу, якая нараджаецца развіццём капіталізма,—на рабочы клас, развіваць яго класавае сазнанне, арганізаваць яго, дапамагчы яму стварыць сваю рабочую партыю.

Плеханаў разбіў і другі асноўны памылковы погляд народнікаў—адмаўленне імі перадавой ролі пролетарыята ў рэволюцыйнай барацьбе. Народнікі разглядалі паяўленне пролетарыята ў Расіі як свайго роду «гістарычнае няшчасце», пісалі аб «язве пролетарыяцтва». Плеханаў, абараняючы вучэнне марксізма і яго поўную прымянімасць да Расіі, даказваў, што, не гледзячы на колькасную перавагу сялянства і параўнальную малалікасць пролетарыята,—іменна на пролетарыят, на яго рост павінны рэволюцыянеры ўскласці свае галоўныя надзеі.

Чаму іменна на пролетарыят?

Таму, што пролетарыят, не гледзячы на яго цяперашнюю малалікасць, з'яўляецца такім працоўным класам, які звязан з **найбольш перадавой** формай гаспадаркі,—з буйнай вытворчасцю, і мае ў сувязі з гэтым вялікую будучыню.

Таму, што пролетарыят, як клас, **расце** з года ў год, **развіваецца** палітычна, лёгка паддаецца арганізацыі ў сілу ўмоў працы на буйнай вытворчасці і найбольш рэволюцыйны ў сілу свайго пролетарскага становішча, бо ў рэволюцыі яму няма чаго траціць, апрача сваіх ланцугоў.

Інакш абстаіць справа з сялянствам.

Сялянства (гутарка ішла аб аднаасобным сялянстве.—**Рэд.**), не гледзячы на яго шматлікасць, з'яўляецца такім працоўным класам, які звязан з **найбольш адсталай** формай гаспадаркі,—дробнай вытворчасцю, з прычыны чаго яно не мае і не можа мець вялікай будучыні.

Сялянства не толькі не расце, як клас, а, наадварот, **распадаецца** з года ў год на буржуазію (кулакі) і беднату (пролетарыі, поўпролетарыі). К таму-ж яно больш цяжка паддаецца арганізацыі ў сілу сваёй распыленасці і менш ахвотна ідзе ў рэволюцыйны рух у сілу свайго дробна-ўласніцкага становішча, чым пролетарыят.

Народнікі сцвярджалі, што ў Расіі соцыялізм прыдзе не праз дыктатуру пролетарыята, а праз сялянскую абшчыну, якую яны лічылі зародкам і базай соцыялізма. Але абшчына не была і не магла быць ні базай, ні зародкам соцыялізма, бо ў абшчыне панавалі кулакі, «міраеды», якія эксплуатавалі беднякоў, батракоў, маламоцных серадняков. Фармальна існаваўшае абшчыннае землеўладанне і перадзелы зямлі па едаках, якія адбываліся час ад часу, нікольні не мянялі справы. Зямлёй карысталіся тыя члены абшчыны, у якіх былі рабочая жывёла, інвентар, насенне, гэта значыць заможныя серадвякі і кулакі. Сяляне, якія не мелі коней, беднякі і наогул маламоцныя вымушаны былі аддаваць зямлю кулакам і ісці ў найміты, у батракі. Сялянская абшчына была на самай справе зручнай формай для прыкрыцця кулацкага засілля і дзяшовым сродкам у руках царызма для збору падаткаў з сялян па прынцыпу кругавой парукі. Таму якраз царызм не чапаў сялянскую абшчыну. Смешна было-б лічыць такую абшчыну зародкам ці базай соцыялізма.

Плеханаў разбіў таксама трэці асноўны памылковы погляд народнікаў наконт першаступеннай ролі ў грамадскім развіцці «герояў», выдаючыхся асоб, іх ідэй, і наконт нікчэмнай ролі масы, «натоўпу», народа, класаў. Плеханаў абвінавачваў народнікаў у **ідэалізме**, даказваючы, што праўда не на баку ідэалізма, а на баку **матэрыялізма** Маркса—Энгельса.

Плеханаў развіў і абгрунтаваў пункт гледжання марксісцкага матэрыялізма. Згодна марксісцкага матэрыялізма, ён даказваў, што развіццё грамадства вызначаецца ў канчатковым выніку не пажаданнямі і ідэямі выдаючыхся асоб, а развіццём матэрыяльных умоў існавання грамадства, зменамі спосабаў вытворчасці матэрыяльных даброт, неабходных для існавання грамадства, зменамі ўзаемаадносін класаў у галіне вытворчасці матэрыяльных даброт, барацьбой класаў за ролю і месца ў галіне вытворчасці і размеркавання матэрыяльных даброт. Не ідэі вызначаюць грамадска-эканамічнае становішча людзей, а грамадска-эканамічнае становішча людзей вызначае іх ідэі. Выдаючыяся асобы могуць ператварыцца ў нішто, калі іх ідэі і пажаданні ідуць уразрэз з эканамічным развіццём грамадства, уразрэз з патрэбнасцямі перадавога класа, і—наадварот—выдаючыяся людзі могуць стаць сапраўды выдаючыміся асобамі, калі іх ідэі і пажаданні правільна выражаюць патрэбнасці эканамічнага развіцця грамадства, патрэбнасці перадавога класа.

На сцвярджэнні народнікаў аб тым, што маса ёсць натоўп, што толькі героі робяць гісторыю і ператвараюць натоўп у народ, марксісты адказвалі: не героі робяць гісторыю, а гісторыя робіць герояў, значыць,—не героі ствараюць народ, а народ стварае герояў і рухае наперад гісторыю. Героі, выдаючыяся асобы могуць адыгрываць сур'ёзную ролю ў жыцці грамадства толькі пастолькі, пакольні яны здолеюць правільна зразумець умовы развіцця грамадства, зразумець,—як іх змяніць да лепшага. Героі, выдаючыяся асобы могуць папасці ў становішча смешных і нікому непатрэбных няўдачнікаў, калі яны не здолеюць правільна зразумець умоў развіцця грамадства і пачнуць перціся супроць гістарычных патрэбнасцей грамадства, увабразіўшы сябе «дзелацелямі» гісторыі.

Да разраду такіх іменна герояў-няўдачнікаў і належалі народнікі.

Літаратурныя творы Плеханава, яго барацьба з народнікамі грунтоўна падарвалі ўплыў народнікаў сярод рэволюцыйнай інтэлігенцыі.

Але ідэйны разгром народніцтва далёка яшчэ не быў завершан. Гэта задача—дабіць народніцтва, як ворага марксізма—выпала на долю Леніна.

Большасць народнікаў хутка пасля разгрому партыі «Народнай волі» адмовілася ад рэволюцыйнай барацьбы з царскім урадам, пачала прапаведваць прымірэнне, пагадненне з царскім урадам. Народнікі ў 80-х і 90-х годах сталі выражальнікамі інтарэсаў кулацтва.

Група «Вызваленне працы» склала два праекты праграмы рускіх соцыял-дэмакратаў (першы ў 1884 г. і другі ў 1887 г.). Гэта быў вельмі важны крок для падрыхтоўкі стварэння марксісцкай соцыял-дэмакратычнай партыі ў Расіі.

Але ў групы «Вызваленне працы» былі і сур'ёзныя памылкі. У яе першым праекце праграмы былі яшчэ астаткі народніцкіх поглядаў, дапускалася тактыка індывідуальнага тэрору. Плеханаў не ўлічваў, далей, што ў ходзе рэволюцыі пролетарыят можа і павінен павесці за сабой сялянства, што толькі ў саюзе з сялянствам пролетарыят зможа атрымаць перамогу над царызмам. Плеханаў разглядаў, далей, ліберальную буржуазію, як сілу, якая можа аказаць падтрыманне рэволюцыі, хоць і нетрывалае падтрыманне, сялянства-ж у некаторых сваіх работах ён зусім скідаў з рахунку, заяўляючы, напрыклад, што:

> «Апрача буржуазіі і пролетарыята мы не бачым іншых грамадскіх сіл, на якія маглі-б у нас апірацца апазіцыйныя ці рэволюцыйныя камбінацыі» (**Плеханаў,** т. III, стар. 119).

Гэтыя памылковыя погляды Плеханава былі зародкам яго будучых меншавіцкіх поглядаў.

І група «Вызваленне працы» і марксісцкія гурткі таго часу не былі яшчэ звязаны практычна з рабочым рухам. Гэта быў яшчэ перыяд узнікнення і ўмацавання ў Расіі тэорыі марксізма, ідэй марксізма, праграмных палажэнняў соцыял-дэмакратыі. Соцыял-дэмакратыя за дзесяцігоддзе 1884—1894 гадаў існавала яшчэ ў выглядзе асобных невялікіх груп і гурткоў, не звязаных ці вельмі мала звязаных з масавым рабочым рухам. Падобна яшчэ ненарадзіўшамуся, але ўжо развіваючамуся ва ўтробе мацеры дзіцяці, соцыял-дэмакратыя перажывала, як пісаў Ленін, **«працэс утробнага развіцця».**

Група «Вызваленне працы» «толькі тэарэтычна аснавала соцыял-дэмакратыю і зрабіла першы крок насустрач рабочаму руху»,—указваў Ленін.

Задачу злучэння марксізма з рабочым рухам у Расіі, а таксама выпраўлення памылак групы «Вызваленне працы» прышлося вырашыць Леніну.

### 3. Пачатак рэволюцыйнай дзейнасці Леніна. Пецербургскі «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа».

Уладзімір Ільіч Ленін, аснавальнік большэвізма, нарадзіўся ў г. Сімбірску (цяпер Ульянаўск) у 1870 годзе. У 1887 годзе Ленін паступіў у Казанскі універсітэт, але хутка быў арыштован і выключан з універсітэта за ўдзел у рэволюцыйным руху студэнтаў. У Казані Ленін уступіў у марксісцкі гурток, арганізаваны Федасеевым. Пасля пераезду Леніна ў Самару вакол яго быстра ўтварыўся першы гурток самарскіх марксістаў. Ужо тады Ленін здзіўляў усіх сваім веданнем марксізма.

У канцы 1893 года Ленін пераехаў у Пецербург. Першыя-ж выступленні Леніна зрабілі моцнае ўражанне на ўдзельнікаў пецербургскіх марксісцкіх гурткоў. Надзвычай глыбокае веданне Маркса, уменне прымяняць марксізм да эканамічнай і палітычнай абстаноўкі Расіі таго часу, гарачая, несакрушальная вера ў перамогу рабочай справы, выдатны арганізацыйны талент—усё гэта зрабіла Леніна прызнаным кіраўніком пецербургскіх марксістаў.

Ленін карыстаўся гарачай любоўю перадавых рабочых, з якімі ён займаўся ў гуртках.

«Нашы лекцыі,—успамінаў рабочы Бабушкін аб занятках Леніна ў рабочых гуртках,—насілі характар вельмі жывы, цікавы, мы ўсе бывалі вельмі задаволены гэтымі лекцыямі і пастаянна захапляліся розумам нашага лектара».

У 1895 годзе Ленін аб'яднаў у Пецербургу ўсе марксісцкія рабочыя гурткі (іх было ўжо каля 20) у адзін «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа». Гэтым ён падрыхтаваў стварэнне рэволюцыйнай марксісцкай рабочай партыі.

Ленін паставіў перад «Саюзам барацьбы» задачу звязацца цясней з масавым рабочым рухам і палітычна кіраваць ім. Ад **прапаганды** марксізма сярод невялікай колькасці перадавых рабочых, сабраных у прапагандысцкіх гуртках, Ленін прапанаваў перайсці да злободзённай палітычнай **агітацыі** сярод шырокіх мас рабочага класа. Гэты паварот у бок масавай агітацыі меў сур'ёзнае значэнне для далейшага развіцця рабочага руху ў Расіі.

У 90-х годах прамысловасць перажывала перыяд уздыму. Расла колькасць рабочых. Узмацніўся рабочы рух. З 1895 па 1899 год баставала, па няпоўных даных, не менш 221 тысячы рабочых. Рабочы рух ператвараўся ў сур'ёзную сілу палітычнага жыцця краіны. Самім жыццём пацвярджаліся погляды марксістаў, якія яны абаранялі ў барацьбе з народнікамі, наконт перадавой ролі рабочага класа ў рэволюцыйным руху.

Пад кіраўніцтвам Леніна «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа» звязваў барацьбу рабочых за эканамічныя патрабаванні—за паляпшэнне ўмоў працы, за скарачэнне рабочага дня, за павышэнне заработнай платы—з палітычнай барацьбой супроць царызма. «Саюз барацьбы» выхоўваў рабочых палітычна.

Пад кіраўніцтвам Леніна пецербургскі «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа» упершыню ў Расіі стаў ажыццяўляць **злучэнне соцыялізма з рабочым рухам.** Калі ўзнікала стачка на якой-небудзь фабрыцы, «Саюз барацьбы», які добра ведаў праз удзельнікаў сваіх гурткоў становішча на прадпрыемствах, неадкладна адклікаўся выпускам лістовак, выпускам соцыялістычных пракламацый. У гэтых лістоўках выкрываліся прыцясненні рабочых фабрыкантамі, растлумачвалася, як трэба змагацца рабочым за свае інтарэсы, змяшчаліся патрабаванні рабочых. Лістоўкі гаварылі ўсю праўду аб язвах капіталізма, аб жабрацкім жыцці рабочых, аб іх нязмерна цяжкай 12—14-гадзіннай працы, аб іх бяспраўным становішчы. Тут-жа прад'яўляліся і адпаведныя палітычныя патрабаванні. У канцы 1894 года Ленін пры ўдзеле рабочага Бабушкіна напісаў першую такую агітацыйную лістоўку і зварот да забаставаўшых рабочых Семянікаўскага завода ў Пецербургу. Восенню 1895 года Ленін напісаў лістоўку да

бастуючых рабочых і работніц фабрыкі Торнтона. Гэта фабрыка належала англійскім фабрыкантам, якія атрымлівалі мільённыя прыбыткі. Рабочы дзень тут прадаўжаўся больш 14 гадзін, а зараблялі ткачы каля 7 рублёў у месяц. Забастоўка скончылася пасняхова для рабочых. За кароткі час «Саюзам барацьбы» былі надрукаваны дзесяткі такіх лістовак, зваротаў да рабочых розных фабрык. Кожны такі лісток моцна ўзнімаў дух рабочых. Рабочыя бачылі, што ім дапамагаюць, іх абараняюць соцыялісты.

Пад кіраўніцтвам «Саюза барацьбы» праходзіла забастоўка 30 тысяч пецербургскіх тэкстыльных рабочых летам 1896 года. Асноўным патрабаваннем было скарачэнне рабочага дня. Пад напорам гэтай забастоўкі царскі ўрад вымушан быў выдаць закон ад 2 чэрвеня 1897 года, які абмяжоўваў рабочы дзень да $11^{1}/_{2}$ гадзін. Да гэтага закона рабочы дзень не быў наогул абмяжован.

У снежні 1895 года Ленін быў арыштован царскім урадам. Ленін і ў турме не спыняў рэволюцыйнай барацьбы. Ён дапамагаў «Саюзу барацьбы» сваімі парадамі і ўказаннямі, перасылаючы з турмы брашуры і лістоўкі. У турме Леніным былі напісаны брашура «Аб стачках» і лістоўка «Царскаму ўраду», у якой выкрывалася дзікае самавольства царскага ўрада. У турме-ж Ленін напісаў праект праграмы партыі (ён быў напісан малаком паміж радкоў медыцынскай кнігі).

Пецербургскі «Саюз барацьбы» даў магутны штуршок да аб'яднання рабочых гурткоў у такія-ж саюзы і ў іншых гарадах і абласцях Расіі. У сярэдзіне 90-х гадоў узнікаюць марксісцкія арганізацыі ў Закаўказзі. У 1894 годзе ўтвараецца ў Маскве маскоўскі «Рабочы саюз». У Сібіры ў канцы 90-х гадоў арганізаваўся сібірскі «Соцыялдэмакратычны саюз». У 90-х годах у Іванава-Вазнесенску, Яраслаўлі, Кастраме ўзніклі марксісцкія групы, якія аб'ядналіся потым у «Паўночны саюз соцыял-дэмакратычнай партыі». У Растове-на-Дану, Екацерынаславе, Кіеве, Нікалаеве, Туле, Самары, Казані, Орэхава-Зуеве і ў іншых гарадах ствараюцца ў другой палавіне 90-х гадоў соцыялдэмакратычныя групы і саюзы.

Значэнне пецербургскага «Саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа» заключалася ў тым, што ён, па выражэнню Леніна, прадстаўляў першы сур'ёзны **зачатак рэволюцыйнай партыі, якая апіраецца на рабочы рух.**

На рэволюцыйны вопыт пецербургскага «Саюза барацьбы» апіраўся Ленін у сваёй далейшай рабоце па стварэнню марксісцкай соцыял-дэмакратычнай партыі ў Расіі.

Пасля арышту Леніна і яго бліжэйшых саратнікаў састаў кіраўніцтва пецербургскага «Саюза барацьбы» значна змяніўся. Паявіліся новыя людзі, якія называлі сябе «маладымі», а Леніна і яго саратнікаў—«старыкамі». Яны пачалі весці памылковую палітычную лінію. Яны заяўлялі, што трэба заклікаць рабочых толькі да эканамічнай барацьбы супроць гаспадароў, што-ж датычыць палітычнай барацьбы, то гэта—справа ліберальнай буржуазіі, якой павінна належаць кіраўніцтва палітычнай барацьбой.

Такіх людзей сталі называць «эканамістамі».

Гэта была першая згодніцкая, апартуністычная група ў радах марксісцкіх арганізацый у Расіі.

## 4. Барацьба Леніна супроць народніцтва і «легальнага марксізма». Ленінская ідэя саюза рабочага класа і сялянства. І з'езд Расійскай соцыял-дэмакратычнай рабочай партыі.

Хоць Плеханаў ужо ў 80-х годах нанёс асноўны ўдар народніцкай сістэме поглядаў, аднак у пачатку 90-х гадоў погляды народнікаў усё яшчэ сустракалі спачуванне сярод некаторай часткі рэволюцыйнай моладзі. Частка моладзі прадаўжала думаць, што Расія можа мінуць капіталістычны шлях развіцця, што галоўную ролю ў рэволюцыі будзе адыгрываць сялянства, а не рабочы клас. Астаткі народнікаў усяляк стараліся перашкодзіць пашырэнню марксізма ў Расіі, павялі барацьбу супроць марксістаў, стараючыся іх усяляк апарочыць. Трэба было да канца ідэйна **разграміць** народніцтва, каб забяспечыць далейшае пашырэнне марксізма і магчымасць стварэння соцыял-дэмакратычнай партыі.

Гэтая работа была праароблена Леніным.

У сваёй кнізе «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў?» (1894 год) Ленін да канца выкрыў сапраўдны твар народнікаў, як фальшывых «прыяцеляў народа», якія ідуць на справе супроць народа.

Народнікі 90-х гадоў па сутнасці даўно адмовіліся ад усякай рэволюцыйнай барацьбы з царскім урадам. Ліберальныя народнікі прапаведвалі прымірэнне з царскім урадам. «Яны проста думаюць,— пісаў Ленін пра народнікаў таго часу,—што калі папрасіць больш хараша ды ласкавей у гэтага ўрада, то ён можа ўсё добра ўладзіць» (**Ленін,** т. 1, стар. 161).

Народнікі 90-х гадоў закрывалі вочы на становішча беднаты на вёсцы, на класавую барацьбу на вёсцы, на эксплуатацыю беднаты кулацтвам і ўсхвалялі развіццё кулацкіх гаспадарак. Яны выступалі па сутнасці справы як выражальнікі інтарэсаў кулацтва.

У той-жа час народнікі ў сваіх журналах вялі цкаванне марксістаў. Свядома скажаючы, зусім пераблытваючы погляды рускіх марксістаў, народнікі запэўнівалі, быццам марксісты хочуць разарэння вёскі, быццам марксісты хочуць «выварыць кожнага мужыка ў фабрычным катле». Выкрываючы гэтую фальшывую народніцкую крытыку, Ленін паказаў, што справа не ў «жаданнях» марксістаў, а ў сапраўдным ходзе развіцця капіталізма ў Расіі, пры якім колькасць пролетарыята немінуча павялічваецца. Але пролетарыят з'явіцца магільшчыкам капіталістычнага ладу.

Ленін паказаў, што сапраўднымі прыяцелямі народа, якія жадаюць знішчыць капіталістычны і памешчыцкі гнёт, знішчыць царызм, з'яўляюцца не народнікі, а марксісты.

Ленін у сваёй кнізе «Што такое прыяцелі народа» упершыню высунуў ідэю рэволюцыйнага саюза рабочых і сялян, як галоўнага сродку звяржэння царызма, памешчыкаў, буржуазіі.

Ленін у радзе сваіх работ гэтага перыяду падвяргаў крытыцы тыя сродкі палітычнай барацьбы народнікаў, якімі карысталася асноўная група народнікаў—народавольцы, а пазней—прадаўжальнікі народнікаў—эсэры, у асаблівасці тактыку індывідуальнага тэрору. Ленін лічыў яе шкоднай для рэволюцыйнага руху, бо яна падменьвала барацьбу мас барацьбой адзіночак-герояў. Яна азначала нявер'е ў народны рэволюцыйны рух.

У кнізе «Што такое прыяцелі народа» Ленін намячаў асноўныя задачы рускіх марксістаў. Па думцы Леніна рускія марксісты павінны былі ў першую чаргу арганізаваць з разрозненых марксісцкіх гурткоў адзіную соцыялістычную рабочую партыю. Ленін указваў далей, што іменна рабочы клас Расіі ў саюзе з сялянствам зваліць царскае самадзяржаўе, пасля чаго рускі пролетарыят у саюзе з працоўнымі і эксплуатуемымі масамі, побач з пролетарыятам іншых краін, прамой дарогай адкрытай палітычнай барацьбы пойдзе да пераможнай комуністычнай рэволюцыі.

Такім чынам, больш 40 год таму назад Ленін правільна ўказаў шлях барацьбы рабочага класа, вызначыў яго ролю, як перадавой рэволюцыйнай сілы грамадства, вызначыў ролю сялянства, як саюзніка рабочага класа.

Барацьба Леніна і яго староннікаў супроць народніцтва ўжо ў 90-х годах прывяла да канчатковага ідэйнага разгрому народніцтва.

Велізарнае значэнне мела таксама барацьба Леніна супроць «легальнага марксізма». Як заўсёды бывае ў гісторыі, да вялікага грамадскага руху звычайна прымазваюцца часовыя «спадарожнікі». Такімі «спадарожнікамі» былі і так званыя **«легальныя марксісты».** Марксізм пачаў шырока распаўсюджвацца ў Расіі. І вось буржуазныя інтэлігенты пачалі апранацца ў марксісцкае адзенне. Яны друкавалі свае артыкулы ў легальных, гэта значыць дазволеных царскім урадам, газетах і журналах. Таму іх і пачалі называць «легальнымі марксістамі».

Яны па-свойму вялі барацьбу з народніцтвам. Але гэтую барацьбу і сцяг марксізма яны прабавалі скарыстаць для таго, каб рабочы рух падпарадкаваць і прыстасаваць да інтарэсаў буржуазнага грамадства, да інтарэсаў буржуазіі. З вучэння Маркса яны выкідалі самае галоўнае—вучэнне аб пролетарскай рэволюцыі, аб дыктатуры пролетарыята. Віднейшы легальны марксіст Пётр Струве ўсхваляў буржуазію і, замест рэволюцыйнай барацьбы супроць капіталізма,—заклікаў «прызнаць нашу некультурнасць і пайсці на вывучку да капіталізма».

У барацьбе супроць народнікаў Ленін лічыў дапушчальным часовае пагадненне з «легальнымі марксістамі», каб скарыстаць іх супроць народнікаў, напрыклад, сумесны выпуск друкаванага зборніка супроць народнікаў. Але ў той-жа час Ленін з усёй рэзкасцю крытыкаваў «легальных марксістаў», выкрываючы іх ліберальна-буржуазнае нутро.

Многія з гэтых «спадарожнікаў» сталі потым кадэтамі (галоўная партыя рускай буржуазіі), а ў час грамадзянскай вайны—заядлымі белагвардзейцамі.

Побач з «Саюзамі барацьбы» у Пецербургу, Маскве, Кіеве і т. д. паявіліся соцыял-дэмакратычныя арганізацыі таксама на заходніх нацыянальных ускраінах Расіі. У 90-х годах вылучыліся марксісцкія элементы з польскай нацыяналістычнай партыі і ўтварылі «Соцыялдэмакратыю Польшчы і Літвы». У канцы 90-х гадоў ствараюцца арганізацыі латвійскай соцыял-дэмакратыі. У кастрычніку 1897 года ў заходніх губернях Расіі створан быў Усеагульны яўрэйскі соцыялдэмакратычны саюз—Бунд.

У 1898 годзе некалькі «Саюзаў барацьбы», пецербургскі, маскоўскі, кіеўскі, екацерынаслаўскі і Бунд зрабілі першую спробу аб'яднацца ў соцыял-дэмакратычную партыю. З гэтай мэтай яны сабра-



ліся на I з'езд Расійскай соцыял-дэмакратычнай рабочай партыі (РСДРП) у сакавіку 1898 года ў Менску.

На I з'ездзе РСДРП было ўсяго 9 удзельнікаў. Леніна не было на з'ездзе, бо ён знаходзіўся ў гэты час у ссылцы ў Сібіры. Цэнтральны Камітэт партыі, выбраны на з'ездзе, быў у хуткім часе арыштован. «Маніфест», выпушчаны ад імя з'езда, быў яшчэ ва многім нездавальняючым. У ім была абыйдзена задача заваявання пролетарыятам палітычнай улады, нічога не сказана аб гегемоніі пролетарыята, абыйдзена пытанне аб саюзніках пролетарыята ў яго барацьбе супроць царызма і буржуазіі.

З'езд у сваіх рашэннях і ў «Маніфесце» абвясціў стварэнне Расійскай соцыял-дэмакратычнай рабочай партыі.

У гэтым фармальным акце, які адыграў вялікую рэволюцыйна-прапагандысцкую ролю, заключалася значэнне I з'езда РСДРП.

Аднак, не гледзячы на адбыўшыйся I з'езд, на справе марксісцкая соцыял-дэмакратычная партыя ў Расіі не была яшчэ створана. З'езду не ўдалося асобныя марксісцкія гурткі і арганізацыі аб'яднаць і звязаць арганізацыйна. Не было яшчэ адзінай лініі ў рабоце мясцовых арганізацый, не было праграмы партыі, статута партыі, не было кіраўніцтва з аднаго цэнтра.

З гэтай прычыны і ў сілу раду іншых прычын ідэйны разброд у мясцовых арганізацыях стаў павялічвацца, а гэтая акалічнасць стварыла спрыяючыя ўмовы для ўзмацнення ў рабочым руху апартуністычнай плыні—«эканамізма».

Спатрэбілася некалькі год напружанай работы Леніна і арганізаванай ім газеты «Искра», каб пераадалець разброд, перамагчы апартуністычныя хістанні і падрыхтаваць утварэнне Расійскай соцыял-дэмакратычнай рабочай партыі.

### 5. Барацьба Леніна з «эканамізмам». Паяўленне ленінскай газеты «Искра».

На I з'ездзе РСДРП Леніна не было. Ён знаходзіўся ў гэты час у ссылцы ў Сібіры, у сяле Шушэнскім, куды яго загнаў царскі ўрад пасля доўгага прабывання ў пецербургскай турме па справе «Саюза барацьбы».

Але і ў ссылцы Ленін прадаўжаў рэволюцыйную работу. У ссылцы Ленін закончыў важнейшую навуковую работу «Развіццё капіталізма ў Расіі», якая завяршыла ідэйны разгром народніцтва. Там-жа ён напісаў вядомую брашуру «Задачы рускіх соцыял-дэмакратаў».

Не гледзячы на тое, што Ленін быў адорван ад непасрэднай рэволюцыйна-практычнай работы, ён усё-ж здолеў захаваць некаторыя сувязі з практыкамі, вёў з імі перапіску з ссылкі, рабіў запытанні, даваў ім парады. Леніна асабліва цікавіла ў гэты час пытанне аб «эканамістах». Ён разумеў лепш, чым хто-небудзь іншы, што «эканамізм» ёсць асноўная ячэйка згодніцтва, апартунізма, што перамога «эканамізма» у рабочым руху будзе азначаць падрыў рэволюцыйнага руху пролетарыята, паражэнне марксізма.

І Ленін пачаў граміць «эканамістаў» з першых-жа дзён іх паяўлення.

«Эканамісты» сцвярджалі, што рабочыя павінны весці толькі эканамічную барацьбу, што-ж датычыць палітычнай барацьбы, то яе няхай вядзе ліберальная буржуазія, якую павінны падтрымліваць рабочыя. Ленін лічыў падобную пропаведзь «эканамістаў» адступніц-

твам ад марксізма, адмаўленнем неабходнасці самастойнай палітычнай партыі для рабочага класа, спробай—ператварыць рабочы клас у палітычны прыдатак буржуазіі.

У 1899 годзе група «эканамістаў» (Пракаповіч, Кускова і іншыя, якія сталі потым кадэтамі) выпусціла свой маніфест. Яны выступілі супроць рэволюцыйнага марксізма і патрабавалі адмовы ад стварэння самастойнай палітычнай партыі пролетарыята, адмовы ад самастойных палітычных патрабаванняў рабочага класа. «Эканамісты» лічылі, што палітычная барацьба—справа ліберальнай буржуазіі, што датычыць рабочых, то з іх дастаткова і эканамічнай барацьбы з гаспадарамі.

Азнаёміўшыся з гэтым апартуністычным дакументам, Ленін склікаў нараду палітычных ссыльных-марксістаў, якія знаходзіліся паблізу, і 17 таварышоў на чале з Леніным вынеслі рэзкі выкрываўчы пратэст супроць поглядаў «эканамістаў».

Гэты пратэст, напісаны Леніным, быў распаўсюджан у марксісцкіх арганізацыях па ўсёй Расіі і меў велізарнае значэнне ў справе развіцця марксісцкай мыслі і марксісцкай партыі ў Расіі.

Рускія «эканамісты» прапаведвалі тыя-ж погляды, што і праціўнікі марксізма ў замежных социял-дэмакратычных партыях, так званыя бернштэйніянцы, г. зн. староннікі апартуніста Бернштэйна.

Таму барацьба Леніна супроць «эканамістаў» была ў той-жа час барацьбой супроць міжнароднага апартунізма.

Асноўную барацьбу супроць «эканамізма», за стварэнне самастойнай палітычнай партыі пролетарыята правяла арганізаваная Леніным нелегальная газета «Искра».

У пачатку 1900 года Ленін і іншыя члены «Саюза барацьбы» вярнуліся з сібірскай ссылкі ў Расію. Ленін задумаў стварыць вялікую агульнарускую нелегальную марксісцкую газету. Мноства дробных марксісцкіх гурткоў і арганізацый, якія існавалі ўжо ў Расіі, не былі яшчэ звязаны паміж сабою. У гэты момант, калі, па выражэнню тав. Сталіна, «саматужніцтва і гурткоўшчына раз'ядалі партыю зверху данізу, калі ідэйны разброд складаў характэрную рысу ўнутранага жыцця партыі», стварэнне агульнарускай нелегальнай газеты з'яўлялася асноўнай задачай рускіх рэволюцыйных марксістаў. Толькі такая газета магла звязаць паміж сабой разрозненыя марксісцкія арганізацыі і падрыхтаваць стварэнне сапраўднай партыі.

Але такую газету немагчыма было арганізаваць у царскай Расіі з-за паліцэйскіх праследаванняў. Праз месяц—два газета была-б выследжана царскімі сышчыкамі і разгромлена. Таму Ленін рашыў выдаваць яе за граніцай. Тут газета друкавалася на самай тонкай і трывалай паперы і тайна перасылалася ў Расію. Асобныя нумары «Искры» перадрукоўваліся ў Расіі, у тайных друкарнях у Баку, у Кішынёве, у Сібіры.

Восенню 1900 года Владзімір Ільіч паехаў за граніцу, каб згаварыцца з таварышамі з групы «Вызваленне працы» адносна выдання агульнарускай палітычнай газеты. Гэта мысль была абдумана Леніным у ссылцы ва ўсіх падрабязнасцях. Па дарозе з ссылкі Ленін правёў па гэтаму пытанню рад нарад ва Уфе, Пскове, Маскве, Пецербургу. Усюды ён умаўляўся з таварышамі аб шыфрах для тайнай перапіскі, аб адрасах для прысылкі літаратуры і т. д. і абмяркоўваў з імі план будучай барацьбы.

Царскі ўрад адчуваў, што ў асобе Леніна ён мае надзвычай небяспечнага ворага. У сваёй тайнай перапісцы царскі ахраннік, жандарм Зубатаў, пісаў, што «буйнейшага за Ульянава ў рэволюцыі зараз нікога няма», з прычыны чаго ён лічыў мэтазгодным арганізаваць забойства Леніна.

Па прыездзе за граніцу Ленін згаварыўся з групай «Вызваленне працы», гэта значыць з Плеханавым, Аксельродам, В. Засуліч, аб сумесным выданні «Искры». Увесь план выдання быў распрацован Леніным ад пачатку да канца.

У снежні 1900 года за граніцай вышаў першы нумар газеты «Искра». Пад загалоўкам газеты было ізрэчэнне (эпіграф): **«З іскры разгарыцца полымя».** Гэтыя словы ўзяты з адказу дзекабрыстаў паэту Пушкіну, які паслаў ім прывітанне ў сібірскую ссылку.

І сапраўды, з запаленай Леніным «Искры» разгарэлася ў далейшым полымя вялікага рэволюцыйнага пажару, якое спаліла ўшчэнт дваранска-памешчыцкую царскую манархію і буржуазную ўладу.

## *КАРОТКІЯ ВЫВАДЫ.*

Марксісцкая соцыял-дэмакратычная рабочая партыя ў Расіі стваралася ў барацьбе ў першую чаргу з народніцтвам, з яго памылковымі і шкоднымі для справы рэволюцыі поглядамі.

Толькі разбіўшы ідэйна погляды народнікаў, можна было расчысціць глебу для стварэння марксісцкай рабочай партыі ў Расіі. Рашаючы ўдар народніцтву быў нанесен у 80-х годах мінулага стагоддзя Плеханавым і яго групай «Вызваленне працы».

Ленін у 90-х годах завяршыў ідэйны разгром народніцтва, дабіў народніцтва.

Група «Вызваленне працы», аснаваная ў 1883 годзе, прарабіла вялікую работу па пашырэнню марксізма ў Расіі, тэарэтычна аснавала соцыял-дэмакратыю і зрабіла першы крок насустрач рабочаму руху.

З развіццём капіталізма ў Расіі быстра расла колькасць прамысловага пролетарыята. У палавіне 80-х годаў рабочы клас уступіў на шлях арганізаванай барацьбы, на шлях масавых выступленняў у выглядзе арганізаваных стачак. Але марксісцкія гурткі і групы займаліся толькі прапагандай, не разумелі мэтазгоднасці пераходу на масавую агітацыю ў рабочым класе і, таму, не былі яшчэ практычна звязаны з рабочым рухам, не кіравалі ім.

Утварэнне Леніным пецербургскага «Саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа» (1895 год), які павёў масавую агітацыю сярод рабочых і кіраваў масавымі стачкамі, азначала новы этап—пераход на масавую агітацыю сярод рабочых і злучэнне марксізма з рабочым рухам. Пецербургскі «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа» з'явіўся першым зачаткам рэволюцыйнай пролетарскай партыі ў Расіі. Услед за пецербургскім «Саюзам барацьбы» стварыліся арганізацыі марксістаў ва ўсіх галоўных прамысловых цэнтрах, таксама як і на акраінах.

У 1898 годзе была ажыццёўлена першая, хоць і не ўдаўшаяся спроба аб'яднання марксісцкіх соцыял-дэмакратычных арганізацый у партыю—адбыўся I з'езд РСДРП. Але гэты з'езд яшчэ не стварыў партыю: не было ні праграмы, ні статута партыі, ні кіраўніцтва з аднаго цэнтра, не было амаль ніякай сувязі паміж асобнымі марксісцкімі гурткамі і групамі.

Каб аб'яднаць і звязаць паміж сабой разрозненыя марксісцкія арганізацыі ў адну партыю, Ленін высунуў і ажыццявіў план стварэння першай агульнарускай газеты рэволюцыйных марксістаў— «Искры».

Галоўнымі праціўнікамі стварэння адзінай палітычнай рабочай партыі былі ў гэты перыяд «эканамісты». Яны адмаўлялі неабходнасць такой партыі. Яны падтрымлівалі разрозненасць і саматужніцтва асобных груп. Іменна супроць іх і накіравалі свае ўдары Ленін і арганізаваная ім «Искра».

Выпуск першых нумароў «Искры» (1900—1901 годы) з'явіўся пераходам да новага перыяду—перыяду сапраўднага ўтварэння з разрозненых груп і гурткоў адзінай Расійскай соцыял-дэмакратычнай рабочай партыі.

Раздзел II

# УТВАРЭННЕ РАСІЙСКАЙ СОЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ РАБОЧАЙ ПАРТЫІ. ПАЯЎЛЕННЕ ЎНУТРЫ ПАРТЫІ ФРАКЦЫЙ БОЛЬШЭВІКОЎ І МЕНШАВІКОЎ.

(1901—1904 годы).

## 1. Уздым рэволюцыйнага руху ў Расіі ў 1901—1904 годах.

У канцы XIX стагоддзя ў Еўропе выбухнуў прамысловы крызіс. Крызіс гэты ў хуткім часе захваціў і Расію. За годы крызіса—1900—1903—закрылася да 3 тысяч буйных і дробных прадпрыемстваў. На вуліцу было выкінута звыш 100 тысяч рабочых. Заработная плата рабочым, якія асталіся на прадпрыемствах, рэзка скарачалася. Нязначныя ўступкі, вырваныя раней рабочымі ў капіталістаў ва ўпорных эканамічных стачках, былі цяпер назад узяты капіталістамі.

Прамысловы крызіс, беспрацоўе не спынілі і не аслабілі рабочага руху. Наадварот, барацьба рабочых пачала набываць усё больш рэволюцыйны характар. Ад эканамічных стачак рабочыя пачалі пераходзіць да палітычных стачак. Нарэшце, рабочыя пераходзяць да дэманстрацый, выстаўляюць палітычныя патрабаванні аб дэмакратычных свабодах, выстаўляюць лозунг: «Далоў царскае самадзяржаўе».

У 1901 годзе першамайская стачка на ваенным Обухоўскім заводзе ў Пецербургу ператварылася ў крывавую сутычку паміж рабочымі і войскамі. Узброеным царскім войскам рабочыя маглі проціпаставіць толькі каменні і кавалкі жалеза. Упорнае супраціўленне рабочых было зломлена. А потым паследавала лютая расправа: каля 800 рабочых было арыштавана, многія былі кінуты ў турмы і сасланы на катаргу. Але гераічная «Обухаўская абарона» аказала значны ўплыў на рабочых у Расіі, выклікала хвалю спачування сярод рабочых.

У сакавіку 1902 года адбываюцца буйнейшыя забастоўкі і дэманстрацыі батумскіх рабочых, арганізаваныя Батумскім соцыял-дэмакратычным камітэтам. Батумская дэманстрацыя ўскалыхнула рабочых і сялянскія масы Закаўказзя.

У тым-жа 1902 годзе ў Растове-на-Дану адбываецца буйная стачка. Спачатку забаставалі чыгуначнікі, неўзабаве да іх далучыліся рабочыя многіх заводаў. Стачка ўскалыхнула ўсіх рабочых, на мітынгі за горадам на працягу некалькіх дзён збіралася да 30 тысяч рабочых. На гэтых мітынгах чыталі ўголас соцыял-дэмакратычныя пракламацыі, выступалі аратары. Паліцыя і казакі не ў сілах былі разагнаць гэтыя многатысячныя сходы рабочых. Калі некалькі рабо-

чых было забіта паліцыяй, на другі дзень на іх пахаванне сабралася велізарная дэманстрацыя рабочых. Толькі сабраўшы войскі з суседніх гарадоў, царскі ўрад здолеў падавіць стачку. Барацьбой растоўскіх рабочых кіраваў Данскі камітэт РСДРП.

Яшчэ больш буйныя размеры набылі стачкі ў 1903 годзе. У гэтым годзе адбываюцца масавыя палітычныя стачкі на поўдні, якія ахапілі Закаўказзе (Баку, Тыфліс, Батум) і буйнейшыя гарады Украіны (Одэса, Кіеў, Екацерынаслаў). Стачкі становяцца ўсё больш упорнымі, арганізаванымі. У адрозненне ад ранейшых выступленняў рабочага класа амаль усюды палітычнай барацьбой рабочых пачалі кіраваць соцыял-дэмакратычныя камітэты.

Рабочы клас Расіі падымаўся на рэволюцыйную барацьбу з царскай уладай.

Рабочы рух аказаў свой уплыў на сялянства. Вясной і летам 1902 года на Украіне (у Палтаўскай і Харкаўскай губернiях) і ў Паволжы разгарнуўся сялянскі рух. Сяляне падпальвалі памешчыцкія маёнткі, захватвалі памешчыцкую зямлю, забівалі ненавісных ім земскіх начальнікаў і памешчыкаў. Супроць паўстаўшых сялян высылалася ваенная сіла, у сялян стралялі, іх сотнямі арыштоўвалі, кіраўнікоў і арганізатараў кідалі ў турмы, але рэволюцыйны рух сялян прадаўжаў нарастаць.

Рэволюцыйныя выступленні рабочых і сялян паказвалі, што ў Расіі наспявае і блізіцца рэволюцыя.

Пад уплывам рэволюцыйнай барацьбы рабочых узмацняецца і студэнцкі апазіцыйны рух. Урад у адказ на студэнцкія дэманстрацыі і забастоўкі закрыў універсітэты, кінуў сотні студэнтаў у турмы і, нарэшце, прыдумаў аддачу непакорных студэнтаў у салдаты. У адказ на гэта студэнты ўсіх вышэйшых навучальных устаноў арганізавалі зімой 1901—1902 года ўсеагульную стачку студэнтаў. Стачка гэтая ахапіла да 30 тысяч чалавек.

Рэволюцыйны рух рабочых і сялян і асабліва рэпрэсіі супроць студэнтаў прымусілі разварушыцца таксама ліберальных буржуа і ліберальных памешчыкаў, сядзеўшых у так званых земствах, прымусілі іх падняць голас «пратэсту» супроць «крайнасцей» царскага ўрада, які рэпрэсіраваў іх сынкоў-студэнтаў.

Апорнымі пунктамі земскіх ліббералаў служылі земскія ўправы. Земскімі ўправамі называліся мясцовыя органы кіравання, якія распараджаліся чыста мясцовымі справамі, датычыўшымі сельскага насельніцтва (правядзенне дарог, будаванне бальніц і школ). Ліберальныя памешчыкі адыгрывалі даволі відную ролю ў земскіх управах. Яны былі блізка звязаны з ліберальнымі буржуа і амаль зліваліся з імі, бо самі пачыналі пераходзіць у сваіх маёнтках ад поўпрыгонніцкай гаспадаркі да капіталістычнай, як больш выгаднай. Абедзве гэтыя групы ліберлаў стаялі, вядома, за царскі ўрад, але яны былі супроць «крайнасцей» царызма, апасаючыся, што іменна гэтыя «крайнасці» могуць узмацніць рэволюцыйны рух. Баючыся «крайнасцей» царызма, яны яшчэ больш баяліся рэволюцыі. Пратэстуючы супроць «крайнасцей» царызма, ліберлы праследавалі дзве мэты: па-першае, «абразуміць» цара, па-другое,—накінуць на сябе маску «вялікага нездаволення» царызмам, увайсці ў давер'е народа, адкалоць народ або частку народа ад рэволюцыі і аслабіць тым самым рэволюцыю.

Вядома, земска-ліберальны рух не прадстаўляў чаго-небудзь небяспечнага для існавання царызма, але ён усё-ж служыў паказаль-

нікам таго, што з «векавечнымі» устоямі царызма абстаіць не зусім добра.

Земска-ліберальны рух прывёў у 1902 годзе да арганізацыі буржуазнай групы «Вызваленне», якая склала ядро будучай галоўнай буржуазнай партыі ў Расіі—партыі кадэтаў.

Бачачы, як усё больш грозным патокам разліваецца па краіне рабочы і сялянскі рух, царызм прымае ўсе меры да таго, каб спыніць рэволюцыйны рух. Усё часцей і часцей супроць рабочых стачак і дэманстрацый прымяняецца ваенная сіла, куля і бізун становяцца звычайным адказам царскага ўрада на выступленні рабочых і сялян, турмы і ссылкі перапаўняюцца.

Побач з узмацненнем рэпрэсій царскі ўрад прабуе прыняць і іншыя, больш «гібкія», меры, якія не маюць характару рэпрэсій, каб адцягнуць рабочых ад рэволюцыйнага руху. Робяцца спробы стварыць фальшывыя рабочыя арганізацыі пад апекай жандармаў і паліцыі. Гэтыя арганізацыі называліся тады арганізацыямі «паліцэйскага социялізма», або зубатаўскімі арганізацыямі (па прозвішчу жандармскага палкоўніка Зубатава, які стварыў гэтыя паліцэйскія рабочыя арганізацыі). Царская ахранка праз сваіх агентаў старалася ўнушыць рабочым, быццам царскі ўрад сам гатоў дапамагчы рабочым у задавальненні іх эканамічных патрабаванняў. «Навошта-ж займацца палітыкай, навошта рабіць рэволюцыю, калі сам цар стаіць на баку рабочых»,—гаварылі зубатаўцы рабочым. Зубатаўцы стварылі ў некалькіх гарадах свае арганізацыі. Па ўзору зубатаўскіх арганізацый з тымі-ж мэтамі была створана ў 1904 годзе папом Гапонам арганізацыя пад назвай «Сход рускіх фабрычна-заводскіх рабочых Пецербурга».

Але спроба царскай ахранкі падпарадкаваць сабе рабочы рух не ўдалася. Справіцца падобнымі мерамі з нарастаючым рабочым рухам царскі ўрад аказаўся не ў сілах. Растучы рэволюцыйны рух рабочага класа змёў са свайго шляху гэтыя паліцэйскія арганізацыі.

### 2. Ленінскі план пабудовы марксісцкай партыі. Апартунізм «эканамістаў». Барацьба «Искры» за ленінскі план. Кніга Леніна «Што рабіць?». Ідэалагічныя асновы марксісцкай партыі.

Не гледзячы на адбыўшыйся ў 1898 годзе I з'езд Расійскай соцыял-дэмакратычнай партыі, які абвясціў аб утварэнні партыі, партыя ўсё-ж не была створана. Не было праграмы і статута партыі. Цэнтральны Камітэт партыі, выбраны на I з'ездзе, быў арыштован і больш ужо не аднаўляўся, бо не было каму яго аднавіць. Больш таго. Пасля I з'езда ідэйны разброд і арганізацыйная распыленасць партыі яшчэ больш узмацніліся.

Калі 1884—1894 годы былі перыядам перамогі над народніцтвам і ідэйнага падрыхтавання соцыял-дэмакратыі, а 1894—1898 годы—перыядам спробы, праўда, няўдалай, стварыць з асобных марксісцкіх арганізацый соцыял-дэмакратычную партыю, то перыяд пасля 1898 года стаў перыядам узмацнення ідэйнай і арганізацыйнай неразбярыхі ў партыі. Перамога марксізма над народніцтвам і рэволюцыйныя выступленні рабочага класа, якія паказалі правату марксістаў, узмацнілі сімпатыі рэволюцыйнай моладзі да марксізма. Марксізм стаў модай. Гэта прывяло да таго, што ў марксісцкія арганізацыі нахлынулі цэлыя масы рэволюцыйнай моладзі з інтэлігенцыі, слабыя ў тэорыі, нявопытныя ў арганізацыйна-палітычных адносінах і меў-

шыя толькі невыразнае, большай часткай няправільнае ўяўленне аб марксізме, пачэрпнутае з апартуністычных пісанняў «легальных марксістаў», запаўняўшых друк. Гэта акалічнасць прывяла да зніжэння тэарэтычнага і палітычнага ўзроўню марксісцкіх арганізацый, да ўнясення туды «легальна-марксіцкіх» апартуністычных настрояў, да ўзмацнення ідэйнага разброду, палітычных хістанняў і арганізацыйнай неразбярыхі.

Нарастанне ўздыму рабочага руху і яўная блізасць рэволюцыі патрабавалі стварэння адзінай цэнтралізаванай партыі рабочага класа, здольнай кіраваць рэволюцыйным рухам. Але стан мясцовых органаў партыі, мясцовых камітэтаў, груп і гурткоў быў да таго незавідны, а іх арганізацыйная раз'яднанасць і ідэйная рознагалосіца—да таго вялікія, што задача стварэння такой партыі прадстаўляла неймаверныя труднасці.

Труднасці заключаліся не толькі ў тым, што партыю прыходзілася будаваць пад агнём лютых праследаванняў царызма, які вельмі часта вырываў з радоў арганізацыі лепшых работнікаў і кідаў іх у ссылкі, у турмы, на катаргу. Труднасці заключаліся яшчэ ў тым, што значная частка мясцовых камітэтаў і іх работнікаў нічога не хацела ведаць, апрача сваёй мясцовай дробна-практычнай работы, не разумела шкоды адсутнасці арганізацыйнага і ідэйнага адзінства партыі, прывыкла да раздробленасці партыі, да ідэйнай неразбярыхі ў партыі, і лічыла, што можна абыйсціся без адзінай цэнтралізаванай партыі.

Каб стварыць цэнтралізаваную партыю, трэба было пераадалець гэтую адсталасць, коснасць і вузкі практыцызм мясцовых органаў.

Але гэта не ўсё. Існавала ў партыі даволі шматлікая група людзей, меўшых свае органы друку, «Рабочую мысль» у Расіі і «Рабочее дело» за граніцай, якія апраўдвалі тэарэтычна арганізацыйную распыленасць і ідэйны разброд у партыі, нярэдка нават выслаўлялі іх і лічылі, што задача стварэння адзінай цэнтралізаванай палітычнай партыі рабочага класа з'яўляецца непатрэбнай і надуманай задачай.

Гэта былі «эканамісты» і іх паслядоўнікі.

Каб стварыць адзіную палітычную партыю пролетарыята, трэба было перш за ўсё разбіць «эканамістаў».

За выкананне гэтых задач і пабудову партыі рабочага класа і ўзяўся Ленін.

Па пытанню аб тым,—з чаго пачаць пабудову адзінай партыі рабочага класа,—існавалі розныя думкі. Некаторыя думалі, што пабудову партыі трэба пачаць са склікання II з'езда партыі, які і аб'яднае мясцовыя арганізацыі і створыць партыю. Ленін быў супроць такой думкі. Ён лічыў, што раней, чым склікаць з'езд, трэба высніць пытанне аб мэтах і задачах партыі, трэба ведаць—якую партыю хочам пабудаваць, трэба размежавацца ідэйна з «эканамістамі», трэба сказаць партыі чэсна і адкрыта, што існуюць дзве розныя думкі аб мэтах і задачах партыі,—думка «эканамістаў» і думка рэволюцыйных соцыял-дэмакратаў, трэба павесці шырокую друкаваную прапаганду за погляды рэволюцыйнай соцыял-дэмакратыі, таксама, як вядуць яе «эканамісты» за свае погляды ў сваіх органах друку, трэба даць магчымасць мясцовым арганізацыям зрабіць свядомы выбар паміж гэтымі двума плынямі,—і толькі пасля таго, як будзе праароблена гэтая неабходная папярэдняя работа,—можна будзе склікаць з'езд партыі.

Ленін прама гаварыў:

«Перш, чым аб'ядноўвацца, і для таго, каб аб'яднацца, неабходна спачатку рашуча і выразна размежавацца» (**Ленін**, т. IV, стар. 378).

З прычыны гэтага Ленін лічыў, што пабудову палітычнай партыі рабочага класа трэба пачаць з арганізацыі агульнарускай баявой палітычнай газеты, якая-б вяла прапаганду і агітацыю за погляды рэволюцыйнай соцыял-дэмакратыі,—што пастаноўка такой газеты павінна быць першым крокам пабудовы партыі.

У сваім вядомым артыкуле «З чаго пачаць?» Ленін склаў канкрэтны план пабудовы партыі, развіты потым у яго выдатнай кнізе «Што рабіць?».

«Па нашай думцы, гаварыў Ленін у гэтым артыкуле, выходным пунктам дзейнасці, першым практычным крокам да стварэння пажаданай арганізацыі *, нарэшце, асноўнай ніццю, трымаючыся якой мы маглі-б няўхільна развіваць, паглыбляць і расшыраць гэтую арганізацыю,—павінна быць пастаноўка агульнарускай палітычнай газеты... Без яе немагчыма тое сістэматычнае вядзенне прынцыпова вытрыманай і ўсебаковай прапаганды і агітацыі, якое з'яўляецца пастаяннай і галоўнай задачай соцыял-дэмакратыі наогул і асабліва насутнай задачай цяперашняга моманту, калі інтарэс да палітыкі, да пытанняў соцыялізма прабуджан у найбольш шырокіх слаях насельніцтва» (там-жа, стар. 110).

Ленін лічыў, што такая газета паслужыць не толькі сродкам ідэйнага згуртавання партыі, але і сродкам арганізацыйнага аб'яднання мясцовых арганізацый у партыю. Сетка агентаў і карэспандэнтаў такой газеты, якія з'яўляюцца прадстаўнікамі мясцовых арганізацый, паслужыць тым касцяком, вакол якога і будзе сабрана арганізацыйна партыя. Бо, гаварыў Ленін, «газета не толькі калектыўны прапагандыст і калектыўны агітатар, але таксама і калектыўны арганізатар».

«Гэтая сетка агентаў, гаварыў Ленін у тым-жа артыкуле, будзе касцяком іменна такой арганізацыі, якая нам патрэбна: дастаткова буйнай, каб ахапіць усю краіну; дастаткова шырокай і рознабаковай, каб правесці строгае і дэтальнае раздзяленне працы; дастаткова вытрыманай, каб умець пры ўсякіх акалічнасцях, пры ўсякіх «паваротах» і нечаканасцях весці няўхільна **сваю** работу; дастаткова гібкай, каб умець, з аднаго боку, ухіліцца ад бою ў адкрытым полі з пераважаючым сваёю сілаю непрыяцелем, калі ён сабраў на адным пункце ўсе сілы, а з другога боку, каб умець карыстацца непаваротлівасцю гэтага непрыяцеля і нападаць на яго там і тады, дзе менш за ўсё чакаюць нападу» (там-жа, стар. 112).

Такой газетай павінна быць «Искра».

І сапраўды, «Искра» стала такой іменна агульнарускай палітычнай газетай, якая падрыхтавала ідэйнае і арганізацыйнае згуртаванне партыі.

Што датычыць будавання і састава самой партыі, то Ленін лічыў, што партыя павінна складацца з двух частак: а) з вузкага кола рэ-

* Гутарка ідзе аб стварэнні партыі.—Рэд.

гулярных кадравых кіруючых работнікаў, куды павінны ўваходзіць галоўным чынам прафесіянальныя рэволюцыянеры, г. зн. работнікі, якія свабодны ад усіх іншых заняткаў, апрача партыйнай работы, валодаюць неабходным мінімумам тэарэтычных ведаў, палітычнага вопыту, арганізацыйных навыкаў і майстэрства змагацца з царскай паліцыяй, майстэрства скрывацца ад паліцыі і б) з шырокай сеткі перыферыйных партыйных арганізацый, са шматлікай масы членаў партыі, акружаных спачуваннем і падтрыманнем соцень тысяч працоўных.

«Я сцвярджаю, пісаў Ленін, што (1) ні адзін рэволюцыйны рух не можа быць трывалым без устойлівай і захоўваючай пераемнасць арганізацыі кіраўнікоў; (2) што чым шырэй маса, якая стыхійна ўцягваецца ў барацьбу... тым настойлівей неабходнасць у такой арганізацыі і тым мацней павінна быць гэтая арганізацыя... (3) што такая арганізацыя павінна складацца галоўным чынам з людзей, якія прафесіянальна займаюцца рэволюцыйнай дзейнасцю; (4) што ў самадзяржаўнай краіне, чым больш мы **звузім** састаў членаў такой арганізацыі да ўдзелу ў ёй такіх толькі членаў, якія прафесіянальна займаюцца рэволюцыйнай дзейнасцю і атрымалі прафесіянальную падрыхтоўку ў майстэрстве барацьбы з палітычнай паліцыяй, тым трудней будзе «вылавіць» такую арганізацыю, і—(5)—тым **шырэй** будзе састаў асоб і з рабочага класа і з астатніх класаў грамадства, якія будуць мець магчымасць прымаць удзел у руху і актыўна працаваць у ім» (там-жа, стар. 456).

Што датычыць характару ствараемай партыі і яе ролі ў адносінах рабочага класа, таксама як мэт і задач партыі, то Ленін лічыў, што партыя павінна быць перадавым атрадам рабочага класа, што яна павінна быць кіруючай сілай рабочага руху, аб'ядноўваючай і накіроўваючай класавую барацьбу пролетарыята. Канчатковая мэта партыі—звяржэнне капіталізма і ўстанаўленне соцыялізма. Бліжэйшая мэта—звяржэнне царызма і ўстанаўленне дэмакратычных парадкаў. І паколькі звяржэнне капіталізма немагчыма без папярэдняга звяржэння царызма, то галоўная задача партыі ў даны момант заключаецца ў тым, каб падняць рабочы клас, падняць увесь народ на барацьбу з царызмам, разгарнуць народны рэволюцыйны рух супроць царызма і зваліць царызм, як першую і сур'ёзную перашкоду на шляху да соцыялізма.

«Гісторыя паставіла цяпер перад намі, гаварыў Ленін, бліжэйшую задачу, якая з'яўляецца **найбольш рэволюцыйнай** з усіх **бліжэйшых** задач пролетарыята якой-бы там ні было іншай краіны. Ажыццяўленне гэтай задачы, разбурэнне самага магутнага аплоту не толькі еўрапейскай, але таксама (можам мы сказаць цяпер) і азіяцкай рэакцыі зрабіла-б рускі пролетарыят авангардам міжнароднага рэволюцыйнага пролетарыята» (там-жа, стар. 382).

І далей:

«Мы павінны памятаць, што барацьба з урадам за асобныя патрабаванні, адваяванне асобных уступак, гэта—толькі дробныя стычкі з непрыяцелем, гэта—невялікія схваткі на фарпостах, а рашучая схватка яшчэ наперадзе. Перад намі стаіць ва

ўсёй сваёй сіле непрыяцельская крэпасць, з якой засыпаюць нас хмары ядраў і куль, забіваючыя лепшых барацьбітоў. Мы павінны ўзяць гэту крэпасць, і мы возьмем яе, калі ўсе сілы прабуджаючагася пролетарыята злучым з усімі сіламі рускіх рэволюцыянераў у адну партыю, да якой пацягнецца ўсё, што ёсць у Расіі жывога і чэснага. І толькі тады збудзецца вялікае прароцтва рускага рабочага рэволюцыянера Петра Алексеева: «падымецца мускулістая рука мільёнаў рабочага люду, і ярмо дэспатызма, агароджанае салдацкімі штыхамі, разляціцца ў прах!» (**Ленін,** т. IV, стар. 59).

Такі быў ленінскі план стварэння партыі рабочага класа ва ўмовах царска-самадзяржаўнай Расіі.

«Эканамісты» зараз-жа адкрылі агонь супроць ленінскага плана.

«Эканамісты» сцвярджалі, што агульнапалітычная барацьба супроць царызма з'яўляецца справай усіх класаў, перш за ўсё—справай буржуазіі, што яна не прадстаўляе з прычыны гэтага сур'ёзнага інтарэсу для рабочага класа, бо галоўны інтарэс рабочых заключаецца ў эканамічнай барацьбе з гаспадарамі за павышэнне зарплаты, паляпшэнне ўмоў працы і т. д. Таму соцыял-дэмакраты павінны паставіць сваёй галоўнай бліжэйшай задачай не палітычную барацьбу з царызмам, не звяржэнне царызма, а арганізацыю «эканамічнай барацьбы рабочых з гаспадарамі і ўрадам», прычым пад эканамічнай барацьбой з урадам разумелася барацьба за паляпшэнне фабрычна-заводскага законадаўства. «Эканамісты» запэўнівалі, што такім спосабам можна было-б «надаць самой эканамічнай барацьбе палітычны характар».

«Эканамісты» ужо не рашаліся фармальна пярэчыць супроць неабходнасці палітычнай партыі для рабочага класа. Але яны лічылі, што партыя не павінна быць кіруючай сілай рабочага руху, што яна не павінна ўмешвацца ў стыхійны рух рабочага класа і, тым больш—кіраваць ім, а павінна ісці следам за ім, вывучаць яго і браць з яго ўрокі.

«Эканамісты» сцвярджалі, далей, што роля свядомага элемента ў рабочым руху, арганізуючая і накіроўваючая роля соцыялістычнага сазнання, соцыялістычнай тэорыі—мізэрна, або амаль мізэрна, што соцыял-дэмакратыя не павінна ўзнімаць рабочых да ўзроўню соцыялістычнага сазнання, а, наадварот, сама павінна прыстасоўвацца і спускацца да ўзроўню сярэдніх або нават больш адсталых слаёў рабочага класа, што соцыял-дэмакратыя не павінна ўкараняць у рабочы клас соцыялістычнае сазнанне, а павінна чакаць, пакуль стыхійны рух рабочага класа сам выпрацуе соцыялістычнае сазнанне сваімі ўласнымі сіламі.

Што датычыць ленінскага арганізацыйнага плана пабудовы партыі, то яны лічылі яго чымсьці накшталт насілля над стыхійным рухам.

Ленін абрушыўся на старонках «Искры», і, асабліва, у сваёй выдатнай кнізе «Што рабіць?» на гэту апартуністычную філасофію «эканамістаў», не пакінуўшы ад яе камня на камні.

1) Ленін паказаў, што адцягваць рабочы клас ад агульнапалітычнай барацьбы з царызмам і абмяжоўваць яго задачы эканамічнай барацьбой з гаспадарамі і ўрадам, пакідаючы ў цэласці і гаспадароў і ўрад,—значыць асуджаць рабочых на вечнае рабства. Эканамічная барацьба рабочых з гаспадарамі і ўрадам ёсць трэд'юніянісцкая ба-

рацьба за лепшыя ўмовы продажу рабочай сілы капіталістам, але рабочыя хочуць змагацца не толькі за лепшыя ўмовы продажу сваёй рабочай сілы капіталістам, але і за знішчэнне самой капіталістычнай сістэмы, якая асуджае іх на неабходнасць прадаваць сваю рабочую сілу капіталістам і падвяргацца эксплуатацыі. Але рабочыя не могуць разгарнуць барацьбу з капіталізмам, не могуць разгарнуць барацьбу за соцыялізм, пакуль на шляху рабочага руху стаіць царызм, ланцужная сабака капіталізма. Таму бліжэйшая задача партыі і рабочага класа заключаецца ў тым, каб убраць з дарогі царызм і прабіць тым самым дарогу да соцыялізма.

2) Ленін паказаў, што выслаўляць стыхійны працэс рабочага руху і адмаўляць кіруючую ролю партыі, зводзячы яе ролю да ролі рэгістратара падзей,—значыць прапаведваць «хвасцізм», прапаведваць ператварэнне партыі ў хвост стыхійнага працэса, у пасіўную сілу руху, здольную толькі сузіраць стыхійны працэс і пакладацца на самацёк. Весці такую пропаведзь—значыць весці справу на знішчэнне партыі, г. зн. пакінуць рабочы клас без партыі, г. зн. пакінуць рабочы клас бяззбройным. Але пакідаць рабочы клас бяззбройным у той час, калі перад рабочым класам стаяць такія ворагі, як царызм, узброены ўсімі сродкамі барацьбы, і буржуазія, якая арганізавана па-сучаснаму і мае сваю партыю, што кіруе яе барацьбой супроць рабочага класа,—значыць прэдаваць рабочы клас.

3) Ленін паказаў, што пракланяцца перад стыхійнасцю рабочага руху і прыніжаць ролю свядомасці, прыніжаць ролю соцыялістычнага сазнання, соцыялістычнай тэорыі,—гэта значыць, па-першае, здзеквацца над рабочымі, якія цягнуцца да свядомасці, як да святла, па-другое,—абясцэніць у вачах партыі тэорыю, г. зн. абясцэніць тую зброю, пры дапамозе якой яна пазнае сучаснае і прадбачыць будучае, і па-трэцяе,—скаціцца поўнасцю і канчаткова ў балота апартунізма.

> «Без рэволюцыйнай тэорыі, гаварыў Ленін, не можа быць і рэволюцыйнага руху... Ролю перадавога барацьбіта можа выканаць толькі партыя, кіруемая перадавой тэорыяй» (там-жа, стар. 380).

4) Ленін паказаў, што «эканамісты» абманваюць рабочы клас, сцвярджаючы, што соцыялістычная ідэалогія можа ўзнікнуць са стыхійнага руху рабочага класа, бо на самай справе соцыялістычная ідэалогія ўзнікае не са стыхійнага руху, а з навукі. «Эканамісты», адмаўляючы неабходнасць унясення ў рабочы клас соцыялістычнага сазнання,—расчышчаюць тым самым дарогу буржуазнай ідэалогіі, аблягчаюць яе ўнясенне, яе ўкараненне ў рабочы клас,—значыць, хароняць ідэю злучэння рабочага руху з соцыялізмам, дапамагаюць буржуазіі.

> «**Усякае** пракланенне перад стыхійнасцю рабочага руху, гаварыў Ленін, усякае ўмаленне ролі «свядомага элемента», ролі соцыял-дэмакратыі **азначае** тым са́мым,—**зусім незалежна ад таго, жадае гэтага той, хто ўмаляе, ці не,—узмацненне ўплыву буржуазнай ідэалогіі на рабочых»** (там-жа, стар. 390).

І далей:

> «Пытанне стаіць **толькі так:** буржуазная або соцыялістычная ідэалогія. Сярэдзіны тут няма... Таму **ўсякае** ўмаленне соцыялі-

стычнай ідэалогіі, **усякае адстраненне** ад яе азначае тым самым узмацненне ідэалогіі буржуазнай» (**Ленін**, т. IV, стар. 391—392).

5) Падводзячы вынікі ўсім гэтым памылкам «эканамістаў», Ленін прышоў да таго вываду, што «эканамісты» хочуць мець не партыю социяльнай рэволюцыі, якая вызваляе рабочы клас ад капіталізма, а партыю «социяльных рэформ», якія маюць на мэце захаванне панавання капіталізма, што «эканамісты» з'яўляюцца з прычыны гэтага рэфармістамі, якія прэдаюць карэнныя інтарэсы пролетарыята.

6) Ленін паказаў, нарэшце, што «эканамізм»—не выпадковая з'ява ў Расіі, што «эканамісты» з'яўляюцца праваднікамі буржуазнага ўплыву на рабочы клас, што яны маюць саюзнікаў у заходне-еўрапейскіх социял-дэмакратычных партыях, у асобе рэвізіяністаў, староннікаў апартуніста Бернштэйна. На Захадзе сярод социял-дэмакратыі пачала ўсё больш узмацняцца апартуністычная плынь, якая выступала пад сцягам «свабоды крытыкі» Маркса, патрабавала «рэвізіі», г. зн. перагляду вучэння Маркса (адсюль назва «рэвізіянізм»), патрабавала адмовы ад рэволюцыі, ад социялізма, ад дыктатуры пролетарыята. Ленін паказаў, што такую-ж лінію адмовы ад рэволюцыйнай барацьбы, ад социялізма, ад дыктатуры пролетарыята—вялі рускія «эканамісты».

Такія вось асноўныя тэарэтычныя палажэнні, развітыя Леніным у яго кнізе «Што рабіць?»

Распаўсюджанне «Што рабіць?» павяло да таго, што праз год пасля яе выпуску (яна была выдана ў сакавіку 1902 года), к II з'езду Расійскай социял-дэмакратычнай партыі, ад ідэйных пазіцый «эканамізма» асталіся толькі непрыемныя ўспаміны, а клічка «эканаміст» стала ўспрымацца большасцю партыйных работнікаў, як знявага.

Гэта быў поўны ідэйны разгром «эканамізма», разгром ідэалогіі апартунізма, хвасцізма, самацёку.

Але гэтым не абмяжоўваецца значэнне работы Леніна «Што рабіць?»

Гістарычнае значэнне «Што рабіць?» заключаецца ў тым, што Ленін у гэтай сваёй выдатнай кнізе:

1) Першы ў гісторыі марксісцкай мыслі абнажыў да карэнняў ідэйныя вытокі апартунізма, паказаўшы, што яны заключаюцца перш за ўсё ў праклaненні перад стыхійнасцю рабочага руху і ў прыніжэнні ролі социялістычнага сазнання ў рабочым руху;

2) Падняў на вышыню значэнне тэорыі, свядомасці, партыі, як рэволюцыянізуючай і кіруючай сілы стыхійнага рабочага руху;

3) Бліскуча абгрунтаваў карэннае марксісцкае палажэнне, якое гаворыць, што марксісцкая партыя ёсць спалучэнне рабочага руху з социялізмам;

4) Даў геніяльную распрацоўку ідэалагічных асноў марксісцкай партыі.

Тэарэтычныя палажэнні, развітыя ў «Што рабіць?», ляглі потым у аснову ідэалогіі большэвіцкай партыі.

Маючы такое тэарэтычнае багацце, «Искра» магла разгарнуць і сапраўды разгарнула шырокую кампанію за ленінскі план пабудовы партыі, за збіранне сіл партыі, за II з'езд партыі, за рэволюцыйную социял-дэмакратыю, супроць «эканамістаў», супроць усіх і ўсякіх апартуністаў, супроць рэвізіяністаў.

Важнейшай справай «Искры» была выпрацоўка праекта праграмы партыі. Праграма рабочай партыі з'яўляецца, як вядома, кароткім

навукова-сфармуляваным выкладам мэт і задач барацьбы рабочага класа. Праграма вызначае як канчатковую мэту рэволюцыйнага руху пролетарыята, так і тыя патрабаванні, за якія змагаецца партыя на шляху канчатковай мэты. Таму выпрацоўка праекта праграмы не магла не мець першаступеннага значэння.

У час выпрацоўкі праекта праграмы ўнутры рэдакцыі «Искры» ўзніклі сур'ёзныя рознагалоссі паміж Леніным і Плеханавым, а таксама іншымі членамі рэдакцыі. Гэтыя рознагалоссі і спрэчкі ледзь не давялі да поўнага разрыву паміж Леніным і Плеханавым. Але разрыў тады яшчэ не адбыўся. Ленін дабіўся таго, што ў праект праграмы быў унесен важнейшы пункт аб дыктатуры пролетарыята і выразна было ўказана на кіруючую ролю рабочага класа ў рэволюцыі.

Леніну належыць у праграме партыі і ўся аграрная частка гэтай праграмы. Ленін ужо тады стаяў за нацыяналізацыю зямлі, але на першым этапе барацьбы ён лічыў неабходным высунуць патрабаванне звароту сялянам «адрэзкаў», гэта значыць тых зямель, якія памешчыкі пры «вызваленні» сялян адрэзалі ад сялянскіх зямель. Супроць нацыяналізацыі зямлі выступаў Плеханаў.

Спрэчкі Леніна з Плеханавым па праграме партыі часткова вызначылі будучыя рознагалоссі паміж большэвікамі і меншавікамі.

### 3. II З'езд Расійскай соцыял-дэмакратычнай рабочай партыі. Прыняцце праграмы і статута і стварэнне адзінай партыі. Рознагалоссі на з'ездзе і паяўленне двух плыней ў партыі: большэвіцкай і меншавіцкай.

Такім чынам, перамога ленінскіх прынцыпаў і паспяховая барацьба «Искры» за ленінскі арганізацыйны план падрыхтавалі ўсе асноўныя ўмовы, неабходныя для таго, каб стварыць партыю, або, як гаварылі тады,—стварыць сапраўдную партыю. Іскраўскі напрамак перамог сярод соцыял-дэмакратычных арганізацый у Расіі. Цяпер можна было склікаць II з'езд партыі.

17 (30) ліпеня 1903 года адкрыўся II з'езд РСДРП. З'езд сабраўся за граніцай, тайна. Спачатку пасяджэнні яго адбываліся ў Бруселі. Але потым бельгійская паліцыя прапанавала дэлегатам з'езда пакінуць Бельгію. Тады з'езд пераехаў у Лондан.

Усяго з'ехалася на з'езд 43 дэлегаты ад 26 арганізацый. Кожны камітэт меў права паслаць на з'езд па 2 дэлегаты, але некаторыя паслалі толькі па аднаму. Такім чынам, 43 дэлегаты мелі 51 рашаючы голас.

Галоўная задача з'езда заключалася «у стварэнні **«сапраўднай** партыі на тых прынцыповых і арганізацыйных пачатках, якія былі высунуты і распрацаваны «Искрой» (**Ленін,** т. VI, стар. 164).

Састаў з'езда быў неаднародны. На з'ездзе не былі прадстаўлены яўныя «эканамісты», з прычыны пасцігнуўшага іх паражэння. Але за гэты перыяд яны так лоўка пераліцаваліся, што ім удалося працягнуць некалькіх сваіх дэлегатаў. Апрача таго, дэлегаты Бунда толькі на словах адрозніваліся ад «эканамістаў», на справе-ж яны стаялі за «эканамістаў».

На з'ездзе прысутнічалі, такім чынам, не толькі староннікі «Искры», але і яе праціўнікі. Староннікаў «Искры» было 33, гэта значыць большасць. Але не ўсе тыя, што прылічвалі сябе да іскраўцаў, былі сапраўднымі іскраўцамі-ленінцамі. Дэлегаты разбіліся на

некалькі груціровак. Староннікі Леніна, або цвёрдыя іскраўцы, мелі 24 галасы, 9 іскраўцаў ішлі за Мартавым. Гэта былі няўстойлівыя іскраўцы. Частка дэлегатаў хісталася паміж «Искрой» і яе праціўнікамі—такіх на з'ездзе налічвалася 10 галасоў. Гэта быў цэнтр. Адкрытыя праціўнікі «Искры» мелі 8 галасоў (3 «эканамісты» і 5 бундаўцаў). Дастаткова было іскраўцам раскалоцца, і ворагі «Искры» маглі ўзяць верх.

Адсюль відаць, якая складаная абстаноўка была на з'ездзе. Ленін паклаў многа сіл для таго, каб забяспечыць перамогу «Искры» на з'ездзе.

Важнейшай справай з'езда было прыняцце праграмы партыі. Галоўным пытаннем, якое выклікала пярэчанні апартуністычнай часткі з'езда пры абмеркаванні праграмы,—было пытанне аб дыктатуры пролетарыята. Апартуністы не былі згодны з рэволюцыйнай часткай з'езда таксама па раду іншых праграмных пытанняў. Але яны рашылі даць бой, галоўным чынам, па пытанню аб дыктатуры пролетарыята, спасылаючыся на тое, што рад соцыял-дэмакратычных партый за граніцай не мае ў сваёй праграме пункта аб дыктатуры пролетарыята, што таму можна было-б не ўключаць яго і ў праграму Расійскай соцыял-дэмакратыі.

Апартуністы пярэчылі таксама супроць уключэння ў праграму партыі патрабаванняў па сялянскаму пытанню. Гэтыя людзі не хацелі рэволюцыі, таму яны чуждаліся саюзніка рабочага класа—сялянства, непрыязна адносіліся да яго.

Бундаўцы і польскія соцыял-дэмакраты пярэчылі супроць права нацый на самавызначэнне. Ленін заўсёды вучыў, што рабочы клас абавязан змагацца супроць нацыянальнага гнёту. Пярэчанне супроць гэтага патрабавання ў праграме—было роўназначна прапанове—адмовіцца ад пролетарскага інтэрнацыяналізма, стаць пасобнікам нацыянальнага гнёту.

Ленін нанёс усім гэтым пярэчанням сакрушальны ўдар.

З'езд прыняў прапанаваную «Искрой» праграму.

Гэтая праграма складалася з двух частак—праграмы-максімум і праграмы-мінімум. У праграме-максімум гаварылася аб галоўнай задачы партыі рабочага класа—аб соцыялістычнай рэволюцыі, зварржэнні ўлады капіталістаў, устанаўленні дыктатуры пролетарыята. У праграме-мінімум гаварылася аб бліжэйшых задачах партыі, якія праводзіліся яшчэ да зварржэння капіталістычнага ладу, да ўстанаўлення дыктатуры пролетарыята: аб звяржэнні царскага самадзяржаўя, устанаўленні дэмакратычнай рэспублікі, увядзенні для рабочых 8-гадзіннага рабочага дня, знішчэнні на вёсцы ўсіх астаткаў прыгонніцтва, звароце сялянам адабраных у іх памешчыкамі зямель («адрэзкаў»).

У далейшым большэвікі замянілі патрабаванне аб звароце «адрэзкаў» патрабаваннем аб канфіскацыі ўсёй памешчыцкай зямлі.

Праграма, прынятая на II з'ездзе, была рэволюцыйнай праграмай партыі рабочага класа.

Яна праіснавала да VIII з'езда партыі, калі наша партыя пасля перамогі пролетарскай рэволюцыі прыняла новую праграму.

Пасля прыняцця праграмы II з'езд партыі перайшоў да абмеркавання праекта статута партыі. Прыняўшы праграму і стварыўшы асновы для ідэйнага аб'яднання партыі, з'езд павінен быў прыняць таксама статут партыі, каб пакласці канец саматужніцтву і гурткаў-

шчыне, арганізацыйнай раздробленасці і адсутнасці цвёрдай дысцыпліны ў партыі.

Але калі прыняцце праграмы прайшло параўнальна гладка, то пытанне аб статуце партыі выклікала на з'ездзе жорсткія спрэчкі. Найбольш рэзкія рознагалоссі разгарнуліся з-за фармуліроўкі першага параграфа статута—аб членстве ў партыі. Хто можа быць членам партыі, якім павінен быць састаў партыі, чым павінна быць партыя ў арганізацыйных адносінах—арганізаваным цэлым, або чымсьці неаформленым—такія былі пытанні, якія ўзніклі ў сувязі з першым параграфам статута. Змагаліся дзве фармуліроўкі: фармуліроўка Леніна, якую падтрымліваў Плеханаў і цвёрдыя іскраўцы, і фармуліроўка Мартава, якую падтрымлівалі Аксельрод, Засуліч, няўстойлівыя іскраўцы, Троцкі і ўся адкравенна-апартуністычная частка з'езда.

Фармуліроўка Леніна гаварыла, што членам партыі можа быць усякі, хто прызнае праграму партыі, падтрымлівае партыю ў матэрыяльных адносінах і з'яўляецца членам адной з яе арганізацый. Фармуліроўка-ж Мартава, лічачы прызнанне праграмы і матэрыяльнае падтрыманне партыі неабходнымі ўмовамі членства ў партыі, не лічыла, аднак, удзел у адной з арганізацый партыі ўмовай членства ў партыі, лічачы, што член партыі можа і не быць членам адной з арганізацый партыі.

Ленін разглядаў партыю, як **арганізаваны** атрад, члены якога не самі залічваюць сябе ў партыю, а прымаюцца ў партыю адной з яе арганізацый і падпарадкоўваюцца, стала быць, дысцыпліне партыі, тады як Мартаў разглядаў партыю, як нешта арганізацыйна **неаформленае**, члены якога самі залічваюць сябе ў партыю і не абавязаны, стала быць, падпарадкоўвацца дысцыпліне партыі, калі яны не ўваходзяць у адну з арганізацый партыі.

Такім чынам, фармуліроўка Мартава, у адрозненне ад ленінскай фармуліроўкі, шырока адчыняла дзверы партыі няўстойлівым, непралетарскім элементам. Напярэдадні буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі сярод буржуазнай інтэлігенцыі былі такія людзі, якія часова спачувалі рэволюцыі. Яны зрэдку маглі нават аказаць невялікую паслугу партыі. Але гэтыя людзі не сталі-б уваходзіць у арганізацыю, падпарадкоўвацца партыйнай дысцыпліне, выконваць партыйныя заданні, не сталі-б падвяргацца небяспекам, якія былі з гэтым звязаны. І такіх людзей Мартаў і іншыя меншавікі прапаноўвалі лічыць членамі партыі, прапаноўвалі даць ім права і магчымасць рабіць уплыў на партыйныя справы. Яны прапаноўвалі нават даць кожнаму стачачніку права «залічваць» сябе ў члены партыі, хоць у стачках прымалі ўдзел і не соцыялісты, анархісты, эсэры.

Атрымлівалася так, што замест маналітнай і баявой, чотка арганізаванай партыі, за якую змагаліся Ленін і ленінцы на з'ездзе, мартаўцы хацелі мець рознашэрстную і расплыўчатую, неаформленую партыю, якая не магла быць баявой партыяй, хоць-бы таму, што яна была-б рознашэрстнай і не магла-б мець цвёрдай дысцыпліны.

Адкол няўстойлівых іскраўцаў ад цвёрдых іскраўцаў, іх саюз з цэнтрам і далучэнне да іх адкрытых апартуністаў далі Мартаву пераважнасць ў гэтым пытанні. З'езд большасцю 28 галасоў супроць 22 пры адным устрымаўшымся прыняў першы параграф статута ў фармуліроўцы Мартава.

Пасля расколу іскраўцаў па першаму параграфу статута барацьба на з'ездзе яшчэ больш абвастрылася. З'езд набліжаўся да канца, да выбараў кіруючых устаноў партыі—рэдакцыі цэнтральнага органа партыі («Искра») і Цэнтральнага Камітэта. Аднак, перш чым з'езд перайшоў да выбараў, адбылося некалькі падзей, якія змянілі суадносіны сіл на з'ездзе.

У сувязі са статутам партыі з'езду прышлося заняцца Бундам. Бунд прэтэндаваў на асобае становішча ў партыі. Ён патрабаваў, каб яго прызналі адзіным прадстаўніком яўрэйскіх рабочых у Расіі. Пайсці на гэтае патрабаванне Бунда азначала раздзяліць рабочых у партыйных арганізацыях па нацыянальнаму прызнаку, адмовіцца ад адзіных класавых тэрытарыяльных арганізацый рабочага класа. З'езд адверг бундаўскі арганізацыйны нацыяналізм. Тады бундаўцы пакінулі з'езд. Пакінулі з'езд і два «эканамісты», калі з'езд адмовіўся прызнаць іх заграмічны саюз прадстаўніком партыі за граніцай.

Уход са з'езда сямі апартуністаў змяніў суадносіны сіл на карысць ленінцаў.

Пытанне аб саставе цэнтральных устаноў партыі з самага пачатку было ў цэнтры ўвагі Леніна. Ленін лічыў неабходным правесці ў Цэнтральны Камітэт цвёрдых і паслядоўных рэволюцыянераў. Мартаўцы дабіваліся перавагі ў Цэнтральным Камітэце няўстойлівых, апартуністычных элементаў. Большасць з'езда пайшла ў гэтым пытанні за Леніным. У Цэнтральны Камітэт былі выбраны староннікі Леніна.

Па прапанове Леніна ў рэдакцыю «Искры» былі выбраны Ленін, Плеханаў і Мартаў. Мартаў патрабаваў на з'ездзе, каб у састаў рэдакцыі «Искры» былі выбраны ўсе шэсць старых рэдактароў «Искры», большасць якіх складалася са староннікаў Мартава. З'езд большасцю адхіліў гэтую прапанову. Была выбрана тройка, якую прапанаваў Ленін. Тады Мартаў заявіў, што ён у рэдакцыю цэнтральнага органа не ўвойдзе.

Такім чынам, сваім галасаваннем па пытанню аб цэнтральных установах партыі з'езд замацаваў паражэнне староннікаў Мартава і перамогу староннікаў Леніна.

З гэтага моманту староннікаў Леніна, якія атрымалі на з'ездзе большасць галасоў пры выбарах, пачалі называць большэвікамі, праціўнікаў-жа Леніна, якія атрымалі меншасць галасоў, сталі называць меншавікамі.

Падводзячы вынікі работам II з'езда, можна прыйсці да наступных вывадаў:

1) З'езд замацаваў перамогу марксізма над «эканамізмам», над адкрытым апартунізмам;

2) З'езд прыняў праграму і статут, стварыў соцыял-дэмакратычную партыю і пабудаваў, такім чынам, рамкі для адзінай партыі;

3) З'езд ускрыў наяўнасць сур'ёзных арганізацыйных рознагалоссяў, раздзяліўшых партыю на дзве часткі, на большэвікоў і меншавікоў, з якіх першыя адстойваюць арганізацыйныя прынцыпы рэволюцыйнай соцыял-дэмакратыі, а другія коцяцца ў балота арганізацыйнай расплыўчатасці, у балота апартунізма;

4) З'езд паказаў, што месца старых, ужо разбітых партыяй, апартуністаў, месца «эканамістаў»—пачынаюць займаць у партыі новыя апартуністы,—меншавікі;

5) З'езд аказаўся не на вышыні свайго становішча ў галіне арганізацыйных пытанняў, меў хістанні, часам даваў нават перавагу меншавікам, і хоць ён паправіўся пад канец, усё-ж не здолеў не толькі выкрыць апартунізм меншавікоў у арганізацыйных пытаннях і ізаліраваць іх у партыі, але нават паставіць перад партыяй падобную задачу.

Гэтая апошняя акалічнасць паслужыла адной з галоўных прычын таго, што барацьба паміж большэвікамі і меншавікамі не толькі не сціхла пасля з'езда, а, наадварот, яшчэ больш абвастрылася.

**4. Раскольніцкія дзеянні меншавіцкіх лідэраў і абвастрэнне барацьбы ўнутры партыі пасля II з'езда. Апартунізм меншавікоў. Кніга Леніна «Крок наперад, два крокі назад». Арганізацыйныя асновы марксісцкай партыі.**

Пасля II з'езда барацьба ўнутры партыі яшчэ больш абвастрылася. Меншавікі з усіх сіл стараліся сарваць рашэнні II з'езда партыі і захваціць цэнтры партыі. Меншавікі патрабавалі ўключэння сваіх прадстаўнікоў у рэдакцыю «Искры» і ў ЦК у такой колькасці, каб яны мелі большасць у рэдакцыі і роўную з большэвікамі колькасць меншавікоў у ЦК. У сувязі з тым, што гэта супярэчыла прамым рашэнням II з'езда, большэвікі адверглі патрабаванне меншавікоў. Тады меншавікі стварылі тайна ад партыі сваю антыпартыйную фракцыйную арганізацыю, на чале якой стаялі Мартаў, Троцкі і Аксельрод, і «паднялі, як пісаў Мартаў, паўстанне супроць ленінізма». Прыёмам барацьбы супроць партыі яны выбралі—«дэзарганізацыю ўсёй партыйнай работы, псаванне справы, тармажэнне ўсяго і ўся» (выражэнне Леніна). Яны акапаліся ў «Загранічнай Лізе» рускіх соцыял-дэмакратаў, $^{9}/_{10}$ якой складалі адарваныя ад работы ў Расіі інтэлігенты-эмігранты, і пачалі абстрэльваць адтуль партыю, Леніна, ленінцаў.

Меншавікам моцна дапамог Плеханаў. На II з'ездзе Плеханаў ішоў разам з Леніным. Але пасля II з'езда Плеханаў даў меншавікам запалохаць сябе пагрозай расколу. Ён рашыў ва што-б там ні стала «памірыцца» з меншавікамі. Да меншавікоў Плеханава цягнуў груз яго ранейшых апартуністычных памылак. З прымірэнца да апартуністаў-меншавікоў Плеханаў хутка сам стаў меншавіком. Плеханаў патрабаваў уключэння ў састаў рэдакцыі «Искры» усіх старых рэдактароў-меншавікоў, адвергнутых з'ездам. Ленін не мог, вядома, згадзіцца з гэтым і вышаў з рэдакцыі «Искры», з тым, каб умацавацца ў ЦК партыі і з гэтай пазіцыі біць апартуністаў. Плеханаў асабіста сам, парушаючы волю з'езда, кааптаваў у састаў рэдакцыі «Искры» былых рэдактароў-меншавікоў. З гэтага моманту, з № 52 «Искры», меншавікіператварылі яе ў свой орган і пачалі прапаведваць праз «Искру» свае апартуністычныя погляды.

З гэтага часу пачалі гаварыць у партыі аб **старой** «Искре», як аб ленінскай, большэвіцкай «Искре», і аб **новай** «Искре», як аб меншавіцкай, апартуністычнай.

З пераходам «Искры» у рукі меншавікоў яна стала органам барацьбы з Леніным, большэвікамі, органам прапаганды меншавіцкага апартунізма ў галіне, перш за ўсё, арганізацыйных пытанняў. Аб'яднаўшыся з «эканамістамі» і бундаўцамі, меншавікі адкрылі на старонках «Искры» паход супроць, як яны гаварылі,—ленінізма. Плеханаў не змог утрымацца на пазіцыях прымірэнцтва і праз некаторы час таксама далучыўся да паходу. Так яно і павінна было здарыцца

па логіцы рэчаў: хто настойвае на прымірэнцтве з апартуністамі, той павінен скаціцца да апартунізма. Са старонак новай «Искры» паліліся, як з «рога изобилия», заявы і артыкулы аб тым, што партыя не павінна быць арганізаваным цэлым, што трэба дапусціць у саставе партыі існаванне свабодных груп і адзіночак, не абавязаных падпарадкоўвацца рашэнням яе органаў, што трэба даць кожнаму інтэлігенту, спачуваючаму партыі, таксама як «кожнаму стачачніку» і «кожнаму дэманстранту» абвясціць сябе членам партыі, што патрабаванне падпарадкоўвацца ўсім рашэнням партыі ёсць «фармальна-бюракратычныя» адносіны да справы, што патрабаванне падпарадкавання з боку меншасці большасці ёсць «механічнае падаўленне» волі членаў партыі, што патрабаванне аднолькавага падпарадкавання дысцыпліне партыі ўсіх членаў партыі,—і лідэраў, і радавых членаў,— ёсць устанаўленне «прыгоннага права» у партыі, што «нам» патрэбен у партыі не цэнтралізм, а анархічны «аўтанамізм», які дае права асобным людзям і арганізацыям партыі не выконваць рашэнняў партыі.

Гэта была разнузданая прапаганда арганізацыйнай разбэшчанасці, падрыву партыйнасці і партыйнай дысцыпліны, выхвалення інтэлігенцкага індывідуалізма, апраўдання анархічнай недысцыплінаванасці.

Меншавікі яўна цягнулі партыю назад ад II з'езда партыі да арганізацыйнай раздробленасці, да гурткаўшчыны, да саматужніцтва.

Неабходна было даць меншавікам рашучую адповедзь.

Гэтую адповедзь даў ім Ленін у сваёй выдатнай кнізе «Крок наперад, два крокі назад», якая вышла ў свет у маі 1904 года.

Вось асноўныя арганізацыйныя палажэнні, якія былі развіты Леніным у гэтай кнізе і сталі потым арганізацыйнымі асновамі большэвіцкай партыі.

1) Марксісцкая партыя ёсць частка рабочага класа, яго атрад. Але атрадаў у рабочага класа многа,—стала быць, не ўсякі атрад рабочага класа можа быць назван партыяй рабочага класа. Партыя адрозніваецца ад іншых атрадаў рабочага класа перш за ўсё тым, што яна з'яўляецца не простым атрадам, а **перадавым** атрадам, **свядомым** атрадам, **марксісцкім** атрадам рабочага класа, узброеным веданнем грамадскага жыцця, веданнем законаў развіцця грамадскага жыцця, веданнем законаў класавай барацьбы і здольным, з прычыны гэтага, весці рабочы клас, кіраваць яго барацьбой. Таму нельга змешваць партыю і рабочы клас, як нельга змешваць частку і цэлае, нельга патрабаваць, каб кожны стачачнік мог абвясціць сябе членам партыі, бо хто змешвае партыю і клас, той зніжае ўзровень свядомасці партыі да ўзроўню «кожнага стачачніка», той знішчае партыю, як перадавы свядомы атрад рабочага класа. Задача партыі заключаецца не ў тым, каб **зніжаць** свой узровень да ўзроўню «кожнага стачачніка», а ў тым, каб **паднімаць** масы рабочых, **паднімаць** «кожнага стачачніка» да ўзроўню партыі.

> «Мы—партыя класа, пісаў Ленін, і таму **амаль увесь клас** (а ў ваенныя часы, у эпоху грамадзянскай вайны, і цалкам увесь клас) павінен дзейнічаць пад кіраўніцтвам нашай партыі, павінен прымыкаць да нашай партыі, як мага шчыльней, але было-б manілаўшчынай і «хвасцізмам» думаць, што калі-небудзь амаль увесь клас або ўвесь клас здолее, пры капіталізме, падняцца да свядомасці і актыўнасці свайго перадавога атрада, сваёй соцыял-дэмакратычнай партыі. Ні адзін яшчэ

разумны соцыял-дэмакрат не сумняваўся ў тым, што пры капіталізме нават прафесіянальная арганізацыя (больш прымітыўная, больш даступная свядомасці неразвітых слаёў) не ў сілах ахапіць амаль усесь або ўвесь рабочы клас. Толькі абманваць сябе, закрываць вочы на велізарнасць нашых задач, звужаць гэтыя задачы—азначала-б забываць аб адрозненні паміж перадавым атрадам і ўсімі масамі, якія цягацеюць да яго, забываць аб пастаянным абавязку перадавога атрада **паднімаць** усё больш і больш абшырныя слаі да гэтага перадавога ўзроўню» (**Ленін**, т. VI, стар. 205—206).

2) Партыя ёсць не толькі перадавы, свядомы атрад рабочага класа, але і, разам з тым,—**арганізаваны** атрад рабочага класа, які мае сваю дысцыпліну, абавязковую для яго членаў. Таму члены партыі абавязкова павінны быць членамі адной з арганізацый партыі. Калі-б партыя была не **арганізаваным** атрадам класа, не **сістэмай арганізацый**, а простай сумай людзей, якія самі сябе абвяшчаюць членамі партыі, але не ўваходзяць у адну з арганізацый партыі і, значыць, **не арганізаваны**, стала быць,—не абавязаны падпарадкоўвацца рашэнням партыі,—то партыя ніколі не мела-б адзінай волі, яна ніколі не магла-б ажыццяўляць адзінства дзеянняў сваіх членаў,—значыць, яна не мела-б магчымасці кіраваць барацьбой рабочага класа. Партыя толькі ў тым выпадку можа кіраваць практычна барацьбой рабочага класа і накіроўваць яго да адной мэты, калі ўсе яе члены будуць **арганізаваны** ў адзіны агульны атрад, спаяны адзінствам волі, адзінствам дзеянняў, адзінствам дысцыпліны.

Пярэчанне меншавікоў аб тым, што ў такім выпадку многія інтэлігенты, скажам, прафесары, студэнты, гімназісты і т. п. астануцца па-за партыяй, бо яны не хочуць увайсці ў тыя ці іншыя арганізацыі партыі або таму, што цягацяцца дысцыплінай партыі, або таму, як гаварыў Плеханаў на II з'ездзе, што лічаць «для сябе нізкім уступленне ў тую ці іншую мясцовую арганізацыю»,—гэтае пярэчанне меншавікоў пабівае саміх-жа меншавікоў, бо партыі не патрэбны такія члены, якія цягацяцца партыйнай дысцыплінай і баяцца ўступіць у партыйную арганізацыю. Рабочыя не баяцца дысцыпліны і арганізацыі і яны ахвотна ўступаюць у арганізацыю, калі яны рашылі стаць членамі партыі. Дысцыпліны і арганізацыі баяцца індывідуалістычна настроеныя інтэлігенты і яны сапраўды астануцца па-за партыяй. Але-ж гэта якраз і добра, бо партыя пазбавіцца ад напльіву няўстойлівых элементаў, які асабліва ўзмацніўся цяпер, у перыяд пачынаючагася ўздыму буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі.

> «Калі я гавару, пісаў Ленін, што партыя павінна быць **сумай** (і не простай арыфметычнай сумай, а комплексам) **арганізацый**, то... я выражаю гэтым зусім ясна і дакладна сваё пажаданне, сваё патрабаванне, каб партыя, як перадавы атрад класа, прадстаўляла сабой штосьці магчыма больш **арганізаванае**, каб партыя ўспрымала ў сябе толькі такія элементы, якія **дапускаюць хоць мінімум арганізаванасці...»** (там жа, стар. 203).

І далей:

> «**На словах** формула Мартава адстойвае інтарэсы шырокіх слаёў пролетарыята; **на справе** гэта формула паслужыць інтарэсам **буржуазнай інтэлігенцыі**, якая цураецца пролетарскай дысцыпліны і арганізацыі. Ніхто не адважыцца адмаўляць, што

> **інтэлігенцыя, як асобы слой** сучасных капіталістычных таварыстваў, характарызуецца, наогул і ў цэлым, **іменна індывідуалізмам** і няздольнасцю да дысцыпліны і арганізацыі» **(Ленін,** т. VI, стар. 212).

І яшчэ:

> «Пролетарыят не баіцца арганізацыі і дысцыпліны... Пролетарыят не стане клапаціцца аб тым, каб пп. прафесары і гімназісты, якія не жадаюць увайсці ў арганізацыю, прызнаваліся членамі партыі за работу пад кантролем арганізацыі... Не пролетарыяту, а **некаторым інтэлігентам** у нашай партыі нехапае **самавыхавання** ў духу арганізацыі і дысцыпліны» (там-жа, стар. 307).

3) Партыя ёсць не проста арганізаваны атрад, а **«вышэйшая форма арганізацыі»** сярод усіх іншых арганізацый рабочага класа, закліканая **кіраваць** усімі астатнімі арганізацыямі рабочага класа. Партыя, як вышэйшая форма арганізацыі, якая складаецца з лепшых людзей класа, узброеных передавой тэорыяй, веданнем законаў класавай барацьбы і вопытам рэволюцыйнага руху, мае ўсе магчымасці кіраваць—і абавязана кіраваць—усімі іншымі арганізацыямі рабочага класа. Імкненне меншавікоў умаліць і прынізіць кіруючую ролю партыі вядзе да аслаблення ўсіх іншых арганізацый пролетарыята, кіруемых партыяй,—значыць—да аслаблення і абяззбройвання пролетарыята, бо «у пролетарыята няма іншай зброі ў барацьбе за ўладу, апрача, арганізацыі» (там-жа, стар. 328).

4) Партыя ёсць увасабленне сувязі перадавога атрада рабочага класа з мільённымі масамі рабочага класа. Якім-бы лепшым перадавым атрадам ні была партыя і як-бы яна добра ні была арганізавана, яна ўсё-ж не можа жыць і развівацца без сувязей з беспартыйнымі масамі, без памнажэння гэтых сувязей, без умацавання гэтых сувязей. Партыя, якая замкнулася ў сабе, адасобілася ад мас і страціла ці нават аслабіла сувязі са сваім класам,—павінна страціць давер'е і падтрыманне мас,—значыць—павінна немінуча загінуць. Каб жыць поўным жыццём і развівацца, партыя павінна памнажаць сувязі з масамі і дабіцца давер'я мільённых мас свайго класа.

> «Каб быць соцыял-дэмакратычнай **партыяй,** гаварыў Ленін, трэба дабіцца **падтрымання** іменна **класа»** (там-жа, стар. 208).

5) Партыя, для таго, каб правільна функцыянаваць і планамерна кіраваць масамі,—павінна быць арганізавана на пачатках **цэнтралізма,** з адзіным статутам, з адзінай партыйнай дысцыплінай, з адзіным кіруючым органам на чале, у асобе з'езда партыі, а ў прамежках паміж з'ездамі—у асобе ЦК партыі, з падпарадкаваннем з боку меншасці большасці, асобных арганізацый—цэнтру, ніжэйшых арганізацый вышэйшым. Без гэтых умоў партыя рабочага класа не можа быць сапраўднай партыяй, не можа выконваць сваіх задач па кіраўніцтву класам.

Вядома, з прычыны нелегальнага існавання партыі ва ўмовах царскага самадзяржаўя, партыйныя арганізацыі не маглі ў тыя часы будавацца на аснове выбарнасці знізу, з прычыны чаго партыя вымушана была мець сугуба канспіратыўны характар. Але Ленін лічыў, што гэта **часовая** з'ява ў жыцці нашай партыі адпадзе з першых-жа дзён ліквідацыі царызма, калі партыя стане адкрытай, легальнай і

партыйныя арганізацыі будуць будавацца на пачатках дэмакратычных выбараў, на пачатках **дэмакратычнага цэнтралізма.**

> **«Раней,** пісаў Ленін, наша партыя не была арганізаваным фармальна цэлым, а толькі сумай прыватных груп, і таму іншых адносін паміж гэтымі групамі, апрача **ідэйнага** ўздзеяння, і быць не магло. **Цяпер** мы сталі арганізаванай партыяй, а гэта і азначае стварэнне ўлады, ператварэнне аўтарытэта ідэй у аўтарытэт улады, падпарадкаванне партыйным вышэйшым інстанцыям з боку ніжэйшых» (там-жа, стар. 291).

Абвінавачваючы меншавікоў у арганізацыйным нігілізме і панскім анархізме, не дапускаючым над сабой улады партыі і яе дысцыпліны, Ленін пісаў:

> «Рускаму нігілісту гэты панскі анархізм асабліва ўласцівы. Партыйная арганізацыя здаецца яму жудаснай «фабрыкай», падпарадкаванне часткі цэламу і меншасці большасці ўяўляецца яму «занявольваннем»... раздзяленне працы пад кіраўніцтвам цэнтра выклікае з яго боку трагікамічныя воплі супроць ператварэння людзей у «калёсікі і вінцікі» (прычым асабліва зніштажальным відам гэтага ператварэння лічыцца ператварэнне рэдактароў у супрацоўнікаў), упамінанне аб арганізацыйным статуце партыі выклікае пагардлівую грымасу і зневажальную (па адрасу «фармалістаў») заўвагу, што можна-б і зусім без статута» (там-жа, стар. 310).

6) Партыя ў сваёй практыцы, калі яна хоча захаваць **адзінства** сваіх радоў, павінна праводзіць **адзіную** пролетарскую дысцыпліну, **аднолькава** абавязковую для ўсіх членаў партыі, як для лідэраў, так і для радавых. Таму ў партыі не павінна быць дзялення на «выбраных», для якіх дысцыпліна не абавязкова, і «нявыбраных», якія абавязаны падпарадкоўвацца дысцыпліне. Без гэтай умовы не могуць быць захаваны цэласнасць партыі і адзінства яе радоў.

> «Паўнейшая адсутнасць, пісаў Ленін, **разумных** довадаў супроць рэдакцыі, назначанай з'ездам, у Мартава і К° лепш за ўсё ілюструецца іх жа слоўцам: «мы не прыгонныя!»... Псіхалогія буржуазнага інтэлігента, які прылічвае сябе да «выбраных душ», што стаяць вышэй масавай арганізацыі і масавай дысцыпліны, выступае тут надзвычай выразна... Інтэлігенцкаму індывідуалізму... **усякая** пролетарская арганізацыя і дысцыпліна здаюцца **прыгонным правам»** (там-жа, стар. 282).

І далей:

> «Па меры таго, як складваецца ў нас **сапраўдная** партыя, свядомы рабочы павінен навучыцца адрозніваць псіхалогію воіна пролетарскай арміі ад псіхалогіі буржуазнага інтэлігента, які шчыгаляе анархічнай фразай, павінен навучыцца **патрабаваць** выканання абавязкаў члена партыі не толькі ад радавых, але і ад «людзей верху» (там-жа, стар. 312).

Падводзячы вынікі аналізу рознагалоссяў і вызначаючы пазіцыю меншавікоў, як «апартунізм у арганізацыйных пытаннях», Ленін лічыў, што адным з асноўных грахоў меншавізма з'яўляецца недаацэнка значэння партыйнай **арганізацыі,** як зброі пролетарыята ў яго барацьбе за сваё вызваленне. Меншавікі лічылі, што партыйная **арганізацыя** пролетарыята не мае сур'ёзнага значэння для перамогі рэво-

люцыі. Наперакор меншавікам Ленін лічыў, што аднаго толькі **ідэйнага** аб'яднання пролетарыята **недастаткова** для перамогі,—каб перамагчы, неабходна **«замацаваць»** ідэйнае адзінства «матэрыяльным адзінствам **арганізацыі»** пролетарыята. Ленін лічыў, што толькі пры гэтай умове пролетарыят можа стаць непераможнаю сілай.

> «У пролетарыята, пісаў Ленін, няма іншай зброі ў барацьбе за ўладу, апрача арганізацыі. Раз'ядноўваемы панаваннем анархічнай канкурэнцыі у буржуазным свеце, прыдаўлены паднявольнай работай на капітал, адкідваемы пастаянна «на дно» поўнай галечы, здзічэння і выраджэння, пролетарыят можа стаць і немінуча стане непераможнай сілай толькі дзякуючы таму, што ідэйнае аб'яднанне яго прынцыпамі марксізма замацоўваецца матэрыяльным адзінствам арганізацыі, якая згуртоўвае мільёны працоўных у армію рабочага класа. Перад гэтай арміяй не ўстаіць ні адрахлеўшая ўлада рускага самадзяржаўя, ні драхлеючая ўлада міжнароднага капітала» (**Ленін,** т. VI, стар. 328).

Гэтымі вешчымі словамі заканчвае Ленін сваю кнігу.

Такімі з'яўляюцца асноўныя арганізацыйныя палажэнні, развітыя Леніным у яго выдатнай кнізе «Крок наперад, два крокі назад».

Значэнне гэтай кнігі заключаецца перш за ўсё ў тым, што яна адстаяла партыйнасць супроць гурткаўшчыны і партыю супроць дэзарганізатараў, разграміла меншавіцкі апартунізм у арганізацыйных пытаннях і заклала арганізацыйныя асновы большэвіцкай партыі.

Але гэтым не вычэрпваецца яе значэнне. Яе гістарычнае значэнне заключаецца ў тым, што ў ёй Ленін першы ў гісторыі марксізма распрацаваў **вучэнне аб партыі,** як кіруючай **арганізацыі** пролетарыята, як асноўнай **зброі** ў руках пролетарыята, без якой немагчыма перамагчы ў барацьбе за пролетарскую дыктатуру.

Распаўсюджанне ленінскай кнігі «Крок наперад, два крокі назад» сярод партыйных работнікаў прывяло да таго, што большасць мясцовых арганізацый згуртавалася вакол Леніна.

Але чым цясней згуртоўваліся арганізацыі вакол большэвікоў, тым больш азлоблена вялі сябе меншавіцкія лідэры.

Летам 1904 года меншавікі захвацілі большасць у ЦК, дзякуючы дапамозе Плеханава і здрадзе двух разлажыўшыхся большэвікоў, Красіна і Наскова. Было відавочна, што меншавікі вядуць справу да расколу. Страта «Искры» і ЦК ставіла большэвікоў у цяжкае становішча. Неабходна было арганізаваць сваю большэвіцкую газету, неабходна было арганізаваць новы, III з'езд партыі, каб стварыць новы ЦК партыі і расправіцца з меншавікамі.

За гэту справу ўзяўся Ленін, узяліся большэвікі.

Большэвікі павялі барацьбу за скліканне III з'езда партыі. У жніўні 1904 года ў Швейцарыі пад кіраўніцтвам Леніна адбывалася нарада 22 большэвікоў. Гэта нарада прыняла зварот «Да партыі», які стаў для большэвікоў праграмай барацьбы за скліканне III з'езда.

На трох абласных канферэнцыях большэвіцкіх камітэтаў (Паўднёвай, Каўказскай і Паўночнай) было выбрана Бюро Камітэтаў большасці, якое павяло практычную падрыхтоўку да III з'езда партыі.

4 студзеня 1905 года вышаў першы нумар большэвіцкай газеты «Вперед».

Такім чынам, у партыі скলаліся дзве абасобленыя фракцыі, большэвікоў і меншавікоў, са сваімі цэнтрамі, са сваімі органамі друку.

## КАРОТКІЯ ВЫВАДЫ.

У перыяд 1901—1904 годаў на аснове росту рэволюцыйнага рабочага руху растуць і мацнеюць марксісцкія соцыял-дэмакратычныя арганізацыі ў Расіі. Ва ўпорнай прынцыповай барацьбе з «эканамістамі» перамагае рэволюцыйная лінія ленінскай «Искры», пераадалягаюцца ідэйны разброд і «саматужніцтва».

«Искра» звязвае паміж сабою разрозненыя соцыял-дэмакратычныя гурткі і групы і падрыхтоўвае II з'езд партыі. На II з'ездзе ў 1903 годзе ўтварылася Расійская соцыял-дэмакратычная рабочая партыя, былі прыняты праграма, статут партыі, былі створаны цэнтральныя кіруючыя органы партыі.

У барацьбе, якая адбывалася на II з'ездзе, за канчатковую перамогу іскраўскага напрамку ўнутры РСДРП паяўляюцца дзве групы. Група большэвікоў і група меншавікоў.

Галоўныя рознагалоссі паміж большэвікамі і меншавікамі пасля II з'езда разгортваюцца па арганізацыйных пытаннях.

Меншавікі зближаюцца з «эканамістамі» і займаюць іх месца ў партыі. Апартунізм меншавікоў сказваецца пакуль-што ў галіне арганізацыйных пытанняў. Меншавікі супроць баявой рэволюцыйнай партыі ленінскага тыпу. Яны за расплыўчатую, неарганізаваную, хвасцісцкую партыю. Яны вядуць лінію расколу ў партыі. Пры дапамозе Плеханава яны захватваюць «Искру» і ЦК, скарыстоўваючы гэтыя цэнтры ў сваіх раскольніцкіх мэтах.

Бачачы пагрозу расколу з боку меншавікоў, большэвікі прымаюць меры абуздання раскольнікаў, мабілізуюць мясцовыя арганізацыі за скліканне III з'езда, выдаюць сваю газету «Вперед».

Такім чынам, напярэдадні першай рускай рэволюцыі, у перыяд пачаўшайся ўжо руска-японскай вайны, большэвікі і меншавікі выступаюць, як абасобленыя адна ад другой палітычныя групы.

Раздзел III

# МЕНШАВІКІ І БОЛЬШЭВІКІ Ў ПЕРЫЯД РУСКА-ЯПОНСКАЙ ВАЙНЫ І ПЕРШАЙ РУСКАЙ РЭВОЛЮЦЫІ. (1904—1907 годы).

## 1. Руска-японская вайна. Далейшы ўздым рэвалюцыйнага руху ў Расіі. Забастоўкі ў Пецербургу. Дэманстрацыя рабочых ля Зімняга палаца 9 студзеня 1905 года. Расстрэл дэманстрацыі. Пачатак рэвалюцыі.

З канца XIX стагоддзя імперыялістычныя дзяржавы пачалі ўзмоцненую барацьбу за панаванне на Ціхім акіяне, за раздзел Кітая. У гэтай барацьбе прымала ўдзел і царская Расія. У 1900 годзе царскія войскі сумесна з японскімі, германскімі, англійскімі і французскімі з нябачанай лютасцю падавілі народнае паўстанне ў Кітаі, накіраванае сваім астрыём супроць іншакраінцаў-імперыялістаў. Яшчэ раней царскі ўрад прымусіў Кітай перадаць Расіі Ляодунскі поўвостраў з крэпасцю Порт-Артур. Расія дабілася права будаваць чыгункі на кітайскай тэрыторыі. Была пабудавана чыгунка ў Паўночнай Манчжурыі—Кітайская Ўсходняя чыгунка (КУЧ) і ўведзены рускія войскі для абароны яе. Паўночная Манчжурыя падверглася ваеннай акупацыі з боку царскай Расіі. Царызм падбіраўся да Карэі. Руская буржуазія будавала планы стварэння «Жоўтаросіі» у Манчжурыі.

У сваіх захватах на Далёкім Усходзе царызм сутыкнуўся з другім драпежнікам—Японіяй, якая быстра ператварылася ў імперыялістычную краіну і таксама імкнулася да захватаў на азіяцкім мацерыку, у першую чаргу за кошт Кітая. Японія, таксама, як і царская Расія, імкнулася забраць сабе Карэю і Манчжурыю. Японія ўжо тады марыла аб захваце Сахаліна і Далёкага Усхода. Англія, якая пабойвалася ўзмацнення царскай Расіі на Далёкім Усходзе, упатайку была на старане Японіі. Наспявала руска-японская вайна. Да гэтай вайны штурхалі царскі ўрад буйная буржуазія, якая шукала новых рынкаў, і найбольш рэакцыйныя слаі памешчыкаў.

Не чакаючы, пакуль царскі ўрад абвесціць вайну, Японія першая пачала яе. Маючы добрую разведку ў Расіі, Японія разлічыла, што ў гэтай барацьбе будзе мець непадрыхтаванага праціўніка. Не абвяшчаючы вайны, Японія ў студзені 1904 года нечакана напала на рускую крэпасць Порт-Артур і прычыніла рускаму флоту, які знаходзіўся ў Порт-Артуры, сур'ёзныя страты.

Так пачалася руска-японская вайна.

Царскі ўрад разлічваў, што вайна дапаможа яму ўзмацніць сваё палітычнае становішча і спыніць рэвалюцыю. Але яго разлікі не апраўдаліся. Вайна яшчэ больш расхістала царызм.

Дрэнна ўзброеная і абучаная, кіруемая бяздарнымі і прадажнымі генераламі, руская армія пачала цярпець адно паражэнне за другім.

На вайне нажываліся капіталісты, чыноўнікі, генералы. Навакол працвітала зладзейства. Войскі снабжаліся дрэнна. Калі нехапала снарадаў, армія нібы ў насмешку атрымлівала вагоны з абразамі. Салдаты гаварылі з горыччу: «японцы нас снарадамі, а мы іх—абразамі». Замест таго, каб перавозіць раненых, асобыя паязды вывозілі награбленую царскімі генераламі маемасць.

Японцы асадзілі, а затым ўзялі крэпасць Порт-Артур. Нанёсшы рад паражэнняў царскай арміі, яны разгрямілі яе пад Мукдэнам. Трохсоттысячная царская армія страціла ў гэтым баі да 120 тысяч забітымі, ранеными, палоннымі. Услед за тым паследаваў поўны разгром і гібель у Цусімскім праліве царскага флота, пасланага з Балтыйскага мора на дапамогу асаджанаму Порт-Артуру. Паражэнне пры Цусіме азначала поўную катастрофу: з дваццаці ваенных суднаў, пасланых царом, было патоплена і знішчана трынаццаць, узята ў палон чатыры. Вайна была канчаткова праіграна царскай Расіяй.

Царскі ўрад аказаўся вымушаным заключыць ганебны мір з Японіяй. Японія захваціла Карэю, забрала ў Расіі Порт-Артур і палавіну Сахаліна.

Народныя масы не хацелі гэтай вайны і ўсведамлялі яе шкоду для Расіі. За адсталасць царскай Расіі народ расплачваўся дарагою цаной.

Большэвікі і меншавікі па-рознаму адносіліся да гэтай вайны.

Меншавікі, у тым ліку Троцкі, скатваліся на пазіцыі абаронцтва, гэта значыць абароны «бацькаўшчыны» цара, памешчыкаў і капіталістаў.

Ленін і большэвікі, наадварот, лічылі, што паражэнне царскага ўрада ў гэтай грабежніцкай вайне карысна, таму што прывядзе да аслаблення царызма і ўзмацнення рэволюцыі.

Паражэнні царскіх войск ускрывалі перад самымі шырокімі масамі народа гніласць царызма. Нянавісць да царызма ў народных масах з кожным днём расла. Падзенне Порт-Артура—пачатак падзення самадзяржаўя, пісаў Ленін.

Цар хацеў вайной задушыць рэволюцыю. Ён дабіўся адваротнага. Руска-японская вайна паскорыла рэволюцыю.

У царскай Расіі капіталістычны гнёт узмацняўся гнётам царызма. Рабочыя цярпелі не толькі ад капіталістычнай эксплуатацыі, ад катаржнай працы, але і ад бяспраўя ўсяго народа. Таму свядомыя рабочыя імкнуліся ўзначаліць рэволюцыйны рух усіх дэмакратычных элементаў горада і вёскі супроць царызма. Сялянства задыхалася ад беззямелля, ад шматлікіх астаткаў прыгонніцтва, яно знаходзілася ў кабале ў памешчыка і кулака. Народы, якія насялялі царскую Расію, стагналі пад падвойным гнётам—сваіх уласных і рускіх памешчыкаў і капіталістаў. Эканамічны крызіс 1900—1903 г.г. узмацніў бядоты працоўных мас, вайна іх яшчэ больш абвастрыла. Паражэнні ў вайне ўзмацнялі ў масах нянавісць да царызма. Набліжаўся канец народнаму цярпенню.

Як відаць, прычын для рэволюцыі было больш, чым дастаткова.

У снежні 1904 года пад кіраўніцтвам Бакінскага камітэта большэвікоў была праведзена велізарная, добра арганізаваная стачка бакінскіх рабочых. Гэтая стачка скончылася перамогай рабочых, заключэннем першага ў гісторыі рабочага руху ў Расіі калектыўнага дагавора паміж рабочымі і нафтапрамыслоўцамі.

Бакінская стачка з'явілася пачаткам рэволюцыйнага ўздыму ў Заўкаказзі і ў радзе раёнаў Расіі.

«Бакінская стачка паслужыла сігналам слаўных студзеньска-лютаўскіх выступленняў па ўсёй Расіі» **(Сталін).**

Гэтая стачка была як-бы перадвальнічнай маланкай напярэдадні вялікай рэволюцыйнай буры.

Пачаткам рэволюцыйнай буры з'явіліся падзеі 9 (22) студзеня 1905 года ў Пецербургу.

3 студзеня 1905 года пачалася стачка на буйнейшым заводзе Пецербурга—Пуцілаўскім (цяпер Кіраўскі завод). Гэтая стачка пачалася з-за звальнення з завода чатырох рабочых. Стачка на Пуцілаўскім заводзе быстра разраслася, да яе далучыліся іншыя заводы і фабрыкі Пецербурга. Стачка стала ўсеагульнай. Рух грозна рос. Царскі ўрад рашыў у самым пачатку падавіць рух.

Яшчэ ў 1904 годзе, да пуцілаўскай стачкі, паліцыя стварыла пры дапамозе правакатара папа Гапона сваю арганізацыю сярод рабочых—«Сход рускіх фабрычна-заводскіх рабочых». Гэтая арганізацыя мела свае аддзяленні ва ўсіх раёнах Пецербурга. Калі пачалася стачка, поп Гапон на сходах свайго таварыства прапанаваў правакатарскі план: 9 студзеня няхай збяруцца ўсе рабочыя і ў мірнай працэсіі з харугвамі і царскімі партрэтамі пойдуць да Зімняга палаца і пададуць цару петыцыю (просьбу) аб сваіх патрэбах. Цар, моў, выйдзе да народа, выслухае і задаволіць яго патрабаванні. Гапон узяўся дапамагчы царскай ахранцы: выклікаць расстрэл рабочых і ў крыві патапіць рабочы рух. Але паліцэйскі план павярнуўся супроць царскага ўрада.

Петыцыя абмяркоўвалася на рабочых сходах, у яе ўносіліся папраўкі і змены. На гэтых сходах выступалі і большэвікі, не называючы сябе адкрыта большэвікамі. Пад іх уплывам у петыцыю былі ўключаны патрабаванні свабоды друку і слова, свабоды рабочых саюзаў, склікання Устаноўчага схода для змянення дзяржаўнага ладу Расіі, роўнасці ўсіх перад законам, аддзялення царквы ад дзяржавы, спынення вайны, устанаўлення 8-гадзіннага рабочага дня, перадачы зямлі сялянам.

Выступаючы на гэтых сходах, большэвікі даказвалі рабочым, што свабоду не здабываюць просьбамі да цара, а заваёўваюць са зброяй у руках. Большэвікі перасцерагалі, што ў рабочых будуць страляць. Але спыніць працэсію да Зімняга палаца яны не змаглі. Значная частка рабочых яшчэ верыла, што цар ім дапаможа. Рух з велізарнай сілай захваціў масы.

У петыцыі пецербургскіх рабочых гаварылася:

«Мы, рабочыя г. Пецербурга, нашыя жонкі, дзеці і бездапаможныя старцы-бацькі, прышлі да цябе, гасудар, шукаць праўды і абароны. Мы абнішчалі, нас прыгнятаюць, абцяжарваюць непасільнай працай, над намі здзекваюцца, у нас не прызнаюць людзей... Мы і цярпелі, але нас штурхаюць усё далей і далей у вір нішчаты, бяспраўя і невуцтва, нас душаць дэспатызм і самавольства... Надышоў канец цярпенню. Да нас прышоў той страшны момант, калі лепш смерць, чым прадаўжэнне нязносных мук...»

9 студзеня 1905 года на світанні рабочыя пашлі да Зімняга палаца, дзе знаходзіўся тады цар. Рабочыя ішлі да цара цэлымі сем'-

ямі—з жонкамі, дзецьмі і старыкамі, неслі царскія партрэты і царкоўныя харугвы, спявалі малітвы, ішлі бяззбройныя. Усяго сабралася на вуліцах звыш 140 тысяч чалавек.

Нікалай другі сустрэў іх недружалюбна. Ён загадаў страляць у бяззбройных рабочых. Больш тысячы рабочых было ў гэты дзень забіта царскімі войскамі, больш 2 тысяч паранена. Вуліцы Пецербурга былі заліты крывёю рабочых.

Большэвікі ішлі разам з рабочымі. Многія з іх былі забіты або арыштаваны. Большэвікі тут-жа, на залітых рабочай крывёю вуліцах, растлумачвалі рабочым, хто віноўнік гэтага жахлівага злачынства і як трэба з ім змагацца.

Дзень 9 студзеня стаў называцца «Крывавай нядзеляй». 9 студзеня рабочыя атрымалі крывавы ўрок. У гэты дзень была расстраляна вера рабочых у цара. Яны зразумелі, што толькі барацьбой можна дабіцца сваіх правоў. Ужо к вечару 9 студзеня ў рабочых раёнах пачалі будаваць барыкады. Рабочыя гаварылі: «Цар нам усыпаў, ну—і мы яму ўсыплем!»

Страшная вестка аб крывавым злодзеянні цара разнеслася ўсюды. Абурэнне і азлабленне ахапілі ўвесь рабочы клас, усю краіну. Не было горада, дзе-б рабочыя не баставалі ў знак пратэсту супроць зладзейства цара і не выстаўлялі палітычных патрабаванняў. Рабочыя ішлі цяпер на вуліцу з лозунгам «далоў самадзяржаўе». Лік стачачнікаў у студзені дасягнуў велізарнай лічбы—440 тысяч. За адзін месяц баставала рабочых больш, чым за ўсё папярэдняе дзесяцігоддзе. Рабочы рух узняўся на велізарную вышыню.

У Расіі пачалася рэволюцыя.

## 2. Палітычныя стачкі і дэманстрацыі рабочых. Нарастанне рэволюцыйнага руху сялян. Паўстанне на броненосцы «Пацёмкін».

Пасля 9 студзеня рэволюцыйная барацьба рабочых набыла больш востры, палітычны характар. Ад эканамічных стачак і стачак салідарнасці рабочыя сталі пераходзіць да палітычных стачак, да дэманстрацый, а месцамі—да ўзброенага супраціўлення царскім войскам. Асабліва ўпорны і арганізаваны характар насілі стачкі ў буйных гарадах, дзе былі сканцэнтраваны значныя масы рабочых,—у Пецербургу, Маскве, Варшаве, Рыге, Баку. У першых радах змагаючагася пролетарыята ішлі металісты. Перадавыя атрады рабочых сваімі стачкамі раскачвалі менш свядомыя слаі, узнімалі на барацьбу ўвесь рабочы клас. Уплыў соцыял-дэмакратыі быстра рос.

Першамайскія дэманстрацыі ў радзе месц суправаджаліся сутычкамі з паліцыяй і войскамі. У Варшаве ў рэзультаце расстрэлу дэманстрацыі было некалькі сот забітых і раненых. На расстрэл у Варшаве рабочыя па заклікў польскай соцыял-дэмакратыі адказалі агульнай забастоўкай пратэсту. На працягу ўсяго мая не спыняліся стачкі і дэманстрацыі. У майскіх стачках па Расіі ўдзельнічала больш 200 тысяч рабочых. Рабочыя Баку, Лодзі, Іванава-Вазнесенска былі ахоплены агульнай стачкай. Усё часцей баставаўшыя рабочыя і дэманстранты сутыкаліся з царскімі войскамі. Такія сутычкі мелі месца ў радзе гарадоў—у Одэсе, Варшаве, Рыге, Лодзі і іншых.

Асабліва востры характар набыла барацьба ў буйным прамысловым цэнтры Польшчы—горадзе Лодзі. Рабочыя Лодзі пакрылі гарадскія вуліцы дзесяткамі барыкад і тры дні (22—24 чэрвеня 1905 г.) вялі вулічныя баі з царскімі войскамі. Узброенае выступленне злі-

лося тут з агульнай забастоўкай. Ленін лічыў гэтыя баі першым узброеным выступленнем рабочых у Расіі.

Сярод летніх стачак асабліва выдзяляецца стачка іванава-вазнесенскіх рабочых. Яна прадаўжалася з канца мая да пачатку жніўня 1905 года, гэта значыць амаль два з палавінай месяцы. У стачцы прымала ўдзел каля 70 тысяч рабочых, сярод іх было многа жанчын. Стачкай кіраваў Паўночны камітэт большэвікоў. Амаль штодзень за горадам, на рацэ Талцы, збіраліся тысячы рабочых. Тут, на сходах, яны абмяркоўвалі свае рабочыя нужды. На сходах рабочых выступалі большэвікі. Каб падавіць стачку, царскія ўлады загадалі войскам разганяць рабочых, страляць у іх. Было забіта некалькі дзесяткаў і ранена некалькі сот рабочых. Горад быў аб'яўлен на асадным становішчы. Аднак, рабочыя трымаліся стойка і на работу не ішлі. Рабочыя і іх сем'і галадалі, але не здаваліся. Толькі надзвычайнае знесіленне прымусіла рабочых стаць на работу. Стачка загартавала рабочых. Яна паказала ўзор мужнасці, стойкасці, вытрыманасці, салідарнасці рабочага класа. Яна паслужыла сапраўднай школай палітычнага выхавання іванава-вазнесенскіх рабочых.

У перыяд гэтай забастоўкі іванава-вазнесенскія рабочыя стварылі Совет упаўнаважаных, які быў фактычна адным з першых Советаў рабочых дэпутатаў у Расіі.

Палітычныя стачкі рабочых ускалыхнулі ўсю краіну. Следам за горадам пачала ўзнімацца вёска. З вясны пачаліся сялянскія хваляванні. Сяляне велізарнымі натоўпамі ішлі супроць памешчыкаў, гramілі іх маёнткі, цукровыя і вінакурныя заводы, падпальвалі памешчыцкія палацы і сядзібы. У радзе месц сяляне захватвалі памешчыцкую зямлю, прыбягалі да масавай парубкі лесу, патрабавалі перадачы народу зямель памешчыкаў. Сяляне захватвалі памешчыцкі хлеб і іншыя прыпасы, дзялілі іх паміж галадаючымі. Памешчыкі ў спалоху вымушаны былі ўцякаць у гарады. Царскі ўрад пасылаў салдат і казакоў для падаўлення паўстання сялян. Войскі расстрэльвалі сялян, арыштоўвалі «зачыншчыкаў», паролі і каталі іх. Але сяляне не спынялі барацьбы.

Рух сялян стаў усё шырэй распаўсюджвацца ў цэнтры Расіі, у Паваложжы, у Закаўказзі, асабліва ў Грузіі.

Соцыял-дэмакраты ўсё глыбей сталі пранікаць у вёску. ЦК партыі выпусціў зварот да сялян: «Сяляне, да вас наша слова». Соцыял-дэмакратычныя камітэты ў Тверской, Саратаўскай, Палтаўскай, Чэрнігаўскай, Екацерынаслаўскай, Тыфліскай і многіх іншых губернях выпускалі адозвы да сялян. У вёсках соцыял-дэмакраты склікалі сходы, арганізоўвалі гурткі з сялян, стваралі сялянскія камітэты. Летам 1905 года ў радзе месц праходзілі арганізаваныя соцыял-дэмакратамі забастоўкі сельскагаспадарчых рабочых.

Але гэта быў толькі пачатак сялянскай барацьбы. Сялянскі рух ахапіў толькі 85 паветаў, гэта значыць прыблізна сёмую частку ўсяго ліку паветаў еўрапейскай часткі царскай Расіі.

Рабочы і сялянскі рух і рад паражэнняў рускіх войск у руска-японскай вайне аказалі свой уплыў на армію. Гэта апора царызма захісталася.

У чэрвені 1905 года ўспыхнула паўстанне ў Чорнаморскім флоце, на броненосцы «Пацёмкін». Броненосец у гэты час стаяў недалёка ад Одэсы, у якой праходзіла агульная стачка рабочых. Паўстаўшыя матросы расправіліся з найбольш ненавіснымі ім афіцэрамі і прывялі

броненосец у Одэсу. Броненосец «Пацёмкін» перайшоў на старану рэволюцыі.

Ленін надаваў гэтаму паўстанню велізарнае значэнне. Ён лічыў неабходным, каб большэвікі кіравалі гэтым рухам, звязалі яго з рухам рабочых, сялян і мясцовых гарнізонаў.

Цар паслаў супроць «Пацёмкіна» ваенныя судны, але матросы гэтых суднаў адмовіліся страляць па сваіх паўстаўшых таварышах. Некалькі дзён на броненосцы «Пацёмкін» развяваўся чырвоны сцяг рэволюцыі. Але тады, у 1905 годзе, партыя большэвікоў не была адзінай партыяй, кіраваўшай рухам, як гэта было пазней, у 1917 годзе. На «Пацёмкіне» было не мала меншавікоў, эсэраў і анархістаў. Таму, не гледзячы на ўдзел у паўстанні асобных соцыял-дэмакратаў, яно не мела правільнага і дастаткова вопытнага кіраўніцтва. Частка матросаў у рашучыя моманты захісталася. Астатнія судны Чорнаморскага флота не далучыліся да паўстаўшага броненосца. Не маючы вугалю і харчоў, рэволюцыйны броненосец быў вымушан пайсці да берагоў Румыніі і здацца румынскім уладам.

Паўстанне матросаў на броненосцы «Пацёмкін» скончылася паражэннем. Папаўшыя ў далейшым у рукі царскага ўрада матросы былі адданы пад суд. Частка была пакарана смерцю, частка саслана на катаргу. Але самы факт паўстання меў выключна важнае значэнне. Паўстанне на броненосцы «Пацёмкін» з'явілася першым масавым рэволюцыйным выступленнем у арміі і флоце, першым пераходам буйнай часткі царскіх войск на старану рэволюцыі. Паўстанне гэта зрабіла для рабочых, сялянскіх і асабліва саміх салдацкіх і матроскіх мас больш зразумелай і блізкай мысль аб далучэнні арміі і флота да рабочага класа, да народа.

Пераход рабочых да масавых палітычных стачак і дэманстрацый, узмацненне сялянскага руху, узброеныя сутычкі народа з паліцыяй і войскамі, нарэшце, паўстанне ў Чорнаморскім флоце,—усё гэта гаварыла аб тым, што наспяваюць умовы для ўзброенага паўстання народа. Гэтая акалічнасць прымусіла ліберальную буржуазію сур'ёзна заварушыцца. Баючыся рэволюцыі і разам з тым палохаючы цара рэволюцыяй, яна шукала здзелкі з царом супроць рэволюцыі і патрабавала невялікіх рэформ «для народа», каб «супакоіць» народ, раскалоць сілы рэволюцыі і папярэдзіць тым самым «жахі рэволюцыі». «Трэба прырэзаць зямлю сялянам, інакш яны нас прырэжуць»,—гаварылі ліберальныя памешчыкі. Ліберальная буржуазія рыхтавалася раздзяліць уладу з царом. «Пролетарыят змагаецца, буржуазія крадзецца да ўлады»,—пісаў Ленін у гэтыя дні аб тактыцы рабочага класа і тактыцы ліберальнай буржуазіі.

Царскі ўрад прадаўжаў падаўляць рабочых і сялян з лютай жорсткасцю. Але ён не мог не бачыць, што аднымі толькі рэпрэсіямі немагчыма справіцца з рэволюцыяй. Таму побач з рэпрэсіямі ён пачаў прыбягаць да палітыкі лавіравання. З аднаго боку, пры дапамозе сваіх правакатараў ён пачаў натраўляць народы Расіі адзін на аднаго, арганізоўваючы яўрэйскія пагромы і армяна-татарскую разню. З другога боку,—абяцаў склікаць «прадстаўнічую ўстанову» у выглядзе Земскага сабора ці Дзяржаўнай думы, даручыўшы міністру Булыгіну распрацаваць праект такой думы, з тым, аднак, каб у думы не было законадаўчых правоў. Усе гэтыя меры прадпрымаліся для таго, каб раскалоць сілы рэволюцыі і адарваць ад рэволюцыі ўмераныя слаі народа.

Большэвікі абвясцілі байкот булыгінскай думы, паставіўшы сабе мэтай сарваць гэтую карыкатуру на народнае прадстаўніцтва.

Меншавікі, наадварот—рашылі не зрываць думу і прызналі неабходным прыняць у ёй удзел.

### 3. Тактычныя рознагалоссі паміж большэвікамі і меншавікамі. III з'езд партыі. Кніга Леніна «Дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэволюцыі». Тактычныя асновы марксісцкай партыі.

Рэволюцыя прывяла ў рух усе класы грамадства. Паварот у палітычным жыцці краіны, выкліканы рэволюцыяй, зрушыў іх са старых, наседжаных пазіцый і прымусіў іх перагрупіравацца прыстасоўна да новай абстаноўкі. Кожны клас, кожная партыя стараліся выпрацаваць сваю тактыку, сваю лінію паводзін, свае адносіны да іншых класаў, свае адносіны да ўрада. Нават царскі ўрад аказаўся вымушаным выпрацаваць сваю, незвычайную для яго, новую тактыку, у выглядзе абяцання склікаць «прадстаўнічую ўстанову»,—булыгінскую думу.

Неабходна было выпрацаваць сваю тактыку і соцыял-дэмакратычнай партыі. Гэтага патрабаваў нарастаючы ўздым рэволюцыі. Гэтага патрабавалі не церпячыя адкладання практычныя пытанні, якія сталі перад пролетарыятам: аб арганізацыі ўзброенага паўстання, аб звяржэнні царскага ўрада, аб стварэнні часовага рэволюцыйнага ўрада, аб удзеле соцыял-дэмакратыі ў гэтым урадзе, аб адносінах да сялянства, аб адносінах да ліберальнай буржуазіі і т. п. Неабходна было выпрацаваць адзіную і прадуманую марксісцкую тактыку соцыял-дэмакратыі.

Але дзякуючы апартунізму і раскольніцкім дзеянням меншавікоў Расійская соцыял-дэмакратыя аказалася ў гэты час расколатай на дзве фракцыі. Раскол нельга было яшчэ лічыць поўным, і гэтыя дзве фракцыі не былі яшчэ **фармальна** двума рознымі партыямі, але **на справе** яны вельмі напаміналі дзве розныя партыі, што маюць свае ўласныя цэнтры, свае ўласныя газеты.

Паглыбленню расколу спрыяла тая акалічнасць, што меншавікі да сваіх старых рознагалоссяў з большасцю партыі па **арганізацыйных** пытаннях дабавілі новыя рознагалоссі,—рознагалоссі па **тактычных** пытаннях.

Адсутнасць адзінай партыі прывяла да адсутнасці адзінай партыйнай тактыкі.

Можна было-б знайсці выхад са становішча, калі-б склікаць безадкладна чарговы III з'езд партыі, устанавіць на з'ездзе адзіную тактыку і абавязаць меншасць чэсна праводзіць у жыццё рашэнні з'езда, падпарадкавацца рашэнням большасці з'езда. Гэты іменна выхад і прапаноўвалі большэвікі меншавікам. Але меншавікі і слухаць не хацелі аб III з'ездзе. Лічачы злачынствам пакідаць далей партыю без тактыкі, адобранай партыяй і абавязковай для ўсіх членаў партыі, большэвікі рашылі ўзяць на сябе ініцыятыву склікання III з'езда.

На з'езд былі запрошаны ўсе арганізацыі партыі, як большэвіцкія, так і меншавіцкія. Але меншавікі адмовіліся ад удзелу на III з'ездзе і рашылі склікаць свой з'езд. Яны назвалі свой з'езд канферэнцыяй, таму што дэлегатаў аказалася ў іх нямнога, але на справе гэта быў з'езд, партыйны з'езд меншавікоў, рашэнні якога лічыліся абавязковымі для ўсіх меншавікоў.

У красавіку 1905 года быў склікан у Лондане III з'езд Расійскай соцыял-дэмакратычнай партыі. На з'езд з'ехаліся 24 дэлегаты ад 20 большэвіцкіх камітэтаў. Былі прадстаўлены ўсе буйныя арганізацыі партыі.

З'езд асудзіў меншавікоў, як «адкалоўшуюся частку партыі», і перайшоў да чарговых пытанняў па выпрацоўцы тактыкі партыі.

Адначасова са з'ездам сабралася ў Жэневе канферэнцыя меншавікоў.

«Два з'езды—дзве партыі»,—так вызначыў становішча Ленін.

І з'езд і канферэнцыя абмяркоўвалі па сутнасці справы адны і тыя-ж тактычныя пытанні, але рашэнні па гэтых пытаннях былі прыняты прама процілеглага характару. Два розныя рады рэзалюцый, прынятыя на з'ездзе і канферэнцыі, ускрылі ўсю глыбіню тактычных рознагалоссяў паміж III з'ездам партыі і канферэнцыяй меншавікоў, паміж большэвікамі і меншавікамі.

Вось асноўныя пункты гэтых рознагалоссяў.

**Тактычная лінія III з'езда партыі.** З'езд лічыў, што, не гледзячы на буржуазна-дэмакратычны характар адбываючайся рэволюцыі, не гледзячы на тое, што яна не можа ў даны момант выйсці з рамак дапушчальнага пры капіталізме, у яе поўнай перамозе зацікаўлен перш за ўсё пролетарыят, бо перамога гэтай рэволюцыі дала-б пролетарыяту магчымасць арганізавацца, падняцца палітычна, набыць вопыт і навыкі палітычнага кіраўніцтва працоўнымі масамі і перайсці ад рэволюцыі буржуазнай да рэволюцыі соцыялістычнай.

Тактыку пролетарыята, разлічаную на поўную перамогу буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі, можа падтрымаць толькі сялянства, бо яно не можа расправіцца з памешчыкамі і атрымаць памешчыцкія землі без поўнай перамогі рэволюцыі. Сялянства з'яўляецца, таму, натуральным саюзнікам пролетарыята.

Ліберальная буржуазія не зацікаўлена ў поўнай перамозе гэтай рэволюцыі, бо ёй патрэбна царская ўлада, як бізун супроць рабочых і сялян, якіх яна баіцца больш за ўсё, і яна будзе старацца захаваць царскую ўладу, абмежаваўшы яе некалькі ў правах. Таму ліберальная буржуазія будзе старацца скончыць справу здзелкай з царом на базе канстытуцыйнай манархіі.

Рэволюцыя пераможа толькі ў тым выпадку, калі яе ўзначаліць пролетарыят, калі пролетарыят, як правадыр рэволюцыі, здолее забяспечыць саюз з сялянствам, калі ліберальная буржуазія будзе ізалявана, калі соцыял-дэмакратыя прыме актыўны ўдзел у справе арганізацыі народнага паўстання супроць царызма, калі будзе створан у рэзультаце пераможнага паўстання часовы рэволюцыйны ўрад, здольны выкарчаваць карэнні контррэволюцыі і склікаць усенародны Устаноўчы сход, калі соцыял-дэмакратыя не адмовіцца пры спрыяючых умовах прыняць удзел у часовым рэволюцыйным урадзе, каб давесці да канца рэволюцыю.

**Тактычная лінія канферэнцыі меншавікоў.** Паколькі рэволюцыя буржуазна, то правадыром рэволюцыі можа быць толькі ліберальная буржуазія. Не з сялянствам павінен зближацца пролетарыят, а з ліберальнай буржуазіяй. Галоўнае тут—не адпугнуць ліберальную буржуазію сваёй рэволюцыйнасцю і не даць ёй повадў адхіснуцца ад рэволюцыі, бо калі яна адхіснецца ад рэволюцыі, рэволюцыя аслабне.

Магчыма, што паўстанне пераможа, але соцыял-дэмакратыя пасля перамогі паўстання павінна адыйсці ў старану, каб не адпугнуць ліберальную буржуазію. Магчыма, што ў рэзультаце паўстання будзе

створан часовы рэволюцыйны ўрад, але социял-дэмакратыя ні ў якім выпадку не павінна прымаць у ім удзелу, таму што гэты ўрад не будзе соцыялістычным па свайму характару, а галоўнае—сваім удзелам у ім і сваёй рэволюцыйнасцю соцыял-дэмакратыя можа адпугнуць ліберальную буржуазію і тым падарваць рэволюцыю.

З пункту гледжання перспектыў рэволюцыі было-б лепш, калі-б была склікана якая-небудзь прадстаўнічая ўстанова, накшталт Земскага сабора ці Дзяржаўнай думы, якую можна было-б падвергнуць даўленню рабочага класа звонку, каб ператварыць яе ва Устаноўчы сход або штурхнуць яе на тое, каб яна склікала Устаноўчы сход.

У пролетарыята ёсць свае асобыя, чыста рабочыя, інтарэсы і яму патрэбна было-б заняцца гэтымі іменна інтарэсамі, а не прабаваць стаць правадыром буржуазнай рэволюцыі, якая з'яўляецца агульнапалітычнай рэволюцыяй і якая датычыць, стала быць, усіх класаў, а не толькі пролетарыята.

Такія былі, каротка, дзве тактыкі двух фракцый Расійскай соцыял-дэмакратычнай рабочай партыі.

Класічную крытыку тактыкі меншавікоў і геніяльнае абгрунтаванне большэвіцкай тактыкі даў Ленін у сваёй гістарычнай кнізе «Дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэволюцыі».

Яна была выпушчана ў свет у ліпені 1905 года, гэта значыць праз два месяцы пасля III з'езда партыі. Мяркуючы па загалоўку кнігі, можна было падумаць, што Ленін закранае ў ёй пытанні тактыкі толькі перыяду буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі і мае на ўвазе толькі рускіх меншавікоў. На самай справе, крытыкуючы тактыку меншавікоў, ён выкрываў разам з тым тактыку міжнароднага апартунізма, абгрунтоўваючы-ж тактыку марксістаў у перыяд буржуазнай рэволюцыі і праводзячы розніцу паміж рэволюцыяй буржуазнай і рэволюцыяй соцыялістычнай,—ён сфармуляваў разам з тым асновы марксіцкай тактыкі ў перыяд пераходу ад рэволюцыі буржуазнай да рэволюцыі соцыялістычнай.

Вось асноўныя тактычныя палажэнні, развітыя Ленінымі у яго брашуры «Дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэволюцыі».

1) Асноўным тактычным палажэннем, пранізваючым кнігу Леніна, з'яўляецца ідэя аб тым, што пролетарыят можа і павінен быць **правадыром** буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі, **кіраўніком** буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў Расіі.

Ленін прызнаваў буржуазны характар гэтай рэволюцыі, бо яна, як ён указваў, «не здольна **непасрэдна** выйсці з рамак толькі дэмакратычнага перавароту». Але ён лічыў, што яна з'яўляецца не вярхушачнай, а народнай рэволюцыяй, якая прыводзіць у рух увесь народ, увесь рабочы клас, усё сялянства. Таму спробы меншавікоў умаліць значэнне буржуазнай рэволюцыі для пролетарыята, прынізіць ролю пролетарыята ў ёй і адстраніць пролетарыят ад яе, Ленін лічыў здрадніцтвам інтарэсаў пролетарыята.

> «Марксізм, пісаў Ленін, вучыць пролетарыя не адстраненню ад буржуазнай рэволюцыі, не безудзельнасці да яе, не прадастаўленню кіраўніцтва ў ёй буржуазіі, а, наадварот, самаму энергічнаму ўдзелу, самай рашучай барацьбе за паслядоўны пролетарскі дэмакратызм, за давядзенне рэволюцыі да канца» (**Ленін,** т. VIII, стар. 58).
>
> «Мы павінны не забываць, пісаў далей Ленін, што няма і быць не можа ў цяперашні час другога сродку наблізіць соцыя-

лізм, як поўная палітычная свабода, як дэмакратычная рэспубліка» (там-жа, стар. 104).

Ленін прадбачыў два магчымыя зыходы рэволюцыі:

а) або справа скончыцца рашучай перамогай над царызмам, звяржэннем царызма і ўстанаўленнем дэмакратычнай рэспублікі;

б) або, калі няхопіць сіл, справа можа скончыцца здзелкай цара з буржуазіяй за кошт народа, якой-небудзь куцай канстытуцыяй, хутчэй за ўсё—карыкатурай на такую канстытуцыю.

Пролетарыят зацікаўлен у лепшым зыходзе, гэта значыць у рашучай перамозе над царызмам. Але такі зыход магчым толькі ў тым выпадку, калі пролетарыят здолее стаць правадыром, кіраўніком рэволюцыі.

> «Зыход рэволюцыі, пісаў Ленін, залежыць ад таго, ці адыграе рабочы клас ролю пасобніка буржуазіі, магутнага па сіле свайго націску на самадзяржаўе, але бяссільнага палітычна, ці ролю кіраўніка народнай рэволюцыі» (там-жа, стар. 32).

Ленін лічыў, што ў пролетарыята ёсць усе **магчымасці** пазбавіцца ад лёсу пасобніка буржуазіі і стаць кіраўніком буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі. Гэтыя магчымасці заключаюцца па Леніну ў наступным.

Па-першае, «пролетарыят, будучы па становішчу свайму найбольш перадавым і адзіным паслядоўна рэволюцыйным класам, тым самым заклікан адыграць кіруючую ролю ў агульнадэмакратычным рэволюцыйным руху Расіі» (там-жа, стар. 75).

Па-другое, пролетарыят мае сваю ўласную, незалежную ад буржуазіі, палітычную партыю, якая дае яму магчымасць згуртавацца «у адзіную і самастойную палітычную сілу» (там-жа, стар. 75).

Па-трэцяе, пролетарыят больш зацікаўлен у рашучай перамозе рэволюцыі, чым буржуазія, з прычыны чаго **«у пэўным сэнсе** буржуазная рэволюцыя **больш выгадна** пролетарыяту, чым буржуазіі» (там-жа, стар. 57).

> «Буржуазіі выгадна апірацца, пісаў Ленін, на некаторыя астаткі старыны супроць пролетарыята, напрыклад, на манархію, на пастаянную армію і т. п. Буржуазіі выгадна, каб буржуазная рэволюцыя не змяла вельмі рашуча ўсе астаткі старыны, а пакінула некаторыя з іх, гэта значыць, каб гэтая рэволюцыя была не зусім паслядоўна, не дайшла да канца, не была рашуча і бязлітасна... Буржуазіі выгадней, каб неабходныя пераўтварэнні ў буржуазна-дэмакратычным напрамку адбыліся больш павольна, паступова, асцярожна, нерашуча, шляхам рэформ, а не шляхам рэволюцыі... каб гэтыя пераўтварэнні як мага менш развівалі рэволюцыйнай самадзейнасці, ініцыятывы і энергіі простанароддзя, гэта значыць сялянства і асабліва рабочых, бо інакш рабочым тым лягчэй будзе, як гавораць французы, «пераkласці ружжо з аднаго пляча на другое», гэта значыць накіраваць супроць самой буржуазіі тую зброю, якою забяспечыць іх буржуазная рэволюцыя, тую свабоду, якую яна дасць, тыя дэмакратычныя ўстановы, якія ўзнікнуць на ачышчанай ад прыгонніцтва глебе. Наадварот, рабочаму класу выгадней, каб неабходныя пераўтварэнні ў буржуазна-дэмакратычным напрамку прайшлі іменна не рэфарматарскім, а рэволюцыйным шляхам, бо рэфарматарскі шлях ёсць шлях зацяжак, правалочак, мучыцельна-павольнага адмірання гніючых частак народнага арга-

нізма. Ад гніення іх церпяць перш за ўсё і больш за ўсё пролетарыят і сялянства. Рэволюцыйны шлях ёсць шлях быстрай, найменш балючай у адносінах да пролетарыята аперацыі, шлях прамога ўдалення гніючых частак, шлях найменшай уступчывасці і асцярожнасці ў адносінах да манархіі і адпавядаючых ёй агідных і гнусных, гнілых і заражаючых паветра гніеннем устаноў» (**Ленін**, т. VIII, стар. 57—58).

«Таму, прадаўжаў Ленін, пролетарыят і змагаецца за рэспубліку ў першых радах, з прэзрэннем адкідаючы недарэчныя і недастойныя яго парады лічыцца з тым, ці не адхіснецца буржуазія» (там-жа, стар. 94).

Для таго, каб **магчымасці** пролетарскага кіраўніцтва рэволюцыяй ператварыліся ў **сапраўднасць,** для таго, каб пролетарыят стаў **на справе** правадыром, кіраўніком буржуазнай рэволюцыі,—для гэтага неабходны па Леніну па крайняй меры дзве ўмовы.

Для гэтага неабходна, па-першае, каб у пролетарыята быў саюзнік, які быў-бы зацікаўлен у рашучай перамозе над царызмам і мог быць распалажан к таму, каб прыняць кіраўніцтва пролетарыята. Гэтага патрабавала сама ідэя кіраўніцтва, бо кіраўнік перастае быць кіраўніком, калі няма кіруемых, правадыр перастае быць правадыром, калі няма тых, каго трэба весці. Такім саюзнікам лічыў Ленін сялянства.

Для гэтага неабходна, па-другое, каб клас, які змагаецца з пролетарыятам за кіраўніцтва рэволюцыяй і дабіваецца таго, каб самому стаць яе адзіным кіраўніком,—быў адцяснён з арэны кіраўніцтва і ізаляван. Гэтага таксама патрабавала сама ідэя кіраўніцтва, якая выключае магчымасць дапушчэння двух кіраўнікоў рэволюцыі. Такім класам Ленін лічыў ліберальную буржуазію.

«Паслядоўным барацьбітом за дэмакратызм, пісаў Ленін, можа быць толькі пролетарыят. Пераможным барацьбітом за дэмакратызм ён можа аказацца толькі пры той умове, калі да яго рэволюцыйнай барацьбы далучыцца маса сялянства» (там-жа, стар. 65).

І далей:

«Сялянства ўключае ў сябе масу поўпролетарскіх элементаў побач з дробнабуржуазнымі. Гэта робіць яго таксама няўстойлівым, прымушаючы пролетарыят згуртавацца ў строга класавую партыю. Але няўстойлівасць сялянства карэнным чынам адрозніваецца ад няўстойлівасці буржуазіі, бо сялянства ў даны момант зацікаўлена не столькі ў безумоўнай ахове прыватнай уласнасці, колькі ў адабранні памешчыцкай зямлі, аднаго з галоўных відаў гэтай уласнасці. Не становячыся ад гэтага соцыялістычным, не перастаючы быць дробнабуржуазным, сялянства здольна стаць поўным і радыкальнейшым старроннікам дэмакратычнай рэволюцыі. Сялянства немінуча стане такім, калі толькі ход рэволюцыйных падзей, які прасвячае яго, не абарвецца вельмі рана прэдацельствам буржуазіі і паражэннем пролетарыята. Сялянства немінуча стане, пры ўказанай умове, аплотам рэволюцыі і рэспублікі, бо толькі цалкам перамогшая рэволюцыя зможа даць сялянству **ўсё** ў галіне зямельных рэформ, **усё тое,** чаго сялянства хоча, аб чым яно марыць, што сапраўды неабходна яму» (там-жа, стар. 94—95).

Разбіраючы пярэчанні меншавікоў, якія сцвярджалі, што падобная тактыка большэвікоў «прымусіць буржуазныя класы адхіснуцца ад справы рэволюцыі і тым аслабіць яе размах», і характарызуючы іх, як «тактыку прэдацельства рэволюцыі», як «тактыку ператварэння пролетарыята ў жалкага прыхвасня буржуазных класаў», Ленін пісаў:

> «Хто сапраўды разумее ролю сялянства ў пераможнай рускай рэволюцыі, той няздолен быў-бы гаварыць, што размах рэволюцыі аслабее, калі буржуазія адхіснецца. Бо на самай справе толькі тады пачнецца сапраўдны размах рускай рэволюцыі, толькі тады гэта будзе сапраўды найбольшы рэволюцыйны размах, магчымы ў эпоху буржуазна-дэмакратычнага пераварота, калі буржуазія адхіснецца і актыўным рэволюцыянерам выступіць маса сялянства побач з пролетарыятам. Для таго, каб быць паслядоўна даведзенай да канца, наша дэмакратычная рэволюцыя павінна абаперціся на такія сілы, якія здольны паралізаваць немінучую непаслядоўнасць буржуазіі, гэта значыць здольны іменна «прымусіць яе адхіснуцца» (там-жа, стар. 95—96).

Такаво асноўнае тактычнае палажэнне аб пролетарыяце, як праваднру буржуазнай рэволюцыі, асноўнае тактычнае палажэнне аб гегемоніі (кіруючай ролі) пролетарыята ў буржуазнай рэволюцыі, развітае Леніным у яго кнізе «Дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэволюцыі».

Гэта была новая ўстаноўка марксісцкай партыі па пытаннях тактыкі ў буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі, якая глыбока адрознівалася ад тактычных установак, існаваўшых да таго часу ў марксісцкім арсенале. Дагэтуль справа зводзілася к таму, што ў буржуазных рэволюцыях, напрыклад, на Захадзе, кіруючая роля аставалася за буржуазіяй, пролетарыят воляй-няволяй адыгрываў ролю яе пасобніка, а сялянства складала рэзерв буржуазіі. Марксісты лічылі такую камбінацыю больш ці менш немінучай, агаварваючыся тут-жа, што пролетарыят павінен пры гэтым адстойваць па магчымасці свае бліжэйшыя класавыя патрабаванні і мець сваю ўласную палітычную партыю. Цяпер, у новай гістарычнай абстаноўцы, справа паварачвалася па ўстаноўцы Леніна такім чынам, што пролетарыят станавіўся кіруючай сілай буржуазнай рэволюцыі, буржуазія адціралася ад кіраўніцтва рэволюцыяй, а сялянства ператваралася ў рэзерв пролетарыята.

Разгаворы аб тым, што Плеханаў «таксама стаяў» за гегемонію пролетарыята, асновацы на непаразуменні. Плеханаў какетнічаў з ідэяй гегемоніі пролетарыята і быў не супроць таго, каб прызнаць яе на словах,—гэта верна, але на справе ён стаяў супроць сутнасці гэтай ідэі. Гегемонія пролетарыята азначае кіруючую ролю пролетарыята ў буржазнай рэволюцыі пры палітыцы **саюза** пролетарыята і сялянства, пры палітыцы **ізаляцыі** ліберальнай буржуазіі, між тым як Плеханаў стаяў, як вядома, **супроць** палітыкі ізаляцыі ліберальнай буржуазіі, **за** палітыку **пагаднення** з ліберальнай буржуазіяй, **супроць** палітыкі саюза пролетарыята і сялянства. На самай справе тактычная ўстаноўка Плеханава была меншавіцкай устаноўкай адмаўлення гегемоніі пролетарыята.

2) Важнейшым сродкам звяржэння царызма і завааявання дэмакратычнай рэспублікі Ленін лічыў пераможнае ўзброенае паўстанне народа. Наперакор меншавікам Ленін лічыў, што «агульнадэмакратычны рэволюцыйны рух **ужо прывёў да неабходнасці** ўзброенага

паўстання», што «арганізацыя пролетарыята для паўстання» ужо «пастаўлена на чаргу дня, як адна з істотных, галоўных і **неабходных** задач партыі», што неабходна «прыняць **самыя энергічныя** меры для ўзбраення пролетарыята і забеспячэння магчымасці непасрэднага кіраўніцтва паўстаннем» (**Ленін**, т. VIII, стар. 75).

Каб падвесці масы да паўстання і зрабіць само паўстанне ўсенародным, Ленін лічыў неабходным даць такія лозунгі, такія заклікі да мас, якія-б маглі развязаць рэволюцыйную ініцыятыву мас, арганізаваць іх для паўстання і дэзарганізаваць апарат улады царызма. Такімі лозунгамі ён лічыў тактычныя рашэнні III з'езда партыі, абароне якіх была прысвечана кніга Леніна «Дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэволюцыі».

Такімі лозунгамі ён лічыў:

а) прымяненне «масавых палітычных стачак, якія могуць мець важнае значэнне ў пачатку і ў самым ходзе паўстання» (там-жа, стар. 75);

б) арганізацыю «неадкладнага ажыццяўлення рэволюцыйным шляхам 8-гадзіннага рабочага дня і іншых патрабаванняў рабочага класа, якія стаяць на чарзе» (там-жа, стар. 47);

в) «неадкладную арганізацыю рэволюцыйных сялянскіх камітэтаў для правядзення» рэволюцыйным шляхам «усіх дэмакратычных пераўтварэнняў» аж да канфіскацыі памешчыцкіх зямель (там-жа, стар. 88);

г) узбраенне рабочых.

Тут асабліва цікавы два моманты:

Па-першае, тактыка **рэволюцыйнага** ажыццяўлення 8-гадзіннага рабочага дня ў горадзе і дэмакратычных пераўтварэнняў на вёсцы, гэта значыць такое ажыццяўленне, якое не лічыцца з уладамі, не лічыцца з законам, ігнаруе і ўлады і законнасць, ламае існуючыя законы і ўстанаўлівае новыя парадкі самачынным шляхам, явачным парадкам. Гэта быў новы тактычны сродак, прымяненне якога паралізавала апарат улады царызма і развязала актыўнасць і творчую ініцыятыву мас. На аснове гэтай тактыкі выраслі рэволюцыйныя стачачныя камітэты ў горадзе і рэволюцыйныя сялянскія камітэты на вёсцы, з якіх першыя развіліся потым у Советы рабочых дэпутатаў, а другія—у Советы сялянскіх дэпутатаў.

Па-другое, прымяненне **масавых палітычных стачак,** прымяненне агульных палітычных стачак, якія адыгралі потым, у ходзе рэволюцыі, першаступенную ролю ў справе рэволюцыйнай мабілізацыі мас. Гэта была новая, вельмі важная зброя ў руках пролетарыята, невядомая да таго часу ў практыцы марксісцкіх партый і набыўшая потым права грамадзянства.

Ленін лічыў, што ў рэзультаце пераможнага паўстання народа царскі ўрад павінен быць заменен часовым рэволюцыйным урадам. Задачы часовага рэволюцыйнага ўрада заключаюцца ў тым, каб замацаваць заваяванні рэволюцыі, падавіць супраціўленне контррэволюцыі і ажыццявіць праграму-мінімум Расійскай соцыял-дэмакратычнай рабочай партыі. Ленін лічыў, што без ажыццяўлення гэтых задач немагчыма рашучая перамога над царызмам. А каб ажыццявіць гэтыя задачы і дабіцца рашучай перамогі над царызмам, часовы рэволюцыйны ўрад павінен быць не звычайным урадам, а ўрадам дыктатуры пераможных класаў, рабочых і сялян, ён павінен быць рэволюцыйнай дыктатурай пролетарыята і сялянства. Спасылаючыся на вядомае палажэнне Маркса аб тым, што «усякі часовы дзяржаўны

лад пасля рэволюцыі патрабуе дыктатуры і прытым энергічнай дыктатуры», Ленін прышоў да вываду, што часовы рэволюцыйны ўрад, калі ён хоча забяспечыць рашучую перамогу над царызмам, не можа быць нічым іншым, як дыктатурай пролетарыята і сялянства.

«Рашучая перамога рэволюцыі над царызмам, пісаў Ленін, ёсць **рэволюцыйна-дэмакратычная дыктатура пролетарыята і сялянства...** І такая перамога будзе іменна дыктатурай, гэта значыць яна немінуча павінна будзе апірацца на ваенную сілу, на ўзбраенне масы, на паўстанне, а не на тыя ці іншыя, «легальным», «мірным шляхам», створаныя ўстановы. Гэта можа быць толькі дыктатура, таму што ажыццяўленне пераўтварэнняў неадкладна і абавязкова патрэбных для пролетарыята і сялянства, выкліча адчайнае супраціўленне і памешчыкаў, і буйных буржуа, і царызма. Без дыктатуры зламаць гэтае супраціўленне, адбіць контррэволюцыйныя спробы немагчыма. Але гэта будзе, зразумела, не социялістычная, а дэмакратычная дыктатура. Яна не зможа закрануць (без цэлага раду прамежкавых ступеней рэволюцыйнага развіцця) асноў капіталізма. Яна зможа, у лепшым выпадку, унесці карэннае пераразмеркаванне зямельнай уласнасці на карысць сялянства, правесці паслядоўны і поўны дэмакратызм аж да рэспублікі, вырваць з коранем усе азіяцкія, кабальныя рысы не толькі з вясковага, але і фабрычнага быту, пакласці пачатак сур'ёзнаму палепшанню становішча рабочых і павышэнню іх жыццёвага ўзроўню, нарэшце—апошняе па ліку, але не па важнасці—перанесці рэволюцыйны пажар у Еўропу. Такая перамога нісколькі яшчэ не зробіць з нашай буржуазнай рэволюцыі рэволюцыю социялістычную; дэмакратычны пераварот не выйдзе непасрэдна з рамак буржуазных грамадска-эканамічных адносін; але тым не менш значэнне такой перамогі будзе гіганцкае для будучага развіцця і Расіі і ўсяго свету. Нішто не падніме да такой ступені рэволюцыйнай энергіі сусветнага пролетарыята, нішто не скароціць так моцна шляху, які вядзе да яго поўнай перамогі, як гэта рашучая перамога пачаўшайся ў Расіі рэволюцыі» (**Ленін,** т. VIII, стар. 62—63).

Што датычыць адносін социял-дэмакратыі да часовага рэволюцыйнага ўрада і дапушчальнасці ўдзелу ў ім социял-дэмакратыі, то Ленін поўнасцю адстойваў адпаведную рэзалюцыю III з'езда партыі, якая гаворыць:

«У залежнасці ад суадносін сіл і іншых фактараў, якія не паддаюцца дакладнаму папярэдняму вызначэнню, дапушчальны ўдзел у часовым рэволюцыйным урадзе ўпаўнаважаных нашай партыі, у мэтах бязлітаснай барацьбы з усімі контррэволюцыйнымі спробамі і адстойвання самастойных інтарэсаў рабочага класа; неабходнай умовай такога ўдзелу ставіцца строгі контроль партыі над яе ўпаўнаважанымі і няўхільная ахова незалежнасці социял-дэмакратыі, якая імкнецца да поўнага социялістычнага перавароту і пастолькі непрымірыма варожа ўсім буржуазным партыям; незалежна ад таго, ці магчым будзе ўдзел социял-дэмакратыі ў часовым рэволюцыйным урадзе, трэба прапагандаваць у самых шырокіх слаях пролетарыята ідэю неабходнасці пастаяннага даўлення на часовы ўрад з боку ўзброенага і кіруемага социял-дэмакратыяй пролетарыята ў мэтах аховы, умацавання і расшырэння заваяванняў рэволюцыі» (там-жа, стар. 37).

Пярэчанні меншавікоў аб тым, што часовы ўрад будзе ўсё-ж буржуазным урадам, што нельга дапускаць удзелу соцыял-дэмакратаў у такім урадзе, калі не жадаць зрабіць тую-ж памылку, якую дапусціў французскі соцыяліст Мільеран, які прыняў удзел ва французскім буржуазным урадзе,—Ленін адводзіў указаннем на тое, што меншавікі змешваюць тут дзве **розныя** рэчы і праяўляюць сваю няздольнасць па-марксісцку падыйсці да пытання: ва Францыі гутарка ішла аб удзеле соцыялістаў у **рэакцыйным** буржуазным урадзе ў перыяд **адсутнасці** рэволюцыйнага становішча ў краіне, і гэта абавязвала соцыялістаў не прымаць удзелу ў такім урадзе, у Расіі-ж гутарка ідзе аб удзеле соцыялістаў у **рэволюцыйным** буржуазным урадзе, які змагаецца за **перамогу рэволюцыі** ў перыяд **разгару** рэволюцыі,—акалічнасць, якая робіць **дапушчальным,** а пры спрыяючых умовах—**абавязковым** удзел соцыял-дэмакратаў у такім урадзе—для таго, каб біць контррэволюцыю не толькі «знізу», звонку, але і «зверху», знутры ўрада.

3) Выступаючы за перамогу буржуазнай рэволюцыі і заваяванне дэмакратычнай рэспублікі, Ленін зусім не думаў застраць на дэмакратычным этапе і абмежаваць размах рэволюцыйнага руху выкананнем буржуазна-дэмакратычных задач. Наадварот: Ленін лічыў, што следам за выкананнем дэмакратычных задач павінна будзе пачацца барацьба пролетарыята і іншых эксплуатуемых мас ужо за **соцыялістычную** рэволюцыю. Ленін ведаў гэта і лічыў абавязкам соцыял-дэмакратыі прыняць усе меры для таго, каб буржуазна-дэмакратычная рэволюцыя стала **перарастаць** у рэволюцыю соцыялістычную. Дыктатура пролетарыята і сялянства патрэбна была Леніну не для таго, каб, завяршыўшы перамогу рэволюцыі над царызмам, **закончыць** на гэтым рэволюцыю, а для таго, каб **прадоўжыць** як мага больш стан рэволюцыі, знішчыць ушчэнт астаткі контррэволюцыі, перакінуць у Еўропу полымя рэволюцыі і, даўшы за гэты час пролетарыяту прасвяціцца палітычна і арганізавацца ў вялікую армію,—пачаць прамы пераход да соцыялістычнай рэволюцыі.

Гаворачы аб размаху буржуазнай рэволюцыі і аб тым, які характар павінен быць надан гэтаму размаху марксісцкай партыяй, Ленін пісаў:

> «Пролетарыят павінен правесці да канца дэмакратычны пераварот, далучаючы да сябе масу сялянства, каб раздавіць сілай супраціўленне самадзяржаўя і паралізаваць няўстойлівасць буржуазіі. Пролетарыят павінен зрабіць соцыялістычны пераварот, далучаючы да сябе масу поўпролетарскіх элементаў насельніцтва, каб зламаць сілай супраціўленне буржуазіі і паралізаваць няўстойлівасць сялянства і дробнай буржуазіі. Такія задачы пролетарыята, якія так вузка прадстаўляюць новаіскраўцы (гэта значыць меншавікі.—**Рэд.**) ва ўсіх сваіх развважаннях і рэзалюцыях аб размаху рэволюцыі» (**Ленін,** т. VIII, стар. 96).

Або яшчэ:

> «На чале ўсяго народа і ў асаблівасці сялянства—за поўную свабоду, за паслядоўны дэмакратычны пераварот, за рэспубліку! На чале ўсіх працоўных і эксплуатуемых—за соцыялізм! Такая павінна быць на справе палітыка рэволюцыйнага пролетарыята, такі класавы лозунг, які павінен пранікаць і вызначаць сабой вырашэнне кожнага тактычнага пытання, кожны практычны крок рабочай партыі ў часе рэволюцыі» (там-жа, стар. 105).

Каб не асталося ніякіх няяснасцей, Ленін, праз два месяцы пасля выхаду ў свет яго кнігі «Дзве тактыкі», у артыкуле «Адносіны соцыял-дэмакратыі да сялянскага руху»—раз'ясняў:

«Ад рэволюцыі дэмакратычнай мы адразу-ж пачнем пераходзіць і якраз у меру нашай сілы, сілы свядомага і арганізаванага пролетарыята, пачнем пераходзіць да соцыялістычнай рэволюцыі. Мы стаім за бесперапынную рэволюцыю. Мы не спынімся на поўдарозе» (там-жа, стар. 186).

Гэта была новая ўстаноўка па пытанню аб суадносінах паміж буржуазнай і соцыялістычнай рэволюцыямі, новая тэорыя перагрупіроўкі сіл вакол пролетарыята к канцу буржуазнай рэволюцыі для прамога пераходу да соцыялістычнай рэволюцыі,—тэорыя **перарастання** буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў рэволюцыю соцыялістычную.

Выпрацоўваючы гэтую новую ўстаноўку, Ленін апіраўся, па-першае, на вядомае палажэнне Маркса аб бесперапыннай рэволюцыі, данае ў канцы саракавых гадоў мінулага века ў «Звароце да Саюза комуністаў», і, па-другое, на вядомую мысль Маркса аб неабходнасці спалучэння сялянскага рэволюцыйнага руху з пролетарскай рэволюцыяй, выказаную ў пісьме на імя Энгельса ў 1856 г., дзе ён гаварыў: «уся справа ў Германіі будзе залежаць ад магчымасці падтрымаць пролетарскую рэволюцыю якім-небудзь другім выданнем сялянскай вайны». Але гэтыя геніяльныя мыслі Маркса не атрымалі потым свайго развіцця ў працах Маркса і Энгельса, а тэарэтыкі II Інтэрнацыянала прынялі ўсе меры для таго, каб пахаваць іх у труну і забыць іх. На долю Леніна выпала задача—выцягнуць на свет забытыя палажэнні Маркса і аднавіць іх поўнасцю. Але, аднаўляючы гэтыя палажэнні Маркса, Ленін не абмежаваўся,—і не мог абмежавацца,— іх простым паўтарэннем, а развіў іх далей і перапрацаваў у стройную тэорыю соцыялістычнай рэволюцыі, уводзячы ў справу новы момант, як **абавязковы** момант соцыялістычнай рэволюцыі,—**саюз** пролетарыята і поўпролетарскіх элементаў горада і вёскі, як **умову** перамогі пролетарскай рэволюцыі.

Гэта ўстаноўка разбівала ў прах тактычныя пазіцыі заходне-еўрапейскай соцыял-дэмакратыі, якая зыходзіла з таго, што пасля буржуазнай рэволюцыі сялянскія масы, у тым ліку і бядняцкія масы,— павінны абавязкова адыйсці ад рэволюцыі, з прычыны чаго пасля буржуазнай рэволюцыі павінен наступіць доўгі перыяд **перапынку,** доўгі перыяд «заміраэння» у 50—100 год, калі не больш, на працягу якога пролетарыят будзе «мірна» эксплуатавацца, а буржуазія—«законна» нажывацца, пакуль не надыйдзе час для новай, соцыялістычнай рэволюцыі.

Гэта была новая тэорыя **соцыялістычнай** рэволюцыі, ажыццяўляемай не ізаляваным пролетарыятам супроць **усёй** буржуазіі, а пролетарыятам—гегемонам, які мае **саюзнікаў** у асобе поўпролетарскіх элементаў насельніцтва, у асобе мільёнаў «працоўных і эксплуатуемых мас».

Па гэтай тэорыі гегемонія пролетарыята ў буржуазнай рэволюцыі **пры саюзе** пролетарыята і сялянства павінна была перарасці ў гегемонію пролетарыята ў соцыялістычнай рэволюцыі **пры саюзе** пролетарыята і астатніх працоўных і эксплуатуемых мас, а дэмакратычная дыктатура пролетарыята і сялянства павінна была падрыхтаваць глебу для соцыялістычнай дыктатуры пролетарыята.

Яна апракідвала хадзячую тэорыю заходне-еўрапейскіх сацыял-дэмакратаў, якія адмаўлялі рэволюцыйныя магчымасці поўпролетарскіх мас горада і вёскі і выходзілі з таго, што «апрача буржуазіі і пролетарыята мы не бачым іншых грамадскіх сіл, на якія маглі-б у нас апірацца апазіцыйныя або рэволюцыйныя камбінацыі» (словы Плеханава, тыповыя для заходне-еўрапейскіх сацыял-дэмакратаў).

Заходне-еўрапейскія сацыял-дэмакраты лічылі, што ў сацыялістычнай рэволюцыі пролетарыят будзе адзін супроць усёй буржуазіі, без саюзнікаў, супроць усіх непролетарскіх класаў і слаёў. Яны не хацелі лічыцца з тым фактам, што капітал эксплуатуе не толькі пролетарыяў, але і мільёны поўпролетарскіх слаёў горада і вёскі, якія задаўлены капіталізмам і могуць быць саюзнікамі пролетарыята ў барацьбе за вызваленне грамадства ад капіталістычнага гнёту. Таму заходне-еўрапейскія сацыял-дэмакраты лічылі, што ўмовы для сацыялістычнай рэволюцыі ў Еўропе яшчэ не выспелі, што гэтыя ўмовы можна лічыць выспеўшымі толькі тады, калі пролетарыят стане большасцю нацыі, большасцю грамадства ў рэзультаце далейшага эканамічнага развіцця грамадства.

Гэту гнілую і антыпролетарскую ўстаноўку заходне-еўрапейскіх сацыял-дэмакратаў апракідвала ўверх дном ленінская тэорыя сацыялістычнай рэволюцыі.

У тэорыі Леніна не было яшчэ прамога вываду аб магчымасці перамогі сацыялізма ў адной, асобна ўзятай краіне. Але ў ёй былі закладзены ўсе або амаль усе асноўныя элементы, неабходныя для таго, каб зрабіць рана ці позна такі вывад.

Як вядома, да такога вываду прышоў Ленін у 1915 годзе, гэта значыць праз 10 год.

Такія асноўныя тактычныя палажэнні, развітыя Леніным у яго гістарычнай кнізе: «Дзве тактыкі сацыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэволюцыі».

Гістарычнае значэнне гэтай працы Леніна заключаецца перш за ўсё ў тым, што ён разграміў ідэйна дробнабуржуазную тактычную ўстаноўку меншавікоў, узброіў рабочы клас Расіі для далейшага разгортвання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі, для новага націску на царызм і даў рускім сацыял-дэмакратам ясную перспектыву неабходнасці перарастання буржуазнай рэволюцыі ў рэволюцыю сацыялістычную.

Але гэтым не вычэрпваецца значэнне працы Леніна. Яго неацэнімае значэнне заключаецца ў тым, што ён узбагаціў марксізм новай тэорыяй рэволюцыі і заклаў асновы той рэволюцыйнай тактыкі большэвіцкай партыі, пры дапамозе якой пролетарыят нашай краіны атрымаў у 1917 годзе перамогу над капіталізмам.

### 4. Далейшы ўздым рэволюцыі. Усерасійская палітычная стачка ў кастрычніку 1905 года. Адступленне царызма. Царскі маніфест. Паяўленне Советаў рабочых дэпутатаў.

К восені 1905 года рэволюцыйны рух ахапіў усю краіну. Ён нарастаў з велізарнаю сілай.

19 верасня ў Маскве пачалася забастоўка друкароў. Яна перакінулася ў Пецербург і рад іншых гарадоў. У самой Маскве забастоўка друкароў была падтрымана рабочымі іншых вытворчасцей, ператварылася ў агульную палітычную стачку.

У пачатку кастрычніка пачалася забастоўка на Маскоўска-Казан-

скай чыгунцы. Праз дзень забаставаў увесь маскоўскі чыгуначны вузел. У хуткім часе забастоўкай былі ахоплены ўсе чыгункі краіны. Спынілі работу пошта і тэлеграф. Рабочыя ў розных гарадах Расіі збіраліся на многатысячныя мітынгі і рашалі спыніць работу. Забастоўка ахапляла фабрыку за фабрыкай, завод за заводам, горад за горадам, раён за раёнам. Да бастуючых рабочых далучаліся дробныя служачыя, навучаючыяся, інтэлігенцыя—адвакаты, інжынеры, урачы.

Кастрычніцкая палітычная забастоўка стала ўсерасійскай, ахапіўшы амаль усю краіну, аж да самых аддаленых раёнаў, ахапіўшы амаль усіх рабочых, аж да самых адсталых слаёў. Ва ўсеагульнай палітычнай стачцы прымала ўдзел каля мільёна адных толькі прамысловых рабочых, не лічачы чыгуначнікаў, паштова-тэлеграфных служачых і іншых, якія таксама далі вялікую колькасць бастуючых. Усё жыццё краіны было прыпынена. Сіла ўрада была паралізавана.

Рабочы клас узначаліў барацьбу народных мас супроць самадзяржаўя.

Лозунг большэвікоў аб масавай палітычнай стачцы даў свае рэзультаты.

Кастрычніцкая ўсеагульная забастоўка, якая паказала сілу, магутнасць пролетарскага руху, прымусіла насмерць перапалоханага цара выступіць з маніфестам 17 кастрычніка. У маніфесце 17 кастрычніка 1905 года былі абяцаны народу «непахісныя асновы грамадзянскай свабоды: сапраўдная недатыкальнасць асобы, свабода совесці, слова, сходаў і саюзаў». Абяцана было склікаць законадаўчую думу, прыцягнуць да выбараў усе класы насельніцтва.

Такім чынам, была змецена сілай рэволюцыі булыгінская дарадчая дума. Большэвіцкая тактыка байкоту булыгінскай думы аказалася правільнай.

І ўсё-ж, не гледзячы на гэта, маніфест 17 кастрычніка быў абманам народных мас, царскай улоўкай, свайго роду перадышкай, неабходнай цару для таго, каб усыпіць лёгкаверных, выйграць час, сабрацца з сіламі і потым ударыць па рэволюцыі. Царскі ўрад, на словах абяцаючы свабоду, на справе нічога істотнага не даў. Рабочыя і сяляне пакуль-што нічога, апрача абяцанняў, ад урада не атрымалі. Замест чакаўшайся шырокай палітычнай амністыі 21 кастрычніка была дана амністыя нязначнай часткі палітычных зняволеных. У той-жа час у мэтах раз'яднання сіл народа ўрад арганізаваў рад крывавых яўрэйскіх пагромаў, у часе якіх загінулі тысячы і тысячы людзей, а для расправы з рэволюцыяй стварыў бандыцкія паліцэйскія арганізацыі: «Саюз рускага народа», «Саюз Міхаіла Архангела». Гэтыя арганізацыі, у якіх відную ролю адыгрывалі рэакцыйныя памешчыкі, купцы, папы і поўкрымінальныя элементы з басякоў, народ ахрысціў «чорнай сотняй». Чорнасоценцы адкрыта збівалі і забівалі пры садзеянні паліцыі перадавых рабочых, рэволюцыянераў з інтэлігенцыі, студэнтаў, падпальвалі і расстрэльвалі мітынгі і сходы грамадзян. Так выглядалі пакуль-што рэзультаты царскага маніфеста.

Тады ў хаду была ў народзе такая песенька аб маніфесце цара:

«Царь испугался, издал манифест:
Мертвым—свобода, живых—под арест».

Большэвікі растлумачвалі масам, што маніфест 17 кастрычніка—пастка. Паводзіны ўрада пасля маніфеста яны заклеймілі, як правакацыю. Большэвікі заклікалі рабочых да зброі, да падрыхтоўкі ўзброенага паўстання.

Рабочыя яшчэ больш энергічна прыняліся за стварэнне баявых дружын. Ім стала ясна, што першая перамога 17 кастрычніка, вырваная ўсеагульнай палітычнай забастоўкай, патрабуе ад іх далейшых намаганняў, далейшай барацьбы для зваржэння царызма.

Маніфест 17 кастрычніка Ленін ацэньваў, як момант некаторай часовай роўнавагі сіл, калі пролетарыят і сялянства, вырваўшы ў цара маніфест, **яшчэ не ў сілах** зваліць царызм, а **царызм ужо не можа** кіраваць толькі ранейшымі сродкамі і вымушан **абяцаць** на словах «грамадзянскія свабоды» і «законадаўчую» думу.

У бурныя дні кастрычніцкай палітычнай стачкі, у агні барацьбы з царызмам, рэволюцыйная творчасць рабочых мас стварыла новую магутную зброю—Советы рабочых дэпутатаў.

Советы рабочых дэпутатаў, якія прадстаўлялі сход дэлегатаў ад усіх фабрык і заводаў, былі нябачанай яшчэ ў свеце масавай палітычнай арганізацыяй рабочага класа. Советы, якія ўпершыню нарадзіліся ў 1905 годзе, з'явіліся **прэобразам** Совецкай улады, створанай пролетарыятам пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі ў 1917 годзе. Советы з'явіліся новай рэволюцыйнай формай народнай творчасці. Яны ствараліся выключна рэволюцыйнымі слаямі насельніцтва, ламаючы ўсякія законы і нормы царызма. Яны былі праяўленнем самадзейнасці народа, які паднімаўся на барацьбу супроць царызма.

Большэвікі разглядалі Советы як зачаткі рэволюцыйнай улады. Яны лічылі, што сіла і значэнне Советаў залежаць цалкам ад сілы і поспеху паўстання.

Меншавікі не лічылі Советы ні зачатачнымі органамі рэволюцыйнай улады, ні органамі паўстання. Яны глядзелі на іх, як на органы мясцовага самакіраўніцтва, накшталт дэмакратызаваных гарадскіх самакіраўніцтваў.

13 (26) кастрычніка 1905 года ў Пецербургу на ўсіх фабрыках і заводах адбываліся выбары ў Совет рабочых дэпутатаў. Ноччу адбылося першае пасяджэнне Совета. Услед за Пецербургам арганізуецца Совет рабочых дэпутатаў у Маскве.

Совет рабочых дэпутатаў Пецербурга, як Совет буйнейшага прамысловага і рэволюцыйнага цэнтра Расіі, сталіцы царскай імперыі, павінен быў адыграць рашаючую ролю ў рэволюцыі 1905 года. Аднак, ён сваіх задач не выканаў з прычыны дрэннага, меншавіцкага кіраўніцтва Советам. Як вядома, Леніна не было яшчэ тады ў Пецербургу, ён усё яшчэ знаходзіўся за граніцай. Меншавікі скарысталі адсутнасць Леніна, прабраліся ў Пецербургскі Совет і захвацілі ў ім кіраўніцтва. Нядзіўна, што пры такіх умовах меншавікам Хрусталёву, Троцкаму, Парвусу і іншым удалося павярнуць Пецербургскі Совет супроць палітыкі паўстання. Замест таго, каб зблізіць салдат з Советам і звязаць іх у агульнай барацьбе, яны патрабавалі ўдалення салдат з Пецербурга. Замест таго, каб узброіць рабочых і рыхтаваць іх да паўстання, Совет таптаўся на месцы і адмоўна адносіўся да падрыхтоўкі паўстання.

Зусім іншую ролю адыграў у рэволюцыі Маскоўскі Совет рабочых дэпутатаў. Маскоўскі Совет з першых-жа дзён свайго існавання праводзіў да канца рэволюцыйную палітыку. Кіраўніцтва ў Маскоўскім Совеце належала большэвікам. Дзякуючы большэвікам побач з Советам рабочых дэпутатаў узнік у Маскве Совет салдацкіх дэпутатаў. Маскоўскі Совет стаў органам узброенага паўстання.

На працягу кастрычніка—снежня 1905 года Советы рабочых дэпутатаў былі створаны ў радзе буйных гарадоў і амаль ва ўсіх рабо-

чых цэнтрах. Былі зроблены спробы арганізаваць Советы салдацкіх і матроскіх дэпутатаў, аб'яднаць іх з Советамі рабочых дэпутатаў. Сям-там створаны былі Советы рабочых і сялянскіх дэпутатаў.

Уплыў Советаў быў велізарны. Не гледзячы на тое, што яны часта ўзнікалі стыхійна, былі не аформлены і расплывучаты ў сваім саставе, яны дзейнічалі, як улада. Советы захватным шляхам ажыццяўлялі свабоду друку, устанаўлялі 8-гадзінны рабочы дзень, звярталіся да народа з заклікам не плаціць падаткаў царскаму ўраду. У асобных выпадках яны канфіскоўвалі грошы царскага ўрада і накіроўвалі іх на патрэбы рэволюцыі.

### 5. Снежаньскае ўзброенае паўстанне. Паражэнне паўстання. Адступленне рэволюцыі. Першая Дзяржаўная дума. IV (Аб'яднаўчы) з'езд партыі.

У кастрычніку і лістападзе 1905 года рэволюцыйная барацьба мас прадаўжала развівацца з велізарнаю сілай. Прадаўжаліся забастоўкі рабочых.

Барацьба сялян супроць памешчыкаў восенню 1905 года набыла шырокія размеры. Сялянскім рухам было ахоплена больш трэці паветаў па ўсёй краіне. Саратаўская, Тамбоўская, Чэрнігаўская, Тыфліская, Кутаіская і некаторыя іншыя губерніі былі ахоплены сапраўднымі сялянскімі паўстаннямі. І ўсё-ж націск сялянскіх мас быў яшчэ недастатковы. Сялянскаму руху нехапала арганізаванасці і кіраўніцтва.

Узмацніліся хваляванні і сярод салдат у радзе гарадоў—Тыфлісе, Уладзівастоку, Ташкенце, Самаркандзе, Курску, Сухумі, Варшаве, Кіеве, Рыге. Успыхнула паўстанне ў Кранштаце і сярод матросаў Чорнаморскага флота ў Севастопалі (у лістападзе 1905 года). Але, будучы разрозненымі, гэтыя паўстанні былі падаўлены царызмам.

Повадам да паўстанняў у асобных часцях арміі і флота нярэдка з'яўлялася надта грубае абыходжанне афіцэраў, дрэннае харчаванне («гарохавыя бунты») і т. д. У масы паўстаўшых матросаў і салдат не было яшчэ яснага ўсведамлення неабходнасці звергнуць царскі ўрад, неабходнасці энергічнага прадаўжэння ўзброенай барацьбы. Паўстаўшыя матросы і салдаты былі яшчэ вельмі мірна, добрадушна настроены, нярэдка яны рабілі памылку, вызваляючы арыштаваных у пачатку паўстання афіцэраў, і давалі сябе супакоіць абяцаннямі і ўгаворамі начальства.

Рэволюцыя ўшчыльную падыйшла да ўзброенага паўстання. Большэвікі клікалі масы да ўзброенага паўстання супроць цара і памешчыкаў, растлумачвалі ім яго немінучасць. Не пакладаючы рук, большэвікі падрыхтоўвалі ўзброенае паўстанне. Вялася рэволюцыйная работа сярод салдат і матросаў, былі створаны ў арміі ваенныя арганізацыі партыі. Створаны былі ў радзе гарадоў баявыя дружыны з рабочых, дружыннікаў абучалі валодаць зброяй. Арганізавана была закупка зброі за граніцай і адпраўка яе тайна ў Расію. У арганізацыі транспарта зброі прымалі ўдзел відныя работнікі партыі.

У лістападзе 1905 года Ленін вярнуўся ў Расію. Скрываючыся ад царскіх жандармаў і шпіёнаў, Ленін прымаў у гэтыя дні непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы ўзброенага паўстання. Яго артыкулы ў большэвіцкай газеце «Новая жизнь» служылі ўказаннямі ў штодзеннай рабоце партыі.

У гэты час тав. Сталін праводзіў велізарную рэволюцыйную работу ў Закаўказзі. Тав. Сталін выкрываў і граміў меншавікоў, як праціў-

нікаў рэволюцыі і ўзброенага паўстання. Ён цвёрда рыхтаваў рабочых да рашучага бою супроць самадзяржаўя. На мітынгу ў Тыфлісе ў дзень абвяшчэння царскага маніфеста тав. Сталін гаварыў рабочым:

«Што патрэбна нам, каб сапраўды перамагчы? Для гэтага патрэбны тры рэчы: першае—узбраенне, другое—узбраенне, трэцяе—яшчэ і яшчэ раз узбраенне».

У снежні 1905 года ў Фінляндыі, у Тамерфорсе, сабралася канферэнцыя большэвікоў. Хоць большэвікі і меншавікі фармальна знаходзіліся ў адной соцыял-дэмакратычнай партыі, яны фактычна складалі дзве розныя партыі са сваімі асобнымі цэнтрамі. На гэтай канферэнцыі ўпершыню асабіста сустрэліся Ленін і Сталін. Да гэтага яны падтрымлівалі сувязь паміж сабою пісьмамі або праз таварышоў.

З рашэнняў Тамерфорскай канферэнцыі трэба адзначыць два рашэнні: адно—аб аднаўленні адзінства партыі, фактычна расколатай на дзве партыі, і другое—аб байкоце першай так званай вітэўскай думы.

Паколькі к гэтаму часу ў Маскве пачалося ўжо ўзброенае паўстанне, то, па парадзе Леніна, канферэнцыя спешна закончыла сваю работу, і дэлегаты раз'ехаліся на месцы, каб прыняць у паўстанні асабісты ўдзел.

Але не драмаў і царскі ўрад. Ён таксама рыхтаваўся да рашучай барацьбы. Заключыўшы мір з Японіяй і аблягчыўшы гэтым сваё цяжкае становішча, царскі ўрад перайшоў у наступленне на рабочых і сялян. Царскі ўрад абвясціў на ваенным становішчы рад губерній, ахопленых сялянскімі паўстаннямі, выдаў лютыя загады—«арыштаваных не мець», «патронаў не шкадаваць», распарадзіўся арыштаваць кіраўнікоў рэволюцыйнага руху і разагнаць Советы рабочых дэпутатаў.

Маскоўскія большэвікі і кіруемы імі Маскоўскі Совет рабочых дэпутатаў, звязаны з шырокімі масамі рабочых, рашылі ў сувязі з гэтым правесці неадкладную падрыхтоўку да ўзброенага паўстання. 5 (18) снежня Маскоўскі камітэт прыняў рашэнне: прапанаваць Совету абвясціць агульнапалітычную забастоўку, з тым, каб у ходзе барацьбы перавесці яе ў паўстанне. Гэтае рашэнне было падтрымана на масавых рабочых сходах. Маскоўскі Совет улічыў волю рабочага класа і аднадушна пастанавіў пачаць усеагульную палітычную забастоўку.

Пролетарыят Масквы, пачынаючы паўстанне, меў сваю баявую арганізацыю—каля тысячы дружыннікаў, з якіх больш паловы было большэвікоў. Баявыя дружыны былі таксама на радзе фабрык Масквы. У цэлым паўстанцы мелі каля двух тысяч дружыннікаў. Рабочыя разлічвалі нейтралізаваць гарнізон, адкалоць частку гарнізона і павесці яе за сабой.

7 (20) снежня пачалася ў Маскве палітычная забастоўка. Аднак, забастоўку не ўдалося пашырыць на ўсю краіну,—яна недастаткова была падтрымана ў Пецербургу, і гэта з самага пачатку аслабляла шансы на поспех паўстання. Нікалаеўская, цяпер Окцябрская, чыгунка асталася ў руках царскага ўрада. Рух на гэтай чыгунцы не спыняўся, і ўрад мог перакідваць з Пецербурга ў Маскву гвардзейскія палкі для падаўлення паўстання.

У самой Маскве гарнізон хістаўся. Часткова разлічваючы на падтрыманне гарнізона, рабочыя пачалі паўстанне. Але рэволюцыянеры ўпусцілі час, і царскі ўрад справіўся з хваляваннямі ў гарнізоне.

9 (22) снежня паявіліся ў Маскве першыя барыкады. У хуткім часе вуліцы Масквы пакрыліся барыкадамі. Царскі ўрад пусціў у ход артылерыю. Ён сабраў войскі, якія ў многа раз перавышалі сілы паўстанцаў. На працягу 9 дзён некалькі тысяч узброеных рабочых вялі гераічную барацьбу. Толькі перакінуўшы палкі з Пецербурга, Тверы і Заходняга края, царызм змог падавіць паўстанне. Кіруючыя органы паўстання былі напярэдадні самага бою часткай арыштаваны, часткай ізаляваны. Маскоўскі камітэт большэвікоў быў арыштован. Узброенае выступленне ператварылася ў паўстанне асобных раёнаў, раз'яднаных між сабою. Страціўшы кіруючы цэнтр, не маючы агульнага па гораду плана барацьбы, раёны абмяжоўваліся галоўным чынам абаронай. Гэта было асноўнай крыніцай слабасці Маскоўскага паўстання і адной з прычын яго паражэння, як пазней адзначаў Ленін.

Асабліва ўпорны і жорсткі характар насіла паўстанне на Краснай Прэсні ў Маскве. Красная Прэсня была галоўнай крэпасцю паўстання, яе цэнтрам. Тут сканцэнтраваліся лепшыя баявыя дружыны, якімі кіравалі большэвікі. Але Красная Прэсня была падаўлена агнём і мечам, заліта крывёю, пылала ў полымі пажараў, запаленых артылерыяй. Маскоўскае паўстанне было падаўлена.

Паўстанне мела месца не толькі ў Маскве. Рэволюцыйнымі паўстаннямі быў ахоплен таксама рад іншых гарадоў і раёнаў. Узброеныя паўстанні былі ў Краснаярску, Матавіліхе (Перм), Новарасійску, Сормаве, Севастопалі, Кранштаце.

На ўзброеную барацьбу падняліся і прыгнечаныя народы Расіі. Амаль уся Грузія была ахоплена паўстаннем. Вялікае паўстанне адбылося на Украіне ў Данбасе: Горлаўцы, Александраўску, Луганску (Варашылаўград). Упорны характар насіла барацьба ў Латвіі. У Фінляндыі рабочыя стварылі сваю Чырвоную гвардыю і паднялі паўстанне.

Але ўсе гэтыя паўстанні, таксама як і Маскоўскае, былі з бесчалавечнай лютасцю падаўлены царызмам.

**Меншавікі і большэвікі далі розную ацэнку снежаньскаму ўзброенаму паўстанню.**

Меншавік Плеханаў пасля ўзброенага паўстання кінуў папрок партыі: «Не трэба было брацца за зброю». Меншавікі даказвалі, што паўстанне—непатрэбная і шкодная справа, што ў рэволюцыі можна абыйсціся без паўстання, што поспеху можна дабіцца не ўзброеным паўстаннем, а мірнымі сродкамі барацьбы.

Большэвікі кляймілі такую ацэнку, як здрадніцкую. Яны лічылі, што вопыт Маскоўскага ўзброенага паўстання толькі пацвердзіў магчымасць паспяховай узброенай барацьбы рабочага класа. На папрок Плеханава: «Не трэба было брацца за зброю», Ленін адказваў:

> «Наадварот, трэба было больш рашуча, энергічна і наступацельна брацца за зброю, трэба было растлумачваць масам немагчымасць адной толькі мірнай стачкі і неабходнасць бясстрашнай і бязлітаснай узброенай барацьбы» (**Ленін**, т. X, стар. 50).

Снежаньскае паўстанне 1905 года было вышэйшым пунктам рэволюцыі. У снежні царскае самадзяржаўе нанесла паўстанню паражэнне. Пасля паражэння снежаньскага паўстання пачаўся паварот да паступовага адступлення рэволюцыі. Уздым рэволюцыі змяніўся яе паступовым спадам.

Царскі ўрад спяшаўся скарыстаць гэтае паражэнне для таго, каб дабіць рэволюцыю. Царскія каты і турэмшчыкі разгарнулі сваю крывавую работу. Карныя экспедыцыі ў Польшчы, Латвіі, Эстоніі, Закаўказзі, Сібіры лютавалі ва-ўсю.

Аднак, рэволюцыя яшчэ не была падаўлена. Рабочыя і рэволюцыйныя сяляне адступалі павольна з баямі. У барацьбу ўцягваліся новыя слаі рабочых. У стачках прымала ўдзел у 1906 годзе звыш мільёна рабочых. У 1907 годзе—740 тысяч. Сялянскі рух у першай палавіне 1906 года ахапіў каля палавіны паветаў царскай Расіі, у другой палавіне года—адну пятую ўсіх паветаў. Прадаўжаліся хваляванні ў арміі і ва флоце.

Царскі ўрад не абмяжоўваўся ў сваёй барацьбе супроць рэволюцыі аднымі толькі рэпрэсіямі. Дабіўшыся першых поспехаў дзякуючы рэпрэсіям, ён рашыў нанесці новы ўдар рэволюцыі шляхам склікання новай «законадаўчай» думы. Ён разлічваў скліканнем такой думы адкалоць сялян ад рэволюцыі і даканаць гэтым рэволюцыю. У снежні 1905 года царскі ўрад выдаў закон аб скліканні новай «законадаўчай думы», у адрозненне ад старой «дарадчай» булыгінскай думы, якая была змецена большэвіцкім байкотам. Царскі выбарчы закон быў, вядома, антыдэмакратычным. Выбары былі не ўсеагульныя. Больш палавіны насельніцтва наогул было пазбаўлена права голасу, напрыклад, жанчыны і звыш 2 мільёнаў рабочых. Выбары былі не роўныя. Выбаршчыкі былі разбіты на 4 курыі, як тады гаварылі: землеўладальніцкую (памешчыкі), гарадскую (буржуазія), сялянскую і рабочую. Выбары былі не прамыя, а многаступенныя. Выбары фактычна былі не тайныя. Выбарчы закон забяспечваў велізарную перавагу ў думе кучкі памешчыкаў і капіталістаў над мільёнамі рабочых і сялян.

Думай цар хацеў адцягнуць масы ад рэволюцыі. Значная частка сялянства верыла ў той час у магчымасць праз думу атрымаць зямлю. Кадэты, меншавікі і эсэры абманвалі рабочых і сялян—быццам без паўстання, без рэволюцыі можна дабіцца патрэбных народу парадкаў. У барацьбе з гэтым абманам народа большэвікі абвясцілі і правялі тактыку байкота I Дзяржаўнай думы згодна рашэнню, прынятаму на Тамерфорскай канферэнцыі.

Ведучы барацьбу з царызмам, рабочыя патрабавалі разам з тым адзінства сіл партыі, аб'яднання партыі пролетарыята. Большэвікі, узброеныя вядомым рашэннем Тамерфорскай канферэнцыі аб адзінстве, падтрымлівалі гэта патрабаванне рабочых і прапанавалі меншавікам склікаць аб'яднаўчы з'езд партыі. Пад напорам рабочых мас меншавікі вымушаны былі згадзіцца на аб'яднанне.

Ленін быў за аб'яднанне, але ён быў за такое аб'яднанне, пры якім не змазваліся-б рознагалоссі па пытаннях рэволюцыі. Вялікую шкоду партыі прыносілі прымірэнцы (Багданаў, Красін і іншыя), якія стараліся даказаць, што няма сур'ёзных рознагалоссяў паміж большэвікамі і меншавікамі. Ваюючы з прымірэнцамі, Ленін патрабаваў, каб большэвікі прышлі на з'езд са сваёй платформай, каб рабочым ясна было, на якіх пазіцыях стаяць большэвікі і на якой аснове адбываецца аб'яднанне. Большэвікі выпрацавалі такую платформу і пусцілі на абмеркаванне членаў партыі.

У красавіку 1906 года сабраўся ў Стакгольме (Швецыя) IV з'езд РСДРП, названы Аб'яднаўчым. На з'ездзе прысутнічала 111 дэлегатаў з рашаючым голасам, якія прадстаўлялі 57 мясцовых арганізацый партыі. Апрача таго, на з'ездзе былі прадстаўнікі нацыянальных

соцыял-дэмакратычных партый: 3—ад Бунда, 3—ад Польскай соцыял-дэмакратычнай партыі і 3—ад латышскай соцыял-дэмакратычнай арганізацыі.

З прычыны разгрому большэвіцкіх арганізацый у часе і пасля снежаньскага паўстання не ўсе яны маглі паслаць дэлегатаў. Апрача таго, меншавікі ў «дні свабоды» 1905 года прынялі ў свае рады масу дробнабуржуазнай інтэлігенцыі, якая нічога агульнага не мела з рэволюцыйным марксізмам. Дастаткова ўказаць на тое, што тыфліскія меншавікі (а ў Тыфлісе было мала прамысловых рабочых) паслалі столькі-ж дэлегатаў на з'езд, колькі паслала буйнейшая пролетарская арганізацыя—пецербургская. З прычыны гэтага на Стакгольмскім з'ездзе большасць, праўда, нязначная, аказалася на баку меншавікоў.

Такі састаў з'езда вызначыў меншавіцкі характар рашэнняў па цэламу раду пытанняў.

На гэтым з'ездзе адбылося толькі **фармальнае** аб'яднанне. Па сутнасці большэвікі і меншавікі аставаліся пры сваіх поглядах, са сваімі самастойнымі арганізацыямі.

Галоўнейшыя пытанні, якія абмяркоўваліся на IV з'ездзе, былі: аграрнае пытанне, ацэнка моманту і класавых задач пролетарыята, адносіны да Дзяржаўнай думы, арганізацыйныя пытанні.

Не гледзячы на тое, што меншавікі былі на гэтым з'ездзе ў большасці, яны вымушаны былі прыняць ленінскую фармуліроўку першага параграфа статута аб членстве партыі, каб не адштурхнуць ад сябе рабочых.

Па аграрнаму пытанню Ленін абараняў **нацыяналізацыю** зямлі. Ленін лічыў магчымай нацыяналізацыю зямлі толькі пры перамозе рэволюцыі, толькі пасля звяржэння царызма. Нацыяналізацыя зямлі ў гэтым выпадку аблягчала пролетарыяту ў саюзе з вясковай беднатой пераход да соцыялістычнай рэволюцыі. Нацыяналізацыя зямлі патрабавала безаплатнага адабрання (канфіскацыі) усёй памешчыцкай зямлі ў карысць сялян. Большэвіцкая аграрная праграма клікала сялян на рэволюцыю супроць цара і памешчыкаў.

На іншых пазіцыях стаялі меншавікі. Яны адстойвалі праграму **муніцыпалізацыі**. Па гэтай праграме памешчыцкія землі паступалі не ў распараджэнне, нават не ў карыстанне сялянскіх таварыстваў, а ў распараджэнне муніцыпалітэтаў (гэта значыць мясцовых самакіраўніцтваў або земстваў). Сяляне павінны былі **арандаваць** гэту зямлю кожны па сваіх сілах.

Меншавіцкая праграма муніцыпалізацыі была згодніцкая і таму—шкодная для рэволюцыі. Яна не магла мабілізаваць сялян на рэволюцыйную барацьбу, не была разлічана на поўнае знішчэнне памешчыцкага землеўладання. Меншавіцкая праграма была разлічана на палавінчаты выход рэволюцыі. Меншавікі не хацелі паднімаць сялян на рэволюцыю.

З'езд большасцю галасоў прыняў меншавіцкую праграму.

Меншавікі ўскрылі сваё антыпролетарскае, апартуністычнае нутро ў асаблівасці пры абмеркаванні рэзалюцыі аб ацэнцы сучаснага моманту і аб Дзяржаўнай думе. Меншавік Мартынаў адкрыта выступіў супроць гегемоніі пролетарыята ў рэволюцыі. Адказваючы меншавікам, тав. Сталін паставіў пытанне рабром:

> «Або гегемонія пролетарыята, або гегемонія дэмакратычнай буржуазіі—вось як стаіць пытанне ў партыі, вось у чым нашы рознагалоссі».

Што датычыць Дзяржаўнай думы, то меншавікі выхвалялі яе ў сваёй рэзалюцыі, як лепшы сродак для вырашэння пытанняў рэволюцыі, для вызвалення народа ад царызма. Большэвікі, наадварот, разглядалі думу, як бяссільны прыдатак царызма, як шырму, прыкрываючую язвы царызма, якую ён адкіне зараз-жа, як толькі яна акажацца для яго нязручнай.

У Цэнтральны Камітэт, выбраны на IV з'ездзе, увайшлі 3 большэвікі і 6 меншавікоў. У рэдакцыю цэнтральнага органа ўвайшлі адны толькі меншавікі.

Было ясна, што ўнутрыпартыйная барацьба будзе прадаўжацца.

Барацьба паміж большэвікамі і меншавікамі пасля IV з'езда разгарэлася з новаю сілай. У мясцовых, фармальна аб'яднаных арганізацыях, вельмі часта са справаздачамі аб з'ездзе выступалі два дакладчыкі: адзін—ад большэвікоў, другі—ад меншавікоў. У рэзультаце абмеркавання двух ліній большасць членаў арганізацыі станавілася ў большасці выпадкаў на старану большэвікоў.

Жыццё ўсё больш даказвала праўату большэвікоў. Меншавіцкі ЦК, выбраны IV з'ездам, усё больш выяўляў свой апартунізм, сваю поўную няздольнасць кіраваць рэволюцыйнай барацьбой мас. Летам і восенню 1906 года рэволюцыйная барацьба мас зноў узмацнілася. У Кранштаце і ў Свеабаргу паўсталі матросы, разгарэлася барацьба сялянства супроць памешчыкаў. А меншавіцкі ЦК даваў апартуністычныя лозунгі, за якімі масы не ішлі.

## 6. Разгон I Дзяржаўнай думы. Склікание II Дзяржаўнай думы. V з'езд партыі. Разгон II Дзяржаўнай думы. Прычыны паражэння першай рускай рэволюцыі.

Паколькі I Дзяржаўная дума аказалася недастаткова паслухмянай, царскі ўрад разагнаў яе летам 1906 года. Ён яшчэ больш узмацніў рэпрэсіі супроць народа, разгарнуў пагромную дзейнасць карных экспедыцый па ўсёй краіне і аб'явіў аб сваім рашэнні склікаць у хуткім часе II Дзяржаўную думу. Царскі ўрад яўным чынам наглеў. Ён ужо не баяўся рэволюцыі, бачачы, што рэволюцыя ідзе на спад.

Большэвікі павінны былі вырашыць пытанне аб удзеле або байкоце II думы. Гаворачы аб байкоце, большэвікі звычайна мелі на ўвазе актыўны байкот, а не простае і пасіўнае ўстрыманне ад удзелу ў выбарах. Большэвікі разглядалі актыўны байкот, як рэволюцыйны сродак перасцерагчы народ наконт спробы цара перавесці народ з рэволюцыйнага шляху на шлях царскай «канстытуцыі», як сродак сарваць такую спробу і арганізаваць новы націск народа на царызм.

Вопыт байкоту булыгінскай думы паказаў, што байкот «быў адзіна правільнай тактыкай, якую цалкам пацвердзілі падзеі» (**Ленін**, т. X, стар. 27). Байкот гэты быў удачны, таму што ён не толькі перасцярог народ аб небяспецы царска-канстытуцыйнага шляху, але і сарваў думу раней, чым яна паспела нарадзіцца. Ён быў удачны таму, што быў праведзен пры **нарастаючым уздыме** рэволюцыі і апіраўся на гэты ўздым, а не пры спадзе рэволюцыі, бо сарваць думу можна толькі ва ўмовах **уздыму** рэволюцыі.

Байкот вітэўскай, гэта значыць I думы быў праведзен пасля паражэння снежаньскага паўстання, калі цар аказаўся пераможцам, гэта значыць, калі можна было думаць, што рэволюцыя пайшла на спад.

«Але, пісаў Ленін, само сабою зразумела, гэту перамогу (цара.—**Рэд.**) не было яшчэ тады падстаў лічыць рашучай пера-

могай. Снежаньскае паўстанне 1905 года мела сваё прадаўжэнне ў выглядзе цэлага раду разрозненых і частковых ваенных паўстанняў і стачак лета 1906 года. Лозунг байкота вітэўскай думы быў лозунгам барацьбы за сканцэнтраванне і абагульненне гэтых паўстанняў» (**Ленін**, т. XII, стар. 20).

Байкот вітэўскай думы не змог сарваць думу, хоць і падарваў значна аўтарытэт гэтай думы і аслабіў веру часткі насельніцтва ў думу, не змог сарваць думу, бо ён быў праведзен, як цяпер стала ясна, у абстаноўцы спаду, заняпаду рэволюцыі. Таму байкот I думы ў 1906 г. аказаўся няўдачным. У сувязі з гэтым Ленін пісаў у сваёй выдатнай брашуры «Дзіцячая хвароба «левізны» у комунізме»:

> «Большэвіцкі байкот «парламента» у 1905 годзе ўзбагаціў рэволюцыйны пролетарыят надзвычай каштоўным палітычным вопытам, паказаўшы, што пры спалучэнні легальных і нелегальных, парламенцкіх і пазапарламенцкіх форм барацьбы часам карысна і нават абавязкова ўмець адмовіцца ад парламенцкіх... Памылкай, хоць і невялікай, лёгка папраўнай, быў ужо байкот большэвікамі «думы» у 1906 годзе... Да палітыкі і партый прыстасоўна—з адпаведнымі зменамі—тое, што адносіцца да асобных людзей. Разумны не той, хто не робіць памылак. Такіх людзей няма і быць не можа. Разумны той, хто робіць памылкі не вельмі істотныя і хто ўмее лёгка і быстра выпраўляць іх» (**Ленін, т. XXV**, стар. 182—183).

Што датычыць II Дзяржаўнай думы, то Ленін лічыў, што з прычыны змяніўшайся абстаноўкі і заняпаду рэволюцыі, большэвікі «павінны падвергнуць пераглядку пытанне аб байкоце Дзяржаўнай думы» (**Ленін**, т. X, стар. 26).

> «Гісторыя паказала, пісаў Ленін, што калі збіраецца Дума, то з'яўляецца магчымасць карыснай агітацыі знутры яе і каля яе;—што тактыка зближэння з рэволюцыйным сялянствам супроць кадэтаў магчыма ўнутры Думы» (там-жа, стар. 29).

З усяго гэтага выходзіла, што трэба ўмець не толькі рашуча наступаць, наступаць у першых радах, калі ёсць уздым рэволюцыі, але і правільна адступаць, адступаць апошнімі, калі няма ўжо уздыму, мяняючы тактыку адпаведна са змяніўшайся абстаноўкай, адступаць не ўразброд, а арганізавана, спакойна, без панікі, скарыстоўваючы малейшыя магчымасці для таго, каб вывесці кадры з-пад удару ворага, перастроіцца, накапіць сілы і падрыхтавацца да новага наступлення на ворага.

Большэвікі рашылі прыняць удзел у выбарах у II думу.

Але большэвікі ішлі ў думу не для арганічнай «законадаўчай» работы ў ёй у блоку з кадэтамі, як гэта рабілі меншавікі, а для таго, каб скарыстаць яе як трыбуну ў інтарэсах рэволюцыі.

Меншавіцкі ЦК, наадварот, заклікаў заключаць выбарчыя пагадненні з кадэтамі, падтрымліваць у думе кадэтаў, разглядаючы думу як законадаўчую ўстанову, здольную абуздаць царскі ўрад.

Большасць партыйных арганізацый выступіла супроць палітыкі меншавіцкага ЦК.

Большэвікі патрабавалі склікання новага з'езда партыі.

У маі 1907 года сабраўся ў Лондане V з'езд партыі. К гэтаму з'езду РСДРП налічвала (разам з нацыянальнымі соцыял-дэмакратычнымі арганізацыямі) да 150 тысяч членаў. Усяго на з'ездзе пры-

сутнічала 336 дэлегатаў. Большэвікоў было 105, меншавікоў—97. Астатнія дэлегаты прадстаўлялі нацыянальныя соцыял-дэмакратычныя арганізацыі,—польскіх і латышскіх соцыял-дэмакратаў і Бунд, якія былі прыняты ў РСДРП на папярэднім з'ездзе.

Троцкі прабаваў скалаціць на з'ездзе сваю асобную цэнтрысцкую, гэта значыць поўменшавіцкую групку, але за ім ніхто не пайшоў.

Паколькі большэвікі вялі за сабой палякаў і латышоў, то яны мелі ўстойлівую большасць на з'ездзе.

Адным з асноўных пытанняў барацьбы на з'ездзе было пытанне аб адносінах да буржуазных партый. Па гэтаму пытанню ішла барацьба паміж большэвікамі і меншавікамі яшчэ на II з'ездзе. З'езд даў большэвіцкую ацэнку ўсім непралетарскім партыям—чорнасоценцам, акцябрыстам, кадэтам, эсэрам—і сфармуляваў большэвіцкую тактыку ў адносінах гэтых партый.

З'езд адобрыў палітыку большэвікоў і прыняў рашэнне весці бязлітасную барацьбу як з чорнасоценнымі партыямі—«Саюзам рускага народа», манархістамі, советам аб'яднанага дваранства, так і «Союзом 17 октября» (акцябрысты), гандлёва-прамысловай партыяй і партыяй «мірнага абнаўлення». Усе гэтыя партыі былі яўна контррэволюцыйнымі.

Што датычыць ліберальнай буржуазіі, партыі кадэтаў, то з'езд прапанаваў весці непрымірымую выкрываўчую барацьбу з ёю. З'езд прапанаваў выкрываць крывадушны, фальшывы «дэмакратызм» кадэцкай партыі і змагацца супроць спроб ліберальнай буржуазіі стаць на чале руху сялянства.

У адносінах да так званых народніцкіх або трудавых партый (народныя соцыялісты, трудавая група, эсэры) з'езд рэкамендаваў выкрываць іх спробы маскіравацца пад соцыялістаў. У той-жа час з'езд дапускаў асобныя пагадненні з гэтымі партыямі для агульнага і адначасовага націску супроць царызма і супроць кадэцкай буржуазіі, паколькі гэтыя партыі былі тады дэмакратычнымі партыямі і выражалі інтарэсы дробнай буржуазіі горада і вёскі.

Яшчэ да з'езда меншавікі выступалі з прапановай склікаць так званы «рабочы з'езд». План меншавікоў заключаўся ў тым, каб склікаць такі з'езд, у якім прымалі-б удзел і соцыял-дэмакраты, і эсэры, і анархісты. Гэты «рабочы» з'езд павінен быў стварыць нейкую не то «беспартыйную партыю», не то «шырокую» дробнабуржуазную беспраграмную рабочую партыю. Ленін выкрыў гэту вельмі шкодную спробу меншавікоў—ліквідаваць соцыял-дэмакратычную рабочую партыю і растварыць перадавы атрад рабочага класа ў дробнабуржуазнай масе. З'езд рэзка асудзіў меншавіцкі лозунг «рабочага з'езда».

Асобае месца ў работах з'езда заняло пытанне аб профсаюзах. Меншавікі абаранялі «нейтральнасць» профсаюзаў, гэта значыць выступалі супроць кіруючай ролі партыі ў профсаюзах. З'езд адверг прапанову меншавікоў і прыняў большэвіцкую рэзалюцыю аб профсаюзах. У гэтай рэзалюцыі ўказвалася, што партыя павінна дабіцца ідэйнага і палітычнага кіраўніцтва профсаюзамі.

V з'езд азначаў буйную перамогу большэвікоў у рабочым руху. Але большэвікі не зазналіся, не спачылі на лаўрах. Не таму вучыў іх Ленін. Большэвікі ведалі, што наперадзе прадстаіць яшчэ барацьба з меншавікамі.

Тав. Сталін у сваім артыкуле «Запіскі дэлегата», вышаўшым у 1907 годзе, даваў такую ацэнку рэзультатаў з'езда:

«Фактычнае аб'яднанне перадавых рабочых усёй Расіі ў адзі-

ную ўсерасійскую партыю пад сцягам **рэволюцыйнай** соцыял-дэмакратыі—такі сэнс лонданскага з'езда, такі яго агульны характар».

У гэтым артыкуле тав. Сталін прыводзіў даныя **аб саставе** з'езда. Аказалася, што большэвіцкія дэлегаты пасылаліся на з'езд галоўным чынам ад буйных прамысловых раёнаў (Пецербург, Масква, Урал, Іванава-Вазнесенск і іншыя). Меншавікі-ж папалі на з'езд ад раёнаў дробнай вытворчасці, дзе пераважалі рамесніцкія рабочыя, поўпролетарыі, а таксама ад раду чыста сялянскіх раёнаў.

> «Відавочна,—указваў тав. Сталін, падводзячы вынікі з'езда,—тактыка большэвікоў з'яўляецца тактыкай буйнапрамысловых пролетарыяў, тактыкай тых раёнаў, дзе класавыя супярэчнасці асабліва ясны і класавая барацьба асабліва рэзка. Большэвізм—гэта тактыка сапраўдных пролетарыяў. З другога боку, не менш відавочна і тое, што тактыка меншавікоў з'яўляецца пераважна тактыкай рамесніцкіх рабочых і сялянскіх поўпролетарыяў, тактыкай тых раёнаў, дзе класавыя супярэчнасці не зусім ясны і класавая барацьба замаскіравана. Меншавізм—гэта тактыка поўбуржуазных элементаў пролетарыята. Так гавораць лічбы» (Пратаколы V з'езда РСДРП, стар. XI і XII, 1935 г.).

Разагнаўшы I думу, цар думаў атрымаць больш паслухмяную II думу. Але і II дума не апраўдала чакання. Цар рашыў таму разагнаць і гэту думу і склікаць III думу пры больш пагоршаным выбарчым законе—у надзеі, што яна акажацца больш паслухмянай.

У хуткім часе пасля V з'езда царскі ўрад зрабіў так званы трэцечэрвеньскі пераварот. 3 чэрвеня 1907 года цар разагнаў II Дзяржаўную думу. Соцыял-дэмакратычная думская фракцыя, якая налічвала 65 дэпутатаў, была арыштавана і саслана ў Сібір. Быў аб'яўлен новы выбарчы закон. Правы рабочых і сялян былі яшчэ больш урэзаны. Царскі ўрад прадаўжаў наступаць.

Царскі міністр Сталыпін разгортваў сваю крывавую расправу над рабочымі і сялянамі. Тысячы рэволюцыйных рабочых і сялян былі расстраляны карнымі экспедыцыямі і павешаны. У царскіх засценках мучылі і катавалі рэволюцыянераў. Асабліва лютым праследаванням падвяргаліся рабочыя арганізацыі, у першую чаргу большэвікі. Царскія ішчэйкі шукалі Леніна, які жыў тайна ў Фінляндыі. Яны хацелі расправіцца з правадыром рэволюцыі. З велізарнай небяспекай Леніну ўдалося ў снежні 1907 года зноў перабрацца за граніцу, у эміграцыю.

Наступілі цяжкія годы сталыпінскай рэакцыі.

Першая руская рэволюцыя скончылася, такім чынам, паражэннем. Гэтаму садзейнічалі наступныя прычыны.

1. Не было яшчэ ў рэволюцыі моцнага саюза рабочых і сялян супроць царызма. Сяляне падняліся на барацьбу супроць памешчыкаў і яны ішлі на саюз з рабочымі супроць памешчыкаў. Але яны яшчэ не разумелі, што без звяржэння цара немагчыма звергнуць памешчыкаў, яны не разумелі, што цар дзейнічае заадно з памешчыкамі, і значная частка сялян яшчэ верыла цару і ўскладала надзею на царскую Дзяржаўную думу. Таму многія сяляне не хацелі ісці на саюз з рабочымі для звяржэння царызма. Сяляне больш верылі згодніцкай партыі эсэраў, чым сапраўдным рэволюцыянерам—большэві-

кам. У рэзультаце барацьба сялян супроць памешчыкаў была недастаткова арганізавана. Ленін указваў:

> «...сяляне дзейнічалі надта распылена, неарганізавана, недастаткова наступальна, і ў гэтым заключаецца адна з карэнных прычын паражэння рэволюцыі» (**Ленін**, т. XIX, стар. 354).

2. Нежаданне значнай часткі сялян ісці разам з рабочымі на звяржэнне царызма сказвалася і на паводзінах арміі, большасць якой складалі сыны сялян, адзетыя ў салдацкія шынелі. У асобных часцях царскай арміі былі хваляванні і паўстанні, але большасць салдат яшчэ дапамагала цару падаўляць забастоўкі і паўстанні рабочых.

3. Недастаткова дружна дзейнічалі і рабочыя. Перадавыя атрады рабочага класа разгарнулі ў 1905 годзе гераічную рэволюцыйную барацьбу. Больш адсталыя слаі—рабочыя найменш прамысловых губерній, якія жылі ў вёсках,—раскачваліся павальней. Асабліва ўзмацніўся іх удзел у рэволюцыйнай барацьбе ў 1906 годзе, але к гэтаму часу авангард рабочага класа быў ужо ў значнай меры аслаблен.

4. Рабочы клас быў перадавой, асноўнай сілай рэволюцыі, але ў радах партыі рабочага класа не было неабходнага адзінства і згуртавання. РСДРП—партыя рабочага класа—была разбіта на дзве групы: большэвікоў і меншавікоў. Большэвікі вялі паслядоўную рэволюцыйную лінію і клікалі рабочых да звяржэння царызма. Меншавікі сваёй згодніцкай тактыкай тармазілі рэволюцыю, путалі значную частку рабочых, раскалвалі рабочы клас. Таму рабочыя выступалі ў рэволюцыі не заўсёды дружна, і рабочы клас, не маючы яшчэ адзінства сваіх уласных радоў, не змог стаць сапраўдным правадыром рэволюцыі.

5. Царскаму самадзяржаўю дапамаглі ў падаўленні рэволюцыі 1905 года заходне-еўрапейскія імперыялісты. Замежныя капіталісты баяліся за свае ўкладзеныя ў Расіі капіталы і велізарныя даходы. Апрача таго, яны апасаліся, што ў выпадку перамогі рускай рэволюцыі падніму цца на рэволюцыю і рабочыя іншых краін. Таму заходне-еўрапейскія імперыялісты дапамаглі цару-кату. Французскія банкіры далі вялікую пазыку цару на падаўленне рэволюцыі. Германскі цар трымаў напагатове многатысячную армію для інтэрвенцыі ў дапамогу рускаму цару.

6. Сур'ёзна дапамог цару мір з Японіяй, заключаны ў верасні 1905 года. Паражэнне ў вайне і грозны рост рэволюцыі прымусілі цара паспяшыць з падпісаннем міру. Паражэнне ў вайне аслабляла царызм. Заключэнне міру ўмацавала становішча цара.

## *КАРОТКІЯ ВЫВАДЫ.*

Першая руская рэволюцыя прадстаўляе цэлую гістарычную паласу ў развіцці нашай краіны. Гэтая гістарычная паласа складаецца з двух перыядаў. З першага перыяда, калі рэволюцыя ішла на ўздым ад агульнай палітычнай стачкі ў кастрычніку да ўзброенага паўстання ў снежні, скарыстоўваючы слабасць цара, цярпеўшага паражэнні на палях Манчжурыі, змятаючы булыгінскую думу і вырываючы ў цара ўступку за ўступкай, і з другога перыяда, калі цар, аправіўшыся пасля заключэння міру з Японіяй, выкарыстоўвае страх ліберальнай буржуазіі перад рэволюцыяй, скарыстоўвае хі-

станні сялянства, кідае ім у выглядзе падачкі вітэўскую думу і пераходзіць у наступленне супроць рабочага класа, супроць рэволюцыі.

За якія-небудзь тры годы рэволюцыі (1905—1907 г. г.) рабочы клас і сялянства атрымліваюць такую багатую школу палітычнага выхавання, якую не маглі-б яны атрымаць за трыццаць год звычайнага мірнага развіцця. Некалькі год рэволюцыі зрабілі ясным тое, чаго нельга было-б зрабіць ясным на працягу дзесяткаў год пры мірных умовах развіцця.

Рэволюцыя ўскрыла, што царызм ёсць закляты вораг народа, што царызм з'яўляецца тым гарбатым, якога можа выправіць толькі магіла.

Рэволюцыя паказала, што ліберальная буржуазія шукае саюза не з народам, а з царом, што яна з'яўляецца контррэволюцыйнай сілай, пагадненне з якой роўназначна прэдацельству народа.

Рэволюцыя паказала, што правадыром буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі можа быць толькі рабочы клас, што толькі ён здолен адцясніць ліберальную кадэцкую буржуазію, вызваліць сялянства з-пад яе ўплыву, разграміць памешчыкаў, давесці рэволюцыю да канца і расчысціць шлях да соцыялізма.

Рэволюцыя паказала, нарэшце, што працоўнае сялянства, не гледзячы на яго хістанні, з'яўляецца ўсё-ж адзінай сур'ёзнай сілай, здольнай пайсці на саюз з рабочым класам.

Дзве лініі змагаліся ў РСДРП у часе рэволюцыі, лінія большэвікоў і лінія меншавікоў. Большэвікі трымалі курс на разгортванне рэволюцыі, на звяржэнне царызма шляхам узброенага паўстання, на гегемонію рабочага класа, на ізаляцыю кадэцкай буржуазіі, на саюз з сялянствам, на стварэнне часовага рэволюцыйнага ўрада з прадстаўнікоў рабочых і сялян, на давядзенне рэволюцыі да пераможнага канца. Меншавікі, наадварот, трымалі курс на згортванне рэволюцыі. Замест звяржэння царызма шляхам паўстання яны прапаноўвалі яго рэфарміраванне і «паляпшэнне», замест гегемоніі пролетарыята—гегемонію ліберальнай буржуазіі, замест саюза з сялянствам—саюз з кадэцкай буржуазіяй, замест часовага рэволюцыйнага ўрада—Дзяржаўную думу, як цэнтр «рэволюцыйных сіл» краіны.

Так меншавікі скаціліся ў балота згодніцтва, стаўшы правадніка́мі буржуазнага ўплыву на рабочы клас, стаўшы на справе агентамі буржуазіі ў рабочым класе.

Большэвікі аказаліся адзінай рэволюцыйна-марксісцкай сілай у партыі і краіне.

Зразумела, што пасля такіх сур'ёзных рознагалоссяў РСДРП аказалася на справе расколатай на дзве партыі, партыю большэвікоў і партыю меншавікоў. IV з'езд партыі нічога не змяніў у фактычным становішчы спраў унутры партыі. Ён толькі захаваў і некалькі ўмацаваў **фармальнае** адзінства партыі. V з'езд партыі зрабіў крок наперад у бок **фактычнага** аб'яднання партыі, прычым аб'яднанне гэта адбылося пад сцягам большэвізма.

Падводзячы вынікі рэволюцыйнага руху, V з'езд партыі асудзіў лінію меншавікоў, як згодніцкую, і адобрыў большэвіцкую лінію, як рэволюцыйна-марксісцкую. Гэтым ён лішні раз пацвердзіў тое, што ўжо было пацверджана ўсім ходам першай рускай рэволюцыі.

Рэволюцыя паказала, што большэвікі ўмеюць наступаць, калі гэтага патрабуе абстаноўка, што яны навучыліся наступаць у першых радах і весці за сабою народ на штурм. Але рэволюцыя паказала

апрача таго, што большэвікі ўмеюць таксама адступаць у парадку, калі абстаноўка набывае неспрыяючы характар, калі рэволюцыя ідзе на спад, што большэвікі навучыліся правільна адступаць, без панікі і мітусні, з тым, каб захаваць кадры, сабрацца з сіламі і, перастроіўшыся прыстасоўна да новай абстаноўкі, зноў пайсці ў наступленне на ворага.

Нельга перамагчы ворага без умення правільна наступаць.

Нельга ўнікнуць разгрому пры паражэнні без умення правільна адступаць, адступаць без панікі, без замяшання.

## Раздзел IV

# МЕНШАВІКІ І БОЛЬШЭВІКІ Ў ПЕРЫЯД СТАЛЫПІНСКАЙ РЭАКЦЫІ. АФАРМЛЕННЕ БОЛЬШЭВІКОЎ У САМАСТОЙНУЮ МАРКСІСЦКУЮ ПАРТЫЮ.

## (1908—1912 годы).

### 1. Сталыпінская рэакцыя. Разлажэнне ў апазіцыйных слаях інтэлігенцыі. Упадніцтва. Пераход часткі партыйнай інтэлігенцыі ў лагер ворагаў марксізма і спробы рэвізіі тэорыі марксізма. Адповедзь Леніна рэвізіяністам у яго кнізе «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм» і абарона тэарэтычных асноў марксісцкай партыі.

II Дзяржаўная дума была распушчана царскім урадам 3 чэрвеня 1907 года. Гэты дзень прынята ў гісторыі называць днём трэцечэрвеньскага дзяржаўнага перавароту. Царскі ўрад выдаў новы закон аб выбарах у III Дзяржаўную думу і тым самым нарушыў свой уласны маніфест 17 кастрычніка 1905 года, бо, згодна гэтаму маніфесту, ён павінен быў выдаваць новыя законы толькі са згоды думы. Соцыял-дэмакратычная фракцыя другой думы была аддана пад суд, прадстаўнікі рабочага класа былі адпраўлены на катаргу і ў ссылку на пасяленне.

Новы выбарчы закон быў складзен так, што намнога павялічваў колькасць прадстаўнікоў памешчыкаў і гандлёва-прамысловай буржуазіі ў думе. У той-жа час у некалькі разоў скарачаўся і да таго невялікі лік прадстаўнікоў сялян і рабочых.

III дума па свайму саставу была чорнасоценна-кадэцкай. З агульнага ліку 442 дэпутатаў у ёй было: правых (чорнасоценцаў)—171, акцябрыстаў і членаў блізкіх да іх груп—113, кадэтаў і членаў блізкіх да іх груп—101, трудавікоў—13, соцыял-дэмакратаў—18.

У асобе правых (яны называліся так таму, што сядзелі ў думе на правым баку) былі прадстаўлены злейшыя ворагі рабочых і сялян—чорнасоценныя памешчыкі-прыгоннікі, якія наладжвалі масавыя поркі і расстрэлы сялян пры падаўленні сялянскага руху, арганізатары яўрэйскіх пагромаў, збіення рабочых дэманстрацый, зверскіх падпалаў памяшканняў, дзе адбываліся мітынгі ў дні рэвалюцыі. Правыя стаялі за самае лютае падаўленне працоўных, за неабмежаваную царскую ўладу, супроць царскага маніфеста 17 акцябра 1905 года.

Блізка да правых у думе прымыкала партыя акцябрыстаў, або «Союз 17 октября». Акцябрысты прадстаўлялі інтарэсы буйнага прамысловага капітала і буйных памешчыкаў, якія гаспадарылі па-капіталістычнаму (у пачатку рэвалюцыі 1905 года да акцябрыстаў перайшла значная частка кадэтаў з ліку буйных памешчыкаў). Акцяб-

рыстаў ад правых адрознівала толькі прызнанне—і то славеснае—маніфеста 17 кастрычніка. Акцябрысты поўнасцю падтрымлівалі і ўнутраную, і знешнюю палітыку царскага ўрада.

Кадэты, або «канстытуцыйна-дэмакратычная» партыя, мелі ў III думе менш месц, чым у I і ў II думах. Гэта тлумачыцца тым, што частка памешчыцкіх галасоў ад кадэтаў перайшла да акцябрыстаў.

У III думе была прадстаўлена нешматлікая група дробнабуржуазных дэмакратаў, так званых трудавікоў. Трудавікі ў думе хісталіся паміж кадэтамі і рабочай дэмакратыяй (большэвікамі). Ленін указваў, што хоць трудавікі вельмі слабы ў думе, яны прадстаўляюць масы, сялянскія масы. Хістанні трудавікоў паміж кадэтамі і рабочай дэмакратыяй немінуча выцякалі з класавага становішча дробных гаспадароў. Ленін высоўваў задачу перад дэпутатамі-большэвікамі, перад рабочай дэмакратыяй—«дапамагчы слабым дробнабуржуазным дэмакратам, вырваць іх з-пад уплыву лібералаў, згуртаваць лагер дэмакратыі супроць контррэволюцыйных кадэтаў, а не толькі супроць правых...» (**Ленін,** т. XV, стар. 486).

І ў ходзе рэволюцыі 1905 года, і ў асаблівасці пасля яе паражэння, кадэты ўсё больш праяўлялі сябе, як контррэволюцыйная сіла. Яны ўсё больш скідвалі з сябе «дэмакратычную» маску, выступалі як сапраўдныя манархісты, абаронцы царызма. У 1909 годзе група віднейшых кадэцкіх пісьменнікаў выпусціла зборнік «Вехи», у якім кадэты дзякавалі царызм ад імя буржуазіі за падаўленне рэволюцыі. Поўзаючы і халопствуючы перад царскім урадам бізуна і шыбеніцы, кадэты прама пісалі, што трэба «благаслаўляць гэтую ўладу, якая адна сваімі штыкамі і турмамі яшчэ ахоўвае нас (гэта значыць ліберальную буржуазію) ад ярасці народнай».

Разагнаўшы II Дзяржаўную думу і расправіўшыся з соцыял-дэмакратычнай фракцыяй Дзяржаўнай думы царскі ўрад стаў узмоцнена граміць палітычныя і эканамічныя арганізацыі пролетарыята. Катаржныя турмы, крэпасці і месцы ссылкі перапоўніліся рэволюцыянерамі. Рэволюцыянераў па-зверску збівалі ў турмах, катавалі і мучылі. Чорнасоценны тэрор лютаваў ва-ўсю. Царскі міністр Сталыпін пакрыў шыбеніцамі краіну. Было пакарана смерцю некалькі тысяч рэволюцыянераў. Шыбеніцу ў той час называлі «сталыпінскім гальштукам».

Падаўляючы рэволюцыйны рух рабочых і сялян, царскі ўрад не мог абмежавацца аднымі рэпрэсіямі, карнымі экспедыцыямі, расстрэламі, турмой, катаргай. Царскі ўрад з трывогай бачыў, што наіўная вера сялянства ў «цара-бацюшку» усё больш знікае. Таму ён прыбег да буйнага манеўра, задумаў стварыць сабе трывалую апору ў вёсцы ў асобе шматлікага класа сялянскай буржуазіі—кулацтва.

9 лістапада 1906 года Сталыпін выдаў новы зямельны закон аб выдзяленні сялян з абшчыны на хутары. Па сталыпінскаму зямельнаму закону разбуралася абшчыннае карыстанне зямлёй. Кожнаму селяніну прапанавалася ўзяць свой надзел у асабістае ўладанне, выдзеліцца з абшчыны. Селянін мог прадаць свой надзел, чаго ён не меў права зрабіць раней. Грамадства абавязана было выдзеліць зямлю выходзячым з абшчыны сялянам у адным месцы (хутар, адруб).

Багатыя сяляне—кулакі атрымлівалі магчымасць скупляць пры гэтым па дзяшовай цане ў маламоцных сялян іх зямлю. На працягу некалькіх год пасля выдання гэтага закона больш мільёна маламоц-

ных сялян зусім пазбавілася зямлі і разарылася. За кошт абеззямелення маламоцных сялян вырасла колькасць кулацкіх хутароў і адрубаў. Часам гэта былі сапраўдныя маёнткі, дзе шырока прымянялася наёмная, батрацкая праца. Урад прымушаў сялян выдзяляць з абшчыны кулакам-хутаранам лепшую зямлю.

Калі пры «вызваленні» сялян памешчыкі грабілі сялянскую зямлю, то цяпер кулакі пачалі грабіць абшчынную зямлю, атрымліваючы лепшыя ўчасткі, скупляючы па дзяшовай цане надзелы ў бедняты.

Царскі ўрад выдаваў кулакам значныя ссуды для пакупкі зямлі і ўпарадкавання хутароў. З кулакоў Сталыпін хацеў зрабіць маленькіх памешчыкаў, верных абаронцаў царскага самадзяржаўя.

Усяго за дзевяць год (з 1906 па 1915 год) з абшчыны выдзелілася звыш двух мільёнаў домагаспадароў.

Сталыпіншчына яшчэ больш пагоршыла становішча малазямельных сялян і вясковай бедняты. Расслаенне сялянства ўзмацнілася. Пачаліся сутычкі сялян з кулакамі-хутаранамі.

Разам з тым сялянства пачынала разумець, што яму не атрымаць памешчыцкай зямлі, пакуль існуе царскі ўрад і памешчыцка-кадэцкая Дзяржаўная дума.

Сялянскі рух у годы ўзмацніўшагася выдзялення на хутары (1907—1909) спачатку ідзе на спад, але ў хуткім часе, у 1910—1911 г.г. і пазней на глебе сутычкі абшчыннікаў з хутаранамі адбываецца ўзмацненне сялянскага руху супроць памешчыкаў і кулакоў-хутаран.

У галіне прамысловасці таксама адбыліся пасля рэволюцыі значныя змены. Канцэнтрацыя прамысловасці, гэта значыць узбуйненне і сканцэнтраванне прамысловасці ў руках усё больш буйных капіталістычных груп,—значна ўзмацнілася. Яшчэ да рэволюцыі 1905 года капіталісты пачалі аб'ядноўвацца ў саюзы, каб падняць цэны на тавары ўнутры краіны, а з выручанага звышпрыбытку стварыць фонд заахвочвання экспарту для таго, каб можна было выкінуць на замежныя рынкі тавары па нізкіх цэнах і заваяваць замежныя рынкі. Такія саюзы, такія аб'яднанні капіталістаў (манаполіі) называліся трэстамі і сіндыкатамі. Пасля рэволюцыі лік буржуазных трэстаў і сіндыкатаў яшчэ больш павялічыўся. Павялічвалася таксама колькасць буйных банкаў і расла іх роля ў прамысловасці. Павялічваўся прыток іншакраінных капіталаў у Расію.

Такім чынам, капіталізм у Расіі ўсё больш станавіўся манапалістычным, імперыялістычным капіталізмам.

Пасля некалькіх год застою прамысловасць зноў ажыла: выраслі здабыча вугалю, выпрацоўка метала, здабыча нафты, павялічылася вытворчасць тканін, цукру. Моцна вырас вываз хлеба за граніцу.

Хоць Расія ў гэты час зрабіла некаторы крок наперад у сваёй прамысловасці, яна прадаўжала аставацца адсталай краінай у параўнанні з заходняй Еўропай і залежнай ад іншакраінных капіталістаў. У Расіі не была пастаўлена вытворчасць машын і станкоў—яны ўвозіліся з-за граніцы. Не было таксама аўтамабільнай прамысловасці, не было хімічнай прамысловасці, не было вытворчасці мінеральных угнаенняў. У вытворчасці ўзбраення Расія таксама адставала ад іншых капіталістычных краін.

Указваючы на нізкі ўзровень спажывання метала ў Расіі, як на адзнаку яе адсталасці, Ленін пісаў:

> «За поўвека пасля вызвалення сялян спажыванне жалеза ў Расіі ўзрасло ўпяцёра, і ўсё-ж Расія астаецца неймаверна, ня-

бачана адсталай краінай, жабрацкай і поўдзікай, абсталяванай сучаснымі прыладамі вытворчасці ўчацвёра горш Англіі, упяцёра горш Германіі, удзесяцёра горш Амерыкі» (**Ленін**, т. XVI, стар. 543).

Прамым вынікам гаспадарчай і палітычнай адсталасці Расіі з'яўлялася залежнасць як рускага капіталізма, так і самага царызма ад заходне-еўрапейскага капіталізма.

Гэта выражалася ў тым, што такія важнейшыя галіны народнай гаспадаркі, як вугаль, нафта, электрапрамысловасць, металургія, знаходзіліся ў руках заграбічнага капітала, і амаль усе машыны, усё абсталяванне царская Расія вымушана была ўвозіць з-за граніцы.

Гэта выражалася ў кабальных замежных пазыках, для ўплаты процантаў па якіх царызм штогод выкалачваў з насельніцтва многія сотні мільёнаў рублёў.

Гэта выражалася ў тайных дагаворах з «саюзнікамі», па якіх царызм абавязаўся выставіць у выпадку вайны мільёны рускіх салдат на імперыялістычныя фронты для падтрымання «саюзнікаў» і забеспячэння шалёных прыбыткаў англа-французскіх капіталістаў.

Годы сталыпінскай рэакцыі асабліва адзначаліся разбойніцкімі набегамі жандармаў і паліцэйскіх, царскіх правакатараў і чорнасоценных грамілаў на рабочы клас. Але рэпрэсіямі данімалі рабочых не толькі царскія апрычнікі. Ад іх не адставалі ў гэтых адносінах фабрыканты і заводчыкі, якія асабліва ўзмацнілі наступленне на рабочы клас у годы застою прамысловасці і росту беспрацоўя. Фабрыканты аб'яўлялі масавыя звальненні рабочых (лакауты), заводзілі «чорныя кнігі», куды заносілі свядомых рабочых, якія прымалі актыўны ўдзел у забастоўках. Папаўшых у гэтую «чорную кнігу», або ў «чорны спіс» не прымалі на работу ні на адным прадпрыемстве, уваходзіўшым у саюз фабрыкантаў гэтай галіны прамысловасці. Расцэнкі былі паніжаны ўжо ў 1908 годзе на 10—15 процантаў. Рабочы дзень быў усюды падоўжан да 10—12 гадзін. Зноў стала працвітаць сістэма грабежніцкіх штрафаў.

Паражэнне рэволюцыі 1905 года парадзіла распад і разлажэнне ў асяроддзі спадарожнікаў рэволюцыі. Асабліва ўзмацніліся разлажэнне і ўпадніцтва ў асяроддзі інтэлігенцыі. Спадарожнікі, якія прышлі ў рады рэволюцыі з буржуазнага асяроддзя ў перыяд бурнага ўздыму рэволюцыі, адышлі ад партыі ў дні рэакцыі. Частка іх пашла ў лагер адкрытых ворагаў рэволюцыі, частка засела ва ўцалеўшых легальных таварыствах рабочага класа і старалася звярнуць пролетарыят з рэволюцыйнага шляху, старалася дыскрэдытаваць рэволюцыйную партыю пролетарыята. Адыходзячы ад рэволюцыі, спадарожнікі стараліся прыстасавацца да рэакцыі, ужыцца з царызмам.

Царскі ўрад скарыстаў паражэнне рэволюцыі, каб найбольш труслівых і па-шкурніцку настроеных спадарожнікаў рэволюцыі завербаваць сабе ў агенты—у правакатары. Подлыя іуды-правакатары, якіх царская ахранка засылала ў рабочыя і партыйныя арганізацыі, шпіёнілі знутры і прэдавалі рэволюцыянераў.

Наступленне контррэволюцыі ішло і на ідэалагічным фронце. Паявілася цэлая арава модных пісьменнікаў, якія «крытыкавалі» і «разносілі» марксізм, аплёўвалі рэволюцыю, здзекаваліся над ёю, выслаўлялі прэдацельства, выслаўлялі палавую распусту пад выглядам «культу асобы».

У галіне філасофіі ўзмацніліся спробы «крытыкі», рэвізіі марксізма, а таксама паявіліся рознастайныя рэлігійныя плыні, прыкрытыя нібы «навуковымі» довадамі.

«Крытыка» марксізма стала модай.

Усе гэтыя паны, не гледзячы на ўсю іх рознашэрснасць, праследавалі адну агульную мэту—адцягнуць масы ад рэволюцыі.

Упадніцтва і няверʼе закранулі таксама адну частку партыйных інтэлігентаў, якія лічылі сябе марксістамі, але ніколі не стаялі цвёрда на пазіцыях марксізма. У ліку іх былі такія пісьменнікі, як Багданаў, Базараў, Луначарскі (якія прымыкалі ў 1905 годзе да большэвікоў), Юшкевіч, Валенцінаў (меншавікі). Яны разгарнулі «крытыку» адначасова супроць філасофска-тэарэтычных асноў марксізма, гэта значыць супроць дыялектычнага матэрыялізма, і супроць яго навукова-гістарычных асноў, гэта значыць супроць гістарычнага матэрыялізма. Крытыка гэта адрознівалася ад звычайнай крытыкі тым, што яна вялася не адкрыта і чэсна, а завуалявана і крывадушна пад сцягам «абароны» асноўных пазіцый марксізма. Мы, гаварылі яны, у асноўным марксісты, але хацелі-б «палепшыць» марксізм, асвабадзіць яго ад некаторых асноўных палажэнняў. На самай справе яны былі варожы марксізму, бо стараліся падарваць тэарэтычныя асновы марксізма, хоць на словах крывадушна адмаўлялі сваю варожасць да марксізма і прадаўжалі па-двурушніцку называць сябе марксістамі. Небяспека такой крывадушнай крытыкі заключалася ў тым, што яна была разлічана на абман радавых партыйных работнікаў і магла ўвесці іх у заблуджэнне. І чым крывадушней вялася гэта крытыка па падрыву тэарэтычных асноў марксізма, тым небяспечней станавілася яна для партыі, бо тым цясней яна змыкалася з агульным паходам рэакцыі супроць партыі, супроць рэволюцыі. Частка адышоўшых ад марксізма інтэлігентаў дайшла да таго, што пачала прапаведваць неабходнасць стварэння новай рэлігіі (так званыя «богашукальнікі» і «богабудаўнікі»).

Перад марксістамі стаяла неадкладная задача—даць належную адповедзь гэтым перараджэнцам у галіне тэорыі марксізма, сарваць з іх маску, выкрыць іх да канца і адстаяць, такім чынам, тэарэтычныя асновы марксісцкай партыі.

Можна было разлічваць, што за выкананне гэтай задачы возьмуцца Плеханаў і яго меншавіцкія прыяцелі, якія лічылі сябе «вядомымі тэарэтыкамі марксізма». Але яны палічылі за лепшае адпісацца парай нязначных артыкулаў фельетонна-крытычнага характару і потым пайсці ў кусты.

Гэтую задачу выканаў Ленін у сваёй выдатнай кнізе «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм», якая выйшла ў свет у 1909 годзе.

> «Менш чым за поўгода, пісаў Ленін у гэтай кнізе, вышла у свет чатыры кнігі, прысвечаныя галоўным чынам і амаль цалкам нападкам на дыялектычны матэрыялізм. Сюды адносяцца перш за ўсё «Нарысы па (? трэба было сказаць: супроць) філасофіі марксізма», СПБ, 1908, зборнік артыкулаў Базарава, Багданава, Луначарскага, Бермана, Гельфанда, Юшкевіча, Суворава; затым кнігі: Юшкевіча—«Матэрыялізм і крытычны рэалізм», Бермана—«Дыялектыка ў святле сучаснай тэорыі пазнання», Валенцінава—«Філасофскія пабудаванні марксізма»... Усе гэтыя асобы, абʼяднаныя—не гледзячы на рэзкія адрозненні палітычных поглядаў—варожасцю супроць дыялектычнага матэрыялізма, прэтэндуюць у той-жа час на тое, што

яны ў філасофіі марксісты! Энгельсаўская дыялектыка ёсць «містыка»,—гаворыць Берман, погляды Энгельса «устарэлі»,—мімаходзь, як нешта само сабой зразумелае, кідае Базараў,—матэрыялізм аказваецца абвергнутым нашымі смелымі воінамі, якія горда спасылаюцца на «сучасную тэорыю пазнання», на «навейшую філасофію» (або «навейшы пазітывізм»), на «філасофію сучаснага прыродазнаўства» або нават «філасофію прыродазнаўства XX века» (**Ленін,** т. XIII, стар. 11).

Адказваючы Луначарскаму, які ў апраўданне сваіх прыяцеляў—рэвізіяністаў у філасофіі гаварыў: «можа быць мы заблуджаемся, але шукаем»,—Ленін пісаў:

> «Што датычыць да мяне, то я таксама—«шукаючы» у філасофіі. Іменна: у гэтых заметках (гутарка ідзе аб кнізе «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм».—**Рэд.**) я паставіў сабе задачай адшукаць, на чым звіхнуліся людзі, якія прыпадносяць пад выглядам марксізма нешта неймаверна збіўчывае, блытанае і рэакцыйнае» (там-жа, стар. 12).

На справе, аднак, кніга Леніна вышла далёка за рамкі гэтай скромнай задачы. На самай справе кніга Леніна з'яўляецца не толькі крытыкай Багданава, Юшкевіча, Базарава, Валенцінава і іх філасофскіх настаўнікаў,—Авенарыуса і Маха, якія прабавалі ў сваіх творах прыпаднесці ўтончаны і прыгладжаны ідэалізм—у процівагу марксісцкаму матэрыялізму. Кніга Леніна з'яўляецца разам з тым абаронай тэарэтычных асноў марксізма—дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізма—і матэрыялістычным абагульненнем усяго важнага і істотнага з таго, што набыта навукай і, перш за ўсё, прыродазнаўствам за цэлы гістарычны перыяд, за перыяд ад смерці Энгельса да паяўлення ў свет кнігі Леніна «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм».

Раскрытыкаваўшы, як след, рускіх эмпірыякрытыкаў і іх замежных настаўнікаў, Ленін прыходзіць у сваёй кнізе да наступных вывадаў супроць філасофска-тэарэтычнага рэвізіянізма:

> 1) «Усё больш тонкая фальсіфікацыя марксізма, усё больш тонкія паддзелкі антыматэрыялістычных вучэнняў пад марксізм,—вось чым характарызуецца сучасны рэвізіянізм і ў палітычнай эканоміі, і ў пытаннях тактыкі, і ў філасофіі наогул» (там-жа, стар. 270);
>
> 2) «Уся школа Маха і Авенарыуса ідзе да ідэалізма» (там-жа, стар. 291);
>
> 3) «Нашы махісты ўсе ўвязлі ў ідэалізме» (там-жа, стар. 282);
>
> 4) «За гносеалагічнай схаластыкай эмпірыякрытыцызма нельга не бачыць барацьбы партыі ў філасофіі, барацьбы, якая ў канчатковым выніку выражае тэндэнцыі і ідэалогію варожых класаў сучаснага грамадства» (там-жа, стар. 292);
>
> 5) «Аб'ектыўная, класавая роля эмпірыякрытыцызма цалкам зводзіцца да прыслужніцтва фідэістам (рэакцыянеры, якія даюць перавагу веры перад навукай.—**Рэд.**) у іх барацьбе супроць матэрыялізма наогул і супроць гістарычнага матэрыялізма ў прыватнасці» (там-жа, стар. 292);
>
> 6) «Ідэалізм філасофскі ёсць... **дарога** да папоўшчыны» (там-жа, стар. 304).

Каб ацаніць велізарнае значэнне кнігі Леніна ў гісторыі нашай партыі і зразумець—якое тэарэтычнае багацце адстаяў Ленін супроць

усіх і ўсякіх рэвізіяністаў і перараджэнцаў перыяду сталыпінскай рэакцыі, неабходна, хоць-бы каротка, пазнаёміцца з асновамі дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізма.

Гэта тым больш неабходна, што дыялектычны і гістарычны матэрыялізм састаўляюць тэарэтычны фундамент комунізма, тэарэтычныя асновы марксісцкай партыі, а веданне гэтых асноў і, значыць, іх усваенне, з'яўляецца абавязкам кожнага актыўнага дзеяча нашай партыі.

Такім чынам:

1) Што такое дыялектычны матэрыялізм?

2) Што такое гістарычны матэрыялізм?

## 2. Аб дыялектычным і гістарычным матэрыялізме.

Дыялектычны матэрыялізм ёсць светапогляд марксісцка-ленінскай партыі. Ён называецца дыялектычным матэрыялізмам таму, што яго падыход да з'яў прыроды, яго метад вывучэння з'яў прыроды, яго метад пазнання гэтых з'яў з'яўляецца **дыялектычным,** а яго вытлумачэнне з'яў прыроды, яго разуменне з'яў прыроды, яго тэорыя— **матэрыялістычнай.**

Гістарычны матэрыялізм ёсць пашырэнне палажэнняў дыялектычнага матэрыялізма на вывучэнне грамадскага жыцця, прымяненне палажэнняў дыялектычнага матэрыялізма да з'яў жыцця грамадства, да вывучэння грамадства, да вывучэння гісторыі грамадства.

Характарызуючы свой дыялектычны метад, Маркс і Энгельс спасылаюцца звычайна на Гегеля, як на філосафа, які сфармуляваў асноўныя рысы дыялектыкі. Гэта, аднак, не азначае, што дыялектыка Маркса і Энгельса тоесна дыялектыцы Гегеля. На самай справе Маркс і Энгельс узялі з дыялектыкі Гегеля толькі яе «рацыянальнае зярно», адкінуўшы гегелеўскую ідэалагічную шалуху і развіўшы дыялектыку далей, з тым, каб надаць ёй сучасны навуковы выгляд.

> «Мой дыялектычны метад, гаворыць Маркс, у аснове сваёй не толькі адметны ад гегелеўскага, але з'яўляецца яго прамой процілегласцю. Для Гегеля працэс мышлення, які ён пад назвай ідэі ператварае нават у самастойны суб'ект, ёсць дэміург (тварэц) рэчаіснага, якое складае толькі яго знешняе праяўленне. Для мяне, наадварот, ідэальнае ёсць не што іншае, як матэрыяльнае, перасаджанае ў чалавечую галаву і пераўтворанае ў ёй» (**К. Маркс,** Пасляслоўе да другога нямецкага выдання **1-га тома «Капитала»**).

Характарызуючы свой матэрыялізм, Маркс і Энгельс спасылаюцца звычайна на Фейербаха, як на філосафа, аднавіўшага матэрыялізм у яго правах. Аднак гэта не азначае, што матэрыялізм Маркса і Энгельса тоесны матэрыялізму Фейербаха. На самай справе Маркс і Энгельс узялі з матэрыялізма Фейербаха яго «асноўнае зярно», развіўшы яго далей у навукова-філасофскую тэорыю матэрыялізма і адкінуўшы прэч яго ідэалістычныя і рэлігійна-этычныя наслаенні. Вядома, што Фейербах, будучы ў асноўным матэрыялістам, паўставаў супроць назвы—матэрыялізм. Энгельс не раз заяўляў, што Фейербах, «не гледзячы на матэрыялістычную аснову, яшчэ не вызваліўся ад старых ідэалістычных пут», што «сапраўдны ідэалізм Фейербаха выступае напаверх адразу-ж, як мы падыходзім да яго этыкі і філасофіі рэлігіі» (**К. Маркс і Ф. Энгельс,** т. XIV, стар. 652—654).

Дыялектыка паходзіць ад грэчаскага слова «дыялего», што значыць весці гутарку, весці палеміку. Пад дыялектыкай разумелі ў старажытнасці майстэрства дабіцца ісціны шляхам раскрыцця супярэчнасцей у суджэнні праціўніка і пераадалення гэтых супярэчнасцей. У старажытнасці некаторыя філосафы лічылі, што раскрыццё супярэчнасцей у мышленні і сутычка процілеглых думак з'яўляецца лепшым сродкам выяўлення ісціны. Гэты дыялектычны спосаб мышлення, пашыраны пазней на з'явы прыроды, ператварыўся ў дыялектычны метад пазнання прыроды, які разглядаў з'явы прыроды, як вечна рухаючыяся і змяняючыяся, а развіццё прыроды—як рэзультат развіцця супярэчнасцей у прыродзе, як рэзультат узаемадзеяння процілеглых сіл у прыродзе.

У сваёй аснове дыялектыка прама процілегла метафізіцы.

1) Марксісцкі **дыялектычны метад** характарызуецца наступнымі асноўнымі рысамі:

а) У процілегласць метафізіцы дыялектыка разглядае прыроду не як выпадковае скапленне прадметаў, з'яў, адарваных адны ад другіх, ізаляваных адны ад другіх і не залежных адны ад другіх,— а як звязнае, адзінае цэлае, дзе прадметы, з'явы арганічна звязаны адны з другімі, залежаць адны ад другіх і абумоўліваюць адны другіх.

Таму дыялектычны метад лічыць, што ні адна з'ява ў прыродзе не можа быць зразумета, калі ўзяць яе ў ізаляваным выглядзе, па-за сувяззю з акружаючымі з'явамі, бо любая з'ява ў любой галіне прыроды можа быць ператворана ў бяссэнсіцу, калі яе разглядаць па-за сувяззю з акружаючымі ўмовамі, у адрыве ад іх, і, наадварот, любая з'ява можа быць зразумета і абгрунтавана, калі яна разглядаецца ў яе неразрыўнай сувязі з акружаючымі з'явамі, у яе абумоўленасці ад акружаючых яе з'яў.

б) У процілегласць метафізіцы дыялектыка разглядае прыроду не як стан спакою і нерухомасці, застою і незмяняемасці, а як стан безупыннага руху і змянення, безупыннага абнаўлення і развіцця, дзе заўсёды штосьці ўзнікае і развіваецца, штосьці разбураецца і аджывае свой век.

Таму дыялектычны метад патрабуе, каб з'явы разглядаліся не толькі з пункту гледжання іх узаемнай сувязі і абумоўленасці, але і з пункту гледжання іх руху, іх змянення, іх развіцця, з пункту гледжання іх узнікнення і адмірання.

Для дыялектычнага метада важна перш за ўсё не тое, што здаецца ў даны момант трывалым, але пачынае ўжо адміраць, а тое, што ўзнікае і развіваецца, калі нават выглядае яно ў даны момант нетрывалым, бо для яго неадаліма толькі тое, што ўзнікае і развіваецца.

> «Уся прырода, гаворыць Энгельс, пачынаючы ад найдрабнейшых часцінак яе да найвялікшых цел, пачынаючы ад пясчынкі і канчаючы сонцам, пачынаючы ад пратысты (пярвічная жывая клетачка.—**Рэд.**) і канчаючы чалавекам, знаходзіцца ў вечным узнікненні і знішчэнні, у бесперапынным цячэнні, у нястомным руху і змяненні» (**К. Маркс і Ф. Энгельс,** т. XIV, стар. 484).

Таму, гаворыць Энгельс, дыялектыка «бярэ рэчы і іх разумовыя адлюстраванні галоўным чынам у іх узаемнай сувязі, у іх счапленні, у іх руху, у іх узнікненні і знікненні» (там-жа, стар. 23).

в) У процілегласць метафізіцы дыялектыка разглядае працэс развіцця, не як просты працэс росту, дзе колькасныя змяненні не вядуць да якасных змяненняў,—а як такое развіццё, якое пераходзіць ад нязначных і скрытых колькасных змяненняў да змяненняў адкрытых, да змяненняў карэнных, да змяненняў якасных, дзе якасныя змяненні наступаюць не паступова, а быстра, раптоўна, у выглядзе скачкападобнага пераходу ад аднаго стану да другога стану, наступаюць не выпадкова, а законамерна, наступаюць у рэзультаце накаплення непрыметных і паступовых колькасных змяненняў.

Таму дыялектычны метад лічыць, што працэс развіцця трэба разумець не як рух па кругу, не як простае паўтарэнне пройдзенага, а як рух паступальны, як рух па ўзыходзячай лініі, як пераход ад старога якаснага стану да новага якаснага стану, як развіццё ад простага да складанага, ад ніжэйшага да вышэйшага.

> «Прырода, гаворыць Энгельс, ёсць пробны камень дыялектыкі, і сучаснае прыродазнаўства, якое прадставіла для гэтай пробы надзвычай багаты, з кожным днём павялічваючыйся матэрыял, тым самым даказала, што ў прыродзе, урэшце, усё адбываецца дыялектычна, а не метафізічна, што яна рухаецца не ў вечна аднародным, пастаянна нанова паўтараючымся кругу, а перажывае сапраўдную гісторыю. Тут перш за ўсё трэба ўказаць на Дарвіна, які нанёс вельмі моцны ўдар метафізічнаму погляду на прыроду, даказаўшы, што ўвесь сучасны арганічны свет, расліны і жывёлы, а значыць таксама і чалавек, ёсць прадукт працэсу развіцця, які прадаўжаўся мільёны год» (там-жа, стар. 23).

Характарызуючы дыялектычнае развіццё, як пераход ад колькасных змяненняў да якасных змяненняў, Энгельс гаворыць:

> «У фізіцы... кожнае змяненне ёсць пераход колькасці ў якасць—вынік колькаснага змянення ўласцівай целу або наданай яму колькасці руху якой-небудзь формы. Так, напрыклад, тэмпература вады не мае на першы час ніякага значэння ў адносінах да яе кропельна-вадкага стану; але пры павелічэнні або памяншэнні тэмпературы вадкай вады наступае момант, калі гэты стан счаплення змяняецца, і вада ператвараецца— у адным выпадку ў пару, у другім—у лёд... Так, неабходзен пэўны мінімум сілы току, каб платынавы дрот стаў даваць святло; так, у кожнага метала ёсць свая цеплыня плаўлення; так, у кожнай вадкасці ёсць свая пэўная, пры даным ціску, точка замярзання і кіпення—пакольки мы ў сілах пры нашых сродках дабіцца адпаведнай тэмпературы; так, нарэшце, у кожнага газа ёсць крытычная точка, пры якой адпаведным ціскам і ахаладжэннем можна ператварыць яго ў вадкі стан... Так званыя канстанты фізікі (точкі пераходу ад аднаго стану ў другі стан.—**Рэд.**) ёсць у большасці не што іншае, як назва вузлавых пунктаў, дзе колькаснае (змяненне) прыбаўленне або ўбаўленне руху выклікае якаснае змяненне ў стане адпаведнага цела,—дзе, значыць, колькасць пераходзіць у якасць» (там-жа, стар. 527—528).

Пераходзячы, далей, да хіміі, Энгельс прадаўжае:

> «Хімію можна назваць навукай аб якасных змяненнях цел, якія адбываюцца пад уплывам змянення колькаснага састава.

Гэта ведаў ужо сам Гегель... Возьмем кіслярод: калі ў малекулу тут злучаюцца тры атамы, а не два, як звычайна, то мы маем перад сабою азон—цела, якое выразна адрозніваецца сваім пахам і дзеяннем ад звычайнага кіслярода. А што сказаць аб розных прапорцыях, у якіх кіслярод злучаецца з азотам або серай і з якіх кожнае дае цела, якасна адметнае ад усіх іншых цел!» (**К. Маркс** і **Ф. Энгельс**, т. XIV, стар. 528).

Нарэшце, крытыкуючы Дзюрынга, які ругае ва ўсю Гегеля і тут-жа цішком запазычае ў яго вядомае палажэнне аб тым, што пераход з царства беспачуццёвага свету ў царства адчування, з царства неарганічнага свету ў царства арганічнага жыцця—ёсць скачок у новы стан, Энгельс гаворыць:

«Гэта-ж гегелеўская вузлавая лінія адносін меры, дзе чыста колькаснае павелічэнне або памяншэнне выклікае ў пэўных вузлавых пунктах **якасны скачок**, як, напрыклад, у выпадку награвання або ахаладжэння вады, дзе точкі кіпення і замярзання з'яўляюцца тымі вузламі, у якіх адбываецца—пры нармальным ціску—скачок у новы агрэгатны стан, дзе, значыць, колькасць пераходзіць у якасць» (там-жа, стар. 45—46).

г) У процілегласць метафізіцы дыялектыка зыходзіць з таго, што прадметам прыроды, з'явам прыроды ўласцівы ўнутраныя супярэчнасці, бо ўсе яны маюць свой адмоўны і дадатны бок, сваё мінулае і будучае, сваё аджываючае і развіваючаеся, што барацьба гэтых процілегласцей, барацьба паміж старым і новым, паміж адміраючым і нараджаючымся, паміж аджываючым і развіваючымся складае ўнутраны змест працэсу развіцця, унутраны змест ператварэння колькасных зьмяненняў у якасныя.

Таму дыялектычны метад лічыць, што працэс развіцця ад ніжэйшага да вышэйшага працякае не ў парадку гарманічнага разгортвання з'яў, а ў парадку раскрыцця супярэчнасцей, уласцівых прадметам, з'явам, у парадку «барацьбы» процілеглых тэндэнцый, дзеючых на аснове гэтых супярэчнасцей.

«Ва ўласным сэнсе дыялектыка, гаворыць Ленін, ёсць вывучэнне супярэчнасці **ў самой сутнасці прадметаў» (Ленін,** «Філасофскія сшыткі», стар. 263).

І далей:

«Развіццё ёсць «барацьба» процілегласцей» **(Ленін,** т. XIII, стар. 301).

Такія каротка асноўныя рысы марксісцкага дыялектычнага метада. Не цяжка зразумець, якое велізарнае значэнне мае пашырэнне палажэнняў дыялектычнага метада на вывучэнне грамадскага жыцця, на вывучэнне гісторыі грамадства, якое велізарнае значэнне мае прымяненне гэтых палажэнняў да гісторыі грамадства, да практычнай дзейнасці партыі пролетарыята.

Калі няма ў свеце ізаляваных з'яў, калі ўсе з'явы звязаны паміж сабою і абумоўліваюць адны другіх, то ясна, што кожны грамадскі лад і кожны грамадскі рух у гісторыі трэба расцэньваць не з пункту гледжання «вечнай справядлівасці» або іншай якой-небудзь прадузятай ідэі, як гэта робяць нярэдка гісторыкі, а з пункту гледжання тых умоў, якія парадзілі гэты лад і гэты грамадскі рух і з якімі яны звязаны.

Рабаўладальніцкі лад для сучасных умоў ёсць бяссэнсіца, процінатуральнае глупства. Рабаўладальніцкі лад ва ўмовах разлагаючагася першабытна-абшчыннага ладу ёсць зусім зразумелая і заканамерная з'ява, бо ён азначае крок наперад у параўнанні з першабытна-абшчынным ладам.

Патрабаванне буржуазна-дэмакратычнай рэспублікі ва ўмовах існавання царызма і буржуазнага грамадства, скажам, у 1905 годзе ў Расіі было зусім зразумелым, правільным і рэволюцыйным патрабаваннем, бо буржуазная рэспубліка азначала тады крок наперад. Патрабаванне буржуазна-дэмакратычнай рэспублікі для нашых цяперашніх умоў у СССР ёсць бяссэнснае і контррэволюцыйнае патрабаванне, бо буржуазная рэспубліка ў параўнанні з Савецкай рэспублікай ёсць крок назад.

Усё залежыць ад умоў, месца і часу.

Зразумела, што без такога **гістарычнага** падыходу да грамадскіх з'яў немагчыма існаванне і развіццё навукі аб гісторыі, бо толькі такі падыход збаўляе гістарычную навуку ад ператварэння яе ў хаос выпадковасцей і ў груду недарэчнейшых памылак.

Далей. Калі свет знаходзіцца ў бесперапынным руху і развіцці, калі адміранне старога і нарастанне новага з'яўляецца законам развіцця, то ясна, што няма больш «непахісных» грамадскіх парадкаў, «вечных прынцыпаў» прыватнай уласнасці і эксплуатацыі, «вечных ідэй» падпарадкавання сялян памешчыкам, рабочых капіталістам.

Значыць, капіталістычны лад можна замяніць соцыялістычным ладам, гэтак сама, як капіталістычны лад замяніў у свой час феадальны лад.

Значыць, трэба арыентавацца не на тыя слаі грамадства, якія не развіваюцца больш, хоць і прадстаўляюць у сучасны момант пераважаючую сілу, а на тыя слаі, якія развіваюцца, маюць будучыню, хоць і не прадстаўляюць у сучасны момант пераважаючай сілы.

У васьмідзесятых годах мінулага стагоддзя, у эпоху барацьбы марксістаў з народнікамі, пролетарыят у Расіі прадстаўляў нязначную меншасць у параўнанні з аднаасобным сялянствам, якое складала велізарную большасць насельніцтва. Але пролетарыят развіваўся, як клас, тады як сялянства, як клас, распадалася. І іменна таму, што пролетарыят развіваўся, як клас, марксісты арыентаваліся на пролетарыят. І яны не памыліліся, бо, як вядома, пролетарыят вырас потым з нязначнай сілы ў першаступенную гістарычную і палітычную сілу.

Значыць, каб не памыліцца ў палітыцы, трэба глядзець наперад, а не назад.

Далей. Калі пераход павольных колькасных змяненняў у быстрыя і раптоўныя якасныя змяненні з'яўляецца законам развіцця, то ясна, што рэволюцыйныя перавароты, якія робяць прыгнечаныя класы, прадстаўляюць зусім натуральную і немінучую з'яву.

Значыць, пераход ад капіталізма да соцыялізма і вызваленне рабочага класа ад капіталістычнага гнёту можа быць ажыццёўлена не шляхам павольных змяненняў, не шляхам рэформ, а толькі шляхам якаснага змянення капіталістычнага ладу, шляхам рэволюцыі.

Значыць, каб не памыліцца ў палітыцы, трэба быць рэволюцыянерам, а не рэфармістам.

Далей. Калі развіццё адбываецца ў парадку раскрыцця ўнутраных супярэчнасцей, у парадку сутычак процілеглых сіл на базе гэтых супярэчнасцей з тым, каб пераадалець гэтыя супярэчнасці, то

ясна, што класавая барацьба пролетарыята з'яўляецца зусім натуральнай і немінучай з'явай.

Значыць, трэба не замазваць супярэчнасці капіталістычных парадкаў, а ўскрываць іх і разматваць, не тушыць класавую барацьбу, а даводзіць яе да канца.

Значыць, каб не памыліцца ў палітыцы, трэба праводзіць непрымірымую класавую пролетарскую палітыку, а не рэфармісцкую палітыку гармоніі інтарэсаў пролетарыята і буржуазіі, а не згодніцкую палітыку «ўрастання» капіталізма ў соцыялізм.

Так абстаіць справа з марксісцкім дыялектычным метадам, калі ўзяць яго ў прымяненні да грамадскага жыцця, у прымяненні да гісторыі грамадства.

Што датычыць марксісцкага філасофскага матэрыялізма, то ў сваёй аснове ён прама процілеглы філасофскаму ідэалізму.

2) Марксісцкі філасофскі **матэрыялізм** характарызуецца наступнымі асноўнымі рысамі:

а) У процілегласць ідэалізму, які лічыць свет увасабленнем «абсалютнай ідэі», «сусветнага духу», «сазнання»,—філасофскі матэрыялізм Маркса выходзіць з таго, што свет па прыродзе сваёй **матэрыяльны,** што featureрознастайныя з'явы ў свеце прадстаўляюць розныя віды рухаючайся матэрыі, што ўзаемная сувязь і ўзаемная абумоўленасць з'яў, устанаўляемыя дыялектычным метадам, прадстаўляюць законамернасці развіцця рухаючайся матэрыі, што свет развіваецца па законах руху матэрыі і не адчувае патрэбы ні ў якім «сусветным духу».

> «Матэрыялістычны светапогляд, гаворыць Энгельс, азначае проста разуменне прыроды такою, якою яна ёсць, без усякіх пабочных прыбаўленняў» **(К. Маркс і Ф. Энгельс,** т. XIV, стар. 651).

Закранаючы матэрыялістычны погляд старажытнага філосафа—Геракліта, па якому «свет, адзіны з усяго, не створан нікім з багоў і нікім з людзей, а быў, ёсць і будзе вечна жывым агнём, законамерна ўспалымняючымся і законамерна ўгасаючым»,—Ленін гаворыць: «Вельмі добрае ізлажэнне пачаткаў дыялектычнага матэрыялізма» **(Ленін.** «Філасофскія сшыткі», стар. 318).

б) У процілегласць ідэалізму, які сцвярджае, што рэальна існуе толькі наша сазнанне, што матэрыяльны свет, быццё, прырода існуе толькі ў нашым сазнанні, у нашых адчуваннях, уяўленнях, паняццях,—марксісцкі філасофскі матэрыялізм выходзіць з таго, што матэрыя, прырода, быццё прадстаўляе аб'ектыўную рэальнасць, існуючую звонку і незалежна ад сазнання, што матэрыя пярвічна, бо яна з'яўляецца крыніцай адчуванняў, уяўленняў, сазнання, а сазнанне ўтарычна, праізводна, бо яно з'яўляецца адлюстраваннем матэрыі, адлюстраваннем быцця, што мышленне ёсць прадукт матэрыі, якая дасягнула ў сваім развіцці высокай ступені дасканаласці, а іменна—прадукт мозга, а мозг—орган мышлення, што нельга таму аддзяляць мышленне ад матэрыі, не жадаючы ўпасці ў грубую памылку.

> «Вышэйшае пытанне ўсёй філасофіі, гаворыць Энгельс, ёсць пытанне аб адносінах мышлення да быцця, духа да прыроды. ... Філосафы раздзяліліся на два вялікія лагеры адпаведна таму, як адказвалі яны на гэтае пытанне. Тыя, якія сцвярджалі, што дух існаваў раней прыроды... склалі **ідэалістычны** лагер. Тыя-ж, якія асноўным пачаткам лічылі прыроду, прымкнулі да

розных школ **матэрыялізма»** (**К. Маркс,** Выбраныя творы, т. І, стар. 329).

І далей:

«Рэчавы, пачуццёва ўспрымаемы свет, да якога належым мы самі, ёсць адзіны рэчаісны свет... Наша сазнанне і мышленне, якім-бы звышпачуццёвым яно ні здавалася, з'яўляецца прадуктам рэчавага, цялеснага органа, мозга. Матэрыя не ёсць прадукт духа, а дух сам ёсць толькі вышэйшы прадукт матэрыі» (там-жа, стар. 332).

Закранаючы пытанне аб матэрыі і мышленні, Маркс гаворыць:

**«Нельга аддзяліць мышленне ад матэрыі, якая мысліць.** Матэрыя з'яўляецца суб'ектам усіх змяненняў» (там-жа, стар. 302).

Характарызуючы марксісцкі філасофскі матэрыялізм, Ленін гаворыць:

«Матэрыялізм наогул прызнае аб'ектыўна рэальнае быццё (матэрыю) незалежнае ад сазнання, ад адчування, ад вопыту... Сазнанне... ёсць толькі адлюстраванне быцця, у лепшым выпадку прыблізна вернае (адэкватнае, ідэальна-дакладнае) яго адлюстраванне» (**Ленін,** т. XIII, стар. 266—267).

І далей:

а) «Матэрыя ёсць тое, што, дзеючы на нашы органы пачуццяў, робіць адчуванне; матэрыя ёсць аб'ектыўная рэальнасць, даная нам у адчуванні... Матэрыя, прырода, быццё, фізічнае ёсць пярвічнае, а дух, сазнанне, адчуванне, псіхічнае—утарычнае» (там-жа, стар. 119—120).

б) «Карціна свету ёсць карціна таго, як матэрыя рухаецца і як **«матэрыя мысліць»** (там-жа, стар. 288).

в) «Мозг з'яўляецца органам мыслі» (там-жа, стар. 125).

в) У процілегласць ідэалізму, які аспрэчвае магчымасць пазнання свету і яго законамернасцей, не верыць у даставернасць нашых ведаў, не прызнае аб'ектыўнай ісціны, і лічыць, што свет поўны «рэчаў у сабе», якія не могуць быць ніколі пазнаны навукай,—марксісцкі філасофскі матэрыялізм зыходзіць з таго, што свет і яго законамернасці ўпаўне пазнавальны, што нашы веды аб законах прыроды, правераныя вопытам, практыкай з'яўляюцца даставернымі ведамі, якія маюць значэнне аб'ектыўных ісцін, што няма ў свеце непазнавальных рэчаў, а ёсць толькі рэчы, яшчэ не пазнаныя, якія будуць раскрыты і пазнаны сіламі навукі і практыкі.

Крытыкуючы палажэнне Канта і іншых ідэалістаў аб непазнавальнасці свету і непазнавальных «рэчах у сабе» і адстойваючы вядомае палажэнне матэрыялізма аб даставернасці нашых ведаў, Энгельс піша:

«Самае-ж рашучае абвяржэнне гэтых, як і ўсіх іншых, філасофскіх вывертаў заключаецца ў практыцы, іменна ў эксперыменце і ў прамысловасці. Калі мы можам даказаць правільнасць нашага разумення данай з'явы прыроды тым, што мы самі яе робім, выклікаем яе з яе ўмоў, прымушаем яе апрача таго-ж служыць нашым мэтам, то кантаўскай неўлавімай «рэчы ў сабе» прыходзіць канец. Хімічныя вяшчэствы, якія ўтвараюцца ў це-

лах жывёл і раслін, аставаліся падобнымі «рэчамі ў сабе», пакуль арганічная хімія не стала прыгатаўляць іх адно за другім; тым самым «рэч у сабе» ператваралася ў рэч для нас, як, напрыклад, алізарын, фарбуючае вешчаство марэны; якое мы цяпер атрымліваем не з карэнняў марэны, вырошчваемай у полі, а значна дзешавей і прасцей з каменна-вугальнага дзёгцю. Сонечная сістэма Каперніка на працягу трохсот год аставалася гіпотэзай, у вышэйшай ступені імавернай, але ўсё-такі гіпотэзай. Калі-ж Левер'е, на падставе даных гэтай сістэмы, не толькі даказаў, што павінна існаваць яшчэ адна, невядомая да таго часу, планета, але і вызначыў пры дапамозе вылічэння месца, займаемае ёю ў нябеснай прасторы, і калі пасля гэтага Гале сапраўды знайшоў гэту планету, сістэма Каперніка была даказана» (**К. Маркс**, Выбраныя творы, т. I, стар. 330).

Абвінавачваючы Багданава, Базарава, Юшкевіча і іншых староннікаў Маха ў фідэізме і адстойваючы вядомае палажэнне матэрыялізма аб тым, што нашы навуковыя веды аб законамернасцях у прыродзе з'яўляюцца даставернымі, што законы навукі прадстаўляюць аб'ектыўную ісціну, Ленін гаворыць:

«Сучасны фідэізм зусім не адвяргае навукі; ён адвяргае толькі «празмерныя прэтэнзіі» навукі, іменна, прэтэнзію на аб'ектыўную ісціну. Калі існуе аб'ектыўная ісціна (як думаюць матэрыялісты), калі прыродазнаўства, адлюстроўваючы знешні свет у «вопыце» чалавека, адно толькі здольна даваць нам аб' ектыўную ісціну, то ўсякі **фідэізм адвяргаецца** безумоўна» (**Ленін**, т. XIII, стар. 102).

Такавы каротка характэрныя рысы марксісцкага філасофскага матэрыялізма.

Лёгка зразумець, якое велізарнае значэнне мае пашырэнне палажэнняў філасофскага матэрыялізма на вывучэнне грамадскага жыцця, на вывучэнне гісторыі грамадства, якое велізарнае значэнне мае прымяненне гэтых палажэнняў да гісторыі грамадства, да практычнай дзейнасці партыі пролетарыята.

Калі сувязь з'яў прыроды і ўзаемная іх абумоўленасць прадстаўляюць законамернасці развіцця прыроды, то з гэтага выцякае, што сувязь і ўзаемная абумоўленасць з'яў грамадскага жыцця—прадстаўляюць таксама не выпадковую справу, а законамернасці развіцця грамадства.

Значыць, грамадскае жыццё, гісторыя грамадства перастае быць скапленнем «выпадковасцей», бо гісторыя грамадства становіцца законамерным развіццём грамадства, а вывучэнне гісторыі грамадства ператвараецца ў навуку.

Значыць, практычная дзейнасць партыі пролетарыята павінна асноўвацца не на добрых пажаданнях «выдаючыхся асоб», не на патрабаваннях «розуму», «усеагульнай маралі» і т. п., а на законамернасцях развіцця грамадства, на вывучэнні гэтых законамернасцей.

Далей. Калі свет пазнавальны і нашы веды аб законах развіцця прыроды з'яўляюцца даставернымі ведамі, якія маюць значэнне аб'ектыўнай ісціны, то з гэтага вынікае, што грамадскае жыццё, развіццё грамадства—таксама пазнавальна, а даныя навукі аб законах развіцця грамадства,—з'яўляюцца даставернымі данымі, якія маюць значэнне аб'ектыўных ісцін.

Значыць, навука аб гісторыі грамадства, не гледзячы на ўсю складанасць з'яў грамадскага жыцця, можа стаць такой-жа дакладнай навукай, як, скажам, біялогія, здольнай скарыстаць законы развіцця грамадства для практычнага прымянення.

Значыць, у сваёй практычнай дзейнасці партыя пролетарыята павінна кіравацца не якімі-небудзь выпадковымі матывамі, а законамі развіцця грамадства, практычнымі вывадамі з гэтых законаў.

Значыць, соцыялізм з мары аб лепшым будучым чалавецтва ператвараецца ў навуку.

Значыць, сувязь навукі і практычнай дзейнасці, сувязь тэорыі і практыкі, іх адзінства павінна стаць пуцяводнай зоркай партыі пролетарыята.

Далей. Калі прырода, быццё, матэрыяльны свет з'яўляецца пярвічным, а сазнанне, мышленне—утарычным, праізводным, калі матэрыяльны свет прадстаўляе аб'ектыўную рэальнасць, існуючую незалежна ад сазнання людзей, а сазнанне з'яўляецца адлюстраваннем гэтай аб'ектыўнай рэальнасці, го з гэтага вынікае, што матэрыяльнае жыццё грамадства, яго быццё таксама з'яўляецца пярвічным, а яго духоўнае жыццё—утарычным, праізводным, што матэрыяльнае жыццё грамадства ёсць аб'ектыўная рэальнасць, якая існуе незалежна ад волі людзей, а духоўнае жыццё грамадства ёсць адлюстраванне гэтай аб'ектыўнай рэальнасці, адлюстраванне быцця.

Значыць, крыніцу фарміравання духоўнага жыцця грамадства, крыніцу паходжання грамадскіх ідэй, грамадскіх тэорый, палітычных поглядаў, палітычных устаноў трэба шукаць не ў саміх ідэях, тэорыях, поглядах, палітычных установах, а ва ўмовах матэрыяльнага жыцця грамадства, у грамадскім быцці, адлюстраваннем якога з'яўляюцца гэтыя ідэі, тэорыі, погляды і т. п.

Значыць, калі ў розныя перыяды гісторыі грамадства назіраюцца розныя грамадскія ідэі, тэорыі, погляды, палітычныя ўстановы, калі пры рабаўладальніцкім ладзе сустракаем адны грамадскія ідэі, тэорыі, погляды, палітычныя ўстановы, пры феадалізме—другія, пры капіталізме—трэція, то гэта тлумачыцца не «прыродай», не «уласцівасцю» саміх ідэй, тэорый, поглядаў, палітычных устаноў, а рознымі ўмовамі матэрыяльнага жыцця грамадства ў розныя перыяды грамадскага развіцця.

Якое быццё грамадства, якія ўмовы матэрыяльнага жыцця грамадства,—такія яго ідэі, тэорыі, палітычныя погляды, палітычныя ўстановы.

У сувязі з гэтым Маркс гаворыць:

> «Не сазнанне людзей вызначае іх быццё, а, наадварот, іх грамадскае быццё вызначае іх сазнанне» (**К. Маркс**, Выбраныя творы, т. I, стар. 269).

Значыць, каб не памыліцца ў палітыцы і не папасці ў становішча пустых мечтацеляў, партыя пролетарыята павінна зыходзіць у сваёй дзейнасці не з абстрактных «прынцыпаў чалавечага розуму», а з канкрэтных умоў матэрыяльнага жыцця грамадства, як рашаючай сілы грамадскага развіцця, не з добрых пажаданняў «вялікіх людзей», а з рэальных патрэбнасцей развіцця матэрыяльнага жыцця грамадства.

Падзенне утапістаў, у тым ліку народнікаў, анархістаў, эсэраў тлумачыцца, між іншым, тым, што яны не прызнавалі першынствуючай ролі ўмоў матэрыяльнага жыцця грамадства ў развіцці грамад-

ства і, упадаючы ў ідэалізм, будавалі сваю практычную дзейнасць не на аснове патрэбнасцей развіцця матэрыяльнага жыцця грамадства, а незалежна ад іх і наперакор ім,—будавалі на аснове «ідэальных планаў» і «усеабдымных праектаў», адарваных ад рэальнага жыцця грамадства.

Сіла і жыццёвасць марксізма-ленінізма заключаецца ў тым, што ён апіраецца ў сваёй практычнай дзейнасці іменна на патрэбнасці развіцця матэрыяльнага жыцця грамадства, ніколі не адрываючыся ад рэальнага жыцця грамадства.

Са слоў Маркса, аднак, не выцякае, што грамадскія ідэі, тэорыі, палітычныя погляды, палітычныя ўстановы не маюць значэння ў жыцці грамадства, што яны не робяць адваротнага ўздзеяння на грамадскае быццё, на развіццё матэрыяльных умоў жыцця грамадства. Мы гаварылі тут пакуль-што аб **паходжанні** грамадскіх ідэй, тэорый, поглядаў, палітычных устаноў, аб іх **узнікненні**, аб тым, што духоўнае жыццё грамадства з'яўляецца адлюстраваннем умоў яго матэрыяльнага жыцця. Што датычыць **значэння** грамадскіх ідэй, тэорый, поглядаў, палітычных устаноў, што датычыць іх **ролі** ў гісторыі, то гістарычны матэрыялізм не толькі не адмаўляе, а, наадварот, падкрэслівае іх сур'ёзную ролю і значэнне ў жыцці грамадства, у гісторыі грамадства.

Грамадскія ідэі і тэорыі бываюць розныя. Ёсць старыя ідэі і тэорыі, якія аджылі свой век і служаць інтарэсам аджываючых сіл грамадства. Іх значэнне заключаецца ў тым, што яны тармозяць развіццё грамадства, яго прасоўванне наперад. Бываюць новыя, перадавыя ідэі і тэорыі, якія служаць інтарэсам перадавых сіл грамадства. Іх значэнне заключаецца ў тым, што яны аблягчаюць развіццё грамадства, яго прасоўванне наперад, прычым яны набываюць тым большае значэнне, чым дакладней яны адлюстроўваюць патрэбнасці развіцця матэрыяльнага жыцця грамадства.

Новыя грамадскія ідэі і тэорыі ўзнікаюць толькі пасля таго, як развіццё матэрыяльнага жыцця грамадства паставіла перад грамадствам новыя задачы. Але пасля таго, як яны ўзніклі, яны становяцца сур'ёзнейшай сілай, аблягчаючай вырашэнне новых задач, пастаўленых развіццём матэрыяльнага жыцця грамадства, аблягчаючай прасоўванне грамадства наперад. Тут іменна і сказваецца найвялікшае арганізуючае, мабілізуючае і пераўтвараючае значэнне новых ідэй, новых тэорый, новых палітычных поглядаў, новых палітычных устаноў. Новыя грамадскія ідэі і тэорыі таму ўласна і ўзнікаюць, што яны неабходны для грамадства, што без іх арганізуючай, мабілізуючай і пераўтвараючай работы **немагчыма** вырашэнне наспеўшых задач развіцця матэрыяльнага жыцця грамадства. Узнікнуўшы на базе новых задач, пастаўленых развіццём матэрыяльнага жыцця грамадства, новыя грамадскія ідэі і тэорыі прабіваюць сабе дарогу, становяцца здабыткам народных мас, мабілізуюць іх, арганізуюць іх супроць аджываючых сіл грамадства і аблягчаюць, такім чынам, звяржэнне аджываючых сіл грамадства, тармозячых развіццё матэрыяльнага жыцця грамадства.

Так грамадскія ідэі, тэорыі, палітычныя ўстановы, узнікшы на базе наспеўшых задач развіцця матэрыяльнага жыцця грамадства, развіцця грамадскага быцця,—самі ўздзейнічаюць потым на грамадскае быццё, на матэрыяльнае жыццё грамадства, ствараючы ўмовы, неабходныя для таго, каб давесці да канца вырашэнне наспеўшых за-

дач матэрыяльнага жыцця грамадства і зрабіць магчымым далейшае яго развіццё.

У сувязі з гэтым Маркс гаворыць:

> «Тэорыя становіцца матэрыяльнай сілай, як толькі яна авалодвае масамі» (**К. Маркс** і **Ф. Энгельс**, т. I, стар. 406).

Значыць, каб мець магчымасць уздзейнічаць на ўмовы матэрыяльнага жыцця грамадства і паскорыць іх развіццё, паскорыць іх паляпшэнне, партыя пролетарыята павінна абаперціся на такую грамадскую тэорыю, на такую грамадскую ідэю, якая правільна адлюстроўвае патрэбнасці развіцця матэрыяльнага жыцця грамадства і здольна з прычыны гэтага прывесці ў рух шырокія масы народа, здольна мабілізаваць іх і арганізаваць з іх вялікую армію пролетарскай партыі, гатовую разбіць рэакцыйныя сілы і пракласці дарогу перадавым сілам грамадства.

Падзенне «эканамістаў» і меншавікоў тлумачыцца, між іншым, тым, што яны не прызнавалі мабілізуючай, арганізуючай і пераўтвараючай ролі передавой тэорыі, передавой ідэі і, упадаючы ў вульгарны матэрыялізм, зводзілі іх ролю амаль да нуля,—значыць, асуджалі партыю на пасіўнасць, на гібенне.

Сіла і жыццёвасць марксізма-ленінізма заключаецца ў тым, што ён апіраецца на перадавую тэорыю, якая правільна адлюстроўвае патрэбнасці развіцця матэрыяльнага жыцця грамадства, падымае тэорыю на належную ёй вышыню і лічыць сваім абавязкам скарыстаць да дна яе мабілізуючую, арганізуючую і пераўтвараючую сілу.

Так вырашае гістарычны матэрыялізм пытанне аб адносінах паміж грамадскім быццём і грамадскім сазнаннем, паміж умовамі развіцця матэрыяльнага жыцця і развіццём духоўнага жыцця грамадства.

Астаецца высніць пытанне: што трэба разумець з пункту гледжання гістарычнага матэрыялізма пад «умовамі матэрыяльнага жыцця грамадства», якія вызначаюць у канчатковым выніку фізіяномію грамадства, яго ідэі, погляды, палітычныя ўстановы і т. д.

Сапраўды,—што гэта за «умовы матэрыяльнага жыцця грамадства», якія іх адметныя рысы?

Бясспрэчна, што ў паняцце «умовы матэрыяльнага жыцця грамадства» уваходзіць, перш за ўсё, акружаючая грамадства прырода, геаграфічнае асяроддзе, якое з'яўляецца адной з неабходных і пастаянных умоў матэрыяльнага жыцця грамадства і, вядома, робіць уплыў на развіццё грамадства. Якая роля геаграфічнага асяроддзя ў развіцці грамадства? Ці не з'яўляецца геаграфічнае асяроддзе той галоўнай сілай, якая вызначае фізіяномію грамадства, характар грамадскага ладу людзей, пераход ад аднаго ладу да другога?

Гістарычны матэрыялізм адказвае на гэта пытанне адмоўна.

Геаграфічнае асяроддзе, бясспрэчна, з'яўляецца адной з пастаянных і неабходных умоў развіцця грамадства і яно, вядома, робіць уплыў на развіццё грамадства,—яно паскарае, або замаруджвае ход развіцця грамадства. Але яго ўплыў не з'яўляецца **вызначаючым** уплывам, бо змяненні і развіццё грамадства адбываюцца непараўнальна хутчэй, чым змяненні і развіццё геаграфічнага асяроддзя. На працягу трох тысяч год у Еўропе паспелі змяніцца тры розныя грамадскія лады: першабытна-абшчынны лад, рабаўладальніцкі лад, феадальны лад, а ва ўсходняй частцы Еўропы, у СССР, змяніліся нават чатыры грамадскія лады. Між тым за той-жа перыяд геаграфічныя ўмовы ў Еўропе або не змяніліся зусім або змяніліся да

таго нязначна, што геаграфія адмаўляецца нават гаварыць аб гэтым. Яно і зразумела. Для колькі-небудзь сур'ёзных змяненняў геаграфічнага асяроддзя патрэбны мільёны год, тады як нават для сур'ёзнейшых змяненняў грамадскага ладу людзей дастаткова некалькіх соцень або пары тысяч год.

Але з гэтага вынікае, што геаграфічнае асяроддзе не можа служыць галоўнай прычынай, **вызначаючай** прычынай грамадскага развіцця, бо тое, што астаецца амаль нязменным на працягу дзесяткаў тысяч год, не можа служыць галоўнай прычынай развіцця таго, што пераджывае карэнныя змяненні на працягу соцень год.

Бясспрэчна, далей, што рост народанасялення, тая ці іншая шчыльнасць насельніцтва, таксама ўваходзіць у паняцце «умовы матэрыяльнага жыцця грамадства», бо людзі складаюць неабходны элемент умоў матэрыяльнага жыцця грамадства, і без наяўнасці пэўнага мінімума людзей не можа быць ніякага матэрыяльнага жыцця грамадства. Ці не з'яўляецца рост народанасялення той галоўнай сілай, якая вызначае характар грамадскага ладу людзей?

Гістарычны матэрыялізм адказвае на гэта пытанне таксама адмоўна.

Вядома, рост народанасялення мае ўплыў на развіццё грамадства, аблягчае або замаруджвае развіццё грамадства, але ён не можа быць галоўнай сілай развіцця грамадства, і яго ўплыў на развіццё грамадства не можа быць **вызначаючым** уплывам, таму што сам па сабе рост народанасялення не дае ключа для растлумачэння таго, чаму даны грамадскі лад змяняецца іменна такім-то новым ладам, а не якім-небудзь іншым, чаму першабытна-абшчынны лад змяняецца іменна рабаўладальніцкім ладам, рабаўладальніцкі лад—феадальным, феадальны—буржуазным, а не якім-небудзь іншым ладам.

Калі-б рост народанасялення з'яўляўся вызначаючай сілай грамадскага развіцця, больш высокая шчыльнасць насельніцтва абавязкова павінна была-б выклікаць да жыцця адпаведна больш высокі тып грамадскага ладу. На справе, аднак, гэтага не назіраецца. Шчыльнасць насельніцтва ў Кітаі ў чатыры разы вышэй, чым у ЗША, аднак ЗША стаяць вышэй з пункту гледжання грамадскага развіцця, чым Кітай, бо ў Кітаі ўсё яшчэ пануе поўфеадальны лад, тады як ЗША даўно ўжо дасягнулі вышэйшай стадыі развіцця капіталізма. Шчыльнасць насельніцтва ў Бельгіі ў 19 разоў вышэй, чым у ЗША, і ў 26 разоў вышэй, чым у СССР, аднак ЗША стаяць вышэй Бельгіі з пункту гледжання грамадскага развіцця, а ад СССР Бельгія адстала на цэлую гістарычную эпоху, бо ў Бельгіі пануе капіталістычны лад, тады як СССР пакончыў ужо з капіталізмам і ўстанавіў у сябе соцыялістычны лад.

Але з гэтага вынікае, што рост народанасялення не з'яўляецца і не можа з'яўляцца галоўнай сілай развіцця грамадства, **вызначаючай** характар грамадскага ладу, фізіяномію грамадства.

У чым-жа, у такім выпадку, заключаецца тая галоўная сіла ў сістэме ўмоў матэрыяльнага жыцця грамадства, якая вызначае фізіяномію грамадства, характар грамадскага ладу, развіццё грамадства ад аднаго ладу да другога?

Такою сілай гістарычны матэрыялізм лічыць **спосаб дабывання сродкаў да жыцця,** неабходных для існавання людзей, **спосаб вытворчасці матэрыяльных здабыткаў**—харчоў, адзення, абутку, жылля, паліва, прылад вытворчасці і т. п., неабходных для таго, каб грамадства магло жыць і развівацца.

Каб жыць, трэба мець харчы, адзенне, абутак, жыллё, паліва і т. п., каб мець гэтыя матэрыяльныя здабыткі, трэба вырабляць іх, а каб вырабляць іх, трэба мець прылады вытворчасці, пры дапамозе якіх людзі вырабляюць харчы, адзенне, абутак, жыллё, паліва і т. п., трэба ўмець вырабляць гэтыя прылады, трэба ўмець карыстацца гэтымі прыладамі.

**Прылады вытворчасці,** пры дапамозе якіх выпрабляюцца матэрыяльныя здабыткі, **людзі,** якія прыводзяць у рух прылады вытворчасці і ажыццяўляюць вытворчасць матэрыяльных здабыткаў дзякуючы пэўнаму **вытворчаму вопыту і навыкам да працы,**—усе гэтыя элементы разам складаюць **прадукцыйныя сілы** грамадства.

Але прадукцыйныя сілы складаюць толькі адзін бок вытворчасці, адзін бок спосабу вытворчасці, які выражае адносіны людзей да прадметаў і сіл прыроды, скарыстоўваемых для вытворчасці матэрыяльных здабыткаў. Другі бок вытворчасці, другі бок спосабу вытворчасці складаюць адносіны людзей адзін да аднаго ў працэсе вытворчасці, **вытворчыя адносіны** людзей. Людзі вядуць барацьбу з прыродай і скарыстоўваюць прыроду для вытворчасці матэрыяльных здабыткаў не ізалявана адзін ад аднаго, не ў якасці адарваных адзін ад аднаго адзіночак, а разам, групамі, таварыствамі. Таму вытворчасць ёсць заўсёды і пры ўсіх умовах **грамадская** вытворчасць. Ажыццяўляючы вытворчасць матэрыяльных здабыткаў, людзі ўстанаўляюць паміж сабою тыя ці іншыя ўзаемныя адносіны ўнутры вытворчасці, тыя ці іншыя вытворчыя адносіны. Адносіны гэтыя могуць быць адносінамі супрацоўніцтва і ўзаемнай дапамогі свабодных ад эксплуатацыі людзей, яны могуць быць адносінамі панавання і падпарадкавання, яны могуць быць, нарэшце, пераходнымі адносінамі ад адной формы вытворчых адносін да другой формы. Але які-б характар ні насілі вытворчыя адносіны, яны складаюць—заўсёды і пры ўсіх ладах—такі-ж неабходны элемент вытворчасці, як і прадукцыйныя сілы грамадства.

> «У вытворчасці, гаворыць Маркс, людзі ўздзейнічаюць не толькі на прыроду, але і адзін на аднаго. Яны не могуць вырабляць, не злучаючыся пэўным чынам для сумеснай дзейнасці і для ўзаемнага абмену сваёй дзейнасцю. Каб вырабляць, людзі ўступаюць у пэўныя сувязі і адносіны, і толькі праз гэтыя грамадскія сувязі і адносіны існуюць іх адносіны да прыроды, мае месца вытворчасць» (**К. Маркс і Ф. Энгельс,** т. V, стар. 429).

Значыць, вытворчасць, спосаб вытворчасці ахапляе як прадукцыйныя сілы грамадства, так і вытворчыя адносіны людзей, з'яўляючыся, такім чынам, увасабленнем іх адзінства ў працэсе вытворчасці матэрыяльных здабыткаў.

**Адна з асаблівасцей** вытворчасці заключаецца ў тым, што яна ніколі не застрае на доўгі перыяд на адным месцы і знаходзіцца заўсёды ў стане змянення і развіцця, прычым змяненні ў спосабе вытворчасці неміну́ча выклікаюць змяненне ўсяго грамадскага ладу, грамадскіх ідэй, палітычных поглядаў, палітычных устаноў,—выклікаюць перабудову ўсяго грамадскага і палітычнага ўкладу. На розных ступенях развіцця людзі карыстаюцца рознымі спосабамі вытворчасці, або, кажучы грубей,—вядуць розныя спосабы жыцця. Пры першабытнай абшчыне існуе адзін спосаб вытворчасці, пры рабстве існуе другі спосаб вытворчасці, пры феадалізме—трэці спосаб вытворчасці і т. д. Адпаведна з гэтым і грамадскі лад людзей, іх ду-

хоўнае жыццё, іх погляды, іх палітычныя ўстановы—бываюць рознымі.

Які спосаб вытворчасці ў грамадства,—такое ў асноўным і само грамадства, такія яго ідэі і тэорыі, палітычныя погляды і ўстановы.

Або, кажучы грубей: які спосаб жыцця людзей,—такі спосаб іх мыслей.

Гэта азначае, што гісторыя развіцця грамадства ёсць, перш за ўсё, гісторыя развіцця вытворчасці, гісторыя спосабаў вытворчасці, якія змяняюць адны другіх на працягу вякоў, гісторыя развіцця прадукцыйных сіл і вытворчых адносін людзей.

Значыць, гісторыя грамадскага развіцця ёсць разам з тым гісторыя саміх вытворцаў матэрыяльных здабыткаў, гісторыя працоўных мас, якія з'яўляюцца асноўнымі сіламі вытворчага працэса і якія ажыццяўляюць вытворчасць матэрыяльных здабыткаў, неабходных для існавання грамадства.

Значыць, гістарычная навука, калі яна хоча быць сапраўднай навукай, не можа больш зводзіць гісторыю грамадскага развіцця да дзеянняў каралёў і палкаводцаў, да дзеянняў «заваявальнікаў» і «пакарыцеляў» дзяржаў, а павінна, перш за ўсё, заняцца гісторыяй тварцоў матэрыяльных здабыткаў, гісторыяй працоўных мас, гісторыяй народаў.

Значыць, ключ да вывучэння законаў гісторыі грамадства трэба шукаць не ў галовах людзей, не ў поглядах і ідэях грамадства, а ў спосабе вытворчасці, які практыкуецца грамадствам у кожны даны гістарычны перыяд,—у эканоміцы грамадства.

Значыць, пярвейшай задачай гістарычнай навукі з'яўляецца вывучэнне і раскрыццё законаў вытворчасці, законаў развіцця прадукцыйных сіл і вытворчых адносін, законаў эканамічнага развіцця грамадства.

Значыць, партыя пролетарыята, калі яна хоча быць сапраўднай партыяй, павінна авалодаць, перш за ўсё, веданнем законаў развіцця вытворчасці, веданнем законаў эканамічнага развіцця грамадства.

Значыць, каб не памыліцца ў палітыцы, партыя пролетарыята павінна зыходзіць як у пабудове сваёй праграмы, так і ў сваёй практычнай дзейнасці, перш за ўсё, з законаў развіцця вытворчасці, з законаў эканамічнага развіцця грамадства.

**Другая асаблівасць** вытворчасці заключаецца ў тым, што яе змяненні і развіццё пачынаюцца заўсёды са змяненняў і развіцця прадукцыйных сіл, перш за ўсё—са змяненняў і развіцця прылад вытворчасці. Прадукцыйныя сілы з'яўляюцца, стала быць, найбольш рухомым і рэволюцыйным элементам вытворчасці. Спачатку змяняюцца і развіваюцца прадукцыйныя сілы грамадства, а потым, **у залежнасці** ад гэтых змяненняў і **адпаведна з імі**—змяняюцца вытворчыя адносіны людзей, эканамічныя адносіны людзей. Гэта не значыць, аднак, што вытворчыя адносіны не робяць уплыву на развіццё прадукцыйных сіл і апошнія не залежаць ад першых. Развіваючыся ў залежнасці ад развіцця прадукцыйных сіл, вытворчыя адносіны ў сваю чаргу ўздзейнічаюць на развіццё прадукцыйных сіл, паскараючы яго або замаруджваючы. Пры гэтым неабходна адзначыць, што вытворчыя адносіны не могуць вельмі доўга адставаць ад росту прадукцыйных сіл і знаходзіцца з ім у супярэчнасці, бо прадукцыйныя сілы могуць развівацца ў поўнай меры толькі ў тым выпадку, калі вытворчыя адносіны адпавядаюць характару, стану прадукцыйных сіл і даюць прастору развіццю прадукцый-

ных сіл. Таму, як-бы ні адставалі вытворчыя адносіны ад развіцця прадукцыйных сіл, яны павінны—рана ці позна—прыйсці ў адпаведнасць—і сапраўды прыходзяць у адпаведнасць—з узроўнем развіцця прадукцыйных сіл, з характарам прадукцыйных сіл. У адваротным выпадку мы мелі-б карэннае нарушэнне адзінства прадукцыйных сіл і вытворчых адносін у сістэме вытворчасці, разрыў вытворчасці ў цэлым, крызіс вытворчасці, разбурэнне прадукцыйных сіл.

Прыкладам неадпаведнасці вытворчых адносін характару прадукцыйных сіл, прыкладам канфлікту паміж імі—з'яўляюцца эканамічныя крызісы ў капіталістычных краінах, дзе прыватна-капіталістычная ўласнасць на сродкі вытворчасці знаходзіцца ў неймавернай неадпавядальнасці з грамадскім характарам працэсу вытворчасці, з характарам прадукцыйных сіл. Рэзультатам гэтай неадпавядальнасці з'яўляюцца эканамічныя крызісы, якія вядуць да разбурэння прадукцыйных сіл, пры чым сама гэтая неадпаведнасць прадстаўляе эканамічную аснову соцыяльнай рэволюцыі, назначэнне якой заключаецца ў тым, каб разбурыць цяперашнія вытворчыя адносіны і стварыць новыя, адпавядаючыя характару прадукцыйных сіл.

І наадварот, прыкладам поўнай адпаведнасці вытворчых адносін характару прадукцыйных сіл з'яўляецца соцыялістычная народная гаспадарка ў СССР, дзе грамадская ўласнасць на сродкі вытворчасці знаходзіцца ў поўнай адпаведнасці з грамадскім характарам працэсу вытворчасці і дзе ў выніку гэтага няма ні эканамічных крызісаў, ні разбурэння прадукцыйных сіл.

Значыць, прадукцыйныя сілы з'яўляюцца не толькі найбольш рухомым і рэволюцыйным элементам вытворчасці. Яны з'яўляюцца разам з тым вызначаючым элементам развіцця вытворчасці.

Якія прадукцыйныя сілы,—такімі павінны быць і вытворчыя адносіны.

Калі стан прадукцыйных сіл адказвае на пытанне аб тым, якімі прыладамі вытворчасці вырабляюць людзі неабходныя для іх матэрыяльныя здабыткі, то стан вытворчых адносін адказвае ўжо на другое пытанне: у чыім уладанні знаходзяцца **сродкі вытворчасці** (зямля, лясы, воды, нетры, сырыя матэрыялы, прылады вытворчасці, вытворчыя будынкі, сродкі зносін і сувязі і т. п.), у чыім распараджэнні знаходзяцца сродкі вытворчасці, у распараджэнні ўсяго грамадства або ў распараджэнні асобных людзей, груп, класаў, якія скарыстоўваюць іх для эксплуатацыі другіх асоб, груп, класаў.

Вось схематычная карціна развіцця прадукцыйных сіл ад старажытных часоў да нашых дзён. Пераход ад грубых каменных прылад да лука і стрэл і ў сувязі з гэтым пераход ад паляўнічага спосабу жыцця да прыручэння жывёл і першабытнай жывёлагадоўлі; пераход ад каменных прылад да металічных прылад (жалезная сякера, саха з жалезным лемехам і т. п.) і, адпаведна з гэтым, пераход да вырошчвання раслін і да земляробства; далейшае паляпшэнне металічных прылад апрацоўкі матэрыялаў, пераход да кавальскага меху, пераход да ганчарнай вытворчасці і, адпаведна з гэтым, развіццё рамяства, аддзяленне рамяства ад земляробства, развіццё самастойнай рамесніцкай і потым мануфактурнай вытворчасці; пераход ад рамесніцкіх прылад вытворчасці да машыны і ператварэнне рамесніцка-мануфактурнай вытворчасці ў машынную прамысловасць; пераход да сістэмы машын і паяўленне сучаснай буйнай машынізаванай прамысловасці,—такая агульная, далёка няпоўная, карціна развіцця прадукцыйных сіл грамадства на працягу гісторыі чалавецтва. Пры

гэтым зразумела, што развіццё і паляпшэнне прылад вытворчасці ажыццяўлялася людзьмі, якія мелі адносіны да вытворчасці, а не незалежна ад людзей,—значыць, разам са змяненнем і развіццём прылад вытворчасці змяняліся і развіваліся людзі, як важнейшы элемент прадукцыйных сіл, змяняліся і развіваліся іх вытворчы вопыт, іх навыкі да працы, іх уменне карыстацца прыладамі вытворчасці.

У адпаведнасці са змяненнем і развіццём прадукцыйных сіл грамадства на працягу гісторыі—змяняліся і развіваліся вытворчыя адносіны людзей, іх эканамічныя адносіны.

Гісторыі вядомы пяць **асноўных** тыпаў вытворчых адносін: першабытна-абшчынны, рабаўладальніцкі, феадальны, капіталістычны, соцыялістычны.

Пры першабытна-абшчынным ладзе асновай вытворчых адносін з'яўляецца грамадская ўласнасць на сродкі вытворчасці. Гэта ў асноўным адпавядае характару прадукцыйных сіл у гэты перыяд. Каменныя прылады і лукі і стрэлы, якія паявіліся потым, выключалі магчымасць барацьбы з сіламі прыроды і драпежнымі жывёламі ў адзіночку. Каб сабраць плады ў лесе, налавіць рыбу ў вадзе, пабудаваць якое-небудзь жыллё, людзі вымушаны працаваць разам, калі яны не хочуць стаць афярай галоднай смерці, драпежных жывёл або суседніх таварystваў. Агульная праца вядзе да агульнай уласнасці на сродкі вытворчасці, гэтак сама як на прадукты вытворчасці. Тут не маюць яшчэ паняцця аб прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці, калі не лічыць асабістай уласнасці на некаторыя прылады вытворчасці, якія з'яўляюцца разам з тым прыладамі для аховы ад драпежных звяроў. Тут няма эксплуатацыі, няма класаў.

Пры рабаўладальніцкім ладзе асновай вытворчых адносін з'яўляецца ўласнасць рабаўладальніка на сродкі вытворчасці, а таксама на работніка вытворчасці—раба, якога можа рабаўладальнік прадаць, купіць, забіць, як жывёлу. Такія вытворчыя адносіны ў асноўным адпавядаюць стану прадукцыйных сіл у гэты перыяд. Замест каменных прылад цяпер людзі мелі ў сваім распараджэнні металічныя прылады, замест жабрацкай і прымітыўнай паляўнічай гаспадаркі, якая не ведала ні жывёлагадоўлі, ні земляробства, паявіліся жывёлагадоўля, земляробства, рамёслы, раздзяленне працы паміж гэтымі галінамі вытворчасці, паявілася магчымасць абмену прадуктаў паміж асобнымі людзьмі і таварыствамі, магчымасць накаплення багацця ў руках нямногіх, сапраўднае накапленне сродкаў вытворчасці ў руках меншасці, магчымасць падпарадкавання большасці меншасцю і ператварэння іх у рабоў. Тут няма ўжо агульнай і свабоднай працы ўсіх членаў таварыства ў працэсе вытворчасці,—тут пануе прымусовая праца рабоў, эксплуатуемых непрацоўнымі рабаўладальнікамі. Таму няма і агульнай уласнасці на сродкі вытворчасці, гэтак сама як на прадукты вытворчасці. Яе замяняе прыватная ўласнасць. Тут рабаўладальнік з'яўляецца першым і асноўным поўнацэнным уласнікам.

Багатыя і бедныя, эксплуататары і эксплуатуемыя, поўнапраўныя і бяспраўныя, лютая класавая барацьба паміж імі—такія карціна рабаўладальніцкага ладу.

Пры феадальным ладзе асновай вытворчых адносін з'яўляецца ўласнасць феадала на сродкі вытворчасці і няпоўная ўласнасць на работніка вытворчасці,—прыгоннага, якога феадал ужо не можа забіць, але якога ён можа прадаць, купіць. Побач з феадальнай уласнасцю існуе аднаасобная ўласнасць селяніна і рамесніка на прылады

вытворчасці і на сваю прыватную гаспадарку, аснаваная на асабістай працы. Такія вытворчыя адносіны ў асноўным адпавядаюць стану прадукцыйных сіл у гэты перыяд. Далейшае палепшанне плаўкі і апрацоўкі жалеза; распаўсюджанне жалезнага плуга і ткацкага станка; далейшае развіццё земляробства, гародніцтва, вінаробства, масларобства; паяўленне побач з рамесніцкімі майстэрнямі мануфактурных прадпрыемстваў,—такія характэрныя рысы стану прадукцыйных сіл.

Новыя прадукцыйныя сілы патрабуюць, каб у работніка была якая-небудзь ініцыятыва ў вытворчасці і схільнасць да працы, зацікаўленасць у працы. Таму феадал пакідае раба, як не зацікаўленага ў працы і зусім неініцыятыўнага работніка, і лічыць за лепшае мець справу з прыгонным, у якога ёсць свая гаспадарка, свае прылады вытворчасці і які мае некаторую зацікаўленасць у працы, неабходную для таго, каб апрацоўваць зямлю і выплачваць феадалу натурай з свайго ўраджаю.

Прыватная ўласнасць атрымлівае тут далейшае развіццё. Эксплуатацыя амаль такая-ж лютая, як пры рабстве,—яна толькі крыху змякчона. Класавая барацьба паміж эксплуататарамі і эксплуатуемымі з'яўляецца асноўнай рысай феадальнага ладу.

Пры капіталістычным ладзе асновай вытворчых адносін з'яўляецца капіталістычная ўласнасць на сродкі вытворчасці пры адсутнасці ўласнасці на работнікаў вытворчасці,—наёмных рабочых, якіх капіталіст не можа ні забіць, ні прадаць, бо яны свабодны ад асабістай залежнасці, але якія пазбаўлены сродкаў вытворчасці і, каб не памерці з голаду, вымушаны прадаваць сваю рабочую сілу капіталісту і несці на шыі ярмо эксплуатацыі. Побач з капіталістычнай уласнасцю на сродкі вытворчасці існуе і мае на першы час шырокае распаўсюджанне прыватная ўласнасць вызваленых ад прыгоннай залежнасці селяніна і рамесніка на сродкі вытворчасці, аснаваная на асабістай працы. Замест рамесніцкіх майстэрань і мануфактурных прадпрыемстваў паявіліся велізарныя фабрыкі і заводы, узброеныя машынамі. Замест дваранскіх маёнткаў, апрацоўваемых прымітыўнымі сялянскімі прыладамі вытворчасці, паявіліся буйныя капіталістычныя эканоміі, якія вядуцца на аснове агратэхнікі і забяспечаны сельскагаспадарчымі машынамі.

Новыя прадукцыйныя сілы патрабуюць, каб работнікі вытворчасці былі больш культурнымі і панятлівымі, чым забітыя і цёмныя прыгонныя, здольнымі зразумець машыну і правільна абыходзіцца з ёю. Таму капіталісты лічаць за лепшае мець справу са свабоднымі ад прыгонных узаў наёмнымі рабочымі, дастаткова культурнымі для таго, каб правільна абыходзіцца з машынамі.

Але, развіўшы да каласальных размераў прадукцыйныя сілы, капіталізм заблытаўся ў невырашальных для яго супярэчнасцях. Вырабляючы ўсё больш і больш тавараў і зніжаючы цэны на тавары, капіталізм абвастрае канкурэнцыю, разарае масу дробных і сярэдніх прыватных уласнікаў, ператварае іх у пролетарыяў і паніжае іх пакупную здольнасць, з прычыны чаго збыт выробленых тавараў становіцца немагчымым. Расшыраючы-ж вытворчасць і збіраючы на велізарных фабрыках і заводах мільёны рабочых, капіталізм надае працэсу вытворчасці грамадскі характар і падрывае тым самым сваю ўласную базу, таму што грамадскі характар працэсу вытворчасці патрабуе грамадскай уласнасці на сродкі вытворчасці, між тым як

уласнасць на сродкі вытворчасці астаецца прыватна-капіталістычнай, несумяшчальнай з грамадскім характарам працэсу вытворчасці.

Гэтыя непрымірымыя супярэчнасці паміж характарам прадукцыйных сіл і вытворчымі адносінамі даюць адчуваць сябе ў перыядычных крызісах перавытворчасці, калі капіталісты, не знаходзячы пладежаздольнага попыту з прычыны імі-ж учыненага разарэння масы насельніцтва, вымушаны спальваць прадукты, знішчаць гатовыя тавары, прыпыняць вытворчасць, разбураць прадукцыйныя сілы, калі мільёны насельніцтва вымушаны цярпець беспрацоўе і голад не з-за таго, што тавараў нехапае, а з-за таго, што тавараў выраблена вельмі многа.

Гэта значыць, што капіталістычныя вытворчыя адносіны перасталі адпавядаць стану прадукцыйных сіл грамадства і сталі ў непрымірымую супярэчнасць з імі.

Гэта значыць, што капіталізм чрэват рэволюцыяй, закліканай замяніць цяперашнюю капіталістычную ўласнасць на сродкі вытворчасці соцыялістычнай уласнасцю.

Гэта значыць, што найвастрэйшая класавая барацьба паміж эксплуататарамі і эксплуатуемымі з'яўляецца асноўнай рысай капіталістычнага ладу.

Пры соцыялістычным ладзе, які ажыццёўлен пакуль-што толькі ў СССР, асновай вытворчых адносін з'яўляецца грамадская ўласнасць на сродкі вытворчасці. Тут ужо няма ні эксплуататараў, ні эксплуатуемых. Выробленыя прадукты размяркоўваюцца па працы згодна прынцыпу: «хто не працуе, той не есць». Узаемныя адносіны людзей у працэсе вытворчасці характарызуюцца тут, як адносіны таварыскага супрацоўніцтва і соцыялістычнай узаемадапамогі свабодных ад эксплуатацыі работнікаў. Тут вытворчыя адносіны знаходзяцца ў поўнай адпаведнасці са станам прадукцыйных сіл, бо грамадскі характар працэсу вытворчасці падмацоўваецца грамадскай уласнасцю на сродкі вытворчасці.

Таму соцыялістычная вытворчасць у СССР не ведае перыядычных крызісаў перавытворчасці і звязаных з імі недарэчнасцей.

Таму прадукцыйныя сілы развіваюцца тут паскораным тэмпам, бо адпавядаючыя ім вытворчыя адносіны даюць ім поўную прастору для такога развіцця.

Такава карціна развіцця вытворчых адносін людзей на працягу гісторыі чалавецтва.

Такава залежнасць развіцця вытворчых адносін ад развіцця прадукцыйных сіл грамадства, перш за ўсё—ад развіцця прылад вытворчасці, у сілу якой змяненні і развіццё прадукцыйных сіл прыводзяць рана ці позна да адпаведных змяненняў і развіцця вытворчых адносін.

> «Ужыванне і стварэнне сродкаў працы *, гаворыць Маркс, хоць і ўласцівыя ў зародкавай форме некаторым відам жывёл, складаюць спецыфічна характэрную рысу чалавечага працэса працы, і таму Франклін вызначае чалавека, як жывёлу, якая робіць прылады. Такую-ж важнасць, як будова астанкаў касцей мае для вывучэння арганізацыі знікнуўшых жывёльных відаў, астанкі сродкаў працы маюць для вывучэння знікнуўшых грамадска-эканамічных фармацый. Эканамічныя эпохі адрозні-

* Пад „сродкамі працы" Маркс разумее галоўным чынам прылады вытворчасці.—Рэд.

ваюцца не тым, што́ вырабляецца, а тым, як вырабляецца... Сродкі працы не толькі мерыла развіцця чалавечай рабочай сілы, але і паказальнік тых грамадскіх адносін, пры якіх робіцца праца» (**К. Маркс**, «Капітал», т. I, стар. 121, выданне 1935 г.).

І далей:

а) «Грамадскія адносіны цесна звязаны з прадукцыйнымі сіламі. Набываючы новыя прадукцыйныя сілы, людзі змяняюць свой спосаб вытворчасці, а са змяненнем спосабу вытворчасці, спосабу забеспячэння свайго жыцця,—яны змяняюць усе свае грамадскія адносіны. Ручны млын дае вам грамадства з сюзерэнам (феадалам.—**Рэд.**) на чале, паравы млын—грамадства з прамысловым капіталістам» (**К. Маркс і Ф. Энгельс**, т. V, стар. 364).

б) «Бесперапынна адбываецца рух росту прадукцыйных сіл, разбурэнне грамадскіх адносін, узнікненне ідэй, нерухома толькі абстракцыя руху» (там-жа, стар. 364).

Характарызуючы гістарычны матэрыялізм, фармуліраваны ў «Маніфесце комуністычнай партыі», Энгельс гаворыць:

«Эканамічная вытворчасць і немінуча выцякаючая з яе будова грамадства любой гістарычнай эпохі ўтвараюць аснову яе палітычнай і разумовай гісторыі... У адпаведнасці з гэтым, з часу разлажэння першабытнага абшчыннага землеўладання ўся гісторыя была гісторыяй класавай барацьбы, барацьбы паміж эксплуатуемымі і эксплуатуючымі, падначаленымі і пануючымі класамі на розных ступенях грамадскага развіцця... Цяпер гэта барацьба дасягнула ступені, на якой эксплуатуемы і прыгнечаны клас (пролетарыят) не можа ўжо вызваліцца ад эксплуатуючага і прыгнятаючага яго класа (буржуазіі), не вызваляючы ў той-жа час усяго грамадства назаўсёды ад эксплуатацыі, прыгнечання і класавай барацьбы...» (Прадмова Энгельса да нямецкага выдання «Маніфеста»).

**Трэцяя асаблівасць** вытворчасці заключаецца ў тым, што ўзнікненне новых прадукцыйных сіл і адпавядаючых ім вытворчых адносін адбываецца не асобна ад старога ладу, не пасля знікнення старога ладу, а ў нетрах старога ладу, адбываецца не ў рэзультаце наўмыснай, свядомай дзейнасці людзей, а стыхійна, несвядома, незалежна ад волі людзей. Яно адбываецца стыхійна і незалежна ад волі людзей па двух прычынах.

Па-першае, таму, што людзі не свабодны ў выбары таго ці іншага спосабу вытворчасці, бо кожнае новае пакаленне, уступаючы ў жыццё, застае ўжо гатовыя прадукцыйныя сілы і вытворчыя адносіны, як рэзультат работы мінулых пакаленняў, з прычыны чаго яно павінна прыняць на першы час усё тое, што застае ў гатовым выглядзе ў галіне вытворчасці, і прыстасавацца да іх, каб атрымаць магчымасць вырабляць матэрыяльныя здабыткі.

Па-другое, таму, што паляпшаючы тую ці іншую прыладу вытворчасці, той ці іншы элемент прадукцыйных сіл, людзі не ўсведамляюць, не разумеюць і не задумваюцца над тым, да якіх **грамадскіх** рэзультатаў павінны прывесці гэтыя паляпшэнні, а думаюць толькі аб сваіх будзённых інтарэсах, аб тым, каб аблягчыць сваю працу і дабіцца якой-небудзь непасрэднай, адчувальнай выгады для сябе.

Калі некаторыя члены першабытна-абшчыннага грамадства паступова і вобмацкам пераходзілі ад каменных прылад да жалезных прылад, яны, зразумела, не ведалі і не задумваліся над тым, да якіх **грамадскіх** рэзультатаў прывядзе гэта навіна, яны не разумелі і не ўсведамлялі таго, што пераход да металічных прылад азначае пераварот у вытворчасці, што ён прывядзе ўрэшце да рабаўладальніцкага ладу,—яны проста хацелі аблягчыць сваю працу і дабіцца бліжэйшай, адчуваемай выгады,—іх свядомая дзейнасць абмяжоўвалася вузкімі рамкамі гэтай буднічнай асабістай выгады.

Калі ў перыяд феадальнага ладу маладая буржуазія Еўропы побач з дробнымі цэхавымі майстэрнямі пачала будаваць буйныя мануфактурныя прадпрыемствы і рухала, такім чынам, наперад прадукцыйныя сілы грамадства, яна, зразумела, не ведала і не задумвалася над тым, да якіх **грамадскіх** вынікаў прывядзе гэта навіна, яна не ўсведамляла і не разумела, што гэта «маленькая» навіна прывядзе да такой перагрупіроўкі грамадскіх сіл, якая павінна скончыцца рэвалюцыяй і супроць каралеўскай улады, міласці якой яна так высока цаніла, і супроць дваран, у рады якіх нярэдка марылі папасці яе лепшыя прадстаўнікі,—яна проста хацела ўдзешавіць выраб тавараў, выкінуць як мага больш тавараў на рынкі Азіі і толькі што адкрытай Амерыкі і атрымаць як мага больш прыбытку,—яе свядомая дзейнасць абмяжоўвалася вузкімі рамкамі гэтай буднічнай практыкі.

Калі рускія капіталісты сумесна з замежнымі капіталістамі ўзмоцнена насаджалі ў Расіі сучасную буйную машынізаваную прамысловасць, пакідаючы царызм некранутым і аддаючы сялян на з'ядзенне памешчыкам, яны, зразумела, не ведалі і не задумваліся над тым, да якіх **грамадскіх** вынікаў прывядзе гэты сур'ёзны рост прадукцыйных сіл, яны не ўсведамлялі і не разумелі, што гэты сур'ёзны скачок у галіне прадукцыйных сіл грамадства прывядзе да такой перагрупіроўкі грамадскіх сіл, якая дасць магчымасць пролетарыяту аб'яднаць з сабою сялянства і зрабіць пераможную соцыялістычную рэволюцыю,—яны проста хацелі расшырыць да крайнасці прамысловую вытворчасць, авалодаць каласальным унутраным рынкам, стаць манапалістамі і выкачаць з народнай гаспадаркі як мага больш прыбытку,—іх свядомая дзейнасць не ішла далей іх буднічных вузкапрактычных інтарэсаў.

У адпаведнасці з гэтым Маркс гаворыць:

> «У грамадскай вытворчасці свайго жыцця (гэта значыць у вытворчасці матэрыяльных здабыткаў, неабходных для жыцця людзей.—**Рэд.**) людзі ўступаюць у пэўныя, неабходныя, ад іх волі **не залежачыя** * адносіны—вытворчыя адносіны, якія адпавядаюць пэўнай ступені развіцця іх матэрыяльных прадукцыйных сіл» (**К. Маркс.** Выбраныя творы, т. I, стар. 269).

Гэта, аднак, не значыць, што змяненні вытворчых адносін і пераход ад старых вытворчых адносін да новых працякае гладка, без канфліктаў, без патрасенняў. Наадварот, такі пераход адбываецца звычайна шляхам рэволюцыйнага звяржэння старых вытворчых адносін і ўцвярджэння новых. Да пэўнага перыяда развіццё прадукцыйных сіл і змяненні ў галіне вытворчых адносін працякаюць стыхійна, незалежна ад волі людзей. Але гэта толькі да пэўнага моманту, да моманту, пакуль узнікшыя і развіваючыяся прадукцыйныя сілы змо-

* Падкрэслена рэдакцыяй.

гуць, як след, выспець. Пасля таго, як новыя прадукцыйныя сілы выспелі, існуючыя вытворчыя адносіны і іх носьбіты—пануючыя класы, ператвараюцца ў тую «непераадалімую» перашкоду, якую можна зняць з дарогі толькі шляхам свядомай дзейнасці новых класаў, шляхам гвалтоўных дзеянняў гэтых класаў, шляхам рэволюцыі. Тут асабліва ярка выступае **велізарная роля** новых грамадскіх ідэй, новых палітычных устаноў, новай палітычнай улады, закліканых скасаваць сілай старыя вытворчыя адносіны. На аснове канфлікту паміж новымі прадукцыйнымі сіламі і старымі вытворчымі адносінамі, на аснове новых эканамічных патрэбнасцей грамадства ўзнікаюць новыя грамадскія ідэі, новыя ідэі арганізоўваюць і мабілізоўваюць масы, масы згуртоўваюцца ў новую палітычную армію, ствараюць новую рэволюцыйную ўладу і скарыстоўваюць яе для таго, каб скасаваць сілай старыя парадкі ў галіне вытворчых адносін і ўцвярдзіць новыя парадкі. Стыхійны працэс развіцця ўступае месца свядомай дзейнасці людзей, мірнае развіццё—гвалтоўнаму перавароту, эвалюцыя—рэволюцыі.

«Пролетарыят, гаворыць Маркс, у барацьбе супроць буржуазіі абавязкова аб'ядноўваецца ў клас... шляхам рэволюцыі ён ператварае сябе ў пануючы клас і ў якасці пануючага класа сілай скасоўвае старыя вытворчыя адносіны» («Маніфест комуністычнай партыі», выданне 1938 г., стар. 52).

І далей:

а) «Пролетарыят скарыстоўвае сваё палітычнае панаванне для таго, каб вырваць у буржуазіі крок за крокам увесь капітал, цэнтралізаваць усе прылады вытворчасці ў руках дзяржавы, г. зн. пролетарыята, арганізаванага як пануючы клас, і магчыма больш быстра павялічыць суму прадукцыйных сіл» (там-жа, стар. 50).

б) «Насілле з'яўляецца павівальнай бабкай усякага старога грамадства, калі яно цяжарна новым» (**Маркс,** «Капітал» т. I., стар. 603, 1935 г.).

Вось геніяльная фармуліроўка сутнасці гістарычнага матэрыялізма, даная Марксам у 1859 годзе ў гістарычнай «прадмове» да яго выдатнай кнігі «Да крытыкі палітычнай эканоміі»:

«У грамадскай вытворчасці свайго жыцця людзі ўступаюць у пэўныя, неабходныя, ад іх волі не залежачыя адносіны—вытворчыя адносіны, якія адпавядаюць пэўнай ступені развіцця іх матэрыяльных прадукцыйных сіл. Сукупнасць гэтых вытворчых адносін складае эканамічную структуру грамадства, рэальны базіс, на якім узвышаецца юрыдычная і палітычная надбудова і якому адпавядаюць пэўныя формы грамадскага сазнання. Спосаб вытворчасці матэрыяльнага жыцця абумоўлівае соцыяльны, палітычны і духоўны працэсы жыцця наогул. Не сазнанне людзей вызначае іх быццё, а, наадварот, іх грамадскае быццё вызначае іх сазнанне. На пэўнай ступені свайго развіцця матэрыяльныя прадукцыйныя сілы грамадства прыходзяць у супярэчнасць з існуючымі вытворчымі адносінамі, або—што з'яўляецца толькі юрыдычным выражэннем гэтага—з адносінамі ўласнасці, унутры якіх яны да гэтага часу развіваліся. З форм развіцця прадукцыйных сіл гэтыя адносіны ператвараюцца ў іх аковы. Тады наступае эпоха соцыяльнай рэволюцыі. Са змяненнем эка-

намічнай асновы больш ці менш быстра адбываецца пераварот ва ўсёй велізарнай надбудове. Пры разглядзе такіх пераваротаў неабходна заўсёды адрозніваць матэрыяльны з прыродна-навуковай дакладнасцю канстатуемы пераварот у эканамічных умовах вытворчасці ад юрыдычных, палітычных, рэлігійных, мастацкіх або філасофскіх, карацей: ад ідэалагічных форм, у якіх людзі ўсведамляюць гэты канфлікт і змагаюцца з ім. Як аб асобным чалавеку нельга судзіць на падставе таго, што сам ён аб сабе думае, акурат гэтак сама нельга судзіць аб падобнай эпохе перавароту па яе сазнанню. Наадварот, гэтае сазнанне трэба вытлумачыць з супярэчнасцей матэрыяльнага жыцця, з існуючага канфлікта паміж грамадскімі прадукцыйнымі сіламі і вытворчымі адносінамі. Ні адна грамадская фармацыя не гіне раней, чым разаўюцца ўсе прадукцыйныя сілы, для якіх яна дае дастаткова прастору, і новыя, вышэйшыя вытворчыя адносіны ніколі не паяўляюцца раней, чым выспеюць матэрыяльныя ўмовы іх існавання ў лоне самога старога грамадства. Таму чалавецтва ставіць сабе заўсёды толькі такія задачы, якія яно можа вырашыць, бо пры бліжэйшым разглядзе заўсёды аказваецца, што сама задача ўзнікае толькі тады, калі матэрыяльныя ўмовы яе вырашэння ўжо існуюць або, па крайняй меры, знаходзяцца ў працэсе станаўлення» (**К. Маркс,** Выбраныя творы, т. I, стар. 269—270).

Так абстаіць справа з марксісцкім матэрыялізмам, калі ўзяць яго ў прымяненні да грамадскага жыцця, у прымяненні да гісторыі грамадства.

Такавы асноўныя рысы дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізма.

З гэтага відаць, якое тэарэтычнае багацце адстаяў Ленін для партыі ад замахаў рэвізіяністаў і перараджэнцаў і якое важнае значэнне мела паяўленне ў свет кнігі Леніна «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм» для развіцця нашай партыі.

### 3. Большэвікі і меншавікі ў годы сталыпінскай рэакцыі. Барацьба большэвікоў супроць ліквідатараў і адзавістаў.

У годы рэакцыі ў партыйных арганізацыях працаваць было ў многа разоў цяжэй, чым у папярэдні перыяд разгортвання рэвалюцыі. Колькасць членаў партыі рэзка зменшылася. Многія дробнабуржуазныя спадарожнікі партыі, асабліва інтэлігенты, пакідалі рады партыі, баючыся праследаванняў царскага ўрада.

Ленін указваў, што ў такія моманты рэвалюцыйныя партыі павінны давучвацца. У перыяд уздыму рэвалюцыі яны вучыліся наступаць, у перыяд рэакцыі яны павінны навучыцца, як правільна адступаць, як перайсці ў падполле, як захаваць і ўмацаваць нелегальную партыю, як скарыстаць легальныя магчымасці, усякія легальныя, асабліва, масавыя арганізацыі для ўмацавання сувязей з масамі.

Меншавікі адступалі ў паніцы, не верачы ў магчымасць новага ўздыму рэвалюцыі, яны ганебна адракаліся ад рэвалюцыйных патрабаванняў праграмы і рэвалюцыйных лозунгаў партыі, хацелі ліквідаваць, знішчыць рэвалюцыйную нелегальную партыю пролетарыята. Таму такога роду меншавікоў пачалі называць **ліквідатарамі.**

У адрозненне ад меншавікоў большэвікі былі ўпэўнены ў тым, што ў бліжэйшыя годы наступіць рэвалюцыйны ўздым і што партыя

абавязана рыхтаваць масы да гэтага новага ўздыму. Асноўныя задачы рэволюцыі не былі вырашаны. Сялянства не атрымала памешчыцкай зямлі, рабочыя не атрымалі 8-гадзіннага рабочага дня, не было звергнута ненавіснае народу царскае самадзяржаўе, зноў задушыўшае тыя невялікія палітычныя свабоды, якія былі ў яго адваяваны народам у 1905 годзе. Такім чынам аставаліся ў сіле прычыны, якія парадзілі рэволюцыю ў 1905 годзе. Таму большэвікі былі ўпэўнены ў новым уздыме рэволюцыйнага руху, рыхтаваліся да яго, збіралі сілы рабочага класа.

Большэвікі чэрпалі ўпэўненасць у немінучасці новага ўздыму рэволюцыі яшчэ і ў тым факце, што рэволюцыя 1905 года навучыла рабочы клас заваёўваць свае правы ў масавай рэволюцыйнай барацьбе. У годы рэакцыі, у годы наступлення капітала рабочыя не маглі забыць гэтых урокаў 1905 года. Ленін прыводзіў пісьмы рабочых, у якіх яны, расказваючы аб узнавіўшыхся прыцясненнях і здзеках фабрыкантаў, гаварылі: «**Пачакайце, прыдзе зноў 1905 год!**»

Асноўная палітычная мэта большэвікоў асталася тая-ж, што і ў 1905 годзе—звергнуць царызм, давесці да канца буржуазна-дэмакратычную рэволюцыю, перайсці да соцыялістычнай рэволюцыі. Большэвікі ні на мінуту не забывалі аб гэтай мэце, прадаўжалі выстаўляць перад масамі асноўныя рэволюцыйныя лозунгі: дэмакратычная рэспубліка, канфіскацыя памешчыцкай зямлі, 8-гадзінны рабочы дзень.

Але **тактыка** партыі не магла аставацца той-жа самай, што ў перыяд уздыму рэволюцыі 1905 года. Нельга было, напрыклад, у бліжэйшы час заклікаць масы да ўсеагульнай палітычнай стачкі або да ўзброенага паўстання, таму што ў наяўнасці быў занепад рэволюцыйнага руху, велізарная стомленасць рабочага класа, сур'ёзнае ўзмацненне рэакцыйных класаў. Партыя не магла не лічыцца з новай абстаноўкай. Тактыку наступлення трэба было замяняць тактыкай абароны, тактыкай збірання сіл, тактыкай адводу кадраў у падполле і работы партыі з падполля, тактыкай спалучэння нелегальнай работы з работай у легальных рабочых арганізацыях.

І большэвікі здолелі выканаць гэту задачу.

> «Мы ўмелі доўгія годы працаваць перад рэволюцыяй. Нас недарма празвалі цвёрдакаменнымі. Соцыял-дэмакраты склалі пролетарскую партыю, якая не падзе духам ад няўдачы першага ваеннага націску, не страціць галавы, не захопіцца авантурамі»,—пісаў Ленін (**Ленін,** т. XII, стар. 126).

Большэвікі змагаліся за захаванне і ўмацаванне нелегальных партыйных арганізацый. Але ў той-жа час большэвікі лічылі неабходным скарыстаць усе легальныя магчымасці, усякую легальную зачэпку, пры дапамозе якой можна было-б падтрымліваць і захоўваць сувязі з масамі і ўзмацніць тым самым партыю.

> «Гэта быў перыяд павароту нашай партыі ад адкрытай рэволюцыйнай барацьбы з царызмам да абыходных шляхоў барацьбы, да скарыстання ўсіх і ўсякіх легальных магчымасцей—ад страхавых кас да думскай трыбуны. Гэта быў перыяд адступлення, пасля таго як мы аказаліся разбітымі ў рэволюцыі 1905 года. Паварот гэты патрабаваў ад нас усваення новых метадаў барацьбы, для таго, каб, сабраўшыся з сіламі, зноў пайсці на адкрытую рэволюцыйную барацьбу супроць царызма» (**Сталін,** Стэнаграфічная справаздача XV з'езда, стар. 366—367, 1935 г.).

Уцалеўшыя легальныя арганізацыі з'яўляліся як-бы прыкрыццём для падпольных арганізацый партыі і сродкам сувязі з масамі. Для таго, каб захаваць сувязь з масамі, большэвікі скарысталі прафсаюзы і іншыя легальныя грамадскія арганізацыі: больнічныя страхавыя касы, рабочыя каапературывы, клубы і культурныя таварыствы, народныя дамы. Большэвікі скарысталі трыбуну Дзяржаўнай думы для выкрыцця палітыкі царскага ўрада, для выкрыцця кадэтаў, для прыцягнення сялян на бок пролетарыята. Захаванне нелегальнай партыйнай арганізацыі і кіраўніцтва праз гэту арганізацыю ўсімі іншымі відамі палітычнай работы забяспечвалі партыі правядзенне правільнай партыйнай лініі, падрыхтоўку сіл да новага рэволюцыйнага ўздыму.

Большэвікі ажыццяўлялі сваю рэволюцыйную лінію, змагаючыся на **два фронты,** супроць двух відаў апартунізма ў партыі: супроць **ліквідатараў,** прамых праціўнікаў партыі, і супроць так званых **адзавістаў,** скрытых непрыяцеляў партыі.

Ленін, большэвікі вялі непрымірымую барацьбу з ліквідатарствам з самага пачатку зараджэння гэтай апартуністычнай плыні. Ленін указваў, што ліквідатарства ёсць агентура ліберальнай буржуазіі ў партыі.

У снежні 1908 года ў Парыжы адбылася пятая (агульнарасійская) канферэнцыя РСДРП. Гэтая канферэнцыя па прапанове Леніна асудзіла ліквідатарства, гэта значыць спробы некаторай часткі партыйнай інтэлігенцыі (меншавікоў) «ліквідаваць існуючую арганізацыю РСДРП і замяніць яе бясформенным аб'яднаннем у рамках легальнасці ва што-б там ні стала, хоць-бы апошняя куплялася цаною яўнай адмовы ад праграмы, тактыкі і традыцый партыі» (ВКП(б) у рэзалюцыях, ч. I, стар. 128).

Канферэнцыя заклікала ўсе партыйныя арганізацыі да рашучай барацьбы з ліквідатарскімі спробамі.

Але меншавікі не падпарадкаваліся гэтаму рашэнню канферэнцыі і ўсё больш скатваліся на шлях ліквідатарства, здрады рэволюцыі, збліжэння з кадэтамі. Меншавікі ўсё больш адкрыта адмаўляліся ад рэволюцыйнай праграмы пролетарскай партыі, ад патрабавання дэмакратычнай рэспублікі, 8-гадзіннага рабочага дня, канфіскацыі памешчыцкіх зямель. Меншавікі хацелі цаной адмовы ад праграмы і тактыкі партыі атрымаць дазвол ад царскага ўрада на існаванне адкрытай, легальнай, нібы «рабочай» партыі. Меншавікі гатовы былі прымірыцца са сталыпінскім рэжымам, прыстасавацца да яго. Таму ліквідатараў называлі яшчэ «сталыпінскай рабочай партыяй».

Адначасова з барацьбой супроць адкрытых праціўнікаў рэволюцыі—ліквідатараў, на чале якіх стаялі Дан, Аксельрод, Патрэсаў, прычым ім дапамагалі Мартаў, Троцкі і іншыя меншавікі,—большэвікі вялі таксама непрымірымую барацьбу супроць скрытых ліквідатараў, супроць адзавістаў, якія маскіравалі свой апартунізм «левай» фразай. Адзавістамі стала называцца частка былых большэвікоў, якія патрабавалі адклікання рабочых дэпутатаў з Дзяржаўнай думы і наогул спынення ўсякай работы ў легальных арганізацыях.

У 1908 годзе частка большэвікоў патрабавала адклікання соцыялдэмакратычных дэпутатаў з Дзяржаўнай думы. Адсюль назва «адзавісты». Адзавісты стварылі сваю асобую групу (Багданаў, Луначарскі, Алексінскі, Пакроўскі, Бубноў і іншыя), якая пачала барацьбу супроць Леніна і ленінскай лініі. Адзавісты рашуча адмаўляліся працаваць у рабочых прафесіянальных саюзах і іншых легальных тава-

рыствах. Гэтым яны наносілі вялікую шкоду рабочай справе. Адзавісты адрывалі партыю ад рабочага класа, пазбаўлялі яе сувязі з беспартыйнымі масамі, хацелі замкнуцца ў падпольнай арганізацыі і разам з тым ставілі яе пад удар, пазбаўляючы магчымасці скарыстаць легальныя прыкрыцці. Адзавісты не разумелі, што ў Дзяржаўнай думе і праз яе большэвікі могуць рабіць уплыў на сялянства, могуць выкрываць палітыку царскага ўрада, палітыку кадэтаў, якія абманным шляхам стараліся павесці за сабою сялянства. Адзавісты перашкаджалі збіраць сілы для новага рэволюцыйнага ўздыму. Адзавісты таму былі «ліквідатарамі наадварот»—яны стараліся ліквідаваць магчымасць скарыстання легальных арганізацый і на справе адмаўляліся ад пролетарскага кіраўніцтва шырокімі беспартыйнымі масамі, адмаўляліся ад рэволюцыйнай работы.

Нарада расшыранай рэдакцыі большэвіцкай газеты «Пролетарый», скліканая ў 1909 годзе для абмеркавання паводзін адзавістаў, асудзіла адзавістаў. Большэвікі заявілі, што яны нічога агульнага не маюць з адзавістамі і выключылі іх з большэвіцкай арганізацыі.

І ліквідатары і адзавісты былі ўсяго толькі дробнабуржуазнымі спадарожнікамі пролетарыята і яго партыі. У цяжкі для пролетарыята момант ліквідатары і адзавісты асабліва наглядна паказалі свой сапраўдны твар.

### 4. Барацьба большэвікоў супроць трацкізма. Жнівеньскі антыпартыйны блок.

У той час, як большэвікі вялі непрымірымую барацьбу на два фронты—супроць ліквідатараў і адзавістаў—за вытрыманую лінію пролетарскай партыі, Троцкі падтрымліваў меншавікоў-ліквідатараў. Іменна ў гэтыя годы Ленін назваў яго «Іудушкай Троцкім». Троцкі арганізаваў у Вене (Аўстрыя) літаратурную групу і пачаў выдаваць «пазафракцыйную», на самай-жа справе меншавіцкую, газету. Ленін так пісаў тады аб Троцкім: «Троцкі павёў сябе, як самы подлы кар'ерыст і фракцыянер... Балбоча аб партыі, а вядзе сябе горш за ўсіх іншых фракцыянераў».

У далейшым, у 1912 годзе, Троцкі з'явіўся арганізатарам Жнівеньскага блока, гэта значыць блока ўсіх антыбольшэвіцкіх груп і плыней супроць Леніна, супроць большэвіцкай партыі. У гэтым варожым большэвізму блоку аб'ядналіся і ліквідатары і адзавісты, даказаўшы гэтым сваё радство. Троцкі і трацкісты займалі па ўсіх асноўных пытаннях ліквідатарскую пазіцыю. Але сваё ліквідатарства Троцкі маскіраваў цэнтрызмам, гэта значыць прымірэнцтвам, сцвярджаючы, што ён стаіць па-за большэвікамі і меншавікамі і дабіваецца нібы іх прымірэння. Ленін гаварыў па гэтаму поваду, што Троцкі больш подлы і больш шкодны, чым адкрытыя ліквідатары, таму што ён абманвае рабочых, быццам ён стаіць «па-за фракцыямі», на самай-жа справе цалкам падтрымлівае меншавікоў-ліквідатараў. Трацкізм з'яўляўся галоўнай групай, якая насаджала цэнтрызм.

> «Цэнтрызм,—піша тав. Сталін,—ёсць паняцце палітычнае. Яго ідэалогія ёсць ідэалогія прыстасавання, ідэалогія падпарадкавання пролетарскіх інтарэсаў інтарэсам дробнай буржуазіі **ў саставе адной агульнай партыі.** Гэтая ідэалогія чужда і праціўна ленінізму» (**Сталін,** Пытанні ленінізма, стар. 379, выд. 9-е).

У гэты перыяд Каменеў, Зіноўеў, Рыкаў на справе аказаліся скрытымі агентамі Троцкага, бо аказвалі яму нярэдка дапамогу супроць

Леніна. Пры садзейнасці Зіноўева, Каменева, Рыкава і іншых скрытых саюзнікаў Троцкага быў склікан **наперакор Леніну** ў студзені 1910 года пленум ЦК. К гэтаму часу састаў ЦК з прычыны арыштаў раду большэвікоў змяніўся, і хістаючыяся элементы атрымалі магчымасць правесці антыленінскія рашэнні. Так, на гэтым пленуме вырашана было закрыць большэвіцкую газету «Пролетарий» і даць грашовае падтрыманне газеце Троцкага «Правда», якая выдавалася ім у Вене. Каменеў увайшоў у рэдакцыю газеты Троцкага і разам з Зіноўевым імкнуўся ператварыць газету Троцкага ў орган ЦК.

Толькі па настаянню Леніна студзеньскі пленум ЦК прыняў пастанову аб асуджэнні ліквідатарства і адзавізма, але і тут Зіноўеў і Каменеў настойвалі на трацкісцкай прапанове не называць ліквідатараў іх сапраўдным іменем.

Вышла так, як прадбачыў і папярэджваў Ленін: толькі большэвікі падпарадкаваліся рашэнню пленума ЦК, закрылі свой орган «Пролетарий», меншавікі-ж прадаўжалі выдаваць свой фракцыйны ліквідатарскі «Голос социал-демократа».

Пазіцыю Леніна цалкам падтрымліваў тав. Сталін, які выступіў у № 11 «Социал-демократа» са спецыяльным артыкулам. У гэтым артыкуле асуджаліся паводзіны пасобнікаў трацкізма, гаварылася аб неабходнасці ліквідаваць ненармальнае становішча, якое стварылася ў большэвіцкай фракцыі з прычыны прэдацельскіх паводзін Каменева, Зіноўева, Рыкава. У артыкуле высоўваліся чарговыя задачы, ажыццёўленыя пазней на Пражскай партыйнай канферэнцыі: скліканне агульнапартыйнай канферэнцыі, выданне легальнай партыйнай газеты і стварэнне нелегальнага практычнага партыйнага цэнтра ў Расіі. Артыкул тав. Сталіна асноўваўся на рашэннях Бакінскага камітэта, які цалкам падтрымліваў Леніна.

У процівагу Жнівеньскаму антыпартыйнаму блоку Троцкага, куды ўваходзілі выключна антыпартыйныя элементы ад ліквідатараў і трацкістаў да адзавістаў і богабудаўнікоў, быў створан партыйны блок староннікаў захавання і ўмацавання нелегальнай пролетарскай партыі. У гэты блок уваходзілі большэвікі на чале з Леніным і невялікая колькасць меншавікоў-партыйцаў на чале з Плеханавым. Плеханаў і яго група партыйцаў-меншавікоў, астаючыся ў радзе пытанняў на меншавіцкіх пазіцыях, рашуча адмежаваліся ад Жнівеньскага блока і ліквідатараў і пачалі дабівацца пагаднення з большэвікамі. Ленін прыняў прапанову Плеханава і пайшоў на часовы блок з Плеханавым супроць антыпартыйных элементаў, зыходзячы з таго, што такі блок з'яўляецца выгадным для партыі і згубным для ліквідатараў.

Тав. Сталін цалкам падтрымліваў гэты блок. Ён быў у гэты час у ссылцы. У пісьме Леніну з ссылкі тав. Сталін пісаў:

> «Па маёй думцы лінія блока (Ленін—Плеханаў) адзіна правільная: 1) яна, і толькі яна, адпавядае сапраўдным інтарэсам работы ў Расіі, якія патрабуюць згуртавання ўсіх сапраўды партыйных элементаў; 2) яна, і толькі яна, паскарае працэс вызвалення легальных арганізацый з-пад гнёту ліквідатараў, выкопваючы яму паміж рабочымі мекамі * і ліквідатарамі, рассейваючы і забіваючы апошніх» (Зборнік «Ленін і Сталін», т. I, стар. 529—530).

* Мекі—скарочаная назва меншавікоў.—Рэд.

Дзякуючы ўмеламу спалучэнню падпольнай работы з легальнай работай большэвікам удалося стаць сур'ёзнай сілай у адкрытых рабочых арганізацыях. Гэта сказалася, між іншым, у тым сур'ёзным уплыве, які аказалі большэвікі на рабочыя групы чатырох легальных з'ездаў—народных універсітэтаў, жаночага, фабрычна-заводскіх урачоў і антыалкагольнага, якія мелі месца ў гэты перыяд. Выступленні большэвікоў на гэтых легальных з'ездах мелі вялікае палітычнае значэнне, знаходзілі водгук ва ўсёй краіне. Выступаючы, напрыклад, на з'ездзе народных універсітэтаў, большэвіцкая рабочая дэлегацыя выкрывала палітыку царызма, які душыў усякую культурную работу, і даказвала, што без ліквідацыі царызма нямыслім сапраўдны культурны ўздым у краіне. Выступаючы на з'ездзе фабрычна-заводскіх урачоў, рабочая дэлегацыя расказвала аб жахлівых санітарных умовах, у якіх прыходзіцца працаваць і жыць рабочым, і прыходзіла да вываду, што без звяржэння царскага ладу не можа быць па-сапраўднаму пастаўлена фабрычная медыцына.

Большэвікі паступова выцяснялі ліквідатараў з розных уцалеўшых легальных арганізацый. Своеасаблівая тактыка адзінага фронта з плеханаўскай партыйнай групай дазволіла большэвікам заваяваць рад рабочых меншавіцкіх арганізацый (Выбаргскі раён, Екацерынаслаў і інш.).

У гэты цяжкі перыяд большэвікі сваёй работай далі ўзор таго, як трэба спалучаць легальную работу з нелегальнай.

### 5. Пражская партыйная канферэнцыя ў 1912 г. Афармленне большэвікоў у самастойную марксісцкую партыю.

Барацьба з ліквідатарамі і адзавістамі, гэтак сама як барацьба з троцкістамі, паставіла перад большэвікамі насутную задачу—згуртаваць у адно ўсіх большэвікоў і аформіць іх у самастойную большэвіцкую партыю. Гэта было настойліва неабходна не толькі для таго, каб пакончыць з апартуністычнымі плынямі ў партыі, якія раскалвалі рабочы клас. Гэта неабходна было зрабіць яшчэ для таго, каб давесці да канца справу збірання сіл рабочага класа і падрыхтаваць рабочы клас да новага рэволюцыйнага ўздыму.

Але каб выканаць гэту задачу, неабходна было перш за ўсё ачысціць партыю ад апартуністаў, ад меншавікоў.

Цяпер ужо ніхто з большэвікоў не сумняваўся ў тым, што далейшае прабыванне большэвікоў у адной партыі з меншавікамі—стала нямыслімым. Здрадніцкія паводзіны меншавікоў у перыяд сталыпінскай рэакцыі, іх спробы ліквідаваць пролетарскую партыю і арганізаваць новую, рэфармісцкую партыю—зрабілі немінучым разрыў з імі. Знаходзячыся ў адной партыі з меншавікамі, большэвікі так ці інакш бралі на сябе маральную адказнасць за паводзіны меншавікоў. Але браць на сябе маральную адказнасць за адкрытае здрадніцтва меншавікоў станавілася ўжо нямыслімым, калі большэвікі не хацелі самі стаць здраднікамі партыі і рабочага класа. Адзінства з меншавікамі ў рамках адной партыі перарастала, такім чынам, у здраду рабочаму класу і яго партыі. Таму неабходна было фактычны разрыў з меншавікамі давесці да канца, давесці да фармальна-арганізацыйнага разрыву з імі і выгнаць з партыі меншавікоў.

Толькі на гэтым шляху можна было ўзнавіць рэволюцыйную партыю пролетарыята з адзінай праграмай, з адзінай тактыкай, з адзінай класавай арганізацыяй.

Толькі на гэтым шляху можна было ўстанавіць сапраўднае (а не толькі фармальнае) адзінства партыі, разбуранае меншавікамі.

Гэту задачу павінна была выканаць VI агульнапартыйная канферэнцыя, якая падрыхтоўвалася большэвікамі.

Але гэта задача складала толькі адзін бок справы. Фармальны разрыў з меншавікамі і афармленне большэвікоў у асобную партыю прадстаўлялі, зразумела, вельмі важную палітычную задачу. Але перад большэвікамі стаяла яшчэ другая, больш важная задача. Задача заключалася не толькі ў тым, каб парваць з меншавікамі і аформіцца ў асобную партыю, а, перш за ўсё, у тым, каб, парваўшы з меншавікамі, стварыць **новую** партыю, стварыць партыю **новага тыпу,** якая-б адрознівалася ад звычайных социял-дэмакратычных партый Захада, была-б свабодна ад апартуністычных элементаў, была-б здольна павесці пролетарыят на барацьбу за ўладу.

Змагаючыся супроць большэвікоў, усе меншавікі, без розніцы адценняў, ад Аксельрода і Мартынава да Мартава і Троцкага,—нязменна карысталіся зброяй, узятай з арсенала заходне-еўрапейскіх соцыял-дэмакратаў. Яны хацелі мець у Расіі такую-ж партыю, як, скажам, нямецкая або французская соцыял-дэмакратычная партыя. Яны таму і змагаліся з большэвікамі, што адчувалі ў іх нешта новае, незвычайнае, што адрознівалася ад соцыял-дэмакратыі Захаду. А што прадстаўлялі тады соцыял-дэмакратычныя партыі Захаду? Сумесь, мешаніну з марксісцкіх і апартуністычных элементаў, з прыяцеляў і праціўнікаў рэволюцыі, са староннікаў і праціўнікаў партыйнасці— з паступовым ідэйным прымірэннем першых з апошнімі, з паступовым фактычным падпарадкаваннем першых апошнім. Прымірэнне з апартуністамі, са здраднікамі рэволюцыі,—дзеля чаго, пыталіся большэвікі ў заходне-еўрапейскіх соцыял-дэмакратаў. Дзеля «міру ў партыі», дзеля «адзінства»—адказвалі большэвікам. Адзінства з кім, з апартуністамі? Так, адказвалі яны, з апартуністамі. Ясна было, што такія партыі не могуць быць рэволюцыйнымі партыямі.

Большэвікі не маглі не бачыць, што пасля смерці Энгельса заходне-еўрапейскія соцыял-дэмакратычныя партыі сталі перараджацца з партый соцыяльнай рэволюцыі ў партыі «соцыяльных рэформ», а кожная з гэтых партый, як арганізацыя, ператварылася ўжо з кіруючай сілы ў прыдатак сваёй уласнай парламенцкай групы.

Большэвікі не маглі не ведаць, што ад такой партыі не паздаровіцца пролетарыяту, што такая партыя не здольна павесці рабочы клас на рэволюцыю.

Большэвікі не маглі не ведаць, што пролетарыяту патрэбна не такая партыя, а іншая, новая, сапраўдная марксісцкая партыя, якая была-б непрымірымай у адносінах апартуністаў і рэволюцыйнай у адносінах буржуазіі, якая была-б моцна згуртавана і маналітна, якая была-б партыяй соцыяльнай рэволюцыі, партыяй дыктатуры пролетарыята.

Большэвікі хацелі мець у сябе іменна такую, новую партыю. І большэвікі будавалі, рыхтавалі такую партыю. Уся гісторыя барацьбы з «эканамістамі», меншавікамі, трацкістамі, адзавістамі, ідэалістамі ўсіх масцей аж да эмпірыякрытыкаў,—была гісторыяй падрыхтоўкі такой іменна партыі. Большэвікі хацелі стварыць новую, **большэвіцкую** партыю, здольную быць узорам для ўсіх, хто хацеў мець сапраўдную рэволюцыйную марксісцкую партыю. Большэвікі рыхтавалі такую партыю ўжо з часоў старой «Искры». Яны рыхтавалі яе ўпорна, настойліва, не гледзячы ні на што. Асноўную і ра-

шаючую ролю адыгралі ў гэтай падрыхтоўчай рабоце такія працы Леніна, як «Што рабіць?», «Дзве тактыкі» і т. д. Кніга Леніна «Што рабіць?» была **ідэалагічнай** падрыхтоўкай такой партыі. Кніга Леніна «Крок наперад, два крокі назад» была **арганізацыйнай** падрыхтоўкай такой партыі. Кніга Леніна «Дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэволюцыі» была **палітычнай** падрыхтоўкай такой партыі. Нарэшце, кніга Леніна «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм» была **тэарэтычнай** падрыхтоўкай такой партыі.

Можна з упэўненасцю сказаць, што ніколі яшчэ ў гісторыі ні адна палітычная група не была так грунтоўна падрыхтавана да таго, каб аформіцца ў партыю, як большэвіцкая група.

Пры такіх умовах афармленне большэвікоў у партыю прадстаўляла зусім гатовую і наспеўшую справу.

Задача VI партыйнай канферэнцыі заключалася ў тым, каб увянчаць ужо гатовую справу актам выгнання меншавікоў і афармлення новай партыі, партыі большэвікоў.

VI Усерасійская партыйная канферэнцыя адбылася ў Празе ў студзені 1912 года. Звыш 20 партыйных арганізацый было прадстаўлена на гэтай канферэнцыі. Таму яна мела фармальна значэнне з'езда партыі.

У апавяшчэнні аб канферэнцыі, паведамляўшым аб аднаўленні разбуранага цэнтральнага апарата партыі, аб стварэнні ЦК партыі гаварылася аб тым, што годы рэакцыі з'яўляюцца самымі цяжкімі годамі для партыі з таго часу, як расійская соцыял-дэмакратыя склалася, як пэўная арганізацыя. Не гледзячы на ўсе ганенні, на цяжкія ўдары звонку, на здраду і хістанні апартуністаў унутры партыі, партыя пролетарыята захавала свой сцяг і сваю арганізацыю.

«Уцалеў не толькі сцяг расійскай соцыял-дэмакратыі, яе праграма, яе рэволюцыйныя заветы, уцалела яе арганізацыя, якую маглі падрываць і аслабляць, але не маглі знесці ўшчэнт ніякія праследаванні»—гаварылася ў паведамленні канферэнцыі.

Канферэнцыя адзначыла першыя адзнакі новага ўздыму рабочага руху ў Расіі і ажыўленне партыйнай работы.

Па дакладах з месц канферэнцыя канстатавала, што «усюды на месцах вядзецца сярод соцыял-дэмакратычных рабочых энергічная работа па ўмацаванню мясцовых нелегальных с.-д. арганізацый і груп».

Канферэнцыя адзначыла, што на месцах усюды прызнана важнейшае правіла большэвіцкай тактыкі ў перыяд адступлення—спалучэнне нелегальнай работы з легальнай у розных легальных рабочых таварыствах і саюзах.

Пражская канферэнцыя выбрала большэвіцкі Цэнтральны Камітэт партыі. У састаў гэтага ЦК увайшлі Ленін, Сталін, Орджанікідзе, Свердлоў, Спандар'ян, Галашчокін і іншыя. Таварышы Сталін і Свердлоў былі выбраны ў ЦК завочна, бо яны знаходзіліся ў ссылцы. У ліку кандыдатаў ЦК быў выбран тав. Калінін.

Быў створан практычны цэнтр для кіраўніцтва рэволюцыйнай работай у Расіі (Рускае бюро ЦК) на чале з тав. Сталіным. У Рускае бюро ЦК увайшлі, апрача тав. Сталіна, таварышы Я. Свердлоў, С. Спандар'ян, С. Орджанікідзе, М. Калінін, Галашчокін.

Пражская канферэнцыя падвяла вынікі ўсёй папярэдняй барацьбе большэвікоў з апартунізмам і пастанавіла выгнаць з партыі меншавікоў.

Пражская канферэнцыя, выгнаўшы меншавікоў з партыі, афарміла самастойнае існаванне большэвіцкай партыі.

Разграміўшы ідэйна і арганізацыйна меншавікоў, выгнаўшы іх з партыі, большэвікі захавалі за сабой стары сцяг партыі—РСДРП. Таму партыя большэвікоў да 1918 года прадаўжала называцца Расійскай соцыял-дэмакратычнай рабочай партыяй з дабаўленнем у дужках—«большэвікоў».

Ленін пісаў Горкаму аб выніках Пражскай канферэнцыі ў пачатку 1912 года:

> «Нарэшце ўдалася—наперакор ліквідатарскай сволачы адрадзіць партыю і яе Цэнтральны Камітэт. Спадзяюся, Вы парадуецеся гэтаму разам з намі» (**Ленін**, т. XXIX, стар. 19).

Ацэньваючы значэнне Пражскай канферэнцыі, тав. Сталін гаворыць:

> «Гэтая канферэнцыя мела найвялікшае значэнне ў гісторыі нашай партыі, бо яна паклала мяжу паміж большэвікамі і меншавікамі і аб'яднала большэвіцкія арганізацыі па ўсёй краіне ў адзіную большэвіцкую партыю» (Стэнаграфічная справаздача XV з'езда ВКП(б), стар. 361—362).

Пасля выгнання меншавікоў і афармлення большэвікоў у самастойную партыю партыя большэвікоў стала мацней і сільней. **Партыя ўмацоўваецца тым, што ачышчае сябе ад апартуністычных элементаў**—у гэтым адзін з лозунгаў большэвіцкай партыі, як партыі новага тыпу, якая прынцыпова адрозніваецца ад соцыял-дэмакратычных партый II Інтэрнацыянала. Партыі II Інтэрнацыянала, называючы сябе на словах марксісцкімі, на справе цярпелі ў сваім асяроддзі праціўнікаў марксізма, адкрытых апартуністаў і далі ім разлажыць, загубіць II Інтэрнацыянал. Большэвікі, наадварот, вялі непрымірымую барацьбу з апартуністамі, ачышчалі пролетарскую партыю ад скверны апартунізма і дабіліся таго, што стварылі партыю новага тыпу, партыю ленінскую, партыю, якая заваявала потым дыктатуру пролетарыята.

Калі-б у радах пролетарскай партыі аставаліся апартуністы, большэвіцкая партыя не змагла-б выйсці на дарогу і павесці за сабой пролетарыят, не змагла-б узяць уладу і арганізаваць дыктатуру пролетарыята, не змагла-б выйсці з грамадзянскай вайны пераможцам, не змагла-б пабудаваць соцыялізм.

Пражская канферэнцыя ў сваіх рашэннях у якасці галоўных чарговых палітычных лозунгаў партыі высунула праграму-мінімум: дэмакратычную рэспубліку, 8-гадзінны рабочы дзень, канфіскацыю ўсёй памешчыцкай зямлі.

Пад гэтымі рэволюцыйнымі лозунгамі большэвікі праводзілі выбарчую кампанію пры выбарах у IV Дзяржаўную думу.

Пад гэтымі лозунгамі ішоў новы ўздым рэволюцыйнага руху рабочых мас у 1912—1914 г.г.

## *КАРОТКІЯ ВЫВАДЫ*

1908—1912 годы былі найцяжэйшым перыядам для рэволюцыйнай работы. Пасля паражэння рэволюцыі, ва ўмовах заняпаду рэволюцыйнага руху і стомленасці мас большэвікі змянілі сваю тактыку і перайшлі ад прамой барацьбы супроць царызма да абходных шляхоў гэтай барацьбы. У цяжкіх умовах сталыпінскай рэакцыі большэвікі

скарыстоўвалі малейшыя легальныя магчымасці для захавання сувязі з масамі (ад страхавых кас і профсаюзаў да думскай трыбуны). Большэвікі безупынна збіралі сілы для новага ўздыму рэволюцыйнага руху.

У цяжкай абстаноўцы паражэння рэволюцыі, распаду апазіцыйных плыней, расчаравання ў рэволюцыі і ўзмацнення рэвізіяніцкіх вылазак адышоўшых ад партыі інтэлігентаў (Багданаў, Базараў і інш.) супроць тэарэтычных асноў партыі, большэвікі аказаліся адзінай сілай у партыі, якія не згарнулі партыйны сцяг, захавалі вернасць праграме партыі і адбілі атакі «крытыкаў» марксісцкай тэорыі (кніга Леніна «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм»). Ідэйная марксісцка-ленінская загартоўка, разуменне перспектыў рэволюцыі дапамаглі асноўнаму ядру большэвікоў, згуртаванаму вакол Леніна, адстаяць партыю і яе рэволюцыйныя прынцыпы. «Нас не дарма празвалі цвёрдакаменнымі»,—гаварыў Ленін аб большэвіках.

Меншавікі ў гэты перыяд усё больш адыходзяць ад рэволюцыі. Яны становяцца ліквідатарамі, патрабуюць ліквідаваць, знішчыць нелегальную, рэволюцыйную партыю пролетарыята, усё больш адкрыта адмаўляюцца ад праграмы партыі, ад рэволюцыйных задач і лозунгаў партыі, прабуюць арганізаваць сваю, рэфармісцкую партыю, якую рабочыя ахрысцілі «сталыпінскай рабочай партыяй». Троцкі падтрымлівае ліквідатараў, па-фарысейску прыкрываючыся лозунгам «адзінства партыі», на самай справе—адзінства з ліквідатарамі.

З другога боку, частка большэвікоў, не зразумеўшы неабходнасці павароту да новых, абходных шляхоў барацьбы з царызмам, патрабуе адмовы ад скарыстання легальных магчымасцей, патрабуе адклікання рабочых дэпутатаў з Дзяржаўнай думы. Адзавісты штурхаюць партыю на адрыў ад мас, перашкаджаюць збіранню сіл для новага рэволюцыйнага ўздыму. Прыкрываючыся «левымі» фразамі, адзавісты па сутнасці адмаўляюцца ад рэволюцыйнай барацьбы, гэтак сама як і ліквідатары.

Ліквідатары і адзавісты аб'ядноўваюцца супроць Леніна ў агульны блок, Жнівеньскі блок, арганізаваны Троцкім.

У барацьбе супроць ліквідатараў і адзавістаў, у барацьбе супроць Жнівеньскага блока большэвікі бяруць верх і з поспехам адстойваюць нелегальную пролетарскую партыю.

Важнейшай падзеяй гэтага перыяду з'яўляецца Пражская канферэнцыя РСДРП (студзень 1912 года). На гэтай канферэнцыі былі выгнаны з партыі меншавікі, назаўсёды было пакончана з фармальным аб'яднаннем большэвікоў у адной партыі з меншавікамі. З палітычнай групы большэвікі афармляюцца ў самастойную Расійскую соцыял-дэмакратычную рабочую партыю (большэвікоў). Пражская канферэнцыя паклала пачатак партыі новага тыпу, партыі ленінізма, **большэвіцкай** партыі.

Ачышчэнне пролетарскай партыі ад апартуністаў, ад меншавікоў, ажыццёўленае Пражскай канферэнцыяй, мела важнае, рашаючае значэнне для далейшага развіцця партыі і рэволюцыі. Калі-б большэвікі не выгналі з партыі здраднікаў рабочай справы, згоднікаў-меншавікоў, пролетарская партыя не магла-б у 1917 годзе падняць масы на заваяванне дыктатуры пролетарыята.

*(Працяг у наступным нумары)*

## Глыбока вывучаць гісторыю большэвіцкай партыі

Выпуск Кароткага курса Гісторыі Ўсесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў), адобранага ЦК ВКП(б), з'яўляецца вялікай падзеяй у жыцці нашай партыі, падзеяй сусветнага значэння.

Гэта каштоўнейшая тэарэтычная работа, праробленая камісіяй ЦК ВКП(б), асабіста таварышом Сталіным, прадстаўляе сабою новы ўклад у багатую скарбніцу марксізма-ленінізма.

Для многамільённых народаў нашай краіны Гісторыя ВКП(б) з'яўляецца маяком, які асвятляе шлях далейшай барацьбы за соцыялізм, за пабудову комуністычнага грамадства. Для пролетарыяў, для працоўных мас капіталістычных краін гісторыя большэвіцкай партыі ёсць крыніца пазнання шляхоў і метадаў, стратэгіі і тактыкі зьвяржэння капіталістычнага рабства, устанаўлення дыктатуры пролетарыята, пабудовы бясклассавага соцыялістычнага грамадства. Нашы браты і таварышы за рубяжом будуць вывучаць па гэтай кнізе слаўную гісторыю ВКП(б) і на вопыце вялікай партыі Леніна—Сталіна вучыцца, як трэба змагацца і перамагаць.

Працоўныя нашай соцыялістычнай радзімы з вялікай радасцю сустрэлі надрукаваны ў «Правде» Кароткі курс Гісторыі ВКП(б). Мільёны комуністаў і комсамольцаў, шырокія масы працоўных горада і вёскі праяўляюць вялікую зацікаўленасць у глыбокім вывучэнні гісторыі барацьбы і перамог сваёй роднай комуністычнай партыі, створанай геніяльнымі арганізатарамі рабочага класа, правадырамі рэволюцыі—Леніным і Сталіным.

Шырокія масы працоўных Совецкай Беларусі аднесліся да выхаду ў свет новага падручніка як да знамянальнай падзеі. На буйнейшых прадпрыемствах рэспублікі—Гомсельмашы, Віцебскай фабрыцы «КІМ», менскім заводзе імя Варашылава, Магілеўскай шоўкавай фабрыцы і т. д., у калгасах, соўгасах, навучальных установах—усюды працоўныя вітаюць выхад падручніка, у якім са сталінскай прастатой і яснасцю паказан гераічны шлях барацьбы і перамог партыі большэвікоў.

Гісторыя ВКП(б) паказвае, у барацьбе з якімі ворагамі расла і мацнела большэвіцкая партыя.

Ва ўводзінах да Кароткага курса Гісторыі ВКП(б) сказана:

> «ВКП(б) расла і мацнела ў прынцыповай барацьбе з дробнабуржуазнымі партыямі ўнутры рабочага руху—эсэрамі (а яшчэ раней з іх папярэднікамі—народнікамі), меншавікамі, анархістамі, буржуазнымі нацыяналістамі ўсіх масцей, а ўнутры пар-

ты—з меншавіцкімі, апартуністычнымі плынямі,—трацкістамі, бухарынцамі, нацыянал-ухілістамі і іншымі антыленінскімі групамі.

ВКП(б) мацнела і гартавалася ў рэвалюцыйнай барацьбе з усімі ворагамі рабочага класа, з усімі ворагамі працоўных—памешчыкамі, капіталістамі, кулакамі, шкоднікамі, шпіёнамі, з усімі наймітамі капіталістычнага акружэння».

Кожны раздзел гэтай выдатнай кнігі раскрывае перад працоўнымі ўсяго свету факты жорсткай барацьбы большэвіцкай партыі на чале з Леніным і Сталіным супроць усіх ворагаў рабочага класа, ворагаў працоўных мас, яна дае марксісцкае тлумачэнне гэтым фактам, яскрава і пераканаўча паказвае, што «барацьба большэвікоў з антыбольшэвіцкімі плынямі і фракцыямі была **прынцыповай** барацьбой за ленінізм» **(Сталін).**

Пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна народы Совецкага Саюза прайшлі больш як дваццацігадовы слаўны шлях барацьбы і перамог. Разам са сваёй партыяй і пад яе кіраўніцтвам многамільённы совецкі народ ліквідаваў асіныя гнёзды праклятых ворагаў народа, якія імкнуліся прадаць адзіную ў свеце соцыялістычную радзіму фашысцкім варварам. Гісторыя ВКП(б) расказвае аб барацьбе партыі супроць падлейшых здраднікаў радзімы—бухарынска-трацкісцкіх бандытаў, якія былі ў змове супроць Леніна, супроць партыі, супроць совецкай дзяржавы ўжо з першых дзён вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і на працягу ўсяго часу ўчынялі супроць партыі і совецкай улады змовы і правакацыі, падрыхтоўвалі зладзейскія забойствы кіраўнікоў партыі і ўрада, займаліся шкодніцтвам і дыверсіямі.

> «Нельга лічыць выпадковасцю,—гаворыцца ў Кароткім курсе Гісторыі ВКП(б),—што трацкісты, бухарынцы, нацыянал-ухілісты, змагаючыся з Леніным, змагаючыся з партыяй, скончылі тым-жа, чым скончылі партыі меншавікоў і эсэраў,—сталі агентамі фашысцкіх разведак, сталі шпіёнамі, шкоднікамі, забойцамі, дыверсантамі, здраднікамі радзімы».

Упэўненыя ў сваіх сілах, працоўныя краіны соцыялізма, кіруемыя таварышом Сталіным, у жорсткай барацьбе супроць ворагаў усіх масцей пабудавалі бяскласавае соцыялістычнае грамадства і ідуць уперад да комунізма. Выхад новага падручніка па гісторыі ВКП(б) з'яўляецца такой падзеяй, якая прыкоўвае ўвагу ўсіх партыйных і непартыйных большэвікоў, усіх працоўных нашай краіны. Кожны раздзел Кароткага курса Гісторыі ВКП(б) прадстаўляе сабою старонкі гераічнай барацьбы і перамог ленінска-сталінскай партыі на самых рознастайных адказных этапах. Пры выключна простай, даступнай і яснай форме выкладання новы падручнік насычан глыбокім тэарэтычным зместам.

Пра ранейшыя падручнікі па гісторыі ВКП(б) таварыш Сталін сказаў, што яны выглядалі «не як гісторыя, а як лёгкі і незразумелы расказ аб справах мінуўшых». Ранейшыя падручнікі выкладалі гісторыю ВКП(б) адарвана ад гісторыі нашай краіны. Яны не давалі марксісцкага тлумачэння падзеям і фактам з гісторыі партыі, а таму не адказвалі галоўнаму патрабаванню: дапамагчы партыйным кадрам авалодаць большэвізмам.

Кароткі курс Гісторыі ВКП(б) пабудован у поўнай адпаведнасці з указаннямі таварыша Сталіна, зробленымі ім у 1937 годзе ў пісьме

«Аб падручніку гісторыі ВКП(б)». Гэта выдатная кніга выкладае факты з гісторыі нашай партыі ў стройнай сістэме, следуючы глыбока навуковай перыядызацыі, якая была прапанавана таварышом Сталіным. Выкладанне гэтых фактаў звязваецца з гісторыяй нашай краіны, даецца на фоне агульнай гістарычнай і палітыка-эканамічнай абстаноўцы, даецца глыбокі тэарэтычны аналіз усіх падзей, марксісцка-ленінскае тлумачэнне складанейшых пытанняў рэвалюцыйнай барацьбы рабочага класа, гісторыі яго партыі.

Кароткі курс Гісторыі ВКП(б) з гранічнай яснасцю паказвае, як Ленін і Сталін адстаялі марксісцка-ленінскую тэорыю ад усіх ворагаў рабочага класа і развілі гэту тэорыю далей, узбагаціўшы яе новым вопытам рэвалюцыйнай барацьбы.

Са сталінскай глыбінёй і чоткасцю ў падручніку паказана, як ствараліся Леніным ідэалагічныя асновы марксісцкай партыі ў Расіі, як складаліся арганізацыйныя і тактычныя асновы партыі новага тыпу—партыі большэвікоў, як Ленін і Сталін ва ўпартай барацьбе супроць апартуністаў усіх масцей адстаялі тэарэтычныя асновы марксісцкай партыі. У новым падручніку з вычарпальнай яснасцю тлумачыцца ленінска-сталінскае вучэнне аб партыі, ленінская тэорыя соцыялістычнай рэвалюцыі, вучэнне аб перамозе соцыялізма ў адной краіне, тэорыя гістарычнага і дыялектычнага матэрыялізма, даны незабыўныя характарыстыкі асноўных ленінскіх прац.

Падручнік па Гісторыі ВКП(б) паказвае, што стварэнне партыі большэвікоў патрабавала вялікай тэарэтычнай работы. У падрыхтоўцы да стварэння партыі большэвікоў выключную ролю адыгралі такія працы Леніна, як «Што рабіць?», «Дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэвалюцыі», «Крок наперад, два крокі назад», «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм» і іншыя.

> «Кніга Леніна «Што рабіць?» была **ідэалагічнай** падрыхтоўкай такой партыі. Кніга Леніна «Крок наперад, два крокі назад» была **арганізацыйнай** падрыхтоўкай такой партыі. Кніга Леніна «Дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэвалюцыі» была **палітычнай** падрыхтоўкай такой партыі. Нарэшце, кніга Леніна «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм» была **тэарэтычнай** падрыхтоўкай такой партыі» (раздзел IV Кароткага курса).

На высокім навуковым узроўні паданы ў падручніку тэарэтычныя асновы марксісцкай партыі.

> «... Дыялектычны і гістарычны матэрыялізм,—гаворыцца ў IV раздзеле Кароткага курса Гісторыі ВКП(б),—складаюць тэарэтычны фундамент комунізма, тэарэтычныя асновы марксісцкай партыі, а веданне гэтых асноў і, значыць, іх ўсваенне з'яўляецца абавязкам кожнага актыўнага дзеяча нашай партыі».

Новы падручнік узбройвае кожнага комуніста багатым вопытам рэвалюцыйнай барацьбы, выхоўвае новых байцоў вялікай пролетарскай арміі ўсяго свету. Ён расказвае аб слаўных, незабыўных днях грамадзянскай вайны, аб тым, як наш народ, пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, адстаяў сваю незалежнасць і вышаў пераможцам у барацьбе з замежнымі інтэрвентамі і белагвардзейскімі бандытамі. Гэта быў астрэйшы перыяд рускай рэвалюцыі, час смяротнай небяспекі для маладой соцыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян. І толькі партыя, узброеная марксізмам-ленінізмам, партыя, за якой ішлі працоўныя масы, здолела арганізаваць перамогу і знішчыць ворага.

У барацьбе, якую вяла Совецкая Расія са сваімі ворагамі, выключ-

ную ролю адыграў верны саратнік Леніна—таварыш Сталін. Усюды, дзе становішча рабілася больш-менш пагражаючым, дзе вораг канцэнтраваў сілы, якія ва многа раз перавышалі сілы рэвалюцыі,—там заўсёды паяўляўся таварыш Сталін. Па прапанове Леніна Цэнтральны Камітэт пасылаў таварыша Сталіна з фронта на фронт, «дзе ў сілу цэлага раду прычын трашчалі чырвоныя арміі, дзе контррэвалюцыйныя сілы, развіваючы свае поспехі, пагражалі самому існаванню совецкай улады, дзе спалох і паніка маглі ў любую мінуту ператварыцца ў бездапаможнасць, катастрофу» **(Варашылаў).**

Усюды Сталін прыносіў з сабой поўную перамогу. Натхнёныя адвагай свайго правадыра, масы чырвонаармейцаў, масы працоўных Совецкай Расіі кідаліся ў бой і анракідвалі любога праціўніка.

Кароткі курс Гісторыі ВКП(б) паказвае гераічную барацьбу партыі за пабудову соцыялізма ў нашай краіне, за соцыялістычную індустрыялізацыю, за калектывізацыю сельскай гаспадаркі. Сталінскія пяцігодкі ўвайшлі ў гісторыю, як выражэнне магутнай сілы соцыялізма, рэволюцыйнай творчасці совецкага народа.

Партыя пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна вырашыла гістарычную задачу пролетарскай рэволюцыі—перавод мільёнаў дробнаўласніцкіх сялянскіх гаспадарак на шлях калгасаў. Годы соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі праходзілі ў жорсткай барацьбе з трацкісцка-бухарынскай бандай шпіёнаў, дыверсантаў, наймітаў замежных разведак. Гісторыя ВКП(б) вучыць нас уменню выкрываць і знішчаць ворагаў, здраднікаў радзімы, вучыць нас змагацца і перамагаць.

> «Гісторыя ВКП(б) ёсць гісторыя трох рэволюцый: буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі 1905 года, буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў лютым 1917 года і соцыялістычнай рэволюцыі ў кастрычніку 1917 года.
>
> Гісторыя ВКП(б) ёсць гісторыя звяржэння царызма, звяржэння ўлады памешчыкаў і капіталістаў, гісторыя разгрому чужаземнай узброенай інтэрвенцыі ў часе грамадзянскай вайны, гісторыя збудавання Совецкай дзяржавы і соцыялістычнага грамадства ў нашай краіне.
>
> Вывучэнне гісторыі ВКП(б) абагачае вопытам барацьбы рабочых і сялян нашай краіны за соцыялізм.
>
> Вывучэнне гісторыі ВКП(б), вывучэнне гісторыі барацьбы нашай партыі з усімі ворагамі марксізма-ленінізма, з усімі ворагамі працоўных дапамагае **авалодваць большэвізмам,** павышае палітычную пільнасць.
>
> Вывучэнне гераічнай гісторыі большэвіцкай партыі ўзбройвае веданнем законаў грамадскага развіцця і палітычнай барацьбы, веданнем рухаючых сіл рэволюцыі.
>
> Вывучэнне гісторыі ВКП(б) умацоўвае ўпэўненасць у канчатковай перамозе вялікай справы партыі Леніна—Сталіна, перамозе комунізма ва ўсім свеце».

Большэвіцкая партыя, яе правадыры і арганізатары—Ленін і Сталін—заўсёды надавалі выключнае значэнне рэволюцыйнай тэорыі, пытанням вывучэння і прапаганды гісторыі большэвіцкай партыі. «Без рэволюцыйнай тэорыі,—пісаў **Ленін,**—не можа быць і рэволюцыйнага руху... **Ролю перадавога барацьбіта можа выканаць толькі партыя, кіруемая перадавой тэорыяй»** (збор твораў, т. IV, стар. 380).

Ва ўсёй сваёй рабоце большэвіцкая партыя заўсёды цесна звязвае рэволюцыйную тэорыю з рэволюцыйнай практыкай.

«Тэорыя становіцца беспрадметнай, калі яна не звязваецца з рэволюцыйнай практыкай, гэтак сама, як і практыка становіцца сляпой, калі яна не асвятляе сабе дарогу рэволюцыйнай тэорыяй. Але тэорыя можаператварыцца ў найвялікшую сілу рабочага руху, калі яна складаецца ў неразрыўнай сувязі з рэволюцыйнай практыкай, бо яна, і толькі яна, можа даць руху ўпэўненасць, сілу арыентыроўкі і разуменне ўнутранай сувязі акружаючых падзей, бо яна, і толькі яна, можа дапамагчы практыцы зразумець не толькі тое, як і куды рухаюцца класы ў сучасным, але і тое, як і куды павінны рушыць яны ў бліжэйшым будучым» (Сталін, «Пытанні ленінізма», стар. 13, выд. 10).

Яшчэ ў 1931 годзе таварыш Сталін у сваім гістарычным пісьме ў рэдакцыю «Пролетарская революция», выкрываючы трацкісцкіх кантрабандыстаў, якія ў сваіх варожых мэтах імкнуліся сфальсіфікаваць гісторыю большэвізма, з усёй сілай паставіў задачу:

«... Падняць пытанні гісторыі большэвізма на належную вышыню, паставіць справу вывучэння гісторыі нашай партыі на навуковыя, большэвіцкія рэйкі і завастрыць увагу супроць трацкісцкіх і ўсякіх іншых фальсіфікатараў гісторыі нашай партыі, сістэматычна зрываючы з іх маскі».

Слабасцю палітычнай падрыхтоўкі і большэвіцкай загартаванасці, палітычнай бесклапотнасцю карысталіся замаскаваныя ворагі народа—трацкісцка-бухарынскія і іншыя агенты фашызма. Тэарэтычную слабасць нашых партыйных кадраў неабходна ліквідаваць. Магчымасці для гэтага вялікія, бо створана такая магутная ідэйная зброя, як Кароткі курс Гісторыі ВКП(б). Гэты гістарычны дакумент узбройвае большэвізмам і вучыць, як трэба распазнаваць ворага, якою-б маскай ён ні прыкрываўся. Вывучэнне Гісторыі ВКП(б) яшчэ вышэй узніме рэволюцыйную пільнасць, ідэйную ўзброенасць партыйных кадраў, комуністаў і комсамольцаў, яшчэ мацней згуртуе савецкі народ вакол непераможнай партыі Леніна—Сталіна.

Уся наша краіна рыхтуецца зараз да святкавання 21 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. Па ўсёй тэрыторыі нашай неабсяжнай дзяржавы савецкі народ адзначае велізарнейшыя поспехі, дасягнутыя пад непасрэдным кіраўніцтвам большэвіцкай партыі і вялікага Сталіна.

Сваім шчаслівым, радасным і заможным жыццём шматмільённы народ Саюза Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, а ў тым ліку і працоўныя Беларускай ССР, абавязаны ў першую чаргу роднай комуністычнай партыі, любімаму і дарагому Сталіну. Гісторыя ВКП(б) з'яўляецца такім дакументам сусветнага значэння, якім павінны глыбока аўладаць самыя шырокія масы працоўных. Комуністы і комсамольцы, рабочыя і калгаснікі, інжынеры і тэхнікі, байцы, камандзіры і палітработнікі Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота—усе партыйныя і непартыйныя большэвікі абавязаны ведаць слаўную баявую гісторыю вялікай комуністычнай партыі. Факты з гісторыі большэвіцкай партыі навучаць кожнага большэвіка быць заўсёды непераможным у барацьбе з ворагамі працоўных.

Неабходна справу арганізаваць так, каб Гісторыя ВКП(б) была глыбока вывучана кожным савецкім інтэлігентам, кожным студэнтам. Наша савецкая інтэлігенцыя—гэта зусім новая інтэлігенцыя. Яна

ўсімі карэннямі звязана з рабочым класам і сялянствам, яна сапраўды з'яўляецца соллю зямлі совецкай. Глыбокае вывучэнне гісторыі ВКП(б) яшчэ больш мабілізуе інтэлігенцыю на новыя перамогі, навучыць яе распазнаваць ворагаў, дасць магчымасць яшчэ лепш працаваць на карысць совецкага народа.

Дасканала вывучыць гэту выдатную кнігу—абавязак комуністаў і комсамольцаў і, у першую чаргу, абавязак кожнага актыўнага дзеяча партыі і комсамола. Перад партыйнымі арганізацыямі паўстае зараз сур'ёзная задача—арганізаваць для членаў партыі сістэматычную вучобу па новаму падручніку.

Поспех вывучэння Гісторыі ВКП(б) у вялікай меры залежыць ад тых людзей, якія будуць непасрэдна кіраваць вучобай. Падбор кіраўнікоў гурткамі і прапагандыстаў з'яўляецца зараз важнейшым звяном у рабоце партыйных арганізацый. За высокую якасць прапагандысцкіх кадраў поўную адказнасць нясуць кіраўнікі партыйных арганізацый. Але мала толькі падабраць палітычна правераных прапагандыстаў, трэба дабіцца, каб яны сістэматычна павышалі свой палітычны ўзровень. Трэба ўзорна паставіць работу гуртка, каб слухачы заўсёды маглі атрымаць адказ па ўсіх пытаннях, звязаных з сапраўды глыбокім вывучэннем гісторыі партыі.

Сакратары гаркомаў, абкомаў, райкомаў, парткомаў, усе кіруючыя партыйныя работнікі самі павінны стаць прапагандыстамі.

Перш-на-перш неабходна арганізаваць папярэдняе індывідуальнае чытанне Кароткага курса Гісторыі ВКП(б). Толькі пры грунтоўным азнаямленні комуністаў з падручнікам можна гаварыць аб сур'ёзным і глыбокім вывучэнні гісторыі ВКП(б) у гуртках.

> **«Глыбокае вывучэнне гісторыі ВКП(б) пачнецца пасля выхаду Кароткага курса асобнай кнігай. Тады па-сапраўднаму павінны запрацаваць гурткі партыйнай асветы, а зараз час, што застаецца, трэба прысвяціць падрыхтоўцы прапагандыстаў і папярэдняму азнаямленню комуністаў з Кароткім курсам» («Правда»).**

Без спешкі, якая можа прынесці толькі шкоду, старанна прадумваючы кожнае мерапрыемства, партарганізацыі павінны разгарнуць выкананне гэтай адказнейшай задачы.

Побач з вучобай комуністаў павінна быць разгорнута шырокая сетка гурткоў і спецыяльных школ для комсамольцаў. Члены ленінска-сталінскага комсамола хочуць і павінны дасканала ведаць гісторыю большэвіцкай партыі. Комсамольскія кіраўнікі разам з партыйнымі арганізацыямі павінны неадкладна-ж прыняць практычныя меры, каб ахапіць комсамольцаў вывучэннем Гісторыі ВКП(б).

ЦК КП(б)Б абавязаў усе партыйныя арганізацыі Беларусі забяспечыць вывучэнне Гісторыі ВКП(б) па новаму падручніку ўсімі комуністамі і ў першую чаргу партыйнымі кіраўнікамі.

Але задача не толькі ў колькасным ахопе. Галоўнае—якасць вывучэння Гісторыі ВКП(б). Трэба паставіць справу так, каб усе працоўныя, усе партыйныя і непартыйныя большэвікі дасканала ведалі баявы шлях нашай партыі з часу яе зараджэння да сучаснага моманту. Трэба арганізаваць партыйную асвету ў адпаведнасці з узроўнем ленінска-сталінскага Кароткага курса Гісторыі ВКП(б).

Партыйныя работнікі павінны не толькі арганізацыйна кіраваць вучобай, падбіраць прапагандысцкія кадры, сачыць за нармальным

ходам заняткаў. Кожны партыйны работнік абавязан узяць на сябе непасрэднае кіраванне адным з гурткоў, каб лепш ведаць слухачоў, іх запатрабаванні. Кіруючы гуртком, партыйнаму работніку прыдзецца самому моцна ўзяцца за глыбокае вывучэнне гісторыі сваёй партыі.

Кожны комуніст павінен добра ўсвядоміць, што ўсваенне гісторыі ленінска-сталінскай партыі, аўладанне большэвізмам—яго партыйны абавязак перад народам, бо без ведання гісторыі сваёй партыі комуністы не змогуць паспяхова выконваць сваю ганаровую і адказную ролю арганізатараў і кіраўнікоў у барацьбе за пабудову комуністычнага грамадства.

У «Заключэнні» Кароткага курса Гісторыі ВКП(б) з выключнай сілай і глыбінёй паказана велізарнае значэнне марксісцка-ленінскай тэорыі:

> «Аўладаць марксісцка-ленінскай тэорыяй зусім не значыць—завучыць усе яе формулы і вывады і чапляцца за кожную літару гэтых формул і вывадаў. Каб аўладаць марксісцка-ленінскай тэорыяй, трэба, перш за ўсё, навучыцца адрозніваць паміж яе літарай і сутнасцю.
>
> Аўладаць марксісцка-ленінскай тэорыяй—значыць усвоіць **сутнасць** гэтай тэорыі і навучыцца карыстацца гэтай тэорыяй пры вырашэнні практычных пытанняў рэволюцыйнага руху ў розных умовах класавай барацьбы пролетарыята.
>
> Аўладаць марксісцка-ленінскай тэорыяй—значыць умець узбагачаць гэтую тэорыю новым вопытам рэволюцыйнага руху, умець узбагачаць яе новымі палажэннямі і вывадамі, умець **развіваць яе і рухаць наперад**, не спыняючыся перад тым, каб, выходзячы з сутнасці тэорыі, замяніць некаторыя яе палажэнні і вывады, якія сталі ўжо ўстарэлымі, новымі палажэннямі і вывадамі, адпавядаючымі новай гістарычнай абстаноўцы.
>
> Марксісцка-ленінская тэорыя ёсць не догма, а кіраўніцтва да дзеяння».

Вялікім вучэннем Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна павінны аўладаць партыйныя і непартыйныя большэвікі. Арганізаваць глыбокае вывучэнне Кароткага курса Гісторыі ВКП(б)—баявая задача ўсіх партыйных арганізацый. Большэвіцкае ажыццяўленне гэтай задачы—справа гонару кожнага партыйнага камітэта, кожнай пярвічнай партыйнай арганізацыі, кожнага асобнага комуніста.

---

**Н. Грэкава**
Сакратар ЦК КП(б)Б

# Палепшыць партыйнае кіраўніцтва комсамолам

Гісторыя комсамола непарыўна звязана з гісторыяй большэвіцкай партыі. Вялікія правадыры пролетарыята, арганізатары і творцы нашай партыі, Ленін і Сталін, заўсёды ўдзялялі выключную ўвагу выхаванню працоўнай моладзі ў духу комунізма. Ленін і Сталін з дня арганізацыі комсамола нястомна вучылі і вучаць нашу партыю ўсямерна дапамагаць комсамолу, штодзенна кіраваць ім, каб комсамол быў—як ён і ёсць на самай справе—сапраўдным памочнікам комуністычнай партыі.

> «Быць членамі саюза моладзі значыць весці справу так, каб аддаваць сваю работу, свае сілы на агульную справу. Вось у гэтым заключаецца комуністычнае выхаванне. Толькі ў такой рабоце ператвараецца малады чалавек або дзяўчына ў сапраўднага комуніста. Толькі ў тым выпадку, калі яны гэтай работай здолеюць дасягнуць практычных поспехаў, яны становяцца комуністамі».

Так гаварыў аб комсамоле Ленін у сваёй гістарычнай прамове на III з'ездзе РКСМ.

Напярэдадні VII з'езда комсамола таварыш Сталін зрабіў рад указанняў аб рабоце Саюза моладзі. Адказваючы на пытанні, заданыя рэдакцыяй «Комсомольской правды», таварыш Сталін сказаў:

> «Комсамол з'яўляецца фармальна непартыйнай арганізацыяй, але ён ёсць разам з тым арганізацыя комуністычная. Гэта значыць, што, з'яўляючыся фармальна непартыйнай арганізацыяй рабочых і сялян, комсамол павінен разам з тым працаваць пад кіраўніцтвам нашай партыі. Забяспечыць давер'е моладзі да нашай партыі, забяспечыць кіраўніцтва нашай партыі ў комсамоле—такава задача».

Так гаварыў таварыш Сталін.

Трацкісцка-бухарынскія вырадкі—гэтыя подлыя фашысцкія агенты, бандыты і шпіёны—не раз прабавалі ўбіць клін паміж партыяй і комсамолам, адарваць працоўную моладзь ад нашай партыі. Ворагі народа, што арудавалі ў комсамоле, у тым ліку і ў ЛКСМБ, ведучы сваю шкодніцкую падрыўную работу, усямерна імкнуліся адарваць комсамол ад несаюзнай моладзі, ад мас працоўных. Партыя і комсамол выгналі са сваіх радоў замаскаваўшыхся фашысцкіх агентаў і гэтым самым умацавалі свае арганізацыі.

Комсамол быў, ёсць і заўсёды будзе верным памочнікам партыі Леніна—Сталіна, яе невычэрпным рэзервам. У комсамоле фарміруецца

новы малады чалавек, герой нашага часу, які не ведае страху ў барацьбе з ворагамі працоўных, бязмежна адданы радзіме, большэвіцкай партыі і яе ленінска-сталінскаму Цэнтральнаму Камітэту.

Комсамол Беларусі налічвае ў сваіх радах звыш 169 тысяч моладзі. Толькі за 8 месяцаў 1938 года комсамол Беларусі прыняў у свае рады больш 75 тысяч новых членаў. Гэта гаворыць аб яго велізарным уплыве сярод працоўнай моладзі, аб вялікім імкненні моладзі ў комсамол.

Вялікі рост комсамольскіх арганізацый Беларусі за лік новых дзесяткаў тысяч рабочай і калгаснай моладзі патрабуе сур'ёзнага ўзмацнення работы над іх ідэйна-палітычным выхаваннем. З другога боку, значнае абнаўленне кіруючага складу комсамольскіх арганізацый, вылучэнне на кіруючую комсамольскую работу маладых вырасшых кадраў, якія часта не маюць дастатковага практычнага вопыту, патрабуе ад партыйных арганізацый палепшыць кіраўніцтва комсамолам і штодзенна дапамагаць яму ў рабоце.

Мясцовыя партыйныя арганізацыі за апошні час пачалі сур'ёзна цікавіцца комсамольскім жыццём, адчулі ўсю сваю адказнасць за работу комсамольскіх арганізацый. Аднак ёсць яшчэ партыйныя арганізацыі, якія не разумеюць задач партыйнага кіраўніцтва комсамолам, недаацэньваюць работы з комсамолам, як з рэзервам і памочнікам партыі, не ўнікаюць у штодзеннае жыццё комсамольскіх арганізацый раёна.

Так, напрыклад, Сенненскі райком партыі за 8 месяцаў гэтага года ні разу не пацікавіўся тым, як працуе раённы камітэт комсамола, не заслухаў ні адной пярвічнай партыйнай арганізацыі аб кіраўніцтве комсамолам.

У Раснянскай комсамольскай арганізацыі не працуе палітшкола. Райком партыі цэлы год «падбірае» прапагандыста, чатыры разы абмяркоўвалі гэта пытанне на бюро, а палітшкола так і засталася без кіраўніка.

У Лельчыцкім раёне ні адна пярвічная партарганізацыя за ўвесь 1938 год не ставіла на сваіх сходах пытанні, звязаныя з работай комсамольскіх арганізацый.

Або вось яшчэ адзін характэрны прыклад таго, як не трэба кіраваць. Яшчэ ў студзені бюро Чавускага райкома партыі абмяркоўвала работу комсамольскіх арганізацый ў школах раёна, аднак да апошняга часу ніякага рашэння не прыняла. У летні перыяд была сарвана палітвучоба. Не мала вінаваты ў гэтым райком партыі, які, вылучыўшы 10 комуністаў для кіраўніцтва палітшколамі, не кантраляваў іх работы. Карыстаючыся такой няўважлівасцю райкома, прапагандысты сарвалі комсамольскую вучобу.

Толькі поўнай адсутнасцю кіраўніцтва работай комсамола з боку партыйных арганізацый Дубровенскага раёна, бесклапотнасцю райкома партыі, поўным ігнараваннем дырэктыў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб партыйным кіраўніцтве комсамолам можна растлумачыць абураючы факт зрыву ў Дуброўне дэманстрацыі, прысвечанай Міжнароднаму юнацкаму дню.

* * *

У ЛКСМБ комсамольцаў членаў партыі налічваецца ўсяго 3.098 чалавек або 1,8 проц. Адсюль відаць, што партыйнае ядро ў комсамоле Беларусі яўна недастатковае. Прычым не ўсе комуністы-комсамольцы

прымаюць актыўны ўдзел у жыцці і рабоце комсамольскіх арганізацый. Так, комуністы-комсамольцы менскага завода імя Кірава тт. Перкаль, Жалязняк, Турэцкі і іншыя зусім не звязаны з заводскай комсамольскай арганізацыяй, ніякага ўдзелу не прымаюць у яе рабоце, не дапамагаюць комсамольскаму актыву ў вучобе. Такіх фактаў можна было-б прывесці многа.

За апошні час ў справе росту партыі за лік комсамола ёсць некаторы зрух. З моманту аднаўлення прыёму 1.922 комсамольцы прыняты ў кандыдаты партыі, канчаткова афармленыя і атрымаўшыя партыйныя дакументы. Аднак ў радзе раёнаў існуе самацёк. Нярэдкі выпадкі штучнага тармажэння росту партыі за лік комсамольцаў, скажэння ўказанняў ЦК ВКП(б) па гэтаму пытанню.

Усяго райкомамі ЛКСМБ рэкамендавана ў партыю 6.602 комсамольцы. Прынята-ж райкомамі партыі, па звестках на 1 верасня г.г., 3.037 чалавек. Такім чынам заявы 3.565 комсамольцаў ўсё яшчэ марынуюцца ў радзе партарганізацый, бо апошнія не аказваюць комсамольцам дапамогі ў падшуканні рэкамендацый.

Аб наяўнасці валакіты пры прыёме комсамольцаў у партыю сведчаць наступныя факты.

У пярвічнай партарганізацыі «Зазер'е» Рудзенскага раёна (парторг т. Трашчонак) з лютага 1938 г. ляжыць без разгляду заява комсамольца—навуковага работніка тав. Свірскага.

У партарганізацыю менскай фабрыкі імя Кагановіча комсамолец Слепян падаў заяву яшчэ ў маі 1938 г., аднак вынікаў няма і зараз.

Гомельскі райком комсамола за 1937 і 1938 годы рэкамендаваў у партыю 54 комсамольцаў, разгледжана-ж толькі 6 спраў.

Паасобныя райкомы і пярвічныя партарганізацыі работу па прыёму комсамольцаў у партыю фактычна перадаверылі комсамольскім арганізацыям. Адсюль і вынікі. Рудзенскі райком комсамола рэкамендаваў у партыю 48 комсамольцаў, з іх рабочых аказалася толькі 4, калгаснікаў—4, а служачых—40 чал. Тым часам у раёне ёсць 3 МТС, дзе трактарыстамі, камбайнерамі, брыгадзірамі працуюць многа комсамольцаў, якія праявілі сябе актывістамі ў перыяд выбараў у Вярхоўныя Советы СССР і БССР.

Нярэдкі выпадкі, калі члены партыі, баючыся, «як-бы чаго не вышла», адмаўляюць комсамольцу ў рэкамендацыі, хоць і добра ведаюць яго як актывіста. Такія комуністы штучна тармозяць рост нашай партыі, зусім не клапоцяцца аб умацаванні ў комсамоле партыйнага ядра.

Многія комсамольскія арганізацыі да нядаўнага часу амаль не займаліся пытаннямі росту сваіх радоў. Гэтаму ўсімі мерамі і сродкамі садзейнічалі ворагі народа, якія арудавалі ў комсамоле. Спроба адарваць комсамол ад несаюзнай моладзі, адцерці яго ад мас была формай палітычнага шкодніцтва трацкісцка-бухарынскіх бандытаў. Не ўсе райкомы партыі вынеслі адсюль неабходныя ўрокі. У выніку рост раду арганізацый за лік рабочай і калгаснай моладзі вельмі нізкі.

Асабліва характэрны ў гэтых адносінах Чырвонаслабодскі, Рудзенскі, Плешчаніцкі, Багушэўскі і іншыя раёны.

На 1 верасня ў калгасах рэспублікі налічвалася ўсяго 4.953 пярвічныя арганізацыі комсамола. І гэта пры наяўнасці 9.656 калгасаў!

Аб недастатковым росце раду комсамольскіх арганізацый вёскі сведчыць таксама вялікая колькасць нешматлікіх арганізацый комсамола ў калгасах і сельсоветах. Так, па Гомельскай вобласці наліч-

ваецца 119 нешматлікіх арганізацый, з іх у 58 зусім не наглядалася росту за апошні квартал.

У Палескай вобласці нешматлікіх арганізацый 83, з іх у Лельчыцкім раёне—21, у Петрыкаўскім—10, у Парыцкім—11. У 17 раёнах Магілеўскай вобласці 201 нешматлікая арганізацыя, з іх у Шклоўскім—34, Бабруйскім—42, Круглянскім і Магілеўскім па 17 і т. д.

Многія з раённых комсамольскіх арганізацый, замест таго каб праявіць актыўнасць ва ўсіх галінах жыцця калгаса, машынатрактарнай станцыі, школы, сельпо, замыкаюцца ва ўласнай скарлупе і зусім адрываюцца ад моладзі.

Важнейшая задача абкомаў і райкомаў комсамола, як указаў VI пленум ВЛКСМ,—«стварыць у кожным калгасе пярвічную комсамольскую арганізацыю». Комсамол на вёсцы павінен будаваць работу так, каб яна была насычана глыбокім ідэйна-палітычным зместам і задавальняла featureнастайныя і ўсё ўзрастаючыя запросы моладзі.

* * *

Кіруючыся рашэннямі X з'езда ВЛКСМ, якія выцякаюць з указанняў таварыша Сталіна аб неабходнасці рашуча палепшыць прапагандысцкую работу ў комсамоле, комсамольская арганізацыя Беларусі прарабіла вялікую работу.

У БССР налічваецца 8.115 палітшкол і гурткоў, якімі ахоплена 124.353 комсамольцы і 35.629 чал. несаюзнай моладзі. І ўсё-ж у радзе раёнаў палітвучоба з-за фармальных адносін кіраўнікоў комсамольскіх арганізацый і слабога партыйнага кіраўніцтва пастаўлена нездавальняюча. У Кармянскім раёне палавіна палітшкол не працавала 3 месяцы. У Лагойскім, Жлобінскім, Шклоўскім, Рагачоўскім і іншых раёнах райкомы партыі і комсамола не паклапаціліся аб тым, каб замяніць прапагандыстаў-настаўнікаў, якія на лета паехалі ў водпуск.

Хойніцкі райком партыі вылучыў у якасці прапагандыстаў 21 комуніста. Усе яны, за выключэннем толькі аднаго, сістэматычна зрываюць заняткі. Члены партыі тт. Гамараў і Чухман не правялі яшчэ ні аднаго занятку ў палітгуртках. Райком комсамола вымушан быў вызваліць іх ад прапагандысцкай работы, а райком партыі не прыняў ніякіх мер уздзеяння.

У Рудзенскім раёне з 5 прапагандыстаў, вылучаных райкомам партыі, двое—тт. Гуліс і Мукавозчык—зусім не вялі заняткаў. Райком комсамола вымушан быў замяніць іх комсамольцамі.

У комсамольскай арганізацыі завода імя Кірава (Менск) палітвучоба не праводзіцца, хоць палавіна рабочых—моладзь. Комсамольская арганізацыя не працуе з моладдзю, таму і рост комсамола на заводзе слабы. Сакратар комсамольскага камітэта пашоў у армію, і ўжо 2 месяцы не склікаюцца ні цэхавыя, ні агульназаводскія сходы комсамола. Партарганізацыю гэта не хвалюе.

У Суражскім раёне з 45 палітшкол фактычна працуюць толькі 5. У пярвічнай комсамольскай арганізацыі соўгаса «Рэканструктар» (Талачынскі раён)—20 комсамольцаў, але палітшколы няма, і яны не вучацца.

Становішча прапагандысцкай работы ў комсамоле патрабуе ад усіх партыйных арганізацый канкрэтнай дапамогі і штодзеннага кіраўніцтва. Ленінскі завет—вучыцца, вучыцца і вучыцца, сталінскае ўказанне—вучыцца і яшчэ раз вучыцца ленінізму павінны пранізаць

усю комсамольскую работу. Неабходна ўдзяляць больш ўвагі моладзі, умацаванню школы, комуністычнаму выхаванню піонераў і ўсіх дзяцей. Выхаваўчая работа была і застаецца цэнтральнай у комсамоле. Партыйныя арганізацыі абавязаны аказаць комсамолу канкрэтную дапамогу ў справе глыбокага вывучэння комсамольскім актывам і ўсёй масай комсамольцаў Кароткага курса Гісторыі ВКП(б)—гэтага каштоўнейшага ўкладу ў скарбніцу марксізма-ленінізма.

* * *

За апошні час партыйныя арганізацыі многа зрабілі для вылучэння новых кадраў, асабліва за лік лепшай часткі комсамольскага актыва і несаюзнай моладзі, якая праявіла сябе ў правядзенні выбарчых кампаній.

За 1938 год 17 комсамольцаў вылучаны на партыйную работу. Першым сакратаром РК КП(б)Б Менскага раёна выбран тав. Пашкін, які раней працаваў сакратаром Менскага РК ЛКСМБ; інструктар ЦК комсамола тав. Кабяка выбран першым сакратаром Бягомльскага райкэма партыі; тав Коган—сакратар Варашылаўскага РК ЛКСМБ—вылучан на работу ў апарат ЦК КП(б)Б.

На адказную гаспадарчую работу вылучана не мала комсамольскіх актывістаў. Так, напрыклад; тав. Маскалік—быўшы сакратар Рэчыцкага райкома комсамола працуе зараз дырэктарам Рэчыцкай МТС; тав. Марон, які раней працаваў сакратаром Плешчаніцкага райкома комсамола, зараз вылучан рэдактарам раённай газеты; тав. Чарнякоў, які працаваў сакратаром Чавускага райкома комсамола, вылучан зараз намеснікам старшыні Цэнтральнага Совета Асоавіяхіма.

Лёзненскі райком комсамола вылучыў старшынямі калгасаў 11 чалавек, старшынямі сельсоветаў—5 чалавек, на розную гаспадарчую работу — 28 чалавек, на адказную комсамольскую работу—14 чалавек.

Барысаўскі райком комсамола вылучыў старшынямі калгасаў 10, старшынямі сельсоветаў—54, на адказную комсамольскую работу—15 чалавек.

Рудзенскі райком комсамола вылучыў старшынямі калгасаў 6 чалавек і старшынямі сельсоветаў—2 чалавекі.

Чэрвеньскі райком комсамола вылучыў старшынямі калгасаў 4 чал., старшынямі сельсоветаў—3 чал.

Заслаўскі райком комсамола вылучыў старшынямі калгасаў 12 чал., старшынямі сельсоветаў 2 чалавекі. Загадчыкам аддзела кадраў райвыканкома вылучылі комсамольца тав. Бароўскага.

Вылучэнне комсамольцаў на кіруючую работу ўсё яшчэ праходзіць нерашуча, а ў радзе раёнаў—зусім слаба. Вылучаным кадрам на розную кіруючую работу не аказваецца дастатковай дапамогі, іх не збіраюць, не кантралююць.

Выбары кіруючых комсамольскіх органаў, падрыхтоўка да сустрэчы 20-гадовага юбілею ленінска-сталінскага комсамола ўсё больш і больш узнімаюць палітычную актыўнасць совецкай моладзі, павышаюць яе працоўны энтузіязм.

Совецкая моладзь адзначае слаўны юбілей комсамола новымі дасягненнямі ў галіне далейшага разгортвання стаханаўскага руху, аўладання ваеннай тэхнікай. На заводах і чыгунках, на калгасных і соўгасных палях разгарнулася соцыялістычнае спаборніцтва на датэрміновае выкананне планаў, на перавыкананне норм выпрацоўкі.

Комсамолка запалкавай фабрыкі тав. Касцёнак (Рэчыца) устанавіла ўсесаюзны рэкорд у запалкавай прамысловасці. На набівачнай машыне яна дае 100 тысяч каробак пры норме 65 тысяч. Уся брыгада, у якой працуе тав. Касцёнак,—стаханаўская.

Комсамолец-камбайнер Жлобінскай МТМ тав. Гараўцоў устанавіў рэкордную выпрацоўку на паўднёвым камбайне: пры норме ў 200 га ўбраў 500 га. Падобныя факты—звычайная з'ява на кожным участку нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Трэба дабіцца, каб камандзіры вытворчасці ва ўсіх галінах прамысловасці і транспарта дапамаглі моладзі дастойна сустрэць 20-годдзе ВЛКСМ і замацаваць яе вытворчыя дасягненні агульным ростам прадукцыйнасці працы. Партыйныя арганізацыі павінны ўзначаліць гэты рух і вылучаць лепшых стаханаўцаў на кіруючыя гаспадарчыя пасты.

У комсамоле хутка пачнуцца справаздачы і выбары кіруючых органаў. Там, дзе гэта важнейшая кампанія будзе праведзена ў поўнай адпаведнасці з патрабаваннямі ўнутрысаюзнай дэмакратыі, дзе перад выбарамі будуць абавязкова заслуханы справаздачы, дзе крытыка будзе большэвіцкай, дзе да кіраўніцтва будуць вылучаны правераныя і стойкія байцы за справу Леніна—Сталіна,—там справаздачна-выбарчая кампанія дапаможа рушыць уперад усю комсамольскую работу.

Партыйныя арганізацыі павінны дапамагчы комсамолу ў правядзенні гэтай кампаніі, выкарыстаўшы яе для ўзмацнення партыйнага кіраўніцтва комсамолам. Іх абавязак—выхоўваць комсамол, а праз яго і ўсю совецкую моладзь у духу ўсведамлення ёю сваіх інтэрнацыянальных задач, большэвіцкай арганізаванасці і дысцыпліны, мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, непрымірымасці да ворагаў народа.

Працаваць з комсамолам у новых умовах—значыць усёй сістэмай партыйнага кіраўніцтва штодзенна ўплываць на моладзь, выхоўваць з яе пакаленне стойкіх байцоў за справу Леніна—Сталіна.

---

Г. Сямёнаў

# Правільна арганізуем вывучэнне гісторыі ВКП(б) па новаму падручніку

Кароткі курс Гісторыі Ўсесаюзнай Комуністычнай партыі (бальшэвікоў), адобраны ЦК ВКП(б), з'яўляецца дакументам сусветна-гістарычнага значэння. У гэтай глыбока тэарэтычнай працы адлюстраван гіганцкі рэволюцыйны вопыт, накоплены вялікай партыяй Леніна—Сталіна на ўсім пройдзеным ёю шляху барацьбы за справу комунізма.

У рукі большэвіцкай партыі ўкладзена яе Цэнтральным Камітэтам, асабіста таварышом Сталіным ідэйная зброя велізарнай магутнасці. Кароткі курс Гісторыі ВКП(б) будзе настольнаю кнігай кожнага комуніста, кожнага комсамольца, усіх працоўных. Па ёй будуць вучыцца мільёны рэволюцыйных рабочых, мільёны працоўных засвояць гіганцкі вопыт усёй слаўнай гісторыі большэвізма, майстэрскі абагулены ў гэтай выдатнай кнізе.

Новы падручнік дае выключна яркае асвятленне ўсіх этапаў напружанай барацьбы нашай партыі за перамогу комунізма.

Зразумела, што без павышэння тэарэтычнага ўзроўню комуністаў нельга рухацца наперад. Без аўладання большэвізмам немагчыма паспяхова вырашаць велізарнага значэння гістарычныя задачы, што стаяць перад нашай краінай.

Глыбока і дасканала вывучаючы Кароткі курс Гісторыі ВКП(б), наша партыя ўзброіцца магутнай ідэйнай зброяй, ліквідуе тэарэтычную слабасць партыйных кадраў.

У гэтай выдатнай кнізе партыйныя і непартыйныя большэвікі здабудуць наймацнейшую зброю для лепшага аўладання большэвізмам, для адвострывання сваёй палітычнай пільнасці.

Дасканала вывучыць гэту кнігу—абавязак комуністаў і комсамольцаў, а ў першую чаргу—кожнага актыўнага дзеяча партыі і комсамола.

Да вывучэння гісторыі ВКП(б) прад'яўляюць велізарны інтарэс наша совецкая інтэлігенцыя, шырокія масы працоўных.

Выпуск Кароткага курса Гісторыі ВКП(б) члены партыі, комсамольцы і ўсе працоўныя Совецкай Беларусі сустрэлі з вялікім энтузіязмам.

Перадавы артыкул «Праўды» ад 9 верасня «Глыбока вывучаць гісторыю партыі Леніна—Сталіна» быў абмяркован на партыйных і комсамольскіх сходах, на прадпрыемствах, у соўгасах, калгасах. На гэтых сходах беспартыйныя рабочыя і служачыя патрабавалі ад партыйных арганізацый стварыць гурткі для вывучэння гісторыі партыі. Ідучы насустрач гэтым патрабаванням, многія партарганізацыі ствараюць гурткі для беспартыйных рабочых і служачых. Такія гурткі

працуюць ужо на заводзе імя Варашылава (Менск), на фабрыцы «Х Кастрычнік» (Рэчыца), на заводзе Сельмаш (Гомель).

У Добрушскім раёне райком партыі арганізаваў для вясковых настаўнікаў 10 гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі.

На сходзе партарганізацыі Крычаўскага гарадскога совета, прысвечаным абмеркаванню Кароткага курса Гісторыі ВКП(б), член партыі тав. Левін заявіў: «Я дзякую правадыра працоўных усяго свету таварыша Сталіна за выпуск новага падручніка ВКП(б). Выпуск новага падручніка сведчыць аб тым, што таварыш Сталін праяўляе штодзенныя клопаты аб нас, комуністах».

На станцыі Калінкавічы адбыўся сход, на якім прысутнічала 365 рабочых. Знатны машыніст-крываносавец станцыі Калінкавічы тав. Лазарэў заявіў: «Курс гісторыі ВКП(б) дапамагае нам аўладаць большэвізмам. У ім ясна і глыбока паказана зараджэнне нашай большэвіцкай партыі, этапы яе барацьбы з ворагамі працоўных».

Можна прывесці многа такіх выступленняў, у якіх працоўныя выражаюць сваю любоў і адданасць большэвіцкай партыі і асабіста правадыру народаў таварышу Сталіну, дзякуюць за стварэнне падручніка.

Пытанне аб падрыхтоўцы да вывучэння гісторыі партыі па новаму падручніку абмяркоўвалася ўсімі абкомамі, гаркомамі, парткомамі і сходамі пярвічных партарганізацый.

ЦК КП(б)Б правёў нараду партыйнага актыва гор. Менска. У нарадзе прынялі ўдзел загадчыкі аддзеламі партпрапаганды абкомаў, культпропы райкомаў, загадчыкі парткабінетаў і прапагандысты.

Ва ўсіх гарадах і раёнах праведзены нарады партыйнага актыва, нарады прапагандыстаў. Спецыяльныя партдні былі прысвечаны падрыхтоўцы да заняткаў па новаму падручніку. Менскі гарком партыі правёў нараду сакратароў парткомаў, парторгаў і прапагандыстаў.

Усюды разгортваецца работа па падбору і зацверджанню прапагандыстаў. Для гэтай мэты ствараюцца спецыяльныя камісіі, якія дэталёва знаёмяцца з кожным прапагандыстам і толькі пасля дасканалай праверкі прадстаўляюць яго кандыдатуру на зацверджанне гаркома або райкома.

Гомельскі гарком партыі к 25 верасня зацвердзіў 46 прапагандыстаў, Кагановіцкі райком горада Менска—21 прапагандыста.

Пры ЦК КП(б)Б з 1 кастрычніка працуюць 3-месячныя курсы прапагандыстаў. Курсы разлічаны на 200 чалавек і рыхтуюць кіраўнікоў гурткамі па гісторыі ВКП(б). У Віцебску арганізуюцца 2-месячныя курсы прапагандыстаў на 60 чалавек.

Пры абкомах партыі праводзяцца кароткатэрміновыя 15-дзённыя курсы для кіраўнікоў семінарамі прапагандыстаў у раёнах.

Такія-ж курсы-семінары праводзяцца гарадскімі і раённымі камітэтамі партыі. Гомельскі гарком партыі праводзіць 15-дзённыя курсы прапагандыстаў на 50 чалавек, Магілеўскі—на 30 чал., Лагойскі—на 15 чал., Шклоўскі на 18 чал. і т. д.

Акрамя таго, пры ўсіх гаркомах, райкомах і вялікіх парткомах арганізуюцца ў дапамогу прапагандыстам сталыя пропсемінары і кансультацыі.

Для аказання дапамогі раёнам у правядзенні пропсемінараў абкомы партыі высылаюць на месца кваліфікаваных прапагандыстаў. Менскі абком партыі вылучыў 20 лепшых прапагандыстаў. Такія семінары праведзены ўжо ў Халопеніцкім, Заслаўскім, Барысаўскім і іншых раёнах.

У большасці раёнаў (Лагойск, Старобін, Барысаў і інш.) семінарамі прапагандыстаў кіруюць сакратары райкомаў, што раней было вельмі рэдкаю з'явай. У сучасны момант прапагандыстамі вылучана абсалютная большасць сакратароў райкомаў, парткомаў і парторгаў.

Усе партыйныя школы былі пераключаны на азнаямленне з Кароткім курсам Гісторыі ВКП(б), як толькі ў «Правде» былі апублікаваны першыя раздзелы новага падручніка.

Азнаямленне слухачоў з новым падручнікам Гісторыі партыі добра праходзіць у гуртках гомельскага Дома партасветы. Слухачы раней самі знаёмяцца з новым падручнікам, а ў дні заняткаў атрымліваюць кансультацыю ў Доме партасветы.

Добра паставіла гэту работу і партарганізацыя менскага завода імя Варашылава. Сярод рабочых праведзены гутаркі і сходы, адбыўся спецыяльны партыйна-комсамольскі сход, на парткоме перагледжан і зацверджан склад прапагандыстаў і гуртков. Усяго на заводзе працуе 9 гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі (3 партыйныя, 3 комсамольскія і 3 для беспартыйнага рабочага актыва). Гурткі знаёмяцца зараз з усім курсам гісторыі партыі па новаму падручніку. Слухачы чытаюць матэрыял самастойна дома, а ў дні партыйнай вучобы збіраюцца для кансультацыі.

Заслаўскі райком партыі правёў партыйна-комсамольскія сходы па пытанню аб азнаямленні з новым падручнікам. Перагледжан склад партыйных гурткоў і школ. Слухачы падабраны па ўзроўню палітычнага развіцця і зацверджаны пярвічнымі арганізацыямі і райкомам. Усяго ў раёне арганізавана 15 партыйных гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі і 1 для кандыдатаў і спачуваючых па вывучэнню статута і праграмы партыі.

Для падрыхтоўкі прапагандыстаў да заняткаў арганізован семінар. Адбыліся ўжо двухдзённыя заняткі па вывучэнню першай тэмы. Такія заняткі будуць праводзіцца па кожнай тэме. Семінарам кіруе першы сакратар райкома партыі тав. Караткевіч. Вялікую работу праводзіць і парткабінет. Пры парткабінеце працуюць 2 партыйныя гурткі на 48 чалавек. Арганізавана кансультацыя для прапагандыстаў і слухачоў (вылучаны 2 кансультанты), падабрана літаратура і наглядныя дапаможнікі.

Нельга не адзначыць, што частка партыйных кіраўнікоў не зразумела ўсёй важнасці выпуску новага падручніка, не мабілізавала партыйныя арганізацыі на падрыхтоўку прапагандыстаў і глыбокае азнаямленне членаў партыі з Кароткім курсам Гісторыі ВКП(б).

Напрыклад, партком менскай фабрыкі «Комунарка» (сакратар тав. Асташынскі) зусім не падрыхтаваўся да глыбокага вывучэння Кароткага курса Гісторыі ВКП(б). 26 верасня для кансультацыі сабраліся слухачы трох партыйных гурткоў, аднак прапагандысты тт. Юспе і Грушанаў не з'явіліся. Прышлося займацца без прапагандыстаў, арганізаваўшы галосную чытку першага раздзела.

Такое-ж становішча і на фабрыцы «Окцябр» (Менск). 26 верасня на кансультацыю сабраліся слухачы 3-х гурткоў (26 чал.), але прапагандыстаў з'явілася толькі 2. Прышлося аб'яднаць 2 гурткі. Пры гэтым выявілася, што адзін гурток прачытаў ужо дзве тэмы, а другі яшчэ не пачынаў чытку. Тады прапагандыст тав. Левін прапанаваў зачытаць для ўсіх слухачоў першы раздзел падручніка.

Некаторыя райкомы партыі ў гурткі па вывучэнню Кароткага курса Гісторыі ВКП(б) механічна ўключылі ўсіх малапісьменных членаў партыі, кандыдатаў, спачуваючых і беспартыйны актыў.

Церахоўскі райком 16 верасня вынес такое рашэнне: «Абавязаць прапагандыстаў і парторгаў 19.IX.38 г. на гуртках спачуваючых пачаць вывучэнне гісторыі ВКП(б) па Кароткаму курсу гісторыі ВКП(б)».

Райком сам не заняўся падборам прапагандыстаў і ўкамплектаваннем гурткоў, а перадаверыў усю гэту работу пярвічным партарганізацыям. Пры чым арыентаваў іх зусім няправільна, прапануючы пачаць вывучэнне гісторыі партыі з усімі спачуваючымі.

Пасля ўказанняў, зробленых у «Правде» ад 17.IX.38 г., ЦК КП(б)Б дадаткова вызначыў канкрэтныя мерапрыемствы па падрыхтоўцы да глыбокага вывучэння Гісторыі ВКП(б).

Усім партарганізацыям прапанавана ў першую чаргу падабраць і праверыць прапагандыстаў, зацвярджаючы іх на парткомах і партсходах. Сакратарам абкомаў, гаркомаў і райкомаў асабіста кіраваць гурткамі па вывучэнню гісторыі партыі і прыцягнуць да кіраўніцтва гурткамі партыйны актыў. Перагледзець сетку гурткоў па гісторыі партыі, укамплектаваўшы іх па ўзроўню ведаў слухачоў. Арганізаваць пры райкомах партыі семінары для прапагандыстаў.

Кароткі курс Гісторыі ВКП(б) будзе выпушчан на беларускай мове тыражом у 150 тыс. экземпляраў.

Разгортваецца работа партыйных кабінетаў і дамоў партасветы па абслугоўванню прапагандыстаў і слухачоў гурткоў. Арганізуюцца выстаўкі літаратуры, наглядных дапаможнікаў, праводзяцца лекцыі, семінары, кансультацыі. Радыёаудыторыі падрыхтоўваюцца да прыёму лекцый па Гісторыі ВКП(б).

У сучасны момант пры райкомах партыі арганізавана 88 груп палітсамаадукацыі, якімі ахоплена 2442 актывісты. Для кіраўніцтва групамі палітсамаадукацыі падабраны і зацверджаны 23 прапагандысты. 58 груп прыступілі ўжо да азнаямлення з Кароткім курсам Гісторыі ВКП(б) і, як толькі атрымаюць падручнік, адразу-ж пачнуць яе глыбокае вывучэнне.

Разгортваецца работа і ў комсамольскіх арганізацыях. Гаркомы і райкомы ЛКСМБ праводзяць падбор і зацверджанне прапагандыстаў, арганізуюць для іх семінары па вывучэнню Гісторыі ВКП(б).

Толькі па гораду Менску семінарамі ахоплена 296 комсамольскіх прапагандыстаў. Акрамя семінараў працуюць 3-месячныя курсы прапагандыстаў (у Менску на 30 чал., у Віцебску—на 60).

З 10 кастрычніка пачынаюць працаваць 3-месячныя абласныя курсы комсамольскіх прапагандыстаў на 375 чалавек.

Партарганізацыі павінны практычна дапамагчы комсамолу ў арганізацыі глыбокага вывучэння Гісторыі ВКП(б).

Галоўная задача партарганізацый—заняцца ў першую чаргу сур'ёзнай падрыхтоўкай прапагандыстаў. Без добра падрыхтаваных і правераных прапагандыстаў нельга забяспечыць глыбокае вывучэнне ў гуртках Гісторыі ВКП(б).

Выхад Кароткага курса Гісторыі ВКП(б) асобнаю кніжкай вялікім тыражом дасць магчымасць кожнаму члену партыі самому чытаць яе дома або ў парткабінеце, уважліва, удумчыва працаваць над яе засваеннем. Спешка можа толькі пашкодзіць гэтай справе.

Значыць, зараз неабходна па-сапраўднаму арганізаваць заняткі з прапагандыстамі, каб падрыхтаваць іх да гэтай выключна важнай і адказнай работы.

Забяспечыць глыбокае вывучэнне комуністамі гэтай выдатнай навуковай працы—важнейшая задача партыйных арганізацый.

---

**В. Кудраеў**

# Выхаванне маладых комуністаў і спачуваючых

Штодзеннае ідэйна-палітычнае выхаванне новых членаў, кандыдатаў партыі і спачуваючых—важнейшая задача ўсіх партыйных арганізацый, кожнага партыйнага работніка. Чулыя адносіны да новапрынятых у партыю, аказанне ім штодзеннай увагі, выхаванне ў духу вялікага вучэння Леніна—Сталіна, неаслабная дапамога ў аўладанні большэвізмам—пачэсны і адказны абавязак кожнага партыйнага камітэта, партарганізатара, прапагандыста, агітатара.

Тав. Жданаў на лютаўска-сакавіцкім пленуме ЦК ВКП(б) у сваім дакладзе аб падрыхтоўцы партыйных арганізацый да выбараў у Вярхоўны Совет СССР па новай выбарчай сістэме і адпаведнай перабудове партыйна-палітычнай работы, указаў:

> «Уся наша двухмільённая партыйная маса павінна быць поўнасцю актывізавана, кожны комуніст павінен быць актыўным арганізатарам, агітатарам і прапагандыстам за справу партыі. Пад гэтым пунктам погляду павінна быць перабудавана наша арганізацыйная, агітацыйная і прапагандысцкая работа».

Уцягваючы ў партыю лепшых сыноў нашай соцыялістычнай радзімы, лепшых прадстаўнікоў рабочага класа, калгаснага сялянства і працоўнай інтэлігенцыі, ніяк нельга забываць аб выхаванні новапрынятых у духу большэвіцкай партыйнасці, аб уцягненні іх у актыўную партыйную палітычную работу на любым участку соцыялістычнага будаўніцтва.

ЦК ВКП(б) у сваёй пастанове ад 14 ліпеня г. г. «Аб ходзе прыёму новых членаў у ВКП(б)» прама абавязвае:

> «Лічыць важнейшай задачай усіх партарганізацый работу з новаўступіўшымі ў рады партыі, выхаванне маладых комуністаў у духу большэвіцкай партыйнасці і прыцягненне іх да актыўнага ўдзелу ў партыйнай і грамадскай рабоце».

З моманту аднаўлення прыёму ў ВКП(б), і асабліва за апошнія месяцы, большэвіцкая партыя папоўнілася тысячамі перадавых і стойкіх барацьбітоў за комунізм, тысячамі правераных таварышоў, якія паказалі выдатныя ўзоры работы на розных участках соцыялістычнага будаўніцтва, сваю бязмежную адданасць справе Леніна—Сталіна.

Сотні тысяч лепшых сыноў нашай соцыялістычнай радзімы імкнуцца арганізацыйна замацаваць свае сувязі з партыяй. Многія непартыйныя большэвікі, якія прымалі актыўны ўдзел у выбарах у Вярхоўныя Советы СССР і БССР, актыўна дапамагалі партыі ў

ажыццяўленні бліскучай перамогі сталінскага блока комуністаў і беспартыйных,—арганізацыйна замацавалі свае сувязі з любімай партыяй Леніна—Сталіна, будучы прынятымі ў кандыдаты КП(б)Б.

Аналізуючы становішча прыёму новых членаў у рады партыі, Цэнтральны Камітэт ВКП(б) адзначыў:

«Мясцовыя партарганізацыі, выконваючы рашэнні лютаўска-сакавіцкага пленума ЦК ВКП(б), палепшылі работу па прыёму новых членаў у ВКП(б)».

Разам з тым ЦК ВКП(б) адзначыў і наяўнасць яшчэ істотных недахопаў у рабоце мясцовых партарганізацый па прыёму ў партыю новых членаў. ЦК ВКП(б) указвае на нездавальняючую пастаноўку работы з кандыдатамі партыі:

«У многіх партарганізацыях нездавальняюча пастаўлена работа з кандыдатамі партыі—іх недастаткова прыцягваюць да актыўнага ўдзелу ў грамадскай і партыйнай рабоце, не кіруюць па-сапраўднаму іх партыйна-палітычным выхаваннем».

Не гледзячы на тое, што з моманту вынясення пастановы ЦК ВКП(б) прашло не мала часу, рад партарганізацый яшчэ вельмі мала зрабіў для ўцягнення кандыдатаў і новапрынятых членаў партыі ў актыўную грамадска-палітычную работу.

Кандыдат партыі стаханаўка фабрыкі імя Кірава тав. Дуброўская заяўляе:

«Я не раз прасіла, каб да мяне прымацавалі таварыша для дапамогі ў вучобе і ўдзялілі больш увагі павышэнню майго палітычнага ўзроўню. Аднак партком да гэтага не праяўляе інтарэсу. Дрэнна пастаўлена палітмасавая работа ў цэху. Пасля выбараў у Вярхоўны Совет БССР не было палітгутарак, не праводзяцца калектыўныя чыткі. Сакратар парткома ні разу са мной не гаварыў».

У палітшколе конезавода № 59, якою кіруе начальнік палітаддзела тав. Берговін, за 4 месяцы (май—жнівень) праведзена было ўсяго тры заняткі з комуністамі. Пленум Гомельскага РК КП(б)Б 4 жніўня павінен быў спецыяльна адзначыць, што «прапагандыст Берговін сістэматычна дапускае зрыў партвучобы». Такія безадказныя адносіны начальніка палітаддзела да палітычнага выхавання членаў і кандыдатаў партыі сведчаць аб тым, што тав. Берговін не разумее сваёй ролі, як начальніка палітаддзела.

Гаворачы аб адказнасці кіраўнікоў партарганізацый за палітвучобу і ўцягненне маладых комуністаў у грамадска-палітычную работу, неабходна напомніць і пра іх абавязак павышаць палітычны ўзровень прынятых у партыю. Член партыі, даўшы рэкамендацыю непартыйнаму большэвіку, які ўступае ў рады партыі, павінен у далейшым усяляк дапамагаць маладому комуністу, каб ён хутчэй павысіў свой палітычны ўзровень, аўладаў большэвізмам.

Снежаньскі (1935 г.) пленум ЦК ВКП(б) указаў, што неабходна дабіцца, «каб пад кіраўніцтвам і з дапамогай сваёй партыйнай арганізацыі кожны новы кандыдат і член партыі адразу адчуў усю адказнасць пераходу ад беспартыйнасці да большэвіцкай арганізаванасці і пранікся ўсведамленнем адказнасці перад навакольнымі масамі за справу партыі».

Адным з каналаў папаўнення партыі новымі палітычна стойкімі комуністамі з'яўляецца група спачуваючых.

У статуце ВКП(б) аб групах спачуваючых запісана:

«Для арганізацыі вакол ВКП(б) найбольш блізкіх да партыі беспартыйных актывістаў, паказаўшых на справе—на вытворчасці сваю адданасць партыі, але яшчэ не падрыхтаваных да ўступлення ў партыю, ствараюцца пры пярвічных партыйных арганізацыях групы спачуваючых ВКП(б), якія безумоўна падпарадкоўваюцца ўсім рашэнням партыйных органаў».

Моцна імкненне ў групы спачуваючых беспартыйнага актыва—стаханаўцаў прамысловасці і сельскай гаспадаркі, нашай совецкай інтэлігенцыі. За апошнія годы тысячы рабочых, калгаснікаў, інжынерна-тэхнічных работнікаў, якія паказваюць у штодзеннай практычнай рабоце сваю бязмежную адданасць справе партыі Леніна—Сталіна, уступілі ў групы спачуваючых. Аднак, не ўсе партыйныя арганізацыі ўдзяляюць патрэбную ўвагу палітычнаму выхаванню спачуваючых, павышэнню іх ідэйнага ўзроўню. Некаторыя партарганізацыі і іх кіраўнікі забылі, што недаацэнка работы са спачуваючымі супярэчыць указанням партыі, што групы спачуваючых з'яўляюцца важнейшым рэзервам для папаўнення радоў партыі.

Так, напрыклад, у Рэчыцкім райкоме партыі сур'ёзная палітычная работа са спачуваючымі не праводзіцца. Са 151 чал. спачуваючых 55 зусім не ахоплены палітвучобай. Недаацэнка работы са спачуваючымі ў некаторых раёнах прыводзіць да аслаблення росту груп спачуваючых, а нярэдка і да зніжэння іх колькаснага складу.

У Веткаўскім раёне на 1 чэрвеня 1937 г. было 25 спачуваючых, а праз год з гэтай колькасці засталося 22. За першае паўгоддзе 1938 г. у спачуваючыя прынялі ўсяго аднаго чалавека.

Па Рагачоўскаму раёну ў 1936 годзе ў групы спачуваючых было ўцягнута 35 чалавек, у 1937 годзе—12, а за 8 месяцаў 1938 года—толькі 5 чалавек.

Нездавальняюча пастаўлена палітыка-выхаваўчая работа са спачуваючымі ў Гомельскім, Буда-Кашалёўскім, Церахоўскім і іншых райкомах партыі.

Не заўсёды спачуваючыя прыцягваюцца да ўдзелу ў адкрытых партсходах. Партарганізацыі вельмі рэдка збіраюць спачуваючых. У партыйна-выхаваўчай рабоце сярод спачуваючых маюць месца элементы фармалізма. Замест дыферэнцыяванага падыходу пры вырашэнні пытання аб вучобе, даручэннях і т. п. праяўляецца абязлічка, не ўлічваецца палітычны ўзровень, граматнасць, узрост спачуваючага.

Уцягваючы спачуваючых у актыўную палітычную работу, арганізоўваючы большэвіцкае выхаванне, неабходна забяспечыць індывідуальны падыход, улічваць здольнасці кожнага спачуваючага, яго вытворчыя і бытавыя ўмовы.

Уцягненне новых кандыдатаў і членаў партыі ў актыўнае партыйнае жыццё, большэвіцкае выхаванне маладых комуністаў і спачуваючых—першачарговая задача кожнай партыйнай арганізацыі. Няўхільна выконваючы ўказанні таварыша Сталіна аб аўладанні большэвізмам, партарганізацыі павінны ўсямерна ўзмацніць работу па павышэнню ідэйна-палітычнага ўзроўню новапрынятых у партыю і спачуваючых.

Апублікаваны ў друку Кароткі курс Гісторыі ВКП(б), які з'яўляецца вялікім укладам у справу марксізма-ленінізма, тэарэтычным абагульненнем гіганцкага гістарычнага вопыту большэвіцкай партыі,

павінен быць у цэнтры ўсёй нашай работы па павышэнню ідэйнай узброенасці і палітычнаму выхаванню партыйных і непартыйных большэвікоў.

Глыбокае вывучэнне гісторыі ВКП(б), упартая няўхільная работа над павышэннем тэарэтычнага ўзроўню кожнага члена, кандыдата партыі, спачуваючага—важнейшая задача ўсіх партарганізацый.

Маючы такую магутную ідэйную зброю, як Кароткі курс Гісторыі ВКП(б), неабходна зрабіць усё, каб справа палітычнага выхавання маладых комуністаў і спачуваючых была пастаўлена на патрэбную вышыню.

Трэба памятаць, што аўладанне большэвізмам, ліквідацыя палітычнай бесклапотнасці і павышэнне рэволюцыйнай пільнасці—неабходнейшыя ўмовы паспяховай барацьбы з ворагамі народа.

**В. Былінскі**
Сакратар Гомельскага абкома КП(б)Б

# Па-большэвіцку кіраваць прыёмам у партыю

Велізарная работа большэвіцкай партыі па разгрому і выкарчоўванню ворагаў народа, праведзеныя на аснове Сталінскай Канстытуцыі выбары ў вярхоўныя органы ўлады ўзнялі палітычную актыўнасць працоўных на нябачаную вышыню, яшчэ цясней згуртавалі іх вакол партыі Леніна—Сталіна, што знайшло сваё яркае адлюстраванне ва ўзросшым імкненні беспартыйнага актыва ў рады ВКП(б).

Рад партыйных арганізацый Гомельскай вобласці палепшыў палітычную работу сярод шырокіх мас працоўных і дабіўся некаторых поспехаў у выкананні рашэння ЦК ВКП(б) ад 29 верасня 1936 года «Аб аднаўленні прыёму новых членаў у ВКП(б)».

Калі ў мінулым годзе па вобласці было прынята ў партыю 96 чалавек, то за 8 месяцаў гэтага года прынята ўжо 540 чалавек у кандыдаты і 237 у члены партыі. Акрамя таго, адноўлена ў кандыдаты і члены партыі 404 чал.

Добрушская партарганізацыя ў члены і кандыдаты партыі прыняла 44, Рэчыцкая—86, Жлобінская—55, Рагачоўская—94, Веткаўская—44 і Чачэрская—38 чалавек.

Выбары ў Вярхоўны Совет БССР далі тысячы новых актывістаў, якія працавалі агітатарамі на выбарчых участках. Несучы ў масы большэвіцкае слова, агітуючы за кандыдатаў непераможнага блока комуністаў і беспартыйных, гэтыя таварышы паказалі сваю бязмежную адданасць справе Леніна—Сталіна і зараз становяцца рэзервам, з якога папаўняюцца рады нашай партыі. Яны падаюць заявы аб прыёме ў кандыдаты, аб пераводзе з кандыдатаў у члены партыі.

Жлобінскі райком партыі прыняў у кандыдаты агітатараў выбарчай кампаніі тт. Катляра, Гайдука, Прозарава, Эрэнбурга.

Рэчыцкі райком прыняў у кандыдаты партыі агітатара выбарчага ўчастка старшыню калгаса імя Свердлова тав. Дворніка, брыгадзіра трактарнай брыгады тав. Дубавец, старшыню Падалескага сельсовета дэмабілізаванага чырвонаармейца тав. Бандарэнка.

У партыю прынят Чачэрскай партарганізацыяй старшыня самага вялікага ў раёне калгаса тав. Семкаў. Гэты таварыш добра спраўляецца з работай і многа працуе над сабой. Ён акуратна рыхтуецца да заняткаў, чытае мастацкую літаратуру, праводзіць гутаркі з калгаснікамі.

Кандыдаты партыі тт. Гурскі і Раманцоў рыхтуюцца да ўступлення ў члены партыі. Яны добрасумленна выконваюць усе партыйныя даручэнні, складаюць канспекты да заняткаў і прыходзяць на вучобу заўсёды падрыхтаванымі.

Гомельскі, Веткаўскі, Лоеўскі і Рагачоўскі райкомы прынялі ў кандыдаты партыі дэпутатаў Вярхоўнага Совета БССР тт. Баравікова, Ганчарова і Стасенка, намесніка старшыні Вярхоўнага Совета БССР тав. Барушкова, дэпутата Вярхоўнага Совета СССР тав. Мінаву. Рагачоўскі райком прыняў у партыю стаханаўцаў картоннай фабрыкі тав. Стральцова Х., стаханаўца лесазавода імя Халтурына тав. Гардзіеўскага. Партыйныя арганізацыі лесазавода імя Халтурына, картоннай фабрыкі, Забалоцкага, Азяранскага і іншых сельсоветаў значна папоўніліся лепшымі, праверанымі людзьмі. За палову бягучага года па раёну прыняты ў партыю 34 комсамольцы. Веткаўскі райком партыі прыняў у кандыдаты 50-гадовую калгасніцу Самонаву Еву Пятроўну, якая 4 гады працуе членам прэзідыума сельсовета і 7 год—членам праўлення калгаса. У кандыдаты партыі прынят 50-гадовы калгаснік Літвінаў Барыс Сямёнавіч.

Партыйная арганізацыя Літвінаўскага сельсовета Журавіцкага раёна прыняла ў члены і кандыдаты партыі двух чалавек. Спачуваючыя тт. Корачкін і Ларачкін падрыхтаваны да прыёму ў кандыдаты партыі.

Пры ўсім гэтым нельга лічыць здавальняючай пастаноўку важнейшай справы прыёму ў партыю і выхавання маладых комуністаў у партарганізацыях Гомельскай вобласці. Большасць партыйных арганізацый прадпрыемстваў і калгасаў усё яшчэ дрэнна працуе са стаханаўцамі, комсамольцамі і спачуваючымі па падрыхтоўцы іх у партыю, не ажыццяўляюць указанняў ЦК ВКП(б) аб актыўным адборы перадавых людзей з рабочых, работніц і працоўнай інтэлігенцыі і пушчаюць на самацёк важнейшую справу прыёму ў партыю новых членаў.

У горадзе Гомелі, дзе многа прадпрыемстваў саюзнага і рэспубліканскага значэння, працуюць тысячы лепшых людзей—стаханаўцаў. На адным толькі «Гомсельмашы» больш 800 стаханаўцаў, на паравоза-вагона-рамонтным заводзе—1.304, на камбінаце «Спартак»—714, а ўсяго на прадпрыемствах горада налічваецца 9.896 стаханаўцаў. Гарадская комсамольская арганізацыя налічвае 8.500 чалавек. Здавалася-б, з кім іншым, як не з імі, партарганізацыі павінны праводзіць выхаваўчую работу, выяўляць лепшых для прыёму ў партыю. Аднак з усёй гэтай масы перадавікоў вытворчасці ў члены партыі прынята толькі 118 і ў кандыдаты 178 чалавек. Асабліва слаба растуць партарганізацыі шклозавода, фабрыкі «Спартак», паравоза-вагона-рамонтнага завода, завода «Пролетарый» імя Кірава.

На Добрушскай папяровай фабрыцы працуе многа стаханаўцаў. Сярод рабочых фабрыкі—60 спачуваючых і 250 комсамольцаў. Аднак, за ўвесь час пасля аднаўлення прыёму прынята ў члены і кандыдаты партыі ўсяго 22 чалавекі. На Гомсельмашы па поўгода не склікаюцца сходы спачуваючых. Разгубілі спачуваючых на шклозаводзе.

Рад пярвічных партарганізацый Буда-Кашалёўскага раёна (Губіцкая, Патапаўская, Б-Кашалёўская) не прыступаў да прыёму ў партыю.

Гомельская сельская партарганізацыя мае 33 пярвічныя арганізацыі. З іх да прыёму ў партыю прыступілі толькі 9. З рэкамендаваных у партыю 35 комсамольцаў прынята толькі 7. Старшыні сельсоветаў тт. Марозаў і Кац, настаўнік тав. Дзевакоў, слесар тав. Дудараў застаюцца па-за радамі партыі толькі таму, што не могуць дастаць адну-дзве рэкамендацыі комуністаў.

Дрэнна пастаўлена справа прыёму і ў Церахоўскай партарганіза-

цыі. Парторг Пракопаўскай пярвічнай арганізацыі тав. Старавойтаў 2 месяцы пратрымаў у сябе заяву старшыні калгаса «Ударнік» тав. Сільчанка аб прыёме ў партыю.

Гардуноўская партарганізацыя па 3 месяцы не склікае сходаў, не праводзіць палітычнай вучобы. Паасобныя комуністы, як тт. Дадонава, Дварэцкі, з-за баязні, «як-бы чаго не вышла», не даюць рэкамендацый таварышам, якія з'яўляюцца карэннымі жыхарамі Церахоўскага раёна і на высвятленне твару якіх не прыходзіцца траціць шмат часу.

У Лоеўскім раёне парторг Перадзельскай партарганізацыі тав. Цемляк некалькі месяцаў пратрымаў у сябе заяву аб прыёме ў партыю тав. Прымака. Многія партарганізацыі гэтага раёна не дапамагаюць таварышам, якія маюць па 4—6 год кандыдацкага стажу, рыхтавацца да прыёму ў члены партыі.

У Гомельскай вобласці налічваецца 1.509 кандыдатаў партыі, многія са стажам па 4—6 гадоў. Партарганізацыі мала думаюць аб прыёме іх у члены партыі. Аб гэтым сведчыць той факт, што па вобласці за ліпень месяц у члены партыі прынята 157 чалавек.

Многа недахопаў і ў галіне ўцягнення ў партыю лепшых комсамольцаў. Значная колькасць раённых партарганізацый, у тым ліку і Гомельскі гарком партыі, зусім нездавальняюча кіруюць прыёмам у партыю комсамольцаў, падоўгу марынуюць афармленне іх спраў.

Па вобласці налічваецца 3.079 чалавек комсамольскага актыва. Сярод іх—1.200 сакратароў пярвічных комсамольскіх арганізацый, 1.100 прапагандыстаў. З усяго гэтага актыва рэкамендавана ў партыю 1.099 чал., але прынята гаркомам і райкомамі партыі толькі 551 чал.

Па Гомелю рэкамендавана ў партыю 400 комсамольцаў, а прынята 139. Рэчыцкі райком прыняў у партыю 50 чалавек са 119.

Комсамольская арганізацыя вобласці налічвае больш 2.567 комсамольцаў-пераросткаў.

Многія партыйныя арганізацыі пусцілі на самацёк справу прыёму ў партыю, не дапамагаюць падшукаць рэкамендацыі жадаючым уступіць у яе рады, падоўгу марынуюць іх заявы, зацягваюць афармленне дакументаў, захапіўшыся гаспадарчымі кампаніямі, зусім забываюць пра выхаванне комуністаў. Партыйная вучоба, асабліва ў сельскіх партарганізацыях, праводзіцца сезонна. З вялікімі перапынкамі склікаюцца і партыйныя сходы.

Старшыня калгаса імя Свердлова (Рэчыцкі раён) тав. Дворнік і брыгадзір трактарнай брыгады тав. Пілецкі гавораць, што наконт уступлення ў рады партыі ніхто з імі не гаварыў і не дапамагаў. Заяву тав. Пілецкага аб прыёме ў партыю партарганізацыя МТС прамарынавала год, і ён вымушан быў падаваць заяву ў другі раз.

Тав. Кузмянкоў Адам Васільевіч у чэрвені 1937 г. падаў заяву ў Кармянскую партарганізацыю аб прыёме ў партыю. Яго заява прапала. Прышлося ў пачатку 1938 г. падаць заяву другі раз. Афармленне гэтага таварыша цягнулася амаль 8 месяцаў.

На вёсцы рост партарганізацыі асабліва слабы. У Рэчыцкім раёне ў гэтым годзе ў члены і кандыдаты партыі прынята 86 чалавек, але з іх працуюць у калгасах толькі 12. У 53 калгасах раёна няма ні аднаго комуніста.

У Рагачоўскім раёне з прынятых 94 таварышоў толькі 18 з'яўляюцца калгаснікамі.

Не лепшае становішча і ў іншых раёнах.

Райкомы і гарком партыі разбіраюць на сваіх пасяджэннях розныя пытанні, за выключэннем пытанняў росту партарганізацыі, выхавання маладых комуністаў. Гэтай справай мала хто займаецца. Абком партыі таксама ні разу не заслухаў на бюро інфармацыі кіраўнікоў раённых партарганізацый аб ходзе прыёму ў партыю. АКПО абкома пакуль што зводзіць сваё кіраўніцтва партарганізацыямі да збірання розных зводак.

Пералічаныя факты ўказваюць на неабходнасць у самы кароткі тэрмін ліквідаваць недахопы ў рабоце па прыёму і выхаванню новапрынятых у рады партыі і праводзіць усю работу ў строгай адпаведнасці з указаннямі ЦК ВКП(б).

Партарганізацыі павінны цвёрда засвоіць, што ў рады партыі трэба прымаць лепшых, перадавых людзей з рабочых, работніц, калгаснікаў, калгасніц, лепшых комсамольцаў і працоўнай інтэлігенцыі, цесна звязваючы гэту работу з агульным уздымам і палепшаннем партыйна-палітычнага выхавання, з вырашэннем усіх задач, якія стаяць перад данай партыйнай арганізацыяй.

Арганізуючы прыём лепшых людзей у нашу большэвіцкую партыю, мы павінны захоўваць чыстату яе радоў, строга выконваць патрабаванні ЦК ВКП(б) і таварыша Сталіна аб уважлівым індывідуальным адборы.

Ва ўсёй рабоце па прыёму ў партыю трэба кіравацца ўказаннем ЦК ВКП(б):

> «Задача кожнай партыйнай арганізацыі заключаецца ў тым, каб, усямерна павышаючы большэвіцкую пільнасць, высока трымаць сцяг ленінскай партыі і гарантаваць партыю ад пранікнення ў яе рады чужлых, варожых і выпадковых элементаў».

Асаблівую ўвагу неабходна звярнуць на баявое большэвіцкае выхаванне новапрынятых у рады ВКП(б). Трэба дабіцца, «каб пад кіраўніцтвам і з дапамогай сваёй партыйнай арганізацыі кожны новы кандыдат і член партыі адразу адчуў усю адказнасць пераходу ад беспартыйнасці да большэвіцкай арганізаванасці і пранікся ўсведамленнем адказнасці перад акружаючымі масамі за справу партыі» (з рэзалюцыі снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) ад 1935 г.).

Важнейшай задачай усіх партыйных арганізацый з'яўляецца глыбокае вывучэнне падручніка па гісторыі ВКП(б). На гэтым выдатным дакуменце новапрынятыя ў члены і кандыдаты ВКП(б) будуць выхоўвацца ў духу адданасці нашай большэвіцкай партыі і справе соцыялізма, у духу непрымірымасці да ворагаў народа.

Палітычнае выхаванне новапрынятых у рады ВКП(б) павінна праводзіцца таксама на аснове павышэння ўзроўню ўсёй работы партарганізацый, разгортвання большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, уцягнення ўсіх комуністаў у актыўную партыйную работу.

---

І. Хоцька і І. Гоузман

# Вынікі работы прамысловасці БССР за 1-е паўгоддзе 1938 г.

Пад знакам грандыёзнага палітычнага і вытворчага ўздыму ў сувязі з выбарамі ў Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі завершана першае паўгоддзе бягучага года.

Выбары ў Вярхоўны Совет БССР з'явіліся найярчэйшай дэманстрацыяй маральнага і палітычнага адзінства беларускага народа. Выбарчая кампанія прайшла з выключным уздымам палітычнай і вытворчай актыўнасці працоўных. Сталінскім блокам комуністаў і беспартыйных атрымана новая бліскучая перамога, якая сведчыць аб непарушным яднанні ўсіх народаў СССР вакол партыі Леніна—Сталіна. Яшчэ больш умножыліся сілы соцыялістычнай гаспадаркі, якая няўхільна развіваецца.

Новыя кадры, вылучаныя да кіраўніцтва ў нашай гаспадарцы, хутка авалодваюць большэвіцкім метадам работы і на яго аснове вырашаюць пастаўленыя перад імі партыяй і ўрадам задачы. Новыя кіраўнікі ўзнімаюць дысцыпліну на вытворчасці, арганізуюць стаханаўскі рух, разгортваюць соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, павышаюць свой ідэйна-палітычны ўзровень, праяўляюць творчую ініцыятыву, ствараюць атмасферу грамадскай нецярпімасці да аварый, непаладак і парушэнняў тэхналагічнага працэсу.

Самым важным і самым характэрным вынікам работы прамысловасці ў першым паўгоддзі 1938 года з'яўляецца няўхільнае, упэўненае нарастанне тэмпаў развіцця прамысловай вытворчасці. Гэты няўхільны рост прамысловай вытворчасці з'яўляецца важнейшым дасягненнем нашай прамысловасці ў першым паўгоддзі.

Прадукцыя прамысловасці ў першым паўгоддзі гэтага года павялічылася ў параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года на 11 проц.

Развіццё прамысловасці ў першым паўгоддзі характарызуецца наступнымі данымі:

**Рост прамысловай вытворчасці ў 1-м паўгоддзі 1938 г.**

| Наркаматы | У %% да адпаведнага перыяда 1937 г. | | |
|---|---|---|---|
| | 1 квартал | 2 квартал | 1-е паўгоддзе |
| Прадукцыя прамысловых наркаматаў (рэспубліканскага значэння) | 110,6 | 111,2 | 111,0 |
| Наркомлес (фабр.-заводск.) | 103,4 | 104,4 | 103,0 |
| Наркамлегпром | 114,1 | 108,3 | 111,2 |
| Наркамхарчпром | 107,8 | 117,5 | 113,7 |
| Наркаммясцпром | 113,4 | 111,2 | 112,2 |

Найбольш высокіх тэмпаў прыросту прадукцыі дабіліся работнікі металаапрацоўчай прамысловасці, якія павялічылі выпуск прадукцыі за паўгоддзе на 20,4 проц. Такія прадпрыемствы, як, напрыклад, менскі завод імя Кірава, гомельскі завод «Рухавік рэвалюцыі», віцебскі завод імя Кірава і рад іншых заводаў, датэрмінова выканалі і перавыканалі вытворчыя планы 1-га паўгоддзя.

Велізарны рост прадукцыі дала таксама мэблевая прамысловасць, якая ў 1-м квартале дала рост на 47,7 проц., у 2-м—на 56,9 проц., а ў цэлым за паўгоддзе—на 50,3 проц. Так, мэблевая фабрыка імя Молатава ў Менску з красавіка месяца выконвае план на 117—118 проц. Мэблевы камбінат імя Комінтэрна ў Барысаве выконвае план на 105—106 проц. Павелічэнне выпуску прадукцыі па мэблевай прамысловасці вызначыла велізарны рост прадукцыйнасці працы. Калі ў студзені сярэдняе выкананне норм выпрацоўкі складала 134,3 проц., то ў красавіку—маі—145 проц. Гэта дасягнута ростам і развіццём стаханаўскага руху, які даў не адзін дзесятак лепшых стаханаўцаў—двух-, трох- і чатырохсотнікаў.

Стаханавец Бабруйскай мэблевай фабрыкі **Лапаценка** Дзімітрый Фёдаравіч выконвае норму на 390 проц. Ім-жа сканструіраван станок па вырабу інкрустацый механічным спосабам.

Высокае выкананне нормы даюць стаханаўцы **Руткоўскі**—230 проц., **Юдовіч**—211 проц., **Бурачэўскі**—235 проц., і многія іншыя значна перавыконваюць нормы выпрацоўкі.

Значнае павелічэнне прадукцыі дала трыкатажная прамысловасць. За паўгоддзе трыкатажная прамысловасць (рэспубліканская) павялічыла прадукцыю на 58 проц. у параўнанні з першым паўгоддзем 1937 года, і план 1-га квартала выканан на 102,8 проц., а 2-га квартала—на 106,3 проц.

Высокага росту дасягнула таксама і абутковая прамысловасць: у 1-м квартале—на 26,8 проц. і ў 2-м квартале—на 13,6 проц., а ў цэлым за паўгоддзе—на 20 проц.

Прыметны рост прадукцыі дасягнут па швейнай прамысловасці: у 1-м квартале—на 19,4 проц., у 2-м—на 6,4 проц., а за паўгоддзе—на 12,9 проц.

Нарастаючыя тэмпы прыросту прадукцыі дала харчасмакавая прамысловасць у цэлым, а іменна: у 1-м квартале—на 7,8 проц., у 2-м—на 17,5 проц., а ў цэлым за паўгоддзе—на 13,7 проц.

У гэтым годзе краіна атрымала значна больш харчовых прадуктаў, чым у 1-м паўгоддзі мінулага года: мяса і мясных вырабаў—на 18,4 проц., расліннага масла—у 2¼ раза больш, кандзіцерскіх вырабаў—на 11 проц., макаронных вырабаў—на 21,8 проц., крахмалу—на 28,5%. Саюзныя прадпрыемствы далі мяса і мясных вырабаў на 54,7 проц. больш, чым у 1-м паўгоддзі мінулага года.

Асновай няўхільнага росту прадукцыі з'яўляецца значнае павелічэнне прадукцыйнасці працы. Асабліва прыметна расла прадукцыйнасць працы ў 2-м квартале. Масы рабочых азнаменавалі выбары ў Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі новым уздымам вытворчага энтузіязма, даючы новыя высокія нормы выпрацоўкі.

Гэта знайшло сваё яркае адлюстраванне ў росце сярэдняй выпрацоўкі аднаго рабочага.

Па ўсіх прамысловых наркаматах (рэспубліканскага падпарадкавання) сярэдняя выпрацоўка на аднаго рабочага за 5 месяцаў бягу-

чага года перавысіла пяцімесячную выпрацоўку мінулага года на 8,5 проц., у тым ліку: па Наркаммясцпрому—на 17,5 проц., па Наркамлегпрому—на 3,9 проц., па Наркамхарчпрому—на 5,0 проц. і па Наркомлесу—на 4,8 проц.

Калі ў 1-м квартале па НКМП выпрацоўка перавысіла леташнюю на 13,2 проц. і была ніжэй намечанай планам, то ў 2-м квартале яна перавысіла ўжо леташнюю на 23,7 проц. і аказалася вышэй планавай на 15,3 проц.

Па Наркамхарчпрому ў 1-м квартале выпрацоўка перавысіла леташнюю на 3,7 проц., пры ўзроўні ніжэй планавага, а ў 2-м квартале яна аказалася вышэй леташняй на 12,2 проц. і перавысіла планавы на 9,5 проц.

У перадавых радах па росту прадукцыйнасці ідзе металаапрацоўчая прамысловасць. Выпрацоўка на аднаго рабочага па металаапрацоўчай прамысловасці перавысіла выпрацоўку мінулага года ў 1-м квартале на 11,3 проц., а ў 2-м квартале—на 15,7 проц., перавысіўшы планавае заданне на 7,3 проц.

Гэта забяспечыла выкананне плана ў цэлым па промнаркамацкай прамысловасці ў першым паўгоддзі бягучага года. Перавыканання плана дабіліся ўсе наркаматы за выключэннем наркамата мясцовай прамысловасці.

Наркомлес па фабрычна-заводскай прамысловасці план выканаў, але вельмі дрэнна працавала лясная прамысловасць як у першым, так і ў другім квартале.

План па нарыхтоўцы і вывазцы лесу, не гледзячы на яго значна меншы размер чым у мінулым годзе, не выканан ні ў першым, ні ў другім квартале.

Агульны план па лесаэксплаатацыі Наркомлес выканаў у 1-м квартале толькі на 73,2 проц., у 2-м—на 68,3 проц., а гадавы план—на 52,2 проц.

Не выканан план 1-га і 2-га кварталаў па нарыхтоўцы і вывазцы дзелавой драўніны і дроў.

План 1-га квартала па нарыхтоўцы дзелавой драўніны выканан на 87,4 проц., дроў—на 68,0 проц.; план 2-га квартала па нарыхтоўцы дзелавой драўніны—на 55,7 проц., дроў—на 91,5 проц. Гадавы план за паўгоддзе выканан па нарыхтоўках дзелавой драўніны на 62,1 проц. і дроў—на 52,2 проц.

План 1-га квартала па вывазцы дзелавой драўніны выканан на 70,6 проц. і дроў—на 81,1 проц.; план 2-га квартала па дзелавой драўніне выканан на 69,7 проц. і дроў—на 94,0 проц.

Па плану Наркомлеса палавіну ўсёй вывазкі прадугледжана правесці механізаваным спосабам. Аднак па мехвывазцы план выканан яшчэ горш.

Нездавальняюча таксама праведзен сплаў. План пуску ў сплаў к 1-му ліпеня выканан толькі на 62 проц., а план 2-га квартала (асноўнага для сплаву) выканан толькі на 54,0 проц.

Прычына нездавальняючага становішча ў лясной прамысловасці заключаецца перш за ўсё ў тым, што, не гледзячы на прамыя ўказанні партыі і ўрада, Наркомлес да гэтага часу яшчэ не дабіўся элементарнага парадку ў арганізацыі працы і не ўдзяляе неабходнай увагі бытавым патрэбам рабочых. У рэзультаце гэтага ў лясной прамысловасці вельмі вялікая цякучасць рабочых, не створаны яшчэ сталыя кадры.

Наркамат лясной прамысловасці Беларусі не ператварыўся ў большэвіцкі штаб аператыўнага кіраўніцтва, якім павінен быць кожны наркамат, не арганізаваў барацьбы за хутчэйшую ліквідацыю вынікаў шкодніцтва.

Нездавальняючая работа лясной прамысловасці выклікае трывогу за выкананне дзяржаўных планавых заданняў. Партыя і ўрад аказваюць вялікую дапамогу лясной прамысловасці кадрамі, тэхнічным аснашчэннем і т. д. У лясной прамысловасці рэспублікі ёсць вялікая колькасць перадавікоў стаханаўцаў, якія гараць жаданнем вывесці свае прадпрыемствы з прарыву, трэба толькі іх арганізаваць, дапамагчы ім у рабоце.

Выкананне плана прамысловай вытворчасці па асобных наркаматах рэспублікі характарызуецца наступнымі данымі:

| Наркаматы | Процант выканання плана | |
|---|---|---|
| | 1 квартал | 2 квартал |
| Па ўсіх рэспубліканскіх наркаматах . | 100,7 | 103,0 |
| Наркомлес (фабр.-заводская) . . . . . | 100,4 | 101,1 |
| Наркамлегпром . . . . . . . . . . . . | 103,0 | 105,1 |
| Наркамхарчпром . . . . . . . . . . . | 101,4 | 104,7 |
| Наркаммясцпром . . . . . . . . . . . | 96,5 | 98,4 |

Выкананне гадавога плана ў 1-м паўгоддзі бягучага года ідзе на больш высокім узроўні, чым у мінулым годзе.

Наркамат мясцовай прамысловасці ў цэлым не дабіўся зруху ў выкананні плана ў 1-м паўгоддзі 1938 года. Калі па металаапрацоўчай прамысловасці НКМП дабіўся добрага выканання плана і росту прадукцыі, то агульныя нездавальняючыя вынікі па наркамату вызначылі такія важнейшыя галіны, як тарфяная і будматар'ялаў.

Тарфяная прамысловасць у першым паўгоддзі працавала выключна дрэнна. План намнога недавыканан, прычым аб'ём здабычы торфу некалькі нават ніжэй леташняга за той-жа перыяд. Прычынай дрэннай работы тарфянай прамысловасці з'яўляецца надта марудная ліквідацыя вынікаў шкодніцтва. Частая аварыйнасць на торфзаводах носіць нярэдка сляды варожай дзейнасці. Надзвычай нізка якасць тэхнічнага кіраўніцтва, дрэнна арганізавана праца рабочых, слаба пастаўлена працоўная дысцыпліна. На тарфяных палях няма яшчэ барацьбы за выкананне графіка работ, за парадак, за зладжанасць усіх участкаў, няма барацьбы за якасць торфу. Кіраўніцтва Белторфа слаба падрыхтавалася да сезону 1938 года, не прыняла рашучых мер для ўкамплектавання торфзаводаў рабочымі.

На прыкладзе буйнейшага завода тарфянай прамысловасці Беларусі «Асінторфа» можна паказаць прычыны выключна дрэннай работы, што прывялі да зрыву вытворчай праграмы 1938 года.

Асноўная прычына зрыву нармальнай работы завода—гэта адсутнасць большэвіцкай мабілізаванасці, наяўнасць самасупакоенасці і

аслаблення рэвалюцыйнай большэвіцкай пільнасці з боку партыйнай і профсаюзнай арганізацыі. Партыйнае, профсаюзнае і гаспадарчае кіраўніцтва завода з выключнай бесклапотнасцю аднеслася да задач палітычнага выхавання рабочых-тарфянікаў, не разгарнула масавай палітычнай і культурна-асветнай работы сярод калектыва, не мабілізавала і не ўзначаліла вытворчай актыўнасці рабочага калектыва на рашучую барацьбу па ліквідацыі шкодніцтва. На заводзе «Асінторф» у выніку аслаблення большэвіцкай пільнасці не толькі не ліквідуюцца вынікі шкодніцтва, але мае месца прадаўжэнне шкодніцтва, аб чым сведчаць такія факты, як частыя аварыі, пажары, вялікія прастоі механізмаў, заліўка гідрамасы звыш устаноўленай нормы і т. д.

Дырэкцыя завода не здолела падняць вытворчую дысцыпліну, не арганізавала працу рабочых, няправільна расставіла кадры, не праявіла сталінскага клопату аб стварэнні элементарных культурна-бытавых умоў, што пацягнула за сабой вялікую цякучасць рабочай сілы (з пачатку сезона і па 1-е верасня пакінулі завод звыш 1.250 рабочых).

На заводзе не праводзіцца ніякай работы са стаханаўцамі, вопыт лепшых стаханаўцаў не перадаецца. Тым часам на заводзе ёсць дзесяткі лепшых стаханаўцаў, якія паказваюць дасканалыя ўзоры работы.

Прамысловасць будматар'ялаў таксама намнога недавыканала план першага і другога кварталаў, прычым вытворчасць будматар'ялаў намнога ніжэй узроўню мінулага года за той-жа перыяд.

Як і ў тарфяной прамысловасці, у прамысловасці будматар'ялаў кіраўніцтва не здолела забяспечыць вытворчасць неабходнымі кадрамі рабочых. З боку трэстаў і наркамата аператыўнага тэхнічнага кіраўніцтва і кантролю заводаў не было. Акрамя таго, тут у пэўнай меры сказалася і тое, што будаўнічыя арганізацыі не вывозілі цэглу з пляцовак цагельных заводаў, што перашкаджала нармальнаму ходу вытворчасці і выклікала вялікія фінансавыя затрудненні заводаў.

Шкляная прамысловасць, якая не адчувала недахопу ў рабочых, усё-ж план 1 і 2-га кварталаў не выканала, і ўзровень яе вытворчасці намнога ніжэй мінулага года за той-жа перыяд.

Шкляную прамысловасць заядае брак і бой, памеры якога яшчэ вельмі вялікі, а сапраўднай барацьбы з бракам і боем няма.

Асоба патрэбна спыніцца на выніках першага паўгоддзя ў адносінах сабекошту.

Калі агульны план па прадукцыі ў першым паўгоддзі выканан, то ў адносінах сабекошту агульны вынік нельга прызнаць здавальняючым.

Аднак патрэбна адзначыць, што другі квартал паказаў і ў адносінах сабекошту пэўны зрух.

Добрых вынікаў у адносінах сабекошту дабіліся работнікі металаапрацоўчай прамысловасці. У першым квартале фактычнае зніжэнне сабекошту ў параўнанні з сярэдняй за 1937 год выразілася ў—3,8 проц. супроць плана—3,9 проц, а ў другім квартале пры плане ў—4,2 проц. фактычна: у маі—5,4 проц. і ў чэрвені—11,1 проц.

У перадавых радах па сабекошту ідзе хімічная прамысловасць Наркаммясцпрома. Агульны вынік за паўгоддзе выразіўся ў—5,6 проц. пры плане ў першым квартале—2,0 проц. і ў другім+1,4 проц. Гэты вынік вызначыла ацэтонавая вытворчасць.

Прыметны рэзультат у адносінах сабекошту дасягнут і па мэблевай прамысловасці, асабліва ў другім квартале. Пры плане змены сабекошту—5,8 проц. фактычная змена—9,0 проц. Агульны вынік за паўгоддзе выразіўся ў—9,0 проц. супроць плана 1938 г. у—4,9 проц.

* * *

Клопаты аб народзе, аб задавальненні патрэбнасцей і запросаў насельніцтва ляжаць у прыродзе соцыялістычнай дзяржавы. Партыя, яе Сталінскі ЦК, совецкі ўрад усе свае сілы аддаюць на тое, каб нашаму рабочаму класу, нашаму сялянству, нашай інтэлігенцыі жылося з кожным днём усё лепш і весялей. Высокі гонар і давер'е аказваюць большэвіцкая партыя і совецкая ўлада ўсякаму, каму даручана непасрэднае абслугоўванне штодзенных патрэб грамадзян. Прамысловая кааперацыя, якая ў першую чаргу заклікана задавольваць рознастайныя патрэбнасці шырокіх працоўных мас, у першым паўгоддзі працавала нездавальняюча.

Выкананне плана прамысловай каапераціяй характарызуецца наступнымі данымі (у процантах):

| | 1 квартал | 2 квартал | Гадавы за першае паўгоддзе |
|---|---|---|---|
| Уся промкааперацыя | 91,5 | 94,7 | 46,5 |
| Белкааппромсовет | 91,0 | 90,5 | 44,2 |
| Белкалеспромсаюз | 93,5 | 105,3 | 50,1 |
| Белкаапінсаюз | 88,8 | 100,3 | 47,5 |

Па тэмпах росту наперадзе ідзе каапераціа інвалідаў, якая дала прырост прадукцыі ў параўнанні з мінулым годам 27,1 проц. Лясная каапераціа дала 11,3 проц. прыросту прадукцыі, прамысловая—толькі 3,3 проц.

Нарастанне тэмпаў росту валавой прадукцыі прамысловай кааперацыі характарызуецца наступнымі паказчыкамі (у процантах да адпаведнага перыяда 1937 г.):

| Сістэмы | 1 квартал | 2 квартал | Першае паўгоддзе |
|---|---|---|---|
| Прадукцыя ўсёй прамысловай кааперацыі | 105,3 | 110,4 | 107,0 |
| Белкааппромсовет | 102,9 | 106,4 | 103,3 |
| Белкалеспромсаюз | 109,1 | 113,6 | 111,3 |
| Белкаапінсаюз | 113,4 | 140,6 | 127,1 |

Невыкананне плана з'яўляецца вынікам таго, што кіраўнікі прамысловай кааперацыі не ўсвядомілі сваёй палітычнай адказнасці, не прынялі адпаведных мер да ліквідацыі вынікаў шкодніцтва. Партыйныя, профсаюзныя і гаспадарчыя кіраўнікі амаль зусім закінулі палітмасавую работу сярод членаў арцелей. Стаханаўскі рух не разгорнут. У выніку дрэннага кіраўніцтва, няправільнай расстаноўкі людзей і

няправільнай арганізацыі працы тарфяная прамысловая кааперацыя выканала поўгадавы план толькі на 63,3 проц., кааперацыя будаўнічых матэрыялаў—на 81,4 проц., швейная—на 88,8 проц. Асабліва нездавальняюча выконваецца план вытворчасці прадметаў шырспажыву (выканан усяго на 86,3 проц.). Рэспубліцы недадана тавараў шырспажыву на 24 мільёны рублёў.

* * *

Праводзячы ў жыццё рашэнні лютаўска-сакавіцкага (1937 г.) і студзеньскага (1938 г.) пленумаў ЦК ВКП(б) і ўказанні таварыша Сталіна, партыйныя арганізацыі Беларусі дабіліся велізарных поспехаў у разгроме ворагаў народа, ва ўмацаванні сувязі з масамі, у вырошчванні і вылучэнні новых шматлікіх кадраў, адданых справе соцыялізма. Новыя кадры партыйных работнікаў, якія прыйшлі да кіраўніцтва пасля выбараў, з большэвіцкай страснасцю ўзяліся за знішчэнне недахопаў у партыйнай рабоце, за ліквідацыю вынікаў шкодніцтва трацкісцка-бухарынскіх і іншых фашысцкіх шпіёнаў, дыверсантаў і забойцаў, за выкананне гаспадарчых і палітычных задач, пастаўленых партыяй і ўрадам. Так, буйнейшы завод імя Варашылава ў Менску, доўгі час не выконваў вытворчую праграму. Ворагі народа, якія прабраліся да партыйнага і гаспадарчага кіраўніцтва заводам, на працягу раду год шкодзілі на заводзе, зрывалі капітальнае будаўніцтва, заблытвалі сістэму аплаты працы рабочых і спецыялістаў, зрывалі рост стаханаўскага руху і ўсяляк імкнуліся выклікаць нездаволенасць сярод рабочых.

Пры перавыбарах у новы склад парткома былі абраны адданыя, правераныя комуністы. Новы партком і яго сакратар тав. Раксін пабольшэвіцку ўзяліся за выкарчоўванне варожых гнёздаў, за выкананне партыйных рашэнняў. Партыйна-палітычная работа на заводзе пайшла ў цесным спалучэнні з гаспадарчай. У выніку завод імя Варашылава, які раней быў у выключным прарыве, за 1937 г. не выканаў вытворчай праграмы, у апошні час значна палепшыў сваю работу і з першага квартала стаў перавыконваць вытворчы план.

Торфзавод «Большэвік» 29 ліпеня выканаў сваё сезоннае заданне ў 223 тысячы тон. У пачатку сезона брыгада тарфянікаў, на падставе ўзятых на сябе соцабавязацельстваў у сувязі з падрыхтоўкай да выбараў у Вярхоўны Совет БССР, абавязалася ка дню выбараў даць 65 проц. сезоннага плана, а выканала план на 66 проц., што складае 125 проц. штомесячнага плана. Лепшыя брыгады: **Зубава, Карнеенка, Апанасенка, Крамера, Кіселёва** абавязаліся ка дню выбараў поўнасцю закончыць сезонны план. Сваё абяцанне гэтыя ўсе брыгады выканалі датэрмінова—к 23 чэрвеня. Гэта перамога дасягнута ў выніку вялікай работы партыйнага камітэта і профсаюзнай арганізацыі. Партыйнае і профсаюзнае кіраўніцтва здолела па-сапраўднаму разгарнуць барацьбу за хуткую ліквідацыю вынікаў шкодніцтва на заводзе, здолела паставіць работу так, што метады лепшых стаханаўцаў завода становяцца набыткам усяго калектыва. На заводзе не было ні адной брыгады, якая не выконвала-б план. Кіраўніцтва завода ўзначаліла соцспаборніцтва, штодзенна ўлічвае работу брыгад. У кожнай брыгадзе ёсць свая дошка, якая адлюстроўвае яе работу.

Лепшыя стаханаўцы завода заносяцца на агульназаводскую дошку гонару і перад кожным кіно-сеансам паказваюцца аудыторыі на

экране. Усе гэтыя мерапрыемствы прывялі да таго, што тэрфзавод «Большэвік» адзіны ў рэспубліцы выканаў свой план торфаздабычы. Партыйная арганізацыя дасягнула гэтага толькі таму, што ўся ў цэлым уключылася ў падрыхтоўку да выбараў у Вярхоўны Совет БССР, увязала палітычны ўздым мас з канкрэтнымі задачамі завода, участка, брыгады, кожнага рабочага паасобку.

Партыйная арганізацыя Палесдруку дабілася вялікіх вынікаў у рабоце свайго прадпрыемства. Усе 50 членаў партыі расстаўлены па ўсіх участках так, што забяспечваюць авангарднүю ролю. Комуніст тав. **Бабушкін**—наборшчык—выконвае план на 117 проц., тав **Кніжнікава**—пераплётчыца—дае 170—180 проц., тав. **Фельдман**—друкар—130 проц., тав. **Кагалоўская**—175 проц. Комуністы даюць добрую якасць прадукцыі, і ўсе яны выконваюць і перавыконваюць планы.

Прыкладаў, якія сведчаць аб тым, што партыйныя арганізацыі замацавалі палітычны і вытворчы ўздым працоўных, разгарнулі партыйна-масавую работу на прадпрыемствах, арганізавалі работу сярод стаханаўцаў і т. д., не мала. Аднак, рад партыйных арганізацый не здолеў замацаваць палітычнага і вытворчага ўздыму працоўных, не спалучае палітычнага кіраўніцтва з гаспадарчым, не прымае рашучых мер для хутчэйшай ліквідацыі вынікаў шкодніцтва. Таму цяпер, калі падведзены такія бліскучыя рэзультаты выбарчай кампаніі, перад партыйнымі арганізацыямі паўстае першачарговая задача—замацаваць новы каштоўны вопыт арганізацыйнай работы, насычанай агітацыі і прапаганды, кіраўніцтва масамі, абслугоўвання іх, сувязі з імі.

* * *

1938 год з'яўляецца першым годам трэцяй пяцігодкі, годам далейшых поспехаў соцыялізма, павышэння эканамічнай і абароннай магутнасці нашай краіны, новага ўздыму прадукцыйнасці працы, павышэння матэрыяльнага добрабыту і культурна-тэхнічнага ўзроўню працоўных.

У палепшанні работы нашай прамысловасці з гранічнай яснасцю выражаны вялікія поспехі стаханаўскага руху, поспехі, якія сведчаць аб узросшай палітычнай і вытворчай актыўнасці рабочых, работніц і інжынерна-тэхнічных работнікаў нашых фабрык і заводаў. Аднак ці трэба адсюль рабіць той вывад, што адставанне прамысловасці пераможана ўжо, што няма хібаў у рабоце паасобных галін прамысловасці? Вядома, не. Рад галін прамысловасці не змог замацаваць поспехаў першага паўгоддзя.

Кіраўнікі некалькі супакоіліся на дасягнутых поспехах, пусцілі вытворчасць на самацёк, не прынялі мер да ўнікнення так званага сезоннага (летняга) зніжэння вытворчасці, у выніку чаго ў ліпені мела месца агульнае зніжэнне вытворчасці і невыкананне плана.

Ліпеньскі план у цэлым па саюзнай і рэспубліканскай прамысловасці выканан толькі на 93,4 проц.

Наркомлес (фабрычна-заводскія прадпрыемствы) выканаў ліпеньскі план на 89,8 проц., Наркамлегпром—на 94,3 проц., Наркамхарчпром—на 96,8 проц. і Наркаммясцпром—на 88,4 проц.

Даныя за дзве дэкады жніўня гавораць, што выкананне плана праходзіць нездавальняюча і што сезоннае зніжэнне яшчэ не ліквідавана.

Перад усёй нашай прамысловасцю зараз стаяць выключна пачэсныя і адказныя задачы, прадстаіць напружаная работа для таго, каб паспяхова выканаць і перавыканаць гадавы план. Трэба выкарыстаць вопыт першага паўгоддзя. Неабходна ўсямерна замацаваць поспехі, здабытыя ў перыяд падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Совет БССР, і не проста замацаваць гэтыя поспехі, а ісці ўперад да новых вытворчых перамог, дабіваючыся безадкладнага знішчэння ўсіх прычын, якія перашкаджаюць выкананню плана. Толькі пры гэтай умове поспех будзе забяспечан.

Для ажыццяўлення задач, якія стаяць перад прамысловасцю рэспублікі, неабходна настойлівая барацьба за ліквідацыю вынікаў шкодніцтва, уважлівая праверка і палітычнае выхаванне людзей, смелае вылучэнне маладых кадраў, беззаветна адданых партыі Леніна—Сталіна, умацаванне працоўнай дысцыпліны, увядзенне цвёрдага графіка работ і рамонту абсталявання, непрымірымыя адносіны да аварый, да дрэннай якасці выпускаемай прадукцыі і т. д.

У руках гаспадарніка-большэвіка ёсць усе неабходныя сродкі для таго, каб усямерна ўзнімаць выпуск прадукцыі і павышаць прадукцыйнасць працы. Важнейшым рычагом, які забяспечвае ажыццяўленне гэтай задачы, з'яўляецца правільная арганізацыя працы. У межах устаноўленага фонда заработнай платы камандзір вытворчасці павінен узняць матэрыяльную зацікаўленасць рабочага ў значным павышэнні прадукцыйнасці працы. Уважлівыя адносіны да ўсякага практычнага пачыну рабочых, тэхнікаў, майстраў у галіне рацыяналізацыі вытворчасці выражаюцца не толькі ў хуткім ажыццяўленні прапаноў, але і ў грашовым заахвочванні ініцыятывы працоўных.

Перад прамысловасцю стаіць, як адна з вузлавых, задача фарсіравання росту вытворчасці прадметаў шырокага спажывання. У нашай рэспубліцы, багатай рознымі відамі сыравіны, у наяўнасці ўсе ўмовы для павелічэння прадукцыі шырспажыву. Ёсць крыніцы, якія зусім не выкарыстоўваюцца або выкарыстоўваюцца вельмі слаба. Гэта адносіцца ў першую чаргу да мясцовай прамысловасці наогул і да раённай мясцовай прамысловасці асабліва.

Уступаючы ў чацверты год стаханаўскага руху, мы абавязаны палепшыць работу са стаханаўцамі, шырэй разгарнуць соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, арганізаваць абмен стаханаўскім вопытам як унутры прадпрыемстваў, так і паміж прадпрыемствамі, знішчыць усе перашкоды, якія тармозяць гэты сапраўды ўсенародны рух за новы ўздым прадукцыйнасці працы, за высокую соцыялістычную культуру вытворчасці.

З трыбуны Першай Сесіі Вярхоўнага Совета БССР дэпутаты падверглі рэзкай крытыцы работу раду кіраўнікоў наркаматаў. Гэта зусім справядлівая большэвіцкая крытыка паказала, якіх высокіх якасцей патрабуе совецкі народ ад людзей, упаўнаважаных ім несці тую ці іншую дзяржаўную работу.

Кіраўнікі павінны ўлічыць усе заўвагі дэпутатаў і прыняць рашучыя меры для карэннага палепшання работы сваіх наркаматаў, перабудаваць яе так, каб наркаматы сталі сапраўднымі штабамі большэвіцкага кіраўніцтва прадпрыемствамі.

Адзіны калектыў работнікаў соцыялістычнай прамысловасці, згуртаванай пад сцягам партыі Леніна—Сталіна, упэўнена ідзе да

новых перамог. Выкананне гадавога плана—непахісны закон совецкай гаспадаркі, свяшчэнны абавязак кожнага яе кіраўніка.

Зараз у гонар XXI гадавіны Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі і 20-годдзя ленінска-сталінскага комсамола шырока разгарнулася соцыялістычнае спаборніцтва. Тысячы рабочых і работніц, сотні прадпрыемстваў усіх галін прамысловасці, уключыўшыся ў гэта спаборніцтва, паказваюць дасканалыя ўзоры работы, даюць высокую прадукцыйнасць працы і выдатнай якасці прадукцыю.

Неабходна арганізаваць работу так, каб уцягнуць у прадкастрычніцкае спаборніцтва самыя шырокія масы рабочых, спецыялістаў і служачых, ператварыць яго ў новы агульны ўздым стаханаўскага руху.

Пярвейшы абавязак усіх партыйных, гаспадарчых, профсаюзных і комсамольскіх арганізацый—стаць на чале прадкастрычніцкага спаборніцтва нашых рабочых і работніц, не дапускаць крыклівасці і шуміхі, не ганяцца за адзінкавымі рэкордамі, а дабіцца сапраўды масавага развароту стаханаўскага руху, накіраваўшы яго на заваяванне новых перамог соцыялізма.

# Аб вывучэнні Гісторыі ВКП(б)

*Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б*

Выпуск Кароткага курса гісторыі ВКП(б), распрацаванага Камісіяй ЦК ВКП(б), асабіста вялікім Сталіным, з'яўляецца падзеяй сусветнага значэння. Кароткі курс гісторыі ВКП(б)—найвялікшы гістарычны, навуковы дакумент—узнімае на велізарную палітычную вышыню справу вывучэння ўсёй партыяй і совецкім народам гісторыі ВКП(б), гісторыі слаўнай барацьбы і перамог большэвікоў за справу комунізма.

Вывучэнне гісторыі ВКП(б) будзе спрыяць яшчэ большаму павышэнню рэволюцыйнай пільнасці, ідэйнай узброенасці і падняццю боездольнасці комуністаў, комсамольцаў і ўсіх працоўных, яшчэ мацней згуртуе ўвесь совецкі народ вакол партыі большэвікоў, вакол непераможнага сцяга Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

ЦК КП(б)Б лічыць важнейшай задачай усіх партыйных органаў і партыйных кіраўнікоў арганізаваць сур'ёзнае і глыбокае вывучэнне Кароткага курса гісторыі ВКП(б) усімі комуністамі і, асабліва, партыйнымі кадрамі.

ЦК КП(б)Б прапануе:

1. Пакласці ў аснову работы сеткі партыйнай асветы вывучэнне гісторыі ВКП(б) па Кароткаму курсу гісторыі ВКП(б). Разгарнуць сетку гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі, забяспечыўшы на справе вывучэнне гісторыі ВКП(б) кожным комуністам, і перш за ўсё кадрамі партыйнага актыва. У сувязі з гэтым пашырыць сетку гурткоў для партыйнага актыва, арганізаваць ва ўсіх раёнах групы палітычнай самаадукацыі для кіруючых партыйных работнікаў па вывучэнню гісторыі ВКП(б) на аснове новага падручніка.

ЦК КП(б)Б лічыць неабходным, каб кожны сакратар гаркома, райкома, парткома і парторг не толькі арганізавалі вывучэнне Кароткага курса гісторыі ВКП(б), але і асабіста кіравалі заняткамі гуртка па вывучэнню гісторыі партыі, паказваючы прыклад узорнай пастаноўкі справы прапаганды вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

2. Прапанаваць абкомам, гаркомам і райкомам КП(б)Б аказаць неабходную дапамогу комсамольскім арганізацыям у вывучэнні гісторыі ВКП(б), для чаго вылучыць падрыхтаваных прапагандыстаў і арганізаваць для іх і комсамольцаў сталыя кансультацыі, лекцыі і даклады па гісторыі партыі.

Даручыць ЦК комсамола прадставіць на зацверджанне Бюро ЦК прапановы па арганізацыі вывучэння гісторыі партыі комсамольскім актывам, комсамольцамі і несаюзнай моладдзю.

3. Абавязаць Аддзел партпрапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б арганізаваць курсы па перападрыхтоўцы прапагандыстаў, паклаўшы ў аснову вывучэнне Кароткага курса гісторыі ВКП(б).

Арганізаваць ва ўсіх раённых і заводскіх партыйных кабінетах сталыя кансультацыі, лекцыі, даклады па гісторыі партыі як для партыйнага актыва, так і для ўсіх членаў партыі і комсамольцаў.

4. Адзначаючы велізарную зацікаўленасць працоўных да вывучэння гісторыі ВКП(б) па новаму падручніку,—Бюро ЦК КП(б)Б прапануе ўсім партыйным арганізацыям, з удзелам профсаюзаў, забяспечыць шырокае азнаямленне ўсіх працоўных са слаўнай гісторыяй партыі Леніна—Сталіна шляхам арганізацыі гурткоў, лекцый, дакладаў, вылучыўшы для гэтага высокакваліфікаваныя кадры прапагандыстаў.

Сакратарам партыйных камітэтаў і парторгам забяспечыць штодзенную дапамогу і кіраўніцтва справай вывучэння гісторыі партыі працоўнымі.

**Сакратар ЦК КП(б)Б ПАНАМАРЭНКА.**

---

Уп. Галоўліта БССР № 4553.
Тыраж 6.700 экз.
499.840 друк. зн. (9¼ арк.)
Здана ў набор 25/IX—38 г.
Падпісана да друку 13/X—38 г.



*РЭДКАЛЕГІЯ.*

Друкарня імя Сталіна. Менск, Дом Друку, Зак. № 3926.

